бібліятэка Свабоды

XXI стагодзьдзе



Вячаслаў Ракіцкі

# беларуская Атлянтыда

кніга другая

радыё свабода

**Вячаслаў Ракіцкі. БЕЛАРУСКАЯ АТЛЯНТЫДА.**
**Кніга другая: міты і брэнды калянізаванай нацыі.**
(Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). —
Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2010. — 352 с.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*

Рэдактар *Кацярына Гарэлік*
Мастак *Генадзь Мацур*
Стыльрэдактар *Аляксандра Макавік*
Карэктар *Вольга Навумовіч*
Паказьнік асобаў *Алена Давыдзік*

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі з архіву Радыё Свабода
і з уласных архіваў удзельнікаў перадачы



ISBN 978-0-929849-34-8

# Зьмест

# Рэстаўратары выраю

Вячаслаў Ракіцкі зь сябрамі робяць справу, якой немагчыма зрабіць: яны вычэрпваюць мора чужых мітаў, бліскучае, цяжкае і сьлізкае, як ртуць, і такое ж небясьпечнае.

Яны глядзяць назад і бачаць не мінулае, а таемнае і прышлае.

Яны адчыняюць куфар з фамільным срэбрам, а там манэты краіны, якой няма на мапе.

Яны выцягваюць са студні ваду, якая нараджае адно ненатольную смагу.

Яны здымаюць слой за слоем тынкоўку ў пошуках фрэскі, якой майстра не пасьпеў напісаць, хаця меўся і мог.

Яны ваююць зь ценямі, кожны зь якіх мае даўгі нож, што пакідае шрамы, і так ствараецца новы рукапіс і летапіс.

Як прысохлы бінт з раны, яны зрываюць з гісторыі прасякнутыя сваёй крывёю чужыя сьцягі, і так паўстаюць іх харугвы.

І разыходзіцца мора на два бакі, і йдуць яны сваёй грамадой агромністай па вуліцах беларускай Атлянтыды, дзе ляціць Пагоня, дзе старыя багі яшчэ маладыя, дзе ахвяры недарэмныя, а слава вечная, як памяць, салодкая, як сьляза, і блізкая, як вырай.

Яны не азіраюцца.

За імі!

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# Уводзіны.
# **Утопія Беларусь**

*Сваю мінуўшчыну беларусы часьцей за ўсё бачылі смутнай, будучыню — няяснай*



*Размова зь Пятром Васючэнкам*

***— Аднойчы, на пачатку XX стагодзьдзя, у цукерні «Зялёны Штраль» сабралася рэдакцыя «Нашай Нівы». Прыйшлі ўсе — і рэдактар, і «парнасьнікі». Былі й паненкі — Буйлянка, Мядзёлка, Станкевічанка. Пытаньне разглядалася грандыёзнае: якой быць будучай Беларусі? Спрачаліся да пеўняў, выпілі вядро бэнэдыктыну, высмалілі скрынку папяросаў. За сіняватай смугой паўстаў вобраз Беларусі — заможнай, шчасьлівай, незалежнай, роўнай паміж суседзямі. Ластоўскі хацеў ахрысьціць краіну Крыўяй — абсьмяялі. Драздовіч намаляваў герб «Пагоня». Багдановіч склаў гімн. Купала прыдумаў форму кіраваньня — Вялікі Сход. Паненкі адстаялі правы жанчын. Дзяржаўнай мовай аббясьцілі яе, родную, і прыдумалі сваю валюту — талер. Межы новай краіны распасьціраліся ад мора да мора, як у час ВКЛ, і насялялі яе шчасьлівыя працавітыя блакітнавокія людзі. А вось Багдановіч пратэставаў супраць межаў. Яго таксама не паслухалі. Справа заставалася за адным: як яе пабудаваць, гэтую краіну-бранапачку? Усіх супакоіў Ластоўскі. «Як вырашым, так і будзе, — казаў летуценьнік і аўтар шалёных праектаў. — Наша газэта — гэта ген, зь якога ўся будучая краіна вырасьце, бы дразафіля зь лябараторыі Моргана—Мэндэля». Няўрымсьлівы Вацлаў усе навуковыя навіны ве-***

***даў. «Хай празаікі займаюцца эканомікай, — прамовіў нехта з «парнасьнікаў». — Справа паэтаў — сьніць сны аб Беларусі».***

*Прыкладна так я магу ўявіць сабе пачатак утопіі Беларусь. Утопія ёсьць літаратурным праектам, у якім запраграмаваная шчасьлівая будучыня чалавецтва або краіны. Гэты праект або спраўдзіцца, або ня спраўдзіцца. Беларусь як утопія ёсьць праектам шчасьлівай, незалежнай і вольнай Беларусі. Гэты праект спраўдзіўся не зусім так, як задумваўся. Чаму ня вырасла краіна-браначка з гэтага гену, пасеянага ў глебу гісторыі?*

— Мы ведаем: штосьці вырасла, але ў цэлым праект пацярпеў дэфармацыю. Не атрымалася краіна ад мора да мора. Замест гэтага быў час, калі Беларусь распасьціралася на шэсьць паветаў. «Далі шэсьць паветаў, дзякуй і за гэта», — пісаў зьдзекліва Якуб Колас. Замест мовы ў гады беларусізацыі ўсталявалася нейкае чатырохмоўе, а пасьля — дзьвюхмоўе. Вялікі Сход у выглядзе Першага Ўсебеларускага зьезду таксама пацярпеў паразу. «Вашы кангрэсы раскідаюцца», — казаў Купалаў герой Мікіта Зносак. Беларусь захапіла хваля акупацыі. Не атрымалася нацыянальная валюта. Талер, як сказаў бы пісьменьнік Андрэй Федарэнка, стаўся «шчарбатым». Купала пісаў маршоўкі для неіснуючага беларускага войска. Іх выконвалі толькі слуцкія паўстанцы. Хаця ў цэлым Беларусь як суб'ект палітыкі, як дзяржаўнае ўтварэньне ў той ці іншай форме ўсё ж атрымалася. У канцы 1910-х — пачатку 1920-х гадоў былі БНР, ЛітБел, БССР. Беларусь была аднавокай, аднабокай, але ўсё ж дзіця вырастала.





*— З вашага гледзішча, нашаніўцы стварылі недасканалую ўтопію?*

— Нашаніўцы прыдумалі тое, што маглі. Але яны былі рамантыкі, літаратары. Яны спадзяваліся, што ім дапамогуць рэалісты, празаікі — тыя, хто творыць рэальнае жыцьцё. І ўсё ж нейкі штуршок для нараджэньня Беларусі быў. Не было б нашаніўцаў, не было б і вялікай беларускай мары, не было б Беларусі ў тым выглядзе, у якім яна існавала ў 1920-я гады — як суб'ект палітыкі, у 1940-я гады — як сябра ААН. А ў наш час не было б яе і такой, якой яна ёсьць сёньня. Ролю матрыцы, або гену, як казаў Вацлаў Ластоўскі, нашаніўства ў той час выконвала.

*— Праекты новай Чэхіі, новай Нарвэгіі, прыкладам, таксама прыдумваліся рамантыкамі — гісторыкамі, літаратарамі, з тым, каб іх пазьней падтрымалі празаікі — палітыкі, эканамісты, бізнэсоўцы. У беларусаў чамусьці адбылося нешта не зусім тое. Дык што ж маглі зьдзейсьніць рамантыкі ў тых варунках?*

— Словы таксама ж матэрыялізуюцца. І літаратары маглі б сваімі творамі падтрымаць працэс, які адбываўся, — шукаць гэтую новую Беларусь. Дзе шукаць? Якім чынам шукаць? Варта было б, на маю думку, стварыць некалькі новых праграмных твораў, у якіх паказвалася б шчасьлівая будучыня Беларусі, у якіх Беларусь выглядала б як літаратурная ўтопія. А тое, што пісалі нашы рамантыкі ў той час, настройвала на пэсымістычны лад сваімі благімі фіналямі. Колас амаль што наблізіўся да той біблейскай, абетаванай, запаветнай «новай зямлі». Ён так і назваў паэму. А чым яна скончылася? Сьмерцю Міхала. Купала бачыў

Беларусь у смузе невядомасьці ў паэме «Безназоўнае». Ён пакінуў яе разам з сваім героем Янкам Здольнікам і ў трагікамэдыі «Тутэйшыя». Сышоў ці ў акопы, ці ў якую яшчэ іншую вёску. Сваю мінуўшчыну беларусы часьцей за ўсё бачылі смутнай, будучыню — нияснай.

*— У аснове кожнай утопіі — ідэя «залатога веку». Да якога «залатога веку» маглі зьвярнуцца беларускія ўтапісты?*

— А дзе яго яны маглі шукаць? Пагартайце беларускія гістарычныя драмы. Што пісалі драматургі? Што паказваюць на сцэне цяпер? Нас падманвалі, нас абдурвалі, нас дзялілі... Каму ж захочацца мець такую нешчасьлівую гісторыю, захапляцца ёю, шукаць у ёй «залаты век»? А дзе навукова-фантастычныя творы, у якіх бы паказваўся «залаты век» у будучыні? Праўда, у літаратурным працэсе былі і некаторыя прасьветліны. Прыкладам, творы Караткевіча, дзе беларуская гісторыя рамантызавалася, ці твор-маніфэст Уладзімера Арлова «Незалежнасьць — гэта...».

*— Але ж літаратура здольная ня толькі прагназаваць, яна можа і мадэляваць жыцьцё краіны, як, зрэшты, і сваё ўласнае.*

— Пра гэта мы калісьці ў самых першых выпусках праграмы «Беларуская Атлянтыда» размаўлялі і прыводзілі яскравыя прыклады таго, як літаратура можа і прагназаваць, і мадэляваць гісторыю. Гаварылі мы і пра тое, як літаратары маглі прадказаць і змадэляваць уласны лёс. На маю думку, Максім Багдановіч спрагназаваў, змадэляваў і ўласную хваробу, і ўласную сьмерць, столькі пішучы пра гэта. Янка Купала сваёй ідэяй палёту і падзеньня («І сонца, і сокал, і я») таксама





як бы запраграмаваў уласны ікарыйскі лёс — палёт і падзеньне паміж пралётамі лесьвіцы. Вацлаў Ластоўскі, з майго гледзішча, стварыўшы ідэю лябірынтаў, сам у іх заблукаў і зьнік невядома дзе і невядома як. Можа, і цяпер дзесьці ў іх блукае... Такім чынам, той ліхі фатум, які перадаваўся лёсу краіны, перадаваўся і лёсам літаратараў.

*— Я яшчэ дадаў бы і лёс Андрэя Мрыя, які быў забіты ўласным пэрсанажам. Але з усяго гэтага вынікае, як мне падаецца, даволі простая выснова. Калі мастацтва здатнае мадэляваць нешчасьлівыя лёсы, дык шчасьлівыя, напэўна ж, пагатоў. У тым ліку і лёс уласнай дзяржавы.*

— Калі хтосьці не зусім задаволены, так бы мовіць, статусам Беларусі, ступеньню незалежнасьці яе, дык чаму не пабудаваць уласную віртуальную Беларусь хоць бы ў літаратурным творы?! Калісьці Зьмітрок Бядуля намаляваў вобраз кулака, які жыве на сваім хутары, і для яго той хутар — ягоная Беларусь. Варта, напэўна, стварыць і ў літаратуры ідэальны хутар, на якім можна было б прымацаваць шыльду «Беларусь», абставіць сымболікай, якая падабаецца аўтару. Інакш кажучы, перастварыць Беларусь-утопію. На маё глыбокае перакананьне, літаратура XXI стагодзьдзя — гэта час утопіяў, тады, як у мінулым стагодзьдзі тварыліся антыўтопіі з благімі фіналямі, у якіх нас зноў і зноў зьнішчаюць ды падманваюць. У свой час Вацлаў Ластоўскі, хаваючыся пад псэўданімам Юрка Верашчака, казаў: тварыце пазытыў, стварайце станоўчы вобраз беларуса. Мы ж прыгожыя, мы ж маем выдатную, багатую прыроду, а тут нейкі паэт заводзіць: «Невясёлая старонка наша Беларусь, людзі — Янка і Сымонка,

птушкі — дрозд ды гусь». Такім чынам, сапраўдная ўтопія — гэта тая, якая пераўтвараецца ў існасьць, у якой няма нэгатыву.

*— А давайце правядзем паралель са Злучанымі Штатамі. Творцамі прыдумана цікавая ўтопія «амэрыканская мара». Ёй паверылі людзі, і гэтая ўтопія матэрыялізавалася.*

— На ўтопію «амэрыканская мара» працавалі ня толькі бізнэсоўцы, эканамісты, прагназісты. На яе працавала фабрыка мрояў — Галівуд, якая таксама стварала пазытыўны вобраз амэрыканскай мары. Што да беларускай мары, дык мне бачыцца яе працяг ня толькі ў творах на гістарычную тэму ці ў навуковай фантастыцы, але і ў рэчах масавай культуры, у якіх героі аб'яднаныя ідэяй дому — утульнага дому-замку, сядзібы, жытла, якое так любяць беларусы. І гэтыя творы таксама насяляюць загадкавыя жанчыны і мужчыны-рыцары. Зноў жа, маскультавы пазытыў.

*— Ці гэтай пазытыўнай мары, беларускай утопіі можа паверыць беларускі народ? Ці абапіраецца яна на нейкія глыбінныя псыхалягічныя плашчыні народнага жыцьця, народнай псыхалёгіі, мэнтальнасьці беларусаў?*

— Ідэя дому жыве ў беларускай мэнтальнасьці. Прыгадаем выказваньне Францішка Скарыны пра любоў да радзімы: «Птушкі, зьвяры, рыбы любяць свае норы, а чалавек да месцаў, дзе нарадзіўся, дзе Бог даў яму жыцьцё, вялікую ласку мае». Упершыню Скарына адлюстраваў вось гэтае адвечнае імкненьне беларусаў атаясамліваць дом з сваёй радзімай.





*— Ці былі, ці ёсьць спробы беларускіх палітыкаў, дзяржаўных дзеячаў гэтую беларускую мару рэалізаваць?*

— Перадусім гэта задача літаратараў, якія павінны, як і тады, у час нашаніўства, даць штуршок сваімі творамі.

*— А далей?*

— А далей усё адбываецца паводле гэтага самага сцэнара. Далей зьяўляюцца празаікі, якія пачынаюць сьвядома ці падсьвядома гэтую мару ажыцьцяўляць.

*— А давайце ўявім, што ў гэты самы момант дзе-небудзь на Лысай гары ці проста на нейкім гарышчы група літаратараў, якіх вы лічыце рухавіком беларускай мары, абмяркоўвае лёс новай Беларусі, Беларусі XXI стагодзьдзя, як гэта ў свой час рабілі нашаніўцы ў цукерні «Зялёны Штраль». Якую ўтопію яны могуць ствараць?*

— Дык мы ж ведаем, што ніякай гаворкі ў цукерні «Зялёны Штраль» не было. Гэта — фікцыя. Хоць штосьці магло і быць. Але самае галоўнае, што кожны з нашаніўцаў рабіў сваю справу, меў вялікую мэту, рабіў, як мог, хоць ня думаў пра тое, што ствараць будучыню Беларусі трэба праз пазытыў, а не праз нэгатыў. І мяркую, што новая генэрацыя беларускіх літаратараў гэтую памылку ўлічыць і створыць той вобраз Беларусі, якога мы чакаем. І што ў іх атрымаецца лепш, чым атрымалася тады, сто гадоў таму.



Крыўя
балты
Літва
Старажытная Русь
славяне
тутэйшыя
талерантны народ
правінцыя
партызан
буржуй
папараць-кветка

наша

# Крыўя

Крыўя

*Крыўя сёньня —*
*гэта сымбаль імкненьня*
*да пакрыёмай праўды*
*нашай зямлі*



*Размова з Аляксеем Дзермантам*

***— Крыўя (Крывія) — старажытны аўтэнтычны назоў дняпроўска-дзьвінскага краю, абшар, населены крывічамі — найбуйнейшым протабеларускім племем. Гэта — нацыянальны этнонім, альтэрнатыўны Беларусі. Адкуль паходзіць назоў «Крыўя»? Ці зьвязаная ягоная этымалёгія зь нейкім іншым мітам, ці мае сакральны сэнс?***

— Зьвязаная наўпрост. Як мяркуюць аўтарытэтныя дасьледчыкі, найбольш імаверная вэрсія паходжаньня назоваў *Крывія* і *крывічы* ад балцкіх назоваў сьвятара: krivis, krive, Krive-Krivaitis. Адметна і тое, што Крыўя — этнічная тэрыторыя крывічоў — мясьцілася на вытоках рэкаў Дняпра, Дзьвіны і Волгі (галоўным эўрапейскім водападзеле), што надзяляла гэтую зямлю зь міталягічнага гледзішча надзвычайнымі якасьцямі, сакральнасьцю. Між іншым, гэта суадносіцца з уяўленьнямі старажытных індаэўрапейцаў (грэкаў, рымлянаў, індыйцаў, іранцаў) пра паўночную прарадзіму, сьвятую краіну Гіпэрбарэю.

*— Калі ўзьнік назоў «Крыўя»?*

— Навукоўцы ўжо даўно зьвярнулі ўвагу, што дняпроўска-дзьвінская зона ўяўляе сабой цэльны рэгіён, што ўтварыўся вельмі даўно — ці не з эпохі нэаліту, і зьяўляецца зонай кансэрвацыі эўрапейскай архаікі. Адпаведна існуе меркаваньне, што гэты рэгіён з найдаўнейшага часу называецца Крыўяй, прынамсі з бронзавага веку,

калі гэты этнонім быў перанесены ў выніку міграцыі індаіранцаў з Паўночнага Прычарнамор'я ў далёкую Індыю, дзе вядомы народ *крыві*.

*— А якія гістарычныя сьведчаньні ёсьць на карысьць таго, што сучасная Беларусь сапраўды называлася Крыўяй?*

— Апрача згадкі ў рускіх летапісах уласна крывічоў, якія, дарэчы, не называліся ў ліку тых плямёнаў, што «маюць славянскую мову», можна прыгадаць і тое, што полацкія князі ў некаторых паведамленьнях называюцца «крыўскімі». Крывія згадваецца ў заходніх крыніцах. Прыкладам, нямецкі храніст Пётра Дусбургу пад 1314 годам піша: «Frater Henricus Marschalcus... venit ad terram Crivitae, et civitatem illam, guae parva Nogardiadicitur cepit» («Брат Гэнрык Маршалак... прыйшоў у зямлю Крывіція і места яе, каторае Навагародкам завецца, здабыў»), а ў жыцьцяпісе Сьвятой Параскевіі, князёўны полацкай, пісаным па-лацінску, полацкая князёўна названа *Regina Krivitae* — каралеўна крывічоў. Таксама ў сучаснай латыскай мове Krievija і Baltkrievija азначаюць Расею і Беларусь адпаведна, хоць ёсьць падставы меркаваць, што ў латышоў захаваўся архаічны тэрмін не азначэньня Русі, а проста ўсходніх суседзяў. У сувязі з гэтым мяркуецца, што першасная балцкая форма нашага назову гучала накшталт *Krieva*, а пазьней гэты этнас славянізаваўся і стаў вядомы як крывічы.

*— Калі і ў зьвязку зь якімі варункамі крыўскае найменьне зьнікае з гістарычных дакумэнтаў і, трэба меркаваць, перастае быць фактам самасьвядомасьці тутэйшага насельніцтва?*





— Згадкі пра крывічоў, гэтаксама як пра радзімічаў і дрыгавічоў, у рускіх летапісах цалкам зьнікаюць да канца XII стагодзьдзя. Гэта здаецца зусім невыпадковым, бо ў той час усё больш набірае моц хваля хрысьціянізацыі, якой спадарожнічала і зьмена ідэнтычнасьці. Замест ранейшых найменьняў паўстае новая этнаканфэсійная тоеснасьць — руская — у адпаведнасьці з хрышчэньнем паводле ўсходняга (рускага) абраду. Тут дарэчы згадаць словы Вацлава Ластоўскага, якія пацьвярджае і сучасная гістарычная навука: «Пашырэньне імені «Русь» на тэрыторыю Крывічоў адбывалася не дынастычным парадкам, а шляхам пашырэньня хрысьціянства... Старыя племянныя і дзяржаўныя найменьні прасьледуюцца, як азнака зваяванага паганства, як азнака адсталасьці і некультурнасьці. У пераходны час ад паганізму да хрысьціянства прымаецца імя «Русь» і Крывічанскім народам».

*— Вы згадалі Вацлава Ластоўскага. Ці ня ён паклаў пачатак міту пра Беларусь як Крывію? Чым быў выкліканы ягоны зварот да Крывіі?*

— Вацлаў Ластоўскі быў адным зь першых дзеячаў нацыянальнага адраджэньня, які заўважыў пэўныя хібы ў гэтым руху, у прыватнасьці, узьняў праблемы стылю і формы, якія непазьбежныя ў працэсе канструяваньня нацыі. Безумоўна, з гэтай праблемай шчыльна зьвязанае пытаньне самаідэнтыфікацыі, саманазову. Ластоўскі меркаваў: «Беларусы — гэта пераходная ступень, часьць цэлага рускага, якое, як нам ведама, абымае канглямэрат народнасьцяў самых розняякіх рас і плямён... У гэтай безьбярэжнай мазаіцы мы як беларусы будземо толькі нязначным,

безындывідуальным камешкам, прызначаньне якога будзе стушавацца ў цэлым... імя «крывічы» ёсьць стары і ўласны назоў нашага народу і краю, які мае ня толькі роўнае права на існаваньне зь іншымі навейшымі і са стараны накінутымі нам назовамі, але больш таго, як назоў самаістны, можа павясьці крывічоў да акрэсьленьня свае нацыянальнай істоты, без намэнклятурнай залежнасьці ад «общерусскости». Ластоўскі таксама спрычыніўся і да адраджэньня крыўскага міту. Напрыклад, неаднойчы ў ягоных творах можна прасачыць паралель паміж старагрэцкай Гіпэрбарэяй і Крывіяй, якая ўяўляецца ім менавіта як краіна, дзе захоўваецца пракаветная, яшчэ дахрысьціянская традыцыя. Мабыць таму Ластоўскага варта называць ня проста прыхільнікам крыўскасьці як альтэрнатыўнага шляху ў нацыянальным руху, а праўдзівым празорцам, які праз глыбінную інтуіцыю адчуў значнасьць Крыўі і зьвязаў яе гісторыю з сучаснасьцю.

*— Але ж як ідэя, выказаная Ластоўскім, стала мітам? Як яна ўвайшла ў сьвядомасьць калі ня ўсёй нацыі, дык пэўнай часткі эліты? Якое разьвіцьцё крыўская ідэя мела ў XX, камуністычным для Беларусі, стагодзьдзі?*

— Бадай, як гэта ні парадаксальна прагучыць, але мітам у наш час крыўская ідэя стала ў сутыкненьні зь беларускасьцю, спачатку з крытыкай тых нацдэмаў, якія ўбачылі ў ёй небясьпечнага канкурэнта, а потым і з камуністамі, для якіх яна стала ці не сынонімам нацыяналізму. Акурат у 1920—1930-я гады адбыўся своеасаблівы падзел, дзе Крыўя стала сымбалічным увасабленьнем гісторыі і нацыянальнай годнасьці, сакрумам, а Беларусь — няўдалым нацыянальным праектам, прафанацыяй. І амаль праз усё XX стагодзьдзе мы можам заўважыць, як гэтая Крыўя заставалася крыніцай натхненьня для пісьменьнікаў, паэтаў, музыкаў, каб зноў адрадзіцца ў пачатку трэцяга тысячагодзьдзя ў новай стылістычнай, нават навуковай, форме.





*— Як улады ставіліся да гэтага міту?*

— Савецкія ўлады ацэньвалі яго адназначна нэгатыўна, бо гэты альтэрнатыўны праект ідэнтычнасьці наўпрост разыходзіўся з асноўнымі пастулятамі камуністычнай ідэалёгіі. Нездарма адзін з савецкіх чыноўнікаў абрынуўся на раман Міхася Зарэцкага «Крывічы» з такімі словамі: «Кривичи» — это имя вызывает ненависть среди трудового населения Белоруссии. «Кривичи» — это символ национал-фашизма...». Таму зусім ня дзіўна, што для сучаснай улады гэтага міту не існуе наагул, бо, здаецца, яе цалкам задавальняе міт пра беларусаў як расейцаў вышэйшага гатунку.

*— Які зьмест укладаюць у крыўскую ідэю цяперашнія яе прыхільнікі?*

— Крыўя сёньня — гэта сымбаль імкненьня да пакрыёмай праўды нашай зямлі. Гэта міт пра нашыя вытокі, «залаты век» і шлях да Адраджэньня. Гэта паўночная традыцыя, якая ніколі не зьнікала і жыве ў кожным тутэйшым. Гэта рэлігійнасьць, якая арганічна спалучае дзядоўскую веру і народнае хрысьціянства. Гэта ідэя, якая апэлюе да больш высокіх сэнсаў і надчасавых каштоўнасьцяў. Гэта стыль, цалкам адрозны ад той прафанацыі, якую сёньня мы назіраем паўсюль у Беларусі. Гэта пэўны ўзор паводзінаў і сьветаадчуваньня.

*— Якія праявы крыўскага міту мы можам назіраць у сучаснасьці — у навуцы, мастацтве, палітыцы?*

— У навуковым абсягу гэткай праблематыкай ужо блізу дваццаці гадоў займаецца Цэнтар этнакасмалёгіі «KRYŬJA», зь дзейнасьцю якога зьвязаны і шэраг культурніцкіх зьяваў: зварот да балцкай ідэнтычнасьці беларусаў, адраджэньне дударскай традыцыі, узьнікненьне шэрагу музычных і мастацкіх праектаў. Напрыклад, ужо трэці раз праводзіўся фэстываль фолькавай і нэафолькавай музыкі «Crivia Aeterna», які зрабіўся культавым у пэўных моладзевых асяродках. У Менску нават можна сустрэць маладых людзей у кашулях з надпісамі «Крыўя перадусім». Яны праз музыку, стыль прыходзяць і далучаюцца да гэтага сымбалю, бо адчуваюць ягоныя моц, праўдзівасьць, тутэйшасьць. Што тычыцца палітычных пэрспэктываў крыўскага міту, дык сёньня казаць пра гэта зарана, бо цяпер ніводная з палітычных плыняў не гатовая яго прыняць. Зрэшты, гэта не абавязкова патрэбна, бо сама Крыўя вышэйшая за любыя палітычныя падзелы і таму павінна заставацца тым, што аб'ядноўвае людзей, якія падзяляюць пэўныя каштоўнасьці.

*— А калі ўсё ж уявіць, што «крыўскі міт» апанаваў сьвядомасьць бальшыні беларусаў, якія наступствы гэта можа мець? Ці не пагражае яно зьнішчэньнем беларускасьці?*

— Гэта азначала б не дэструкцыю, а карэкцыю беларускасьці, зварот да яе першапачаткаў дзеля ўзмацненьня і ўкараненьня яе апірышча. Якая небясьпека можа ісьці ад нашай уласнай зямлі, яе камянёў, пушчаў, рэкаў, могілак, ад продкаў? Хіба для тых, хто гэта ўсё





ненавідзіць. А гэта і ёсьць Крыўя! Зноў тут дазволю сабе працытаваць Вацлава Ластоўскага: «Глыбока ў народнай сьвядомасьці жыве і пакутуе, чакаючы дня свайго ўваскрэшаньня, напаўмістычнае імя «Крывія», якому прызначана ў жыцьці народу замкнуць кола гісторыі, быць ачышчаючым агнём, магічным дарожным знакам, гаючай і жывучай вадой Адраджэньня Народу».

# Балты

*Для беларусаў балтызм стаў бы своеасаблівай засьцярогай ад панславізму і аўтэнтычнай альтэрнатывай*



*Размова з Аляксеем Дзермантам*

***— Балты — народы індаэўрапейскага паходжаньня, носьбіты балцкіх моваў, якія ў старажытнасьці насялялі вялізарныя абшары ад польскага Памор'я праз усю цяперашнюю Беларусь да вярхоўяў Волгі, Дняпра і Дзьвіны. Апошнім часам лічыцца, што балты — гэта той этнічны субстрат, на якім сфармаваліся асноўныя адметныя рысы беларусаў як этнакультурнай супольнасьці, а балтызм разглядаецца як адзін з складнікаў нацыянальнай ідэнтычнасьці. Дык ад якога часу мы можам гаварыць пра балтаў як этнічную супольнасьць? Калі і якія этнічныя супольнасьці сталі называць балтамі?***

— Назовы «балты» і «балцкія мовы» як навуковыя тэрміны былі прапанаваныя нямецкім лінгвістам Георгам Насэльманам у 1845 годзе. Але гэта не азначае, што самой этнічнай супольнасьці не існавала раней. Першая пісьмовая згадка балтаў заўважаецца ў творы рымскага гісторыка Тацыта «Пра паходжаньне германцаў», дзе яны вядомыя пад назовам эстыі. У раньнім Сярэднявеччы яны таксама вядомыя пад найменьнямі галінды, судзіны ды іншымі. У расейскай гістарыяграфіі раней яны часта называліся лета-літоўцамі або проста літоўцамі.

*— Якія ёсьць доказы балцкай прысутнасьці на тэрыторыі Беларусі?*

— Найперш гэта дадзеныя гідранімії і тапанімії. У навуковых працах, прысьвечаных мовазанаўчаму аналізу назоваў рэк ды вадаёмаў у верхнім Падняпроўі, Панямоньні і Падзьвіньні, было высьветлена, што асноўным этнічным кампанэнтам тут, бясспрэчна, былі балты, пачынаючы з самай аддаленай даўніны, даступнай лінгвістычнаму аналізу. Затым варта ўлічваць антрапалягічныя і генэтычныя матэрыялы, паводле якіх выяўляецца найбольшае падабенства беларусаў да балцкіх народаў (асабліва літоўцаў) або да тых рэгіянальных групаў суседніх славянамоўных этнасаў, якія займаюць часткі колішняга балцкага гідранімічнага арэалу. Абавязкова варта згадаць і наяўнасьць балтызмаў рознага кшталту ў беларускай мове.

*— Удакладніце, калі ласка, якія ж сьляды балты пакінулі ў беларускай мове?*

— Па-першае, гэта лексычныя балтызмы, словы накшталт *рупіць, набрыняць, дзёгаць, дойлід, жвір, атожылак, бурбалка, парсюк, кумпяк* і г. д. Насамрэч іх нашмат больш, чым прынята меркаваць, асабліва ў дыялектах, але, на жаль, дагэтуль беларуская лексыка балцкага паходжаньня чакае свайго прафэсійнага дасьледніка. Па-другое, гэта сынтаксычныя балтызмы, канструкцыі, накшталт *ехаць з канём, гаварыць на мацi, ісьці па грыбы,* якія паўтараюць адпаведныя канструкцыі, вядомыя толькі ў літоўскай або латыскай мовах. Па-трэцяе, варта згадаць, што і асноўныя фанэтычныя рысы беларускай мовы (дзеканьне, цеканьне, аканьне, яканьне) таксама імаверна ўтварыліся ў выніку балцкага ўплыву. Увогуле балтызмы — гэта ня ўзятыя звонку словы, не пазычаньні, а часьцінкі, што ўтрымаліся ў мове пасьля «вымываньня» з-пад яе балцкай асновы. Балцкі складнік беларушчыны — нібы нітка, на якую нанізаныя славянскія пацеркі. Балтызмы таксама фармуюць адметнасьць нашай мовы.





*— Як жа тады адбывалася славянізацыя мясцовых балтаў? У выніку масавай славянскай міграцыі або інакш?*

— На сёньня ёсьць сур'ёзныя падставы сумнявацца, ці была тая масавая славянская міграцыя. Акурат наадварот — паводле наяўных цяпер зьвестак розных навук, спрадвечнымі насельнікамі, то бок аўтахтонамі нашага краю, былі балцкамоўныя плямёны. Кансэрватыўнасьць антрапалягічна-генэтычнага аблічча беларусаў не дазваляе прыняць тэорыю пра масавую славянскую калянізацыю на тэрыторыю будучай Беларусі. Выдае на тое, што славянізацыя мясцовага балцкага насельніцтва мела збольшага моўны (часткова культурны) характар. Таму можна дапусьціць, што асаблівасьці працэсу фармаваньня беларускай этнічнай супольнасьці адпавядаюць этнагенэтычнай сытуацыі, калі меркаваныя перасяленцы складалі меншыню, якая праз адміністрацыйна-рэлігійны (утварэньне дзяржавы і прыняцьце хросту паводле ўсходняга абраду) чыньнік выклікала зьмены ў моўнакультурным ляндшафце мясцовага насельніцтва.

*— Удакладнім вашу думку. Сучасныя беларусы хоць і славянамоўныя, але зьяўляюцца наўпроставымі нашчадкамі балцкіх плямёнаў?*

— Фактычна гэта так. Нават калі ня будзем згадваць клясычных балтаў, што жылі на тэрыторыі Беларусі ў старажытнасьці (літву, яцьвягаў, латгалаў, прусаў), дык нават найменьні крывічы, дрыгавічы і радзімічы

маюць, найбольш праўдападобна, менавіта балцкае паходжаньне.

*— Але падобны падыход да этнагенэзу можа істотна паўплываць на ідэнтычнасьць нацыі. Наколькі ўсё гэта супярэчыць славянскаму міту, які актыўна прапагандуецца ў Беларусі?*

— Безумоўна, балцкая фактура ня надта ўкладваецца ў схемы тых, хто прызвычаіўся заўжды шукаць толькі славянскія вытокі. Гэта тычыцца ня толькі ідэолягаў, але й навукоўцаў, бо, бадай, ніколі ў нас не заахвочваліся паважныя балцкія дасьледаваньні, наадварот, ім усяляк заміналі. А тое, што прыхільнікі славянскага міту ўпарта ня хочуць зважаць на балтаў, відавочна. Узяць хаця б нядаўнія паведамленьні пра дасьледаваньне генафонду беларусаў, растыражаваныя шматлікімі СМІ. Кіраўнік групы навукоўцаў, якая займалася дасьледаваньнем, заявіў у інтэрвію, што «людзі, якія засялілі тэрыторыю сучаснай Беларусі, былі індаэўрапейцамі, потым сталі праславянамі, а пазьней вылучыўся беларускі этнас». Нібыта ўсё слушна, за выняткам праславянаў, бо балты і былі тымі тутэйшымі індаэўрапейцамі, генафонд якіх і склаў аснову генафонду сучасных беларусаў. Генэтыкі пацьвердзілі аўтахтоннасьць нашага этнасу, але не захацелі пайсьці далей і прызнаць, што гэтыя аўтахтоны ня маюць да праславянаў ніякага дачыненьня.

Тут варта згадаць словы аднаго з найбольш выбітных дасьледнікаў балцка-славянскіх дачыненьняў Уладзімера Тапарова: «Панятак «славянскі», ужываны ў традыцыйным сэнсе, зьмяняе (а адсюль і траціць) сваё значэньне і ў сьвятле шэрагу іншых дасягненьняў апошніх гадоў у вобласьці рэканструкцыі этналінгвістычнай карты Ўсходняй Эўропы... Іначай кажучы, для гэтай часткі Ўсходняй Эўропы «славянскі» элемэнт, як ён разумеўся дасюль, для пэўнай эпохі, калі балцкі элемэнт быў бясспрэчна актуальны, аказваецца фікцыяй».





*— Увогуле, а ці магчыма, каб славянамоўны этнас меў ня толькі балцкае паходжаньне, але і балцкую ідэнтычнасьць?*

— Прыклады з гісторыі, калі этнічная тоеснасьць не супадае з моўнай тыпалёгіяй, — не адзінкавыя, гэтаксама як і выпадкі адраджэньня ў іншамоўным асяродзьдзі культурных традыцыяў, якія, здавалася б, назаўсёды зьніклі праз асыміляцыю іхных носьбітаў. Згадайма шатляндцаў, валійцаў, ірляндцаў, брэтонцаў, якія ня сталі германцамі або раманцамі, страціўшы не зусім свае кельцкія гаворкі, або французаў, якія паходзяць ад раманізаваных галаў і, нават атрымаўшы свой назоў ад нешматлікіх германскіх заваёўнікаў — франкаў, усё адно зьвяртаюцца перадусім да сваіх гальска-кельцкіх вытокаў. Таксама і раманскамоўныя румыны насамрэч больш родныя «паўднёвым славянам», чым італійцам ці гішпанцам зь іхнай моўнай групы.

Мова, бясспрэчна, адна з найважнейшых адзнак нашай ідэнтычнасьці, бо яна, бадай, апошняе, што нам засталося яшчэ жывога і праўдзівага ад дзядоў. У яе нетрах мы можам спазнаваць таямніцы свайго паходжаньня, гаворачы на ёй і думаючы ёю, мы можам найлепш паразумецца, але ўсё ж адна толькі мова ня можа быць у беларускім выпадку вызначальнай прыкметай этнасу.

*— Тады якія пэрспэктывы магчымай карэкцыі беларускай ідэнтычнасьці ў балцкім кірунку вы бачылі б?*

— Перадусім гэта паспрыяла б неангажаванаму вывучэньню тых праблемаў, якія дагэтуль застаюцца па-за ўвагай у шматлікіх абсягах навукі: лінгвістыцы, археалёгіі, антрапалёгіі, этнаграфіі. Гэта дазволіла б паглядзець на ўласную гісторыю іншымі вачыма — у прыватнасьці, на агульнай балцкай глебе можна нарэшце паспрабаваць знайсьці паразуменьне зь літоўскімі калегамі ў пытаньнях генэзісу і агульнай прыналежнасьці спадчыны Вялікага Княства Літоўскага. Тут досыць згадаць хаця б факт працяглага мірнага суіснаваньня продкаў беларусаў і літоўцаў у межах гэтай дзяржавы, што сьведчыць пра арганічны характар яе ўтварэньня. Для беларусаў балтызм стаў бы своеасаблівай засьцярогай ад панславізму і аўтэнтычнай альтэрнатывай яму, які, здаецца, канчаткова сябе дыскрэдытаваў, але на які дагэтуль хварэюць некаторыя нашы суседзі.

*— А як жа быць зь непрыманьнем мноствам беларусаў балцкай культуры, палітычнага шляху прыбалтыйскіх народаў? Колькі часу павінна мінуць, перш як беларусы з павагай паставяцца да свайго балцкага паходжаньня?*

— Тут трэба пачынаць з адукацыі і простага зацікаўленьня нашай балцкай спадчынай, што, на жаль, у сёньняшніх варунках усё яшчэ немагчыма ажыцьцяўляць належным чынам. Таксама трэба пазбаўляцца ад славянафільскіх і савецкіх поглядаў на гісторыю ды ўласнае паходжаньне, бо менавіта на гэтых навязаных схемах вельмі часта грунтуецца варажнеча да нашых





прыбалтыйскіх сукрэвічаў. Але я ўпэўнены, што тутэйшы чалавек, якому рупяць свае карані, які глыбока цікавіцца гістарычнай праўдай і этнічнай культурай, які, урэшце, адчувае дух сваёй зямлі, абавязкова будзе шанаваць сваіх балцкіх продкаў і ганарыцца імі.

# Літва

*Для беларускай ідэнтычнасьці Літва істотная тым, што стварае адну зь яе пэрспэктываў*



*Размова з Аляксеем Дзермантам*

***— Літва — этнонім і палітонім, які ўжываўся ў гістарычных крыніцах у розных сэнсах. Пачаткова гэтае найменьне адносілася да балцкага племя, а з утварэньнем Вялікага Княства Літоўскага яно пашырылася на ўсю тэрыторыю дзяржавы, куды ўваходзіла і ўся цяперашняя Беларусь. Калі ўпершыню і ў зьвязку зь якімі варункамі згадваецца найменьне Літва?***

— Упершыню назоў *Літва* (*Lituae*) згадваецца пад 1009 годам у хроніцы «Кведлінбурскія аналы» з нагоды забойства на мяжы Прусіі, Русі і Літвы місіянэра Бруна. Дарэчы, гэтыя акалічнасьці мне здаюцца невыпадковымі, бо і пазьней вобраз Літвы шмат у чым вызначаўся яе прыхільнасьцю да паганства альбо нейкім адмысловым становішчам у межах хрысьціянскага сьвету.

*— Што вы маеце на ўвазе пад паганскім вобразам Літвы?*

— Гэты вобраз зьяўляецца ў выніку процістаўленьня Літвы краінам, дзе ўжо запанавала хрысьціянства. Напрыклад, у «рускіх» летапісах вядомыя наступныя эпітэты: *літва беззаконная* (не пільнуецца хрысьціянскага закону), *літва бязбожная*, *літва паганая*, *літва нехрышчоная*. Цікава, што гэты стэрэатып замацаваўся і ў этнастэрэатыпных уяўленьнях суседзяў (расейцаў, украінцаў) пра беларусаў-ліцьвінаў

XIX стагодзьдзя: «з литвина не буде християнина», «вялікі чараўнік, сказана — ліцьвін», а «тэалягічны» дыялёг зь беларусам паводле ўкраінскага фальклёру выглядаў гэтак:

— Литвинку божи?!
— Ти сам божи!
— Тю, литвинку, ти ж чортів!
— Ага, хай і чортів, аби не твой!

*— Наколькі гэты вобраз адпавядаў гістарычным і палітычным рэаліям?*

— З майго гледзішча, гэты вобраз альбо міт пра паганскую Літву склаўся зусім небеспадстаўна, бо літоўскія валадары ня надта сьпяшаліся афіцыйна браць хрост. Наадварот, яны спрабавалі ўнікнуць рэлігійнай канфрантацыі і захаваць месца язычніцкай рэлігіі нароўні з хрысьціянскімі канфэсіямі. Згадайма тут красамоўныя словы князя Гедыміна: «Хрысьціяне шануюць Бога свайго па-свойму: русіны па-свойму, палякі па-свойму, а мы шануем Бога па нашаму звычаю». Больш за тое, нядаўнія навуковыя дасьледаваньні выявілі, што можна сцьвярджаць пра існаваньне такой зьявы ў Літве XIII—XIV стагодзьдзяў, як паганская дзяржаўная рэлігія. Так, вядомы гісторык Роўэл назваў тагачасную Літву «апошняй паганскай імпэрыяй».

*— Але ж у 1387 годзе Літва прымае нарэшце хрост паводле лацінскага абраду...*

— Так, у варунках наймацнейшага духовага, палітычнага, а ў зьвязку з каталіцтвам яшчэ й адкрыта вайсковага ціску, востра паўстала пытаньне існаваньня Літвы. Этнічная й дзяржаўная экзыстэнцыя тады беспасярэдне залежала ад прыняцьця хросту, як





сымбалічнага чыну далучанасьці да эўрапейскае цывілізацыі, а не варожага «барбарскага сьвету». Маючы на ўвазе гэты чыньнік палітыкі нашых валадароў, якія рабілі захады ў хрысьціянізацыі краю, варта адмовіцца ад адназначных ацэнак. Летась мы адзначылі тысячагодзьдзе першай пісьмовай згадкі Літвы. Мабыць, хутчэй было так, што літоўскія князі, прымаючы хрост, ахвяруючы сваімі вераю, звычаямі, перакананьнямі, набывалі своеасаблівую «індульгенцыю» для свайго народу, а праз немінучы кампраміс стварылі спрыяльныя ўмовы для захаваньня архаічных пластоў культуры (то бок яе асновы). Як адзначае вядомы знаўца балцкай даўніны Ўладзімер Тапароў, «...адна важная рыса ня можа быць выпушчана з-пад увагі — шырокі геапалітычны кругагляд найбольш выбітных кіраўнікоў Літвы: дзеяньні, якія нярэдка здаваліся зусім процілеглымі, але якія мелі ўрэшце адну глыбінную мэту, чыніліся не праз абыякавасьць або крывадушша, а з улікам усёй сытуацыі навокал, зважаючы на Лівонію й Прусію, Польшчу й Русь... Крокі насустрач хрысьціянству рабілі не тады, калі выбару ўжо не было й трэба было прымаць прадыктаваныя ўмовы, але крыху раней за той момант, калі сытуацыя станавілася цалкам здэтэрмінаванай і ўжо незваротнай».

*— Якія ёсьць сьведчаньні таго, што літоўскі міт жыве і ў больш позьні час?*

— Ён сапраўды жыве. Так, у XVI стагодзьдзі Міхалон Літвін, аўтар трактату «Пра звычаі татараў, літвіноў і маскоўцаў», ганарыўся тым, што на Літве, як і калісь у Рыме, «ушаноўваюцца й сьвятыя пэнаты, моры, ляры, лемуры, горы, пячоры й сьвятыя гаі». Ён настальгуе па старавечных звычаях і кажа, што «пад хваляю хросту

згаснуў *ugnis*, то бок агонь». «Пракаветнасьць» Літвы і яе традыцыі, паводле Томаса Венцлавы, выразна фармулююцца і ў паэтычнай карціне сьвету Адама Міцкевіча, дзе «...землі колішняга Вялікага Княства Літоўскага служылі своеасаблівым хранатопам, сымбалічнай прасторай лясоў і азёраў, прасякнутымі духоўнымі плынямі і якія беспасярэдне межавалі зь іншым сьветам. Гэта быў сьвет самоты і чароўнасьці, таямнічасьці і жуды, мэлянхоліі і трывогі... Паэт уяўляўся ў ролі мэдыюма, празь яго прамаўляў дух, які раней выяўляўся ў незразумелых словах паганскіх плямёнаў». А ў канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзя зварот менавіта да першавытокаў літоўскасьці, яе этнічнай традыцыі абумовіў трывалае апірышча і аснову, на якіх разьвілося ўжо ўласна літоўскае нацыянальнае адраджэньне.

*— Тады якое дачыненьне мае да гэтага міту ўласнабеларуская ідэнтычнасьць?*

— Фактычна, нягледзячы на зьнікненьне ВКЛ з палітычнай мапы, да пачатку XX стагодзьдзя сёньняшнія Літва і Беларусь былі часткамі аднаго этнакультурнага і геапалітычнага абшару. Нашы народы, з аднаго боку, складалі адну сацыякультурную прастору, а з другога — мелі блізкую ідэнтычнасьць. Згадаем словы Францішка Багушэвіча, які апазнаваў беларускасьць зноў жа ў межах даўняй Літвы: «А ў сярэдзіне Літвы як тое зярно ў гарэху была наша зямліца». Асновай гэтай ідэнтычнасьці была ня толькі гістарычная і дзяржаўная традыцыя, але і традыцыя этнічная, якая сягае вытокамі ў дахрысьціянскі час, бо менавіта ў ёй мы можам знайсьці шмат агульнага паміж літоўцамі і беларусамі. Агульнае і тое, што, нягледзячы на хрысьціянізацыю





і падзел даўняй Літвы на каталіцкую і праваслаўную часткі, беларуска-літоўскі край дагэтуль застаецца запаведнікам спрадвечных вераваньняў і традыцыяў, то бок, захоўвае тое, з чаго нараджаўся літоўскі міт.

*— А ці няма тут падставаў для спрэчак з сучаснымі літоўцамі за спадчыну гістарычнай Літвы?*

— Сапраўды, сэнс і зьмест найменьняў *Літва*, *ліцьвіны* ў розны час не былі аднолькавыя, і тут ёсьць дзьве стратэгіі: усяляк спрабаваць гэтыя сэнсы адасобіць, нават супрацьпаставіць адно аднаму, альбо, наадварот, знайсьці агульную аснову, супольны грунт, зь якога вырасьлі ўсе адмены літоўшчыны. Менавіта іншую, інтэгральную візію дэманстраваў у сваім часе адзін з ідэолягаў краёвага руху, што аб'ядноўваў нашчадкаў шляхецкай палітычнай нацыі ВКЛ, — Баляслаў Ялавецкі. Ён казаў: «Жыхар Палангі, Коўна, Вількаміру, Сьвянцянаў альбо Вільні, Горадні, Наваградку і нават Менску ёсьць ліцьвінам, незалежна ад таго, ці ён гутарыць па-літоўску, па-польску або па-беларуску. Увесь уклад ягонага жыцьця, звычаяў, сам сэнс ягонага існаваньня нагэтулькі паўсюдна аднолькавы, што апрача мовы цяжка заўважыць якую-кольвек іншую розьніцу. А гэта пацьвярджае, што на ўсім абшары Літвы жыве адна нацыя, спаяная сягам стагодзьдзяў супольнай крывёй літоўцаў, палякаў і беларусаў».

*— Які зьмест у міталягему «Літва» ўкладаюць сучасныя беларусы, а які — сучасныя літоўцы?*

— Для сучасных літоўцаў «даўняя Літва» — натуральны пачатак і аснова нацыянальнай ідэнтычнасьці, зь якой бальшыня літоўцаў сябе атаясамлівае і ўважае за непасрэдных пераемнікаў. Беларусы збольшага

пачуваюцца адчужанымі ад «даўняй Літвы», але цікаўнасьць да яе спадчыны ўсё адно заўважная. Прыкладам, тыя ж сучасныя «ліцьвіны»-беларусы, якім ужо недастаткова толькі беларушчыны. І гэта мне здаецца праявай той асновы, якая паходзіць з «даўняй Літвы».

— *Наколькі істотна для беларускай культуры і пашырэньня беларускай ідэнтычнасьці існаваньне міту пра Літву?*

— Для беларускай ідэнтычнасьці Літва істотная тым, што стварае адну зь яе пэрспэктываў. Гэта тое, што абумоўлівае адрознасьць беларускай гісторыі і традыцыяў ад расейцаў, палякаў, украінцаў. Літоўшчына ў розных яе праявах (як этнічнасьць, чыньнік ВКЛ) мне ўяўляецца адным са складнікаў беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці, адным зь яе падстаstarовых стрыжняў. Дарэчы, спрабуючы асэнсаваць гэта на новым узроўні, Цэнтар этнакасмалёгіі «KRYŬJA» выпусьціў спэцыяльны нумар альманаху «DRUVIS», прысьвечаны Літве, дзе мы спрабуем выявіць і дасьледаваць тое, што лучыць беларусаў і літоўцаў: агульныя этнічныя вытокі, традыцыйную культуру, гістарычную мінуўшчыну.

— *А ці не здаецца вам, што зацятыя спрэчкі наконт ролі кожнага з нашых народаў у супольнай гісторыі насамрэч не высьвятляюць ісьціну, а распальваюць варожасьць?*

— Менавіта таму мы адмаўляемся ад нікчэмных закідаў у літоўскі бок, пачынаем замест гэтага прыязны дыялёг і імкнемся да паразуменьня. Пры гэтым спрабуем па-іншаму ўсьвядоміць сябе, сваю краіну ды нацыю. І бачым сустрэчнае імкненьне з боку літоўскіх сяброў. Найлепшае, як нам здаецца, — не намагацца марна дзяліць тое, чаго нас нехта нібыта несправядліва пазбавіў, але «адкрыць» сапраўднага ліцьвіна ў сабе — у сэнсе этнічным, нацыянальным, грамадзянскім.

— *Можа, варта наагул адасобіцца ад гэтай літоўшчыны і зусім не зважаць на літоўскі міт?*

— Ёсьць і такая магчымасьць. Прынамсі, такі погляд на гісторыю досыць пашыраны ў нас сярод тых, хто трымаецца русафільскіх пазыцыяў, дзе Літва паўстае як нешта чужое, зусім не зьвязанае з сучаснай беларускай ідэнтычнасьцю. Але ж насамрэч беларуская гісторыя і традыцыя пераплятаюцца зь літоўскімі, нібы тое карэньне, іх немагчыма падзяліць, не пашкодзіўшы жыцьцёвага суладзьдзя першапачаткаў. Зь літоўскага дуба ападаюць лісьце і жалуды, зь іх узрастае і беларускае дрэва, камель якога ўжо іншы, ён ужо па-свойму прадзіраецца ў неба. Але ўсё адно растуць і ўзнаўляюцца дубы, ствараючы разам сьвяты гай. Дык хай жа наша Літва будзе гэткай супольнай сьвятыняй!

# Старажытная Русь

*На зьмену старажытнарускай народнасьці павінен быў прыйсьці адзіны савецкі расейскамоўны народ*



*Размова з Алегам Трусавым*

***— «Старажытная Русь (Древняя Русь) — адзіная радзіма ўсходнеславянскіх народаў. Старажытная Русь — першая дзяржава ўсходніх славян, адзіная старажытнаруская дзяржава». Такое вызначэньне ўтрымлівалася ў падручніку для вышэйшых навучальных установаў «Гісторыя БССР» (Менск, 1981). І здаецца, што гэтае вызначэньне мае гісторыю. Калі яно ўвогуле ўзьнікла?***

— Даволі позна: у канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў. Тады сталінскія гісторыкі кардынальна перагледзелі канцэпцыю гісторыі ўсходніх славянаў і практычна вярнуліся на пазыцыі «заднорусизма». Тады і былі прыдуманыя такія вызначэньні, як *Старажытная Русь*, *старажытнаруская дзяржава*, *старажытнаруская народнасьць*.

*— Ніводны міт не паўстае на голым месцы. Дзе вытокі гэтага міту?*

— Вытокі сягаюць у расейскую гістарыяграфію XVIII і асабліва XIX стагодзьдзяў. Менавіта тады была распрацаваная канцэпцыя «вялікароскага племені», якое складалася зь Вялікай Русі (Расея), Малой Русі (Украіна) і Белай Русі, ці славянскай Літвы (Беларусь).

*— Якія рэальныя падставы для ўзьнікненьня такога міту былі яшчэ ў старажытны час?*

— У самы старажытны час існавала спачатку назва *Русь*, а потым ужо розныя яе варыянты, у тым ліку і *Полацкая Русь*.

*— Ужо даўно сур'ёзная навука не адмаўляе беларусам і ўкраінцам у праве называцца самастойнымі нацыямі. На якім этапе гісторыі іх сталі прызнаваць? І як да гэтага паставіліся ахоўнікі ідэі Старажытнай Русі?*

— Сытуацыя пачала кардынальна мяняцца ў канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзя, калі на ўсёй тэрыторыі Расейскай імпэрыі пачынаецца вызвольны рух народаў, змаганьне за сваю мову, гісторыю, культуру. Беларусы таксама ўзялі чынны ўдзел у гэтай барацьбе. І пры канцы XIX стагодзьдзя прагрэсіўныя расейскія этнографы, а ўсьлед за імі географы, гісторыкі прызналі існаваньне і беларусаў і ўкраінцаў як асобных народаў са сваімі мовай і гісторыяй. Аднак перавага ў культурным сэнсе ўсё роўна аддавалася вялікаросам. Тым ня менш, перапіс 1897 году ўпершыню дазволіў задаваць пытаньні пра нацыянальнасьць і вызначаць беларусаў і ўкраінцаў як народы. Тады ж упершыню дакладна вызначылі этнаграфічныя межы расьсяленьня ў Імпэрыі ўсіх усходнеславянскіх народаў. Менавіта ў той час стаў шырока ўжывацца тэрмін *Кіеўская Русь*, а Кіеў атрымаў назоў «маці гарадоў рускіх». Тым ня менш, помнік, прысьвечаны 1000-годзьдзю Русі (Расеі) быў пастаўлены ня ў Кіеве, а ў Ноўгарадзе. Цікава, што скульптар Мікешын — беларус паводле паходжаньня.

*— Калі ж узьнік назоў «Русь»? І калі ён стаў ужывацца датычна Беларусі?*

— Значна раней за «Літву». Летапісныя бізантыйскія аналы называюць 839 год. Тады варагі са Швэцыі прыехалі ў Бізантыю і сказалі імпэратару, што яны паслы кагана (значыць, кіраўніка) Русі. Іншыя крыніцы русьсю называюць нападнікаў на беразе Чорнага мора і Касьпію. Русьсю называлі аб'яднаныя атрады варагаў і славянаў. У 911 годзе зьяўляецца згадка пра гэтак званыя рускія гарады, сярод іх называецца і Полацак. А вось Масквы тады не было. Яна ўпершыню згадваецца пад 1147 годам.

*— У навуковым і ня толькі ўжываньні знаходзяцца тэрміны з рознымі прыметнікамі ў дадатак да назову Русь — у тым ліку Чорная і Белая Русь. Затым і народы сталі называць азначэньнямі, вытворнымі ад той жа Русі — вялікаросы, маларосы, беларусы. Чаму?*

— Першае дзяржаўнае ўтварэньне ўсходніх славянаў са сталіцай у Кіеве было створана з дапамогай варагаў. Пазьней, калі варагі былі асыміляваныя славянамі, Кіеўская Русь распалася на шэраг незалежных дзяржаваў, якія ў сваіх назовах мелі слова Русь. Прыкладам, *Наўгародзкая Русь*, *Полацкая Русь*. А назва *Белая Русь* упершыню зьяўляецца ў XIII стагодзьдзі. Дарэчы, у нямецкіх крыніцах.

*— Як ставіліся да гэтага беларускія гісторыкі? Абвяргалі? Карысталіся такімі вызначэньнямі? Прыкладам, вядомы гісторык Абэцэдарскі сьцьвярджаў, што ў XIV—XVI стагодзьдзях самі беларусы называлі сябе рускімі, а землі свае — Русьсю. А вы кажаце пра Белую Русь яшчэ ў XIII стагодзьдзі...*

— Белая і іншыя Русі спачатку былі больш тэрыта-

рыяльнымі, геаграфічнымі вызначэньнямі, чым вызначэньнямі этнічных супольнасьцяў. І толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім славянскі этнас, а гэта будучыя беларусы і ўкраінцы, атрымалі назоў «русіны», альбо «рускія». І ў Статуце ВКЛ запісана, што літарамі рускімі, а ня іншымі, пісары павінны пісаць. Гэта і ёсьць старажытная беларуская мова. Масковія ж доўгі час не называла сябе Русьсю. Упершыню Масковія стала называць сябе Рускай дзяржавай толькі ў другой палове XVI стагодзьдзя, калі стала прэтэндаваць на спадчыну Кіева. Нашае вызначэньне Русі значна раней зьявілася. Што тычыцца беларускіх гісторыкаў, дык яны ўпершыню тэрмін *Русь* пачалі актыўна ўжываць у канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Так, у падручніку Ўсевалада Ігнатоўскага 1926 году гаворка ідзе пра Полацкую Русь як землі будучай Беларусі. Мітрафан Доўнар-Запольскі ўвогуле лічыў, што назоў *Беларусь* узьнік значна раней, чым назовы *Русь Вялікая*, *Русь Малая*, *Чорная Русь*.

*— З тэрмінам «Русь», здаецца, разабраліся. А як і калі ўзьнікае міт пра «древнерусскую» народнасьць?*

— А вось гэты міт — чыста сталінскі. Ён не існаваў у «западноруссистов». Тэрмін «древнерусская народность» быў створаны для таго, каб абгрунтаваць татальную русіфікацыю беларусаў і ўкраінцаў. Спачатку была нейкая «Древняя Русь», потым Русь распалася. А народнасьць «древнерусская», калі верыць Абэцэдарскаму, дажыла аж да XV стагодзьдзя, і ўжо потым на яе грунце ствараюцца рускія, украінцы і беларусы. Прычым ствараюцца аднaчасна, але чамусьці рускія





становяцца старэйшым братам. Беларускія землі сталі называць заходнімі землямі Старажытнай Русі.

*— А чаму заходнімі, а не паўночнымі? Кіеў жа быў не на ўсходзе ад Беларусі, а на поўдні.*

— Усё правільна. Вось тут і тырчаць вушы сталінскіх гісторыкаў, бо сядзелі яны ня ў Кіеве, а ў Маскве. Таму тое, што на захад ад Масквы, назвалі заходнімі землямі Старажытнай Русі. Да гэтых земляў яны аднесьлі і нашае Смаленскае княства, хаця і пісалі, што Смаленск — «истинно русский город».

*— Як паўплываў міт пра адзіную старажытнарускую народнасьць на самасьвядомасьць беларусаў?*

— Надзвычай адмоўна. Калі паглядзець навуковую, і асабліва папулярную літаратуру, дык беларусам пакідалі толькі каўтун і лапці. Усё астатняе ў іх адабралі. Так, помнікі архітэктуры XI—XII стагодзьдзяў, улучна з полацкімі Сафіяй і Спаса-Эўфрасіньнеўскай царквой, сталі старажытнарускімі. А рускія помнікі — проста рускімі. Далей. Нашы замкі — гэта замкі літоўскіх фэадалаў, а касьцёлы — польскія. Такім чынам, у нас нічога, акрамя каўтуна і лапцяў, няма. Вось так прыніжалася гістарычная вартасьць нацыі.

*— І ў пэрспэктыве гэтая нацыя растваралася ў больш моцнай, рускай?*

— Так. На зьмену старажытнарускай народнасьці павінен быў прыйсьці адзіны савецкі расейскамоўны народ.

*— Калі пачаўся перагляд гэтага міту? Хто быў першым у крытыцы ці нават адмаўленьні яго?*

— Па-першае, супраць гэтага міту выступалі заўжды прадстаўнікі нашай дыяспары за мяжой, зь якімі ваяваў Абэцэдарскі. Потым ужо ў нашай краіне на першыя ролі выходзяць браты Анатоль і Валянцін Грыцкевічы. Валянцін Грыцкевіч выдаў кнігу, у якой разграміў усе гэтыя сталінскія міты. Вялікі ўнёсак у разбурэньне гэтай канцэпцыі зрабіў Мікола Ермаловіч. А як разваліўся Савецкі Саюз, дык і канцэпцыя загадала доўга жыць. Асабліва пасьля нараджэньня канцэпцыяў незалежных украінскіх гісторыкаў.

*— Адначасна зь беларусамі гэты міт разбураўся і ў іншых славянскіх народаў?*

— І ў Расеі ў тым ліку. Цяпер ужо расейская гістарыяграфія патрабуе забыць пра Кіеў як маці гарадоў рускіх. Цяпер ужо такой маці стала Ладага — горад-дзяржава, заснаваная варагамі на Балтыйскім моры ў VIII стагодзьдзі. І ўжо там сьвяткуюць вытокі Расеі.

*— Але ж, здавалася б, расейцам выгадна не адкідаць гэты міт...*

— У некаторых выданьнях ён і працягваецца, асабліва калі ідзе вайна за панаваньне ва Ўкраіне. Калі мы пачытаем публікацыі шавіністычных расейскіх гісторыкаў, дык заўважым, што яны да гэтага міту зьвяртаюцца. Што тычыцца Ўкраіны, дык там дзяржава цалкам гэты міт адрынула. Ні ў адным падручніку па гісторыі вы яго ня знойдзеце. І, дарэчы, у Беларусі таксама многія гісторыкі адрынулі гэты міт.





*— А на якім узроўні міт працягвае жыць у Беларусі? Хто і чаму падтрымлівае ягонае існаваньне?*

— Найперш падтрымліваюць гэты міт тыя, хто так нічому і не навучыўся. Гэта людзі паважнага веку, якія ўсё жыцьцё пражылі, азіраючыся на ўсход.

*— І нарэшце — ці будзе калі-небудзь пастаўленая кропка ў гэтым міце? Хто яе паставіць? Калі ўжо беларусаў ня будуць называць «тымі ж рускімі, толькі са знакам якасьці»? Для тых, хто забыўся, нагадаю, што гэта словы першага беларускага прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі, сказаныя некалькі гадоў таму, у XXI стагодзьдзі.*

— Дарэчы, мне асабіста гэтае вызначэньне вельмі падабаецца. Ствараецца новы міт пра старэйшага брата з коранем у Полацку. Гэты міт зусім някепскі для беларусаў з улікам таго, што мы сталі рускімі называцца значна раней, чым нашы суседзі на ўсходзе.

*— Дык, можа, беларусы ўвогуле першаслявяне?*

— Сёлета гэта даказала наша археоляг Валянціна Вяргей. Яна знайшла першыя славянскія паселішчы на поўдні Беларусі, якія датуюцца V—VI стагодзьдзямі нашай эры.

# Славяне

*Хлусьнёй*
*і фальсыфікацыяй*
*выглядаюць спробы*
*зрабіць і зь Беларусі*
*«славянскую*
*выратавальніцу»*



*Размова з Аляксеем Дзермантам*

***— Славяне — этнамоўная індаэўрапейская супольнасьць, да якой належаць баўгары, беларусы, лужычане, македонцы, палякі, расейцы, сэрбы, славакі, славенцы, украінцы, харваты і чэхі. Беларусаў, найперш паводле таго, што іхная мова зьяўляецца славянскай, звычайна далучаюць да славянаў. Але само паходжаньне славянскіх моваў, іхнае пашырэньне, славянская этнічнасьць на тле астатніх індаэўрапейскіх народаў ці ня самая вялікая загадка. Чаму яно выглядае загадкавым і заблытаным?***

— Адна з прычынаў — гэта тое, што славяне, як апрычоны этнас, зьявіліся на гістарычнай арэне пазьней за ўсіх сваіх суседзяў. Славянскія плямёны больш-менш надзейна атаясамліваюцца са *склавінамі* і *антамі*, вядомымі ў бізантыйскіх крыніцах толькі з VI стагодзьдзя, гэта значыць, амаль на тысячагодзьдзе пазьней за балтаў і германцаў. Калі казаць пра ранейшы час, то паўстаюць вялікія праблемы з пошукам славянаў, славянскай прарадзімы і пэўных археалягічных культураў, зь якімі іх можна было б атаясаміць.

*— Але ж не маглі славяне проста зваліцца зь неба, пэўна ж быў абшар, дзе мусілі сфармавацца славянскія мовы. І навукоўцы дасьледавалі гэта. Што цьвердзяць лінгвісты пра паходжаньне славянскіх моваў?*

— Сапраўды, такі абшар павінен быў існаваць, і лінгвісты даўно спрабуюць яго вызначыць з дапамогай уласнай мэтадалёгіі. І тут варта нагадаць адзін агульнапрызнаны факт — тое, што славянскія мовы паводле сваёй структуры ёсьць найбліжэйшымі да моваў балцкіх. Пры гэтым балцкія мовы ў параўнаньні са славянскімі вылучаюцца большай архаічнасьцю, а, прыкладам, словы сучаснай літоўскай мовы могуць замяняць рэканструяваную праславянскую лексыку. Таксама было заўважана, што менавіта заходнябалцкая лексыка (пруская, ятвяская) найбольш падобная да славянскай. Зважаючы на гэта, шэраг аўтарытэтных лінгвістаў сфармулявалі досыць пераканальную тэорыю, што праславянская мова разьвілася з пэрыфэрыйных заходнябалцкіх дыялектаў, і адбыцца гэта магло на поўначы і паўночным захадзе ад Карпатаў, там, дзе адначасна сустракаецца і балцкая, і архаічная, ужо ўласнаславянская, гідранімія.

*— А чаму праславянская мова адасобілася ад балцкіх дыялектаў?*

— Як мяркуецца, гэта было зьвязана з моцным уплывам іншых этнасаў. Бадай, найбольш выразны сьлед у славянскіх мовах пакінулі старажытныя іранцы, якія калісьці насялялі вялікія абшары ў Паўночным Прычарнамор'і. Гэты ўплыў, відаць, быў нагэтулькі істотны, што адбіўся нават у сакральнай сфэры. Прыкладам, індаэўрапейскае (і балцкае) слова *dievas* замяняецца іранскім *бог*, а ў кіеўскім пантэоне князя Ўладзімера агулам пераважаюць багі іранскага паходжаньня: Хорс, Семаргл, Стрыбог, Дажбог. Магчыма, іранскую этымалёгію маюць этнонімы *анты, харваты, сэрбы.*





*— А зараз — да археалёгіі. Менавіта археалягічныя знаходкі даюць доказы, да якой культуры належыць той ці іншы этнас. Хіба не археолягі давялі, што славянскія культуры маюць беспасярэдняе дачыненьне да Беларусі?*

— Так. Напрыклад, праская археалягічная культура лічыцца дакладна славянскай, і яе помнікі сустракаюцца на самым поўдні Беларусі. Нядаўна нават прайшла інфармацыя, што на Петрыкаўшчыне выяўленыя найранейшыя сьляды прысутнасьці славянаў, якія датуюцца IV стагодзьдзем. Але ж насамрэч гэтыя знаходкі, па-першае, адзінкавыя, па-другое, трэба заўсёды памятаць, што матэрыяльная культура ня можа адказаць нам цалкам на пытаньні, якою моваю размаўляла насельніцтва, што пакінула пасьля сябе, якая ідэнтычнасьць і самасьвядомасьць у іх была. Тое самае тычыцца і яшчэ адной археалягічнай культуры — кіеўскай, якую намагаюцца зрабіць першай праславянскай, пры тым, што многія аўтарытэтныя навукоўцы цьвердзяць пра яе балцкую атрыбуцыю. Часам складваецца ўражаньне, што некаторыя дасьледнікі кіруюцца дзіўнай установай: калі патрэбна як найраней адшукаць сьляды славянаў ці нейкіх міграцыяў з поўдня, тады факты пра ўплыў з поўначы або тая ж разнастайная балцкая фактура на паўднёвых помніках нібы і ня ўлічваецца. Такім чынам, толькі з дапамогай археалёгіі праблемы паходжаньня славянаў не разьвязаць.

*— Як жа тады славяне або славянскія мовы здолелі пашырыцца?*

— Славяне, якія былі ўцягнутыя ў вялікае перасяленьне народаў, узаемадзейнічалі з рознымі этнасамі,

але пакідалі ім сваю мову. Да вельмі цікавых высноваў адносна пашырэньня славянскай ідэнтычнасьці прыйшоў дасьледнік Фларын Курта ў, можна сказаць, рэвалюцыйнай працы «The making of the slavs». У дачыненьні да праскай культуры ён прапануе адмовіцца ад міграцыйнай мадэлі, мяркуючы, што культуры не мігруюць: мігруюць адно невялікія, мэтанакіраваныя падгрупы. У якасьці сродку «канструяваньня» этнічнай своесаблівасьці Курта разглядае пэўны набор упрыгожаньняў, зьвяртаючы ўвагу на тое, што жанчыны, якія гэтыя ўпрыгожаньні насілі, аказваліся «праваднікамі» ідэі сацыяльнай самабытнасьці. Пры гэтым сам рэчавы набор ня быў спэцыфічна славянскі, але выкарыстаньне такіх артэфактаў магло быць спосабам уваходжаньня ў групу насельніцтва, вядомую бізантыйскім аўтарам як славяне. Таксама сваю ролю ў пашырэньні славянскай мовы адыграла і рэлігія, бо ўжо ад Кірылы і Мяфода славянская культура ішла поруч з царквою і пісьменнасьцю.

— *Вы ставіце пад сумнеў вялікую масавую міграцыю славянаў, у тым ліку і ў Беларусь, аднак славянскія мовы маюць найбольшую колькасьць носьбітаў у Эўропе, і яны аб'ядноўваюць вялікі абшар, дзе людзі часам могуць проста разумець адзін аднаго, нягледзячы на адрозьненьні. Ці можна на гэта забывацца?*

— Вядома, забывацца ні ў якім разе нельга, дый гэта проста немагчыма. Сапраўды, у тым ліку беларуская мова ўлучае нас у вялікі і цікавы сьвет славяншчыны, таму было б недарэчнасьцю адпрэчваць гэты скарб, але тут важна зразумець іншае — у чым палягае этнакультурная адметнасьць кожнага са славянскамоўных народаў. І тут аказваецца, што вынікае яна не ў апошнюю чаргу з даславянскага субстрату: балты ў Беларусі, іранцы ва Ўкраіне, фракійцы ў Баўгарыі, ілірыйцы ў Сэрбіі і Харватыі, кельты ў Чэхіі і г. д. Дарэчы, яшчэ ў 1950 годзе выбітны беларусазнаўца Вітаўт Тумаш зазначаў: «Калі філёлягі кажуць, што беларусы, украінцы і расейцы славяне, дык гэтым разумеецца, што яны належаць да славянскай моўнай сям'і, і гэта стопрацэнтная праўда. Але калі падыходзіць з антрапалягічнага боку, дык такое паняцьце будзе ўжо далёка не дакладнае. Антраполягі цьвердзяць, што нейкай аднalітнай славянскай (як і раманскай ці германскай) антрапалягічнай сям'і сёньня не існуе, як не існуе сёньня і нейкага тыпу славяніна. Што яны пра гэта думаюць, можна сабе ўсьвядоміць, калі паставім тыповага сэрба ці баўгара побач зь беларусам. Па мове беларус блізкі, як ведама, сэрбам ды баўгарам, і нават, хоць не бязь цяжкасьці, можа зь імі і згаварыцца. Але антрапалягічна, усім сваім выглядам ды сваім тэмпэрамэнтам, ён будзе бадай бліжэйшы нават да скандынаўскага швэда ці нарвэга (ня кажучы ўжо пра балцкіх літоўцаў), як да балканскіх славянаў».

— *Хіба этнічнасьць можна зьвесьці толькі да моўнай тыпалёгіі або актуальнага самаўсьведамленьня, якое таксама можа зьмяняцца пад узьдзеяньнем вонкавых чыньнікаў?*

— Безумоўна, не. Этнічнасьць апрача гэтага ўлучае традыцыйную духоўную культуру, калі заўгодна, міт пра супольнае паходжаньне, уласную зямлю-Айчыну, зь якой яднае шматпакаленевая повязь, тутэйшыя формы матэрыяльнай культуры, пэўны стэрэатыпны набор вонкавых антрапалягічных характарыстык. Усё

гэта ў комплексе і павінна вызначаць пэўныя межы этнічнага космасу. Прызнаўшы гэта, можна проста спакойна ставіцца да таго, што беларусы належаць ня толькі да славянскага сьвету, але і да балцка-скандынаўскага.

*— Зрэшты, гэта ўжо нават у энцыкляпэдыях запісана. Працытую толькі адзін сказ з артыкула «Славяне» ў энцыкляпэдычным даведніку «Беларусь», выдадзеным у 1995 годзе. Аўтарытэтныя вучоныя Іоў і Штыхаў пішуць: «Ва ўмовах інтэграцыі рознаплямённага славянскага насельніцтва, славянізаваных балцкіх і фіна-вугорскіх плямёнаў пачаўся працэс складваньня трох усходнеславянскіх народнасьцяў — беларусаў, рускіх і ўкраінцаў». Дык хто выступае праціўнікам гэтай тэзы? Каму так патрэбны міт, што беларусы чыстыя славяне? Хто на ім настойвае, нягледзячы на відавочнае, даказанае навукай?*

— Мабыць, гэта патрэбна найперш тым, каму замінаюць розныя там субстраты. Сапраўдным навукоўцам яны замінаць не павінны, значыць, замінаюць тым, чыім ідэалягічным і палітычным мітам гэта пярэчыць. Нядаўна ў кнізе колішняга дэпутата дзяржаўнай Думы Расеі, нібыта прысьвечанай этналягічным праблемам, я прачытаў, што балцкага субстрату ў беларусаў быць не магло, балтаў было мала, а славяне яшчэ і ўчынілі іхны генацыд. Ня трэба чарговы раз казаць, што дадзеныя розных навук ніяк гэтага не пацьвярджаюць.

*— Міт пра беларусаў як пра выключна славянскую супольнасьць ёсьць прадуктам панславянскай ідэі?*





— Панславізм — гэта ідэалёгія, якая абвяшчае патрэбу палітычнага аб'яднаньня ўсіх славянаў. Пачаткова панславянская ідэя нарадзілася ў Чэхіі як рэакцыя на германізацыю, затым яе падхапілі тыя народы, якія ўважалі сябе за найбольш моцных і значных у славянскім сьвеце — расейцы і палякі. Далей панславізм злучыўся з мэсіянскай ідэяй, ідэяй нейкай адмысловай духоўнасьці, якую маюць праваслаўныя славяне (найперш расейцы), а ўсе астатнія ня маюць. Адсюль апраўдвалася імпэрыялістычная палітыка Расеі ў дачыненьні да іншых славянскіх народаў.

*— Што дрэннага панславізм нясе беларускаму этнасу?*

— Панславізм для беларусаў нясе занядбаньне і ігнараваньне цэлага культурнага напластаваньня, якое мае неславянскае, балцкае паходжаньне. Гэта, у сваю чаргу, вядзе да страты, вынішчэньня нашай адметнасьці і нацыянальнай ідэнтычнасьці. Па-першае, ніякая ідэя ня будзе трывалай, калі яна грунтуецца на хлусьні і скажэньні мінуўшчыны, а па-другое, як можна заўважыць, панславянскі міт не прынёс нашаму народу вялікай карысьці — наадварот, быў інструмэнтам у чужых руках, якім рабілася вялікая шкода. У пэўных славянскіх народаў нарадзілася мэсіянская ідэя — зьбіраньне ўсіх славянаў, выпраўленьне славянаў сапсаваных і г. д. І такі кшталт місіі, ня важна, колькі яму гадоў — тры тысячы або трыста, — будзе спрыяць толькі вынішчэньню культураў тых самых народаў. Таму, дарэчы, гэткай жа хлусьнёй і фальсыфікацыяй выглядаюць спробы зрабіць і зь Беларусі «славянскую выратавальніцу». Тыя, хто гэтак сьцьвярджае, проста

ня ведаюць або ня хочуць ведаць праўдзівага аблічча сваёй зямлі.

*— Славянскі міт на нашай памяці стаў вельмі выразным інструмэнтам палітыкі. За часам найноўшай гісторыі мы шмат наслухаліся пра славянскае адзінства і ад беларускага кіраўніка Лукашэнкі, і ад ягоных калегаў у белакаменнай Маскве. Чаму найперш да гэтага міту яны апэлявалі, калі вырашылі будаваць нейкую саюзную дзяржаву — утварэньне, аналягаў якому чалавецтва ня ведала? І чаму толькі тры нацыі — беларусаў, расейцаў і ўкраінцаў — называлі славянамі, а найбліжэйшыя беларусам палякі нібыта і не славяне?*

— Напэўна, таму, што для палітыкаў існуюць славяне «правільныя» і «няправільныя», маўляў, першыя — праваслаўныя, другія — каталікі. Або тыя, хто пайшоў на Захад, ужо нібыта і не славяне, а процістаяць ім павінны славяне, аб'яднаныя вакол Масквы. Рыторыка ўсходнеславянскага адзінства, вядомая яшчэ з «Аповесьці мінулых часоў», здаецца, ад той пары была проста прыгожаю шыльдаю для палітычных гульняў. Дарэчы, у палітычных гульнях на падставе панславізму беларусы амаль заўжды цярпелі паразу.

*— Але ці могуць быць важкімі этнічныя, расавыя, этнамоўныя аргумэнты ў сучасным глябалізаваным сьвеце, калі гаворка вядзецца пра палітыку, эканоміку? І ў працяг пытаньня — ці ёсьць увогуле патэнцыял, каштоўнасьць у славянскім міце, ва ўсьведамленьні сябе славянінам альбо кім-небудзь іншым?*





— Патэнцыял у этнічнасьці заўсёды быў і будзе. І нават у сёньняшнім постмадэрнісцкім сьвеце, дзе гэтая тэма становіцца ня надта зручнай, этнічнасьць ня зьнікне і яшчэ пакажа сябе. А для таго, каб гэта не адбылося стыхійна, ці адбылося безь вялікіх наступстваў, трэба памятаць пра свае карані і шанаваць уласную традыцыю. Адсюль і вынікае, што нам ня трэба займацца стварэньнем штучных панславісцкіх ідэалёгіяў, рухаў і хаўрусаў, але варта проста кожнаму з нас актыўна шанаваць уласную мову, якая дагэтуль застаецца малавывучанай загадкай як у славянскім, гэтак і ў балцкім ды індаэўрапейскім кантэкстах. І таксама не забывацца на тое, што нашы дзяды жылі тут задоўга да прыйсьця славянаў.

# Тутэйшыя

Тутэй

*Тутэйшасьць заўсёды нагадвае беларусам, што яны яшчэ не зрабілі выбару на карысьць саміх сябе*



*Размова з Алесем Анціпенкам*

***— Тутэйшы — саманазоў беларуса цягам XIX — пачатку XX стагодзьдзя, зародкавы стан будучай беларускасьці. З чаго паўстаў гэты саманазоў?***

— Гэта стан «паміж». Гэта стан адсутнасьці нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Таму міт тутэйшасьці нараджаецца ў час, калі Беларусь страчвае сваю суб'ектнасьць і паступова робіцца часткай Расейскай імпэрыі. Беларус, альбо тутэйшы чалавек, знаходзіць сябе ў абсалютна чужой, новай культуры. Тутэйшы і ёсьць самавызначэньнем *vis-à-vis* новай сытуацыі. Праз тое ён і адрозьнівае сябе ад расейцаў, палякаў дый ад усіх астатніх.

*— Кім быў сёньняшні беларус да таго, як назваў сябе тутэйшым?*

— Да гэтага існаваў палітонім «ліцьвіны». У Вялікім Княстве Літоўскім цяперашнія беларусы называлі сябе ліцьвінамі. Распад ВКЛ (спачатку ўсталяваньне канфэдэрацыі, а далей і страта аўтаноміі, якую мела ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай) прывёў да разбурэньня і палітоніму «ліцьвіны». Частка беларускай эліты эмігравала ў польскую культуру, частка — у расейскую. А тыя простыя людзі, якія засталіся на зямлі, людзі ў сялянскім стане, і пачалі называць сябе тутэйшымі.

*— А калі саманазоў «тутэйшыя» набывае міталягічнае значэньне?*

— Гэта зьвязана са зьяўленьнем нацыянальнага праекту, у выніку чаго тутэйшы раптам сутыкаецца зь нечаканым выбарам. Яму зноў трэба адказаць на пытаньне: хто ён такі? Добрай ілюстрацыяй, як гэта адбывалася, ёсьць п'еса Янкі Купалы «Тутэйшыя». З аднаго боку — Мікіта Зносак — тыповы тутэйшы чалавек, а з другога — Янка Здольнік, які ўжо ідэнтыфікуе сябе як беларус, і ёсьць, так бы мовіць, «рэчавым доказам» новай ідэнтычнасьці. Але пераўсьведамленьне самога сябе — працэс зусім няпросты, што і дэманструе нам Зносак сваімі паводзінамі.

*— Янка Купала міт пра тутэйшых палітызаваў. А як бы вы, філёзаф Алесь Анціпенка, скрозь гістарычную пэрспэктыву вызначылі зьмест гэтага міту пра тутэйшых? Хто ён, тутэйшы?*

— Тутэйшы — будучы беларус. Але самае важнае ў гэтым міце тое, што праз тутэйшасьць беларус набывае мажлівасьць выжыць. Зноў жа згадайма Купалаву п'есу. Прыходзіць чарговы заваёўнік, калянізатар і пытаецца ў мясцовага чалавека: а ты хто? І беларус адразу ж адказвае: я — тутэйшы. Тым самым ён кажа: я — частка гэтага ляндшафту, я — накшталт прыроднай зьявы, проста расту тут, як трава, альбо ляжу тут, як камень. І што вы ад мяне хочаце? Я ня маю аніякай ідэнтычнасьці. Мяне няма. Самавызначэньне тутэйшасьці — свайго роду адказ чарговаму заваёўніку, што мяне няма. Гэта — з аднаго боку. А з другога — спосаб самазахаваньня. Для беларуса быць тутэйшым у XIX стагодзьдзі азначала захаваць самога сябе і ў фізычным сэнсе, і ў сэнсе працягу этнічнага жыцьця.





*— Вы хочаце сказаць, што беларусы захавалі сябе дзякуючы нацыянальнай нявызначанасьці?*

— Так. І, між іншым, гэтую лінію можна прасачыць аж да сёньняшняга дня. Напрыклад, калі Валянцін Акудовіч піша, што для беларусаў беларуская мова ёсьць знакам бяды, гэта якраз і азначае, што любая вызначанасьць у беларускай гісторыі заўсёды заканчвалася вельмі драматычна, а то й трагічна. У тым ліку я маю на ўвазе і гэтак званую справу нацдэмаў, калі носьбіты беларускай нацыянальнай ідэі ў 1930-я гады былі практычна ўсе зьнішчаныя. Мы ведаем і пра тое, што некалькі гадоў таму размаўляць на беларускай мове на менскіх вуліцах было небясьпечна. Вас магла затрымаць міліцыя, запытацца пра вашы дакумэнты дый пачаць вызначаць, хто вы такі. Так што быць вызначаным на нашай тэрыторыі, беларускай зямлі ў XIX і нават у XX стагодзьдзі было не заўсёды бясьпечна.

*— Чаму?*

— Таму што гэта азначае, што нехта іншы прэтэндуе на гэтую зямлю, ня маючы на тое гістарычнага права. Бо ў гэтай зямлі ёсьць гаспадар, аўтахтонны жыхар, гэта значыць чалавек, які тут нарадзіўся. Усе астатнія папросту прыйдышы. Гэта — альбо захопнікі, альбо дзеці і ўнукі захопнікаў. Альбо ўлада, якая ня ёсьць уладай гэтага народу. Зьнішчыць ідэнтычнасьць аўтахтона і азначае для захопніка стацца гаспадаром зямлі, краю, сытуацыі.

*— Чаму беларусы аж да канца XIX стагодзьдзя ня мелі нацыянальнага вызначэньня? Чаму цэлае стагодзьдзе яны амаль усе называлі сябе тутэйшымі?*

— Можна патлумачыць гэта тым, што ўсё ж беларускі нацыянальны праект — праект пазьнейшы, параўнальна з польскім нацыянальным і імпэрскім расейскім праектам. Фактычна толькі пры канцы XIX стагодзьдзя адбыўся беларускі нацыянальны праект, а бацькам беларускага нацыяналізму стаўся Францішак Багушэвіч. Ён, між іншым, таксама казаў пра тутэйшасьць, але ўжо ў іншай якасьці. Прыкладам, калі ён казаў, што наша зямля там, дзе гучыць беларуская мова, то ён да гэтай тутэйшасьці (зямля, месца) яшчэ дадаваў такі важны чыньнік, як мова. Гэткім чынам, тутэйшасьць і мова — першыя падваліны беларускага нацыяналізму, альбо нацыянальнага беларускага праекту.

*— Значыць, на тутэйшасьці зьявіўся беларускі нацыянальны праект?*

— Гэта так. Тутэйшасьць як адна з падвалінаў. На той час ужо не існавала высокай беларускай культуры. Высокая культура была культурай альбо расейскай, альбо польскай. Гэта значыць, высокая культура была культурай каланізацыйнай. Менавіта брак гэтай высокай культуры акурат і быў адной з прычынаў, чаму тутэйшасьць і беларуская мова сталіся асноўнымі чыньнікамі беларускага самавызначэньня пры канцы XIX стагодзьдзя.

*— Мы можам сказаць, што канец XIX — пачатак XX стагодзьдзя — гэта час, калі чалавек на этнічнай беларускай прасторы пачаў губляць тутэйшасьць. Што канкрэтна разам з тутэйшасьцю гублялі беларусы і што знаходзілі?*

— Вядома, нацыянальны праект — гэта праект мадэрнізацыйны. Безумоўна, фармаваньне беларусаў як нацыі адкрывала новыя пэрспэктывы. Зусім жа не выпадкова наш паэт пісаў пра неабходнасьць беларусам заняць свой пачэсны пасад між народамі, бо нацыянальны праект — гэта праект набыцьця палітычнай суб'ектнасьці. Гэта — праект, калі ты робісься актарам на эўрапейскай і сусьветнай палітычнай сцэне. І калі Купала піша пра пачэсны пасад, дык ён піша пра тое, што беларусы могуць стаць адной з тых нацыяў, што ўтвараюць Эўропу.

*— Дык чаму беларусы не хацелі займаць гэты пачэсны пасад сярод народаў?*

— Менавіта з пачуцьця небясьпекі. Таму што якраз быць вызначаным, гэта — прыняць выклікі. Гэта — быць свабодным. На чым палягае праект фармаваньня сучасных нацыяў? На тым, што нацыя дэкляруе сваё права быць роўнай і свабоднай. А любая свабода і любая вызначанасьць — гэта гатовасьць прыняць выклікі. Гэта — адказнасьць. І гэта не заўсёды адбываецца бяз стратаў. За нацыянальную свабоду звычайна даводзіцца плаціць вялікімі ахвярамі.

*— Беларусы — безадказная нацыя?*

— Не. Беларусы папросту маюць дастаткова траўматычны гістарычны досьвед каланізацыі, досьвед акупацыі. І гэты досьвед, які паставіў беларусаў у сытуацыю «паміж», сытуацыю мінімалісцкую, сытуацыю выжываньня, якраз і засьцерагае іх ад якіх-небудзь радыкальных дзеяньняў ці рухаў. Мы ведаем, што тутэйшы беларус — гэта чалавек не радыкальны. Гэта чалавек, які хутчэй схільны да цывілізацыйна-эвалюцыйнага шляху разьвіцьця, але зусім не да нейкіх

рэвалюцыйных забурэньняў. Гэта — досьвед нашай мінуўшчыны. Гэта досьвед нашай тутэйшасьці, які часам прамаўляе нават сёньня.

*— Якія яшчэ існуюць міталягемы, блізкія паводле сэнсу тутэйшасьці беларусаў?*

— Перадусім гэта — партызан. Партызан — чалавек, які маскуецца, які таксама хоча стварыць уражаньне, што яго няма. У гэтым «няма» і ёсьць перавага партызана, як і тутэйшага, бо гэтае «няма» дае яму магчымасьць зьнянацку ўдарыць па ворагу, тады, калі той не чакае. Яшчэ адна літаратурная мэтафара — «босыя на вогнішчы». Яна ўвасабляе тую сацыяльную бяду, у якую трапляе тутэйшы, калі ён застаецца ні з чым. Ён ня мае ні сваёй дзяржавы, ні сваёй краіны. У яго ўсё забралі захопнікі.

*— А «людзі на балоце»?*

— Гэта таксама міталягема, і яна блізкая да міталягемы «тутэйшыя». Тутэйшы, як дрэва, вырастае зь зямлі, каб потым стацца беларусам. Вось і «людзі на балоце» — гэта людзі, якія гатовыя жыць на роднай зямлі, нават тады, калі яны знаходзяцца ў самых неспрыяльных сацыяльных, палітычных дый прыродных умовах. Гэта і ёсьць беларус. Ён укарэнены ў зямлю. Ён — тутэйшы. І гэта ёсьць галоўнае вызначэньне тутэйшасьці — укарэненасьць.

*— Чаму назоў «тутэйшы» і адпаведна міт пра беларуса як тутэйшага жыве дагэтуль, нягледзячы на ўжытак і афіцыйна, і на побытавым узроўні нацыянальнага вызначэньня «беларус»? І самі людзі ўжо называюць сябе беларусамі...*





— Наш нацыянальны праект яшчэ ня зьдзейсьніўся. Беларусы яшчэ ў працэсе фармаваньня нацыянальнай сьвядомасьці. Калі часам кажуць, што мы яшчэ не дайшлі да Беларусі, дык за гэтым выразам стаіць толькі адно — мы нацыя, ідэнтычнасьць якой яшчэ актыўна фармуецца.

*— На падставе таго, што вы сказалі, у мяне нараджаецца думка, што міт пра тутэйшых перадусім жыве ў асяродзьдзі інтэлектуалаў. Гэта так?*

— У пэўнай ступені так. Бо толькі інтэлектуалы сёньня могуць разумець, што тутэйшы — будучы беларус, які страціў усьведамленьне сваёй этнічнай (родавай) прыналежнасьці і яшчэ не набыў нацыянальнай ідэнтычнасьці. Таму што гэта зручнае паняцьце, якое дае магчымасьць зразумець, дзе мы знаходзімся, на якой стадыі знаходзіцца фармаваньне нашай нацыянальнай сьвядомасьці. Наколькі далёка мы адышлі ад той тутэйшасьці, ці яна ўсё-такі зьяўляецца рэцыдывам, які нагадвае нам, што мы ўрэшце мусім вызначыцца як нацыя, хто мы, з кім і куды ідзем, які наш выбар — на Захад, на Ўсход? Тутэйшасьць заўсёды нагадвае беларусам, што яны яшчэ не зрабілі выбару на карысьць саміх сабе. То бок мы ўсё яшчэ хаваемся ад саміх сябе, гэта значыць, баімся свабоды і адказнасьці.

*— Як доўга будзе існаваць гэты міт? А мо і ня варта, каб ён паміраў?*

— Калі міты паміраюць, гэта не заўсёды балюча. А памрэ гэты міт тады, калі мы станем нармальнай сучаснай нацыяй у складзе аб'яднанай Эўропы.

# Талерантны народ

Талер

*Міт пра адвечную сацыяльна-палітычную талерантнасьць беларусаў ня толькі шкодны, але й ня мае пад сабой рэальных гістарычных падставаў*



*Размова з Алесем Краўцэвічам*

***— Існуе ўстойлівае перакананьне, што для мэнтальнасьці і нацыянальнага характару беларусаў і ў мінулым, і цяпер уласьцівыя этнакультурная і рэлігійная талерантнасьць, пра што сьведчаць адсутнасьць на беларускіх землях вострых, крывавых канфліктаў на этнічнай і канфэсійнай глебе, працяглае мірнае суіснаваньне нацыянальных супольнасьцяў, канфэсіяў, плённае ўзаемадзеяньне розных народных традыцыяў, звычаяў, абрадаў. Аксіёму пра адвечную беларускую талерантнасьць не аспрэчвае ніхто: ні афіцыёзная ідэалёгія, ні незалежныя навукоўцы, ні свабодныя інтэлектуалы. У якіх сфэрах у Беларусі талерантнасьць выяўляецца найбольш выразна, бясспрэчна?***

— Варта вылучаць два аспэкты гэтага міту — культурніцкі і сацыяльна-палітычны, талерантнасьць культурніцкую і талерантнасьць сацыяльна-палітычную. У сэнсе культурніцкім гэта вельмі плённы культуратворны міт з надзвычай салідным гістарычным падмуркам. У сэнсе сацыяльна-палітычным сытуацыя выглядае больш складана.

*— Як зразумець на звычайным узроўні культурніцкую, духоўную, рэлігійную талерантнасьць беларусаў?*

— Прывяду прыклад са свайго прыватнага жыцьця. На маёй роднай Мастоўшчыне ў мястэчку Пескі

ў праваслаўныя сьвяты не працуюць каталікі з павагі да суседзяў, а ў каталіцкія сьвяты — праваслаўныя. На пахаваньні суседзкай бабулі-каталічкі майго праваслаўнага бацьку папрасілі несьці крыж на чале пахавальнай працэсіі.

*— З чаго вынікае беларуская талерантнасьць? Якія яе вытокі?*

— Цярпімасьць і разуменьне беларусаў у адносінах да культуры і веравызнаньня розных людзей вынікае з спрадвечнага памежнага становішча нашай краіны. Беларусь, беларускі народ ёсьць прадуктам памежжа цывілізацыяў. Пачаткі беларускага этнасу сягаюць у глыбокую старажытнасьць, у VI—VII стагодзьдзі, да памежнага кантакту славянаў з балтамі. Славянскія каляністы пранікалі на землі, заселеныя балтамі, прыносілі свае звычаі, мову, культуру, але таксама арганічна засвойвалі мясцовую балцкую культуру, найперш матэрыяльную, якая стагодзьдзямі прыстасоўвалася да мясцовых геаграфічна-кліматычных умоваў.

*— І ўрэшце беларусы апынуліся на скрыжаваньні заходняй і ўсходняй цывілізацыяў. Ці лёгка адаптавалі яны заходнюю і ўсходнюю культуры? Як пераадольвалі супярэчнасьці? Ці былі канфлікты?*

— Сапраўды, Беларусь апынулася на памежжы бізантыйскай і заходнеэўрапейскай цывілізацыяў. Спачатку пераважалі бізантыйскія ўплывы — хрысьціянства прынялі ад Бізантыі, таксама пісьменнасьць, традыцыі мураванай архітэктуры. У прамежку паміж паловай XIII і канцом XIV стагодзьдзяў Беларусь перажыла найбольш важны культурніцкі пералом у сваёй





гісторыі, а менавіта: пераход ад арыентацыі бізантыйскай да заходнеэўрапейскай. Спачатку пачалі зьяўляцца новыя катэгорыі матэрыяльнай культуры, якія паходзілі з Заходняй Эўропы: гатычная архітэктура (напрыклад, знакамітая Белая вежа ў Камянцы), кафля, вялікіх памераў гатычная цэгла, узоры ўзбраеньня і шмат што яшчэ. Нарэшце Ягайла ў 1385—1386 гадах праз прыняцьце дзяржаўнай ідэалёгіяй каталіцызму далучыў нашу краіну да абсягу заходняй цывілізацыі. Але сытуацыя памежжа працягвалася. Мясцовыя традыцыі перапляталіся з новымі эўрапейскімі, каталіцтва суседзіла з праваслаўем, потым яшчэ дадалося пратэстанцтва. Суперніцтва існавала, але яно мела культурніцкі плён — заходняя традыцыя ў кантакце зь мясцовай стварала ўнікальны культурны сынтэз.

*— Традыцыйна беларусы ганарацца мірным суісnaваньнем людзей розных нацыянальнасьцяў. Як фармавалася міжнацыянальная цярпімасьць?*

— Ад VI стагодзьдзя на беларускай тэрыторыі славяне мірна ўзаемадзейнічалі з балтамі. Ад XIV стагодзьдзя сюды пачалі прыбываць габрэі — гэты нястомны рухавік эканомікі, з сваёй адметнай, старанна зьбераганай культурай. Вітаўт прывёў на захад Беларусі тысячы татараў, якія прынялі беларускую мову, але захавалі сваю веру — іслам. Побач з праваслаўнымі хрысьціянамі жылі іншыя хрысьціяне — каталікі, пратэстанты, уніяты. Як тут ня быць талерантным, калі хочаш жыць спакойна і мірна з суседзямі?! Суперніцтва культураў і веравызнаньняў у нас ніколі не набывала формаў вайны — рэлігійнай ці міжнацыянальнай. Менавіта разнастайнасьць культураў была адной з прычынаў дасканалай кадыфікацыі права.

Я маю на ўвазе Статут Вялікага Княства Літоўскага, які дзейнічаў чатыры стагодзьдзі. Беларусы — народ, які прывык шанаваць права, аснову добрасуседзтва.

*— На пачатку нашай размовы вы паставілі пад сумнеў сацыяльна-палітычную талерантнасьць беларусаў. Чаму? Хіба гэты міт не адпавядае гістарычным фактам? Ці рэчаіснасьці?*

— Міт пра адвечную сацыяльна-палітычную талерантнасьць беларусаў ня толькі шкодны, але й ня мае пад сабой рэальных гістарычных падставаў. Я маю на ўвазе цярпімасьць, пакорлівасьць любой уладзе, палітычную інэртнасьць. Вось канкрэтныя прыклады. Першыя добра зафіксаваныя дакумэнтальна беларускія партызаны зьявіліся ў XVII стагодзьдзі ў пару маскоўскай акупацыі Беларусі ў час вайны 1654—1667 гадоў. Маскоўскія ваяводы называлі беларускіх партызанаў «шышамі» і скардзіліся на іх цару ў Маскву. Маўляў, зьбіраюцца ў атрады, часам некалькі тысячаў чалавек, і «твоих государевых людей бьют до смерти, не допускают запасаться провиантом и кормом для лошадей». Вядомы таксама выпадак з той жа вайны, калі магілёўскія гараджане выразалі 10-тысячны маскоўскі гарнізон у сваім горадзе.

*— І ўсё ж, такіх фактаў, як мне падаецца, меней, чым фактаў цярплівасьці беларусаў да розных акупантаў, якіх яны пабачылі багата. Ці няма тут падмены паняцьцяў? Ці не называем талерантнасьцю канфармізм?*

— Канфармізм, палітычная інэртнасьць — гэта стратэгія выжываньня бальшыні ў любой нацыі. Супраціў, перамены ініцыюе эліта. У нашай краіне існуе





вялікая праблема эліты, а менавіта — найбольш адукаваная і актыўная частка грамадзтва не аб'яднаная пад сьцягам нацыянальнай ідэі. Гэта наступствы найноўшай гісторыі Беларусі ва ўмовах памежжа. Інэртнасьць бальшыні беларусаў у палітычных справах — вынік вынішчэньня беларускіх элітаў у XX стагодзьдзі, асабліва сталінскімі рэпрэсіямі і Другой усясьветнай вайной. Лепшых і самых актыўных беларусаў фізычна вынішчалі, на іхнае месца прыяжджалі расейцы, і выраслі свае дэгенэраты. Недахоп палітычнай актыўнасьці, імкненьне адседзецца, не канфліктаваць з уладай — зразумелая рэч у краіне памежжа, дзе толькі ў XX стагодзьдзі некалькі разоў зьмянялася ўлада. Найбольш актыўныя пры адной уладзе гублялі галовы, калі прыходзіла іншая. Тым ня меней у Беларусі яшчэ больш за дзясятак гадоў існаваў актыўны антысавецкі супраціў пасьля заканчэньня апошняй вайны. А чаго варты Слуцкі збройны чын?! Аказваецца, за БНР добраахвотна ваявала больш як 10 тысячаў беларусаў. А які прыгожы міт пра генэрала Булак-Балаховіча!

*— Вельмі часта можна пачуць, што талерантнасьць на мяжы ці нават у форме канфармізму ўсё ж мела плён, была мэтазгоднай. Дзякуючы гэтаму беларуская нацыя змагла выжыць у вельмі неспрыяльных гістарычных умовах. І мову захавалі, і духоўныя, і матэрыяльныя каштоўнасьці, на падставе якіх магчымае і нацыянальнае, і дзяржаўнае, і культурнае адраджэньне...*

— Катэгарычна ня згодны з гэтай тэзай. Канфармізм — вымушаны стан беларусаў, бо ў іх доўга была не свая, а чужая ўлада. Іншая рэч, што ў вельмі многіх выпадках ён быў шчыры. У нас канфармізм прымаў

і прымае форму вырачэньня ўласнай нацыянальнай тоеснасьці, культурніцкай канвэрсіі. І для беларускай культуры гэта нясе толькі разбурэньне. Прыклад вымушанага канфармізму — дзеяньні літоўскіх камуністаў, якія адбудоўвалі гістарычныя помнікі ў сваёй рэспубліцы. У той самы час беларускія камуністы шчыра і навыперадкі іх зьнішчалі.

*— А ці не з прычыны талерантнасьці беларусы многія свае культурныя здабыткі падарылі іншым народам? Чаму беларусы гублялі сваю ідэнтычнасьць, чаму многія іміґравалі ў іншыя культуры? Чаму нават ад мовы — цэнтральнага паняцьця культуры — адмаўляліся? Ці не адбывалася гэта з прычыны ўсё той жа міталягічнай талерантнасьці?*

— Сытуацыя памежжа мае ня толькі станоўчыя, але і адмоўныя праявы. Масавая культурніцкая канвэрсія беларусаў — адмоўная праява сытуацыі памежжа. Мы былі заслонай Захаду ад Усходу. Пакуль мы супрацiўляліся расейцам, з другога боку на нас насоўвалася польская культурніцкая экспансія.

*— Можа, міт пра талерантнасьць, які ўжо ўвайшоў у падсьвядомасьць нацыі, разбурае іншае, ня меней важнае пачуцьцё — пачуцьцё нацыянальнай годнасьці?*

— На маю думку, якраз талерантнасьць можа быць падставай для беларускай нацыянальнай годнасьці. У дыскусіях з замежнікамі я часта прыводжу аргумэнт — беларусы ніколі не дапускалі габрэйскіх ці якіх іншых пагромаў. А яшчэ можна згадаць сьвятую інквізыцыю, якая ў Беларусі проста не магла актыўна





дзейнічаць — ня тыя былі грамадзкія настроі. А расейцам можна прыпомніць, як яны палілі сваіх герэтыкоў, ці як доўгі час не дапускалі друкаваную кнігу ў краіну: зьнішчалі друкарні, а кнігі палілі.

*— Што зь міту пра талерантнасьць беларусаў патрэбна ў найноўшай гісторыі нацыі, якая мае ісьці сваім самастойным шляхам у супольнасьці зь іншымі народамі, захаваць, а ад чаго адмовіцца ці нават разбурыць?*

— Міт пра культурніцкую талерантнасьць беларусаў — цалкам адэкватны, стваральны, ён прадстаўляе нашу непаўторнасьць у багатай мазаіцы культураў розных народаў сьвету. У ім наша адметнасьць і гонар перад усім сьветам. У сучасным сьвеце, асабліва ў Эўропе, талерантнасьць узьведзена ў ранг найвышэйшай ідэалягічнай каштоўнасьці. Але ў большасьці эўрапейскіх краінаў практыка талерантнасьці мае адносна кароткую гісторыю. А беларусы, наадварот, могуць пахваліцца даўняй гістарычнай традыцыяй талерантнасьці і пры выпадку дапячы эўрапейца: «Вось у нас у XVI стагодзьдзі езуіты зацята змагаліся з Сымонам Будным, малюючы на яго карыкатуры (менавіта карыкатурны партрэт Буднага — адзіная захаваная ягоная выява), а вось у вас яго б спалілі на вогнішчы». Міт пра палітычную талерантнасьць беларусаў фармуюць нашы ворагі. Маўляў, адмовіліся ад усяго свайго — мовы, культуры, нацыянальнай тоеснасьці. Гэты міт, па-першае, неадэкватны; па-другое, варожы, прыніжальны, шкодны для нашай тоеснасьці, скіраваны на тое, каб прадставіць беларусаў, паводле выказваньня сьветлай памяці Міхася Ткачова, «гноем, на якім прарастаюць культуры іншых народаў».

# Правінцыя

*Правінцыя — гэта сплямжаная культурная традыцыя і гісторыя, гэта закінутая зямля*



*Размова з Алесем Анціпенкам*

***— Правінцыя — размоўная назва пэрыфэрыйных раёнаў у краінах, арыентаваных вакол адзінага цэнтру. Гэта — мясцовасьць, аддаленая ад сталіцы. Ці існуе сталы вобраз беларускай правінцыі? Ці мае рацыю знакаміты беларускі бард Віктар Шалкевіч, калі падае яе вобраз як «хатка-бярозка»?***

— Безумоўна, мае. Бо той, хто захапіў гэтую зямлю, хоча, каб яна выглядала нечым неістотным, нягеглым, чымсьці, што вартае жалю. І ў гэтым «хатка-бярозка» якраз і ёсьць пачуцьцё самоты, закінутасьці, як сказалі б экзыстэнцыялісты. Правінцыя — гэта калі ёсьць толькі адзін ляндшафт. Ёсьць толькі «хатка-бярозка». Правінцыя — гэта адсутнасьць культурніцкага цэнтру, гэта сама тэрыторыя адсутнасьці, на якой нічога не адбываецца дый нячутны хоць-які галас. Правінцыя — гэта сплямжаная культурная традыцыя і гісторыя, гэта закінутая зямля. І ўсё ж у XIX стагодзьдзі існаваў іншы вобраз зямлі. Ён быў у памяці той дробнай беларускай шляхты, якая захавала вернасьць традыцыі. Вось гэты вобраз, захаваны ў кароткім выслоўі: «Зямля наша ня польска, ня руска, але забраны край». За гэтымі словамі — памяць і ўсьведамленьне свабоды, некалі страчанай, забранай у нас.

*— Два вызначэньні правінцыі — закінуты край і забраны край. Калі, зь якой рэальнай падставы пачынае жыць міт пра Беларусь як правінцыю?*

— Гэта пачынаецца з трох падзелаў Рэчы Паспалі-

тай, калі паступова Беларусь рабілася часткай Расейскай імпэрыі. Дарэчы тут сказаць, наколькі тагачасныя нашыя землі былі адрозныя ад расейскіх! Уявіце сабе сытуацыю, калі частка краіны, перадусім сёньняшняя Магілёўская вобласьць і часткі Гомельскай і Віцебскай абласьцей, далучаюцца да Расеі. Менавіта на гэтых тэрыторыях тады існавала беларускае праваслаўе. І вось прыяжджае маскоўскі патрыярх і ўражваецца тым, што цэрквы, паводле сваёй архітэктуры, — зусім не падобныя на расейскія. Адразу ж аддаецца загад перарабіць іх на маскоўскі капыл. Гэта і было пачаткам правінцыялізацыі, пачаткам адмаўленьня тоеснасьці той зямлі і культуры, культуры нашых продкаў.

*— А ўвогуле як адбываецца працэс каляньізацыі, які выклікае комплекс правінцыйнасьці?*

— Комплекс правінцыйнасьці — гэта комплекс непаўнавартаснасьці. І гэта ёсьць адной з задачаў каляньізатара — прышчапіць і выпрацаваць комплекс непаўнавартаснасьці ў людзей на забранай зямлі, каб потым было лягчэй кіраваць імі і кантраляваць сытуацыю. Ёсьць некалькі мэханізмаў, праз якія адбываецца выпрацоўка гэтага комплексу. Найперш каляньізатар ставіць задачу зламаць супраціў народу, на зямлі якога ён прыйшоў. Як вядома, супраціў беларусаў расейскай акупацыі і каляньізацыі быў даволі моцны. Згадайма паўстаньні 1830-х і 1860-х гадоў. Другі мэханізм, які ўжывае каляньізатар, — ён усталёўвае сваю сыстэму адміністрацыі. Калі тут зьявіліся расейскія каляніяльныя ўлады, дык быў ліквідаваны Статут Вялікага Княства Літоўскага, а ўзамен увялі расейскія законы. Таксама было скасаванае магдэбурскае права. Трэці мэханізм — гэта вынішчэньне культурнай спадчыны.





Найперш аб'ектамі разбурэньня былі ўніяцкія храмы і ўніяцкія абразы. Сярод расейскай адміністрацыі нават хадзіла такая показка — паехалі расьпільваць ногі Ісусу Хрысту. Сотні тысячаў кніг, іншых культурных каштоўнасьцяў былі вывезеныя ў Пецярбург і Маскву. Усе гэтыя акцыі скіроўваліся на зьнішчэньне гістарычнай памяці, матэрыяльных знакаў культурнай памяці таго народу, які стаўся аб'ектам каляньізацыйнага гвалту. Наступны мэханізм — разбурэньне мясцовай сыстэмы адукацыі. Былі закрытыя Полацкі езуіцкі калегіюм і Віленскі ўнівэрсытэт. І нарэшце — замена мовы камунікацыі, усталяваньне мовы імпэрскага цэнтру. Як вынік, беларуская мова набыла ніжэйшы статус, яна стала разглядацца як мова неадукаваных слаёў насельніцтва, як мова, на якой немагчыма займацца аніякай інтэлектуальнай дзейнасьцю. У выніку беларуская мова ператвараецца ў мову маўчаньня, мову падпарадкаванага.

*— Кожная правінцыя існуе адносна нейкага цэнтру. Калі я вас правільна разумею, вы гаворыце пра Беларусь у цэлым як правінцыю адносна цэнтру — Расейскай імпэрыі. Беларусь уся ёсьць правінцыяй?*

— Безумоўна. Менавіта ў гэтым сэнсе я й казаў пра Беларусь як правінцыю, як тэрыторыю захопленую, як гэтак званыя «окраины» Расеі. Такой жа правінцыяй была і Ўкраіна, і сёньняшнія незалежныя балтыйскія краіны. Так, безумоўна, ёсьць імпэрскі цэнтар. Гэта Масква. Ёсьць высокая культура, якая навязваецца гэтым цэнтрам. Але задача заўсёды адна: зрабіць залежнымі, пазбавіць хоць якой культурніцкай ці палітычнай самастойнасьці захопленыя тэрыторыі.

*— Але калі гаварыць пра Беларусь як цэласную этнічную тэрыторыю, пра Беларусь як дзяржаву, то напэўна, існуе правінцыя, якая арыентуецца на цэнтар, якім зьяўляецца сталіца. Ці можна казаць пра правінцыю ўнутры Беларусі адносна цэнтру — сталіцы гэтай зямлі?*

— Увогуле можна. Гэта такі францускі варыянт, калі правінцыяй лічыцца ўсё, што знаходзіцца па-за межамі Парыжу. Але ў такім выпадку правінцыя — гэта ня болей як адміністрацыйная адзінка. Калі ж я кажу пра правінцыю ў гістарычным сэнсе, дык гэта заўсёды падпарадкаваная зямля. А так я ня бачу, каб беларусы, якія, прыкладам, жывуць у Берасьці, пакутавалі на комплекс непаўнавартаснасьці з таго, што яны не жывуць у Менску. Згадаем савецкі час, калі чамусьці бальшыня беларусаў думала, што ўсё найлепшае ёсьць у Маскве, што там нібыта сабраныя самыя моцныя інтэлектуальныя сілы. Мы памятаем, што даволі часта бывала так, што літаратурныя творы спачатку атрымлівалі рэнамэ ў Маскве і толькі потым вярталіся ў Беларусь.

*— З гэтым комплексам камфортна жывецца?*

— Да пэўнай ступені. Калі чалавек не адчувае патрэбы ў свабодзе, тады ён лічыць, што лепш быць падпарадкаваным. І мы памятаем, як вось гэты комплекс правінцыйнасьці вылез на пачатку 1990-х гадоў, калі заклікі да незалежнасьці Беларусі сутыкнуліся з такой вельмі простай формулай: «Как же мы без России? У нас же нет ресурсов». Гэта і ёсьць праявай таго самага правінцыйнага комплексу, калі народ, нацыя не разьлічвае на ўласныя сілы.





*— А якія рэсурсы мае Беларусь, каб яе народ пазбавіўся гэтага комплексу?*

— Гэта перадусім — наша незалежнасьць. Гэта наша палітычная свабода і наша палітычная суб'ектнасьць, якую цяпер Беларусь мае. Другая падстава — безумоўна, прага свабоды. Свабода — тая каштоўнасьць, якая вядзе чалавека да веры ў сябе, у тую краіну, дзе ён жыве, у тыя пэрспэктывы, якія ён і ягоныя суайчыньнікі могуць мець, зьяўляючыся свабодным народам. Гэта тое, што разбурае комплекс правінцыйнасьці.

*— А чым падтрымліваецца гэты комплекс правінцыйнасьці, які па-ранейшаму ўласьцівы пэўнай часткы грамадзтва?*

— Адсутнасьцю незалежнай інфармацыйнай прасторы. Гэты комплекс падтрымліваецца і непераадоленай культурніцкай залежнасьцю ад былой мэтраполіі, ад Масквы. Ён часткова падтрымліваецца і палітычнай залежнасьцю беларускага рэжыму ад Масквы. Безумоўна, і адсутнасьцю моцнай псыхалягічнай мяжы з Расеяй. І нарэшце, тым, што працэсы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў яшчэ не завершаныя.

*— Дык як доўга яшчэ можа існаваць гэты комплекс правінцыйнасьці? Як доўга будзе існаваць міт пра Беларусь як правінцыю? Хто стане магільшчыкам гэтага міту?*

— Будзе настолькі доўга, наколькі беларусы будуць пачувацца залежнымі ад Расеі. І так доўга, наколькі яны будуць лічыць сябе непаўнацэнным народам у параўнаньні з расейцамі. А хто гэта разбурыць? Я думаю, што гэта разбураем мы ўсе разам, паціху і кожны дзень.

# Партызан

Парты

*Задоўга да таго,*
*як беларусы пачалі*
*вызнавацца партызанамі,*
*яны ўжо былі імі,*
*хоць самі гэтага ня ведалі*



*Размова з Валянцінам Акудовічам*

***— Партызан — гэта чалавек, які ўдзельнічае ў вайне ўзброеных фармаваньняў, што хаваюцца сярод мясцовага насельніцтва, звычайна, на акупаванай ворагамі тэрыторыі. Партызаны пазьбягаюць адкрытых і буйных сутычак з праціўнікамі. Яны разбураюць інфраструктуру праціўніка, выкарыстоўваюць супраць яго тэрарыстычныя акцыі. Пра партызанаў асабліва актыўна сталі гаварыць пасьля Другой усясьветнай вайны. І найчасьцей у зьвязку зь Беларусьсю, дзе партызанскі рух быў масавы, а ў наступныя дзесяцігодзьдзі спарадзіў шмат легендаў. І пра беларусаў загаварылі як пра партызанаў. Няўжо міт складваецца і замацоўваецца ў сьвядомасьці народу так хутка?***

— Я ня ўпэўнены, што гэты міт склаўся толькі ў зьвязку з апошняй партызанскай вайной. Хоць наконт гэтага пытаньня дасьледчыкі наўрад ці калі прыйдуць да агульнай згоды. Бо перш як міт пра беларусаў як партызанаў стаўся нацыянальным мітам, мусіла прамінуць шмат часу і адбыцца мноства падзеяў, якія і склалі аснову ягонага ўзьнікненьня. Гэта значыць, задоўга да таго, як беларусы пачалі вызнавацца партызанамі, яны ўжо былі імі, хаця самі гэтага ня ведалі.

*— Дык калі гэты міт пачынаўся?*

— Асабіста я схільны зьвязваць фармаваньне пар-

тызанскай мэнтальнасьці ў беларусаў з эпохай гэтак званага «крывавага патопу», калі пасьля войнаў, арганізаваных маскоўцамі ў XVII стагодзьдзі, загінуў кожны другі насельнік нашых земляў і з гэтага заняпала Вялікае Княства Літоўскае. Пакінутыя безь дзяржаўнай абароны беларусы мусілі самі сабе выпрацоўваць такія формы свайго жыцьця, якія б дазвалялі ім зьберагчы гэтае жыцьцё. Найбольш аптымальным у тых умовах стаўся не супраціў узброеным чужынцам, а хованкі ад іх у лесе, які быў усюды і спрэс. Адпаведна мяняўся і характар беларусаў: з мужных ваяроў яны ператвараліся ў старожкія здані, што заўсёды былі гатовыя схавацца ў адсутнасьць саміх сябе.

*— Ці можна сказаць канкрэтна, у зьвязку зь якой гістарычна зафіксаванай падзеяй упершыню беларусаў пачалі называць партызанамі?*

— Вядомы дасьледчык беларуска-швэдзкіх стасункаў Андрэй Катлярчук лічыць, што пачатак гэтаму міту паклаў, як тое ні дзіўна, Пётар I. Падчас Паўночнай вайны Швэцыі з Расеяй ён пісаў пра войска Карла XII, якое атрымала першую буйную паразу на тэрыторыі Беларусі пад вёскай Лясной: «Едва 1000 человек от сих двадцати тысяч к королю и в Ригу войдут, понеже и по лесам мужики зело бьют их». Паводле Андрэя Катлярчука, з гэтага кароткага сказу і пачынаецца міт пра «партызанскую барацьбу» беларускага народу, якім значна пазьней напоўніцу скарыстаецца савецкая гістарыяграфія.

*— Але пра тое, што беларускія мужыкі лавілі па лясах чужаніцаў, даволі зьвестак і ў крыніцах, якія тычацца ранейшых войнаў.*





— Мяне менавіта гэтая вэрсія зацікавіла таму, што справу, распачатую Пятром I, праз стагодзьдзе плённа разгорнуць расейскія ідэолягі, апісваючы вайну з Напалеонам. У той вайне побач з Кутузавым у расейцаў, бадай, самы папулярны быў камандзір партызанскага атраду, знакаміты гусар Давыдаў. А разам зь ім у поле ўвагі патрапілі і атрады беларускіх мужыкоў, якія рабавалі зьняможаныя парэшткі францускіх войскаў. Дарэчы, як адзначае Андрэй Катлярчук, гэтак сама было і ў швэдзка-расейскай вайне пасьля паразы швэдаў пад вёскай Лясной. Тады ўзьнікла шмат рабаўніцкіх хеўраў з магілёўскай шляхты і сялянаў, якія перахоплівалі на лясных дарогах разьбітыя атрады швэдзкага войска. Генэрал Рапнін дакладаў Пятру I, што на Магілёўшчыне «здешние мужики пеших шведов грабят и ружье, и платье отбирают... Поймали наши фуражири 7 человек шведов, а ружья, сказывают, отняли мужики».

*— У такой вэрсіі тагачасныя беларускія партызаны — гэта ўсяго толькі рабаўнікі і марадэры, якія карысталіся зьняможанасьцю іншаземных войскаў, што апыналіся ў Беларусі.*

— У першую чаргу яны былі проста ахвярамі чужынных нашэсьцяў. Абрабаваныя ўшчэнт падчас вайсковых кампаніяў і сваімі, і чужымі, беларусы такім рабаўніцкім чынам спрабавалі хоць у малой ступені кампэнсаваць тыя страты, што нанесьлі ім узброеныя прыхадні. А вось ацэнка іхных паводзінаў і ўчынкаў залежала ад таго, на чыю карысьць у канкрэтнай сытуацыі гэтыя ўчынкі рабіліся. Таму заўсёды для некага яны былі бандытамі, а для некага — героямі-партызанамі. Так было і ў 1920-я гады

пад польскай акупацыяй Заходняй Беларусі, так было і пад нямецкай акупацыяй у 1940-я гады. Дарэчы, як толькі немцаў прагналі зь Беларусі, дык тых партызанаў, што засталіся ў супрацьве да бальшавікоў, апошнія таксама пачалі называць бандытамі. Але насамрэч у сваёй сутнасьці беларуская партызанка ніколі не была ні бандыцтвам, ні змагарнай барацьбой. Яна заўсёды была спосабам выжыць у пару ліхалецьця, а паколькі адно ліхалецьце неўзабаве мянялася на другое, дык беларуская партызанка са спосабу выжыць пераўтварылася ў спосаб жыць, які ўкарэнены ў нас вякамі і, магчыма, на вякі.

*— Калі так разумець беларускую партызанку, дык тады да яе можна аднесьці і антырасейскія паўстаньні XIX стагодзьдзя. Тактыка дзеяньняў была падобная.*

— Сапраўды, многія залічваюць на рахунак беларускага партызанства антырасейскія паўстаньні 1831 і асабліва 1863 году. І хаця фармальных падставаў для такога меркаваньня як быццам даволі, я ня схільны зь ім пагаджацца. Бачыце, падабенства з партызанкай тут адно ў некаторых формах барацьбы, а ў існасьці гэта дзьве радыкальна адрозныя зьявы. Антырасейскія паўстаньні мелі цалкам ідэалягічнае паходжаньне. Тады змагаліся не за само жыцьцё, а толькі за іншы, вольны ад расейскага панаваньня, спосаб жыцьця. І якраз таму паўстанцаў Каліноўскага мы называем не партызанамі, а касінерамі.

*— У адным з сваіх эсэ вы зьдзіўляліся, чаму ніхто не заўважае, што акупацыя немцамі Беларусі ў Першую ўсясьветную вайну амаль ня мела партызанкі, прынамсі, у параўнаньні з Другой*





*усясьветнай вайной. Але, наколькі памятаю, задаўшы гэтае пытаньне, вы самі на яго не адказалі. Таму цяпер я ў вас пытаюся: чаму?*

— Здаецца, адну з асноўных прычынаў я тады ўсё ж назваў, а менавіта: відавочна гіпэртрафаваная савецкая партызанка была штучна змайстраваная Масквой і навязаная нашаму народу прымусам. Але там я абмінуў увагай пытаньне партызанкі падчас Першай усясьветнай вайны. Можа, таму, што ніякіх адметных зьвестак пра яе мне нідзе не сустракалася, калі не лічыць выдатнай аповесьці для падлеткаў Міхася Лынькова «Міколка-паравоз». Аднак дзьве вэрсіі адсутнасьці больш-менш выразнага партызанскага руху ў гэтую пару я маю. Найперш, як для вайны, немцы на беларускіх землях тады паводзілі сябе досыць цывілізавана і нават наладзілі тут цэлую сыстэму фэльчарскіх пунктаў, якіх у нас раней ніколі не было. Але асноўная прычына зьвязаная хутчэй зь іншым. Царскі ўрад прыдумаў высяляць усіх беларусаў у Расею з тых земляў, якія, адступаючы, пакідалі расейскія войскі. Дарэчы, мой дзед зь сям'ёй і тады яшчэ падлетак бацька таксама патрапілі ў гэтае выгнаньне. Карацей кажучы, уся патэнцыйная партызанка апынулася ў Расеі.

*— Але прайшло ўсяго некалькі гадоў, і на гэтых жа беларускіх тэрыторыях зьяўляюцца партызаны. Памятаеце Коласавага Дзеда Талаша?*

— Рэальнай масавай партызанкі тады не існавала. Гэта хутчэй ідэалягічныя вобразы, чым рэальныя героі. Між іншым, якраз у тыя гады пад уплывам бальшавіцкай ідэалёгіі быў сфармаваны той канон беларускага партызана, які цяпер мы зьвязваем амаль выключна з падзеямі Другой усясьветнай вайны. Прынамсі так

лічыць вядомы мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі. І я зь ім цалкам пагаджаюся. Барадатыя мужыкі са стрэльбамі, якія адважна змагаюцца зь «белапалякамі» за савецкую ўладу і як бы вольную Беларусь, запаланілі тады літаратуру, кіно, жывапіс. І гэты канон беларускага партызана, які адважна змагаўся за савецкую Беларусь, стаў той матрыцай, паводле якой бальшавікі ў Маскве арганізоўвалі партызанскі рух у Беларусі ў 1940-я гады.

*— Чаму апошнім часам у ідэалягічнай рыторыцы пра савецкую партызанку згадваюць ня так і часта?*

— Раней на тое, што ў ідэалягічнай рыторыцы нашай улады «савецкая партызанка» згадваецца адно ўскосна ды зрэдчас, зьвярнула ўвагу маладая дасьледчыца канцэпту «партызан» Дар'я Сітнік. Цяпер дамінуе патаснае сьцьверджаньне аб вялікай перамозе гераічнага беларускага народу над фашыстоўскай навалаччу. Аналізуючы гэты факт, яна робіць слушную выснову. А менавіта: партызанскі міт, які паводле вызначэньня не суадносіцца зь перамогай, а толькі са змаганьнем, апынуўся малапрыдатным, каб легчы ў аснову спрэс пераможнай ідэалёгіі нашай дзяржавы. Магчыма, наша ўлада на партызанку і ўвогуле хацела б забыцца, бо надта гэта складаная і супярэчлівая зьява. Але міты мацнейшыя за хоць якую ідэалёгію. Іх можна скарыстоўваць, але нельга прыручыць.

*— Але ж савецкая ідэалёгія дзесяцігодзьдзямі карысталася з гэтага міту. Хіба не прыручыла яго?*

— Так, савецкія ідэолягі спаўна пакарысталіся партызанскім мітам і, відаць, былі пэўныя, што назаўжды прыручылі яго. Але як толькі рэпрэсіўная моц ідэалёгіі трохі аслабела, гэты міт перахапілі (хто б мог пра такое падумаць!) незалежныя беларускія інтэлектуалы, мастакі, літаратары. Бадай, першым гэтую ініцыятыву засьведчыў Лявон Вольскі сваёй песьняй «Партызанская». Але тэма сучаснай беларускай партызанкі ў інтэлектуальна-мастацкім жыцьці Беларусі настолькі шырокая, што яе тут ня варта нават распачынаць. Зьвярну адно ўвагу на часопіс «Партызан», які ўжо шмат гадоў выдае Артур Клінаў, і дзе яго аўтары прэзэнтуюць самыя розныя артэфакты адвечнага партызанскага руху беларусаў.

*— Дык вы лічыце, што партызанскі міт для беларусаў гэта ня толькі міт, але і нешта рэальнае, што ўплывае і на іхны нацыянальны характар, і на іхны лад жыцьця?*

— Міты ніколі не паўстаюць на пустым месцы. Для беларусаў панятак «партызан» ужо даўно набрыняў пэўным сакральным значэньнем, якога не змагла спрафанаваць нават савецкая «партызанка». Верагодна, «партызан» ці не найлепей ілюструе нейкую анталягічную сутнасьць беларуса як у ягоным прыватным жыцьці, гэтак і ў ягоным пражываньні гісторыі. Часам мне ўяўляецца, што, па вялікім рахунку, мы яшчэ й ня выйшлі з гушчароў пушчы. І хоць ужо даўно жывем без вайны ў сьветлых гарадах і нават маем незалежную дзяржаву, але, здаецца, цёмны лес па-ранейшаму глуха шуміць у нашых душах. І ніхто ня ведае, чым для каго аднойчы абернецца гэты пошум векавечнай пушчы.

# Буржуй

*Пэрманэнтная рэвалюцыя, якую разгарнулі бальшавікі, была немагчымая без існаваньня ворага — буржуя*



*Размова з Захарам Шыбекам*

***— Буржуй — фізычная асоба, якая валодае сродкамі вытворчасьці, ідэямі і навыкамі для арганізацыі рынкавай гаспадаркі і жыве коштам інвэстыцыі капіталаў. У савецкую пару слова «буржуй» было сынонімам словаў спэкулянт, фашыст, дармаед, прыгнятальнік, кулак. Калі ўвогуле ў шырокім ўжытку зьяўляецца вызначэньне слова «буржуй»? Ці яно заўсёды мела нэгатыўны, абразьлівы сэнс?***

— Нават у Францыі, на радзіме гэтага слова, стаўленьне да буржуяў мела нэгатыўнае адценьне. Адбывалася гэта стараньнямі зямельнай арыстакратыі, якая бачыла ў буржуях сваіх сур'ёзных канкурэнтаў. Успомнім п'есу Мальера «Мешчанін у шляхецтве». Далей, у XIX стагодзьдзі, у эпоху індустрыялізацыі, калі запатрабаваліся прадпрымальныя людзі, стаўленьне да іх стала мяняцца ў лепшы бок. Гэтае слова ўвайшло ў шырокі ўжытак індустрыяльнага грамадзтва.

*— А ў Беларусі?*

— Што тычыцца Беларусі, дык буржуямі за часы расейскага панаваньня калі-нікалі называлі габрэяў. Нэгатыўнае стаўленьне да багацеяў мела нацыянальна-канфэсійнае адценьне, бо беларускія буржуі ў царскі пэрыяд яшчэ не пасьпелі канчаткова сфармавацца. Яны былі прадпрымальнікамі дробнай рукі. А шырока слова «буржуй» увайшло ва ўжытак у рэзка нэгатыўным сэнсе, як вораг народу, ужо з усталяваньнем савецкай улады.

— *Калі, дзе, чаму і як зьявіліся буржуі?*

— Паводле Карла Маркса, буржуі зьявіліся на сьвет у выніку загніваньня фэадалізму. З гнілі. А насамрэч прадпрымальнага чалавека парадзілі вялікія геаграфічныя адкрыцьці і гуманістычная эпоха высокага Рэнэсансу. А гэта XVI стагодзьдзе. Як мяркуюць заходнеэўрапейскія гісторыкі, ужо тады пачынаўся гандлёвы капіталізм.

— *Былі, напэўна ж, буржуі і ў Беларусі. Хто яны, першыя беларускія буржуі?*

— Першымі беларускімі буржуямі былі купцы і мяшчане Вялікага Княства Літоўскага. Беларускія купцы ўцягваліся ў агульнаэўрапейскія гандлёвыя справы: беларускім хлебам сілкаваліся гарады Захаду, беларускі мачтавы лес ствараў магутнасьць марскога флёту Галяндыі і Ангельшчыны. Дух прадпрымальніцтва ўзмацняўся разам з пашырэньнем на беларускія землі Рэфармацыі. XVI стагодзьдзе — гэта «залаты век» Беларусі ня толькі ў культуры, але і ў эканоміцы. Купцы Скарыны, Мамонічы трывала ўвайшлі ў нашу гісторыю. А далей працэс фармаваньня буржуяў затрымліваўся палітыкай Рэчы Паспалітай і Расейскай імпэрыі, не зацікаўленых у памнажэньні мясцовай буржуазіі.

— *Але рэвалюцыя 1905 году і аграрная рэформа Сталыпіна, відаць, хоць крыху, але зьмянілі сытуацыю?*

— Сапраўды, трохі зьмянілі. Сяляне сталі ўласьнікамі зямлі, атрымалі права выхаду з абшчыны і дзяржаўную падтрымку ў набыцьці новых земляў (крэдыты, доступ да ведаў агранаміі). Новая зямля





адкрывала для вяскоўцаў новае жыцьцё. Зьявіліся сапраўдныя беларускія фэрмэры. Па вытворчасьці бульбы, лёну, сьвініны сяляне сталі пераўзыходзіць памешчыкаў. Так, селянін Мароз зь Віцебшчыны гандляваў лёнам, садавіной і меў нават аранжарэю для вырошчваньня рэдкіх паўднёвых культураў. Але зьмены да лепшага перапыніліся Першай усясьветнай вайной і бальшавіцкім пераваротам 1917 году.

— *Вядомыя выпадкі, калі беларускіх сучасных фэрмэраў проста падпальвалі. А як ставіліся сяляне да першых фэрмэраў даўней?*

— Беларускія заможныя сяляне, ці фэрмэры, былі людзі надзвычай працавітыя. Яны мелі вялікую павагу сярод вяскоўцаў. Зь іх бралі прыклад. Да іх ішлі па дапамогу. У былой Заходняй Беларусі памяць пра добрыя справы вясковых буржуяў захавалася да нашых дзён. Толькі ў асобных выпадках сядзібы фэрмэраў у 1905 годзе падпальваліся — дый тое, як правіла, маладымі сялянамі-адходнікамі, якія папрацавалі ў горадзе і знаходзіліся пад уплывам марксісцкай прапаганды. Тады прыватная ўласнасьць шанавалася болей, чым цяпер. Сяляне бачылі і разумелі, якой цаной яна даставалася іхным аднавяскоўцам.

— *А як выглядала сытуацыя ў гарадах? Можа, там разбагацець было прасьцей?*

— Горад для сялянаў быў, на жаль, закрыты, бо там прадпрымальніцкія структуры былі занятыя габрэямі, немцамі, а пазьней і спалянізаванымі памешчыкамі. Найбольшую частку гарадзкіх беларускіх буржуяў складалі дома- і землеўладальнікі, якія атрымлівалі прыбытак з арэнднай платы за кватэры і за зямельныя

пляцы пад забудову. Асобныя беларусы выбіваліся ў клясныя чыноўнікі і жылі ня горш за буржуяў. Працэс узбагачэньня ў гарадах ішоў хутчэй, чым у вёсцы, але і там асноўная маса беларускіх буржуяў належала да дробных гаспадароў.

*— І ўсё ж, што вынікала з такой сытуацыі, калі прадстаўнікі беларускага народу не валодалі буйнымі капіталамі?*

— Вельмі нэгатыўныя вынікі. Не хапала мэцэнатаў для разьвіцьця беларускай прафэсійнай культуры, што стрымлівала нацыянальны рух. Абвешчаная 25 сакавіка 1918 году Беларуская Народная Рэспубліка не атрымала адпаведнай матэрыяльнай падтрымкі. Гістарычны шлях Беларусі пайшоў у расейска-бальшавіцкім кірунку.

*— Савецкая ўлада часткова вынішчыла буржуазію, часткова выштурхнула за мяжу. Хто заняў яе месца?*

— Яе месца ў арганізацыі вытворчасьці заняў штат дзяржаўна-партыйнага апарату. Буржуй стаў сымбалем ворага народу. Пэрманэнтная рэвалюцыя, якую разгарнулі бальшавікі, была немагчымая без існаваньня ворага — буржуя. На адрас буржуяў ужываліся самыя зьняважлівыя словы. Расейскі паэт Аляксандр Блок у сваёй паэме «Дванаццаць» пісаў: «Ну, Ванька, сукин сын, буржуй...». Заможных сялянаў называлі ня іначай, як кулакамі, гэта значыць, міраедамі, ліхвярамі, захрыбетнікамі, хоць беларускіх сялянскіх буржуяў і не было падставаў так называць. Ім, адрозна ад уласна расейскіх, не былі ўласьцівыя несумленнае і спэкулятыўнае ўзбагачэньне. У асобных выпадках яно





магло выяўляцца, але пераважна ў спэкуляцыі зямлёй. А што тычыцца ліхвярства, дык яго манапалізавалі іншаэтнічныя буржуі.

*— А ці можна назваць буржуямі так званых нэпманаў? Ці існавалі савецкія буржуі? Можа, іх бальшавікі ня ўсіх вынішчылі? Можа, яны нейкім чынам адраджаліся нават ва ўмовах бальшавіцкага рэжыму?*

— Гэтыя пытаньні цесна зьвязаныя з праблемай уласнасьці на сродкі вытворчасьці. Уведзеная Леніным дзяржаўна-партыйная ўласнасьць ператварала савецкіх апаратчыкаў у своеасаблівых буржуяў, на якіх працавала ўсё насельніцтва Савецкага Саюзу. Існавала сытуацыя, якая прыкладна адпавядала ваенна-манапалістычнай, ці дзяржаўнай, стадыі капіталізму. Калі прынята гаварыць пра дзяржаўны капіталізм, дык можна казаць і пра дзяржаўных буржуяў, якім жылося непараўнальна лепей, чым звычайным савецкім людзям. Таму прадстаўнікі беларускага народу імкнуліся трапіць у адміністрацыйна-партыйныя струкутуры, нават коштам адрачэньня ад роднай мовы і культуры.

*— А ці знаходзіліся прадпрымальныя людзі, якія не ўваходзілі ў склад апаратчыкаў?*

— Знаходзіліся, але ім было цяжэй. Яны ня мелі ні права на ўласнасьць, ні доступу да карыстаньня ёй. Ліквідацыя прыватнай уласнасьці была, на маю думку, самым вялікім злачынствам бальшавікоў. Пазбаўленых эканамічнай самастойнасьці і пастаўленых у поўную залежнасьць ад партыйнага апарату жыхароў бальшавіцкай імпэрыі можна было, як жывёльны

статак, гнаць у сацыялізм, камунізм, на сталінскія новабудоўлі і ў ГУЛАГ. Праўда, некаторыя маглі мець тое-сёе неафіцыйна. І ў гісторыі СССР узьнікалі такія сытуацыі, калі буржуі нібы ажывалі. Без падтрымкі дзелавых людзей бальшавікі проста не спраўляліся з эканамічнымі праблемамі.

*— Гэта цікава. І ў які час такія сытуацыі складваліся?*

— Па-першае, гэта — час нэпу, калі ў разбуранай вайной краіне дазваляўся прыватны бізнэс на аснове дзяржаўнай уласнасьці, але пад наглядам дзяржавы. Тады сытуацыя ў нечым нагадвала сучасную. Праіснавала яна нядоўга (1921—1927). Чаму? Эканоміка стала пасьпяхова разьвівацца на аснове прыватных ініцыятываў і зь непазьбежнасьцю патрабавала палітычнай дэмакратызацыі. Апарат станавіўся не патрэбным. Зрываўся плян пабудовы сацыялізму. Нэпманаў чакалі рэпрэсіі. Хоць сяляне-аднаасобнікі, якія не ўступалі ў калгасы, трымаліся ў БССР да пачатку 1950-х гадоў. У 1937 годзе на іхную долю прыпадала 13 % сялянскіх гаспадарак. Другі раз ажыўленьне «буржуяў» назіралася ў пасьляваенныя гады, калі дзяржава ўсе сродкі выдаткоўвала на выраб атамнай бомбы, а народ пачаў сам сябе ратаваць ад галечы. Самі пяклі хлеб, самі шылі боты. У раённым кіраўніцтве знаходзіліся і такія, што заводзілі ўласныя статкі кароваў і прадавалі на кірмашы малако. Масква вымушана была прыняць пастанову супраць «абуржуйваньня» партыйнага апарату. Партыйным дзеячам падвышалі аклады і ўводзілі дадатковыя льготы.

Калі б пасьля вайны людзям далі волю, яны б імгненна ператварылі краіну ў квітнеючы край. Аднак





такога ня здарылася, і прадпрымальныя людзі пайшлі ў цень, знаходзілі нішу для прадпрымальніцтва нават ва ўмовах таталітарызму, станавіліся нелегальнымі савецкімі буржуямі на чорным рынку. Усіх, хто імкнуўся пражыць самастойна, безь дзяржаўнага дыктату, абвяшчалі лайдакамі і прыцягвалі да судовай адказнасьці. Сапраўды, прадпрымальным людзям даводзілася парушаць савецкія законы, узбагачацца, як лічылі савецкія людзі, несумленна. І гэта выклікала рэзка адмоўнае стаўленьне да іх з боку грамадзтва. Нелегальных савецкіх буржуяў часьцей за ўсё называлі спэкулянтамі.

*— Выходзіць, што буржуі аказаліся невынішчальныя, як і імкненьне чалавека да свабоды?*

— Так. З распадам Савецкага Саюзу існавала шмат людзей, якія мелі пэўны вопыт дробнага бізнэсу. Гэта былі дзеячы ценевай эканомікі (большасьцю не беларусы) і дзеці апаратчыкаў. Паводле свайго статусу, яны адпавядалі ліхвярскай буржуазіі на стадыі зараджэньня капіталістычнага грамадзтва, калі назапашваўся капітал, неабходны для стварэньня цывілізаваных рынкавых дачыненьняў. Менавіта гэтыя людзі сталі ў незалежнай Беларусі крыніцай фармаваньня «новых беларусаў», сучасных беларускіх буржуяў.

*— Наколькі пасьпяхова ў Беларусі ідзе фармаваньне новых буржуяў?*

— У зьвязку з фармаваньнем новых буржуяў паўстаюць тры найважнейшыя праблемы. Першая — гэта недахоп адукаваных, інтэлігентных людзей сярод сучасных буржуяў, бо інтэлігенцыя аказалася адхіленай ад працэсу ўзбагачэньня. Сучасны буржуй — пераваж-

на чалавек жорсткі, несумленны, грубы, часта дапускае элемэнтарнае хамства, а таму па-ранейшаму выклікае нэгатыўнае стаўленьне з боку большасьці постсавецкага грамадзтва. У новых буржуяў звычайна складваюцца напружаныя дачыненьні з суседзямі. Інтэлектуальны капітал мясцовай інтэлігенцыі застаўся незапатрабаваны. У краінах Захаду інтэлектуалізацыя буржуазіі прайшла ў 1860—1870-я гады. У нас яна, магчыма, толькі пачынаецца. Другая праблема палягае ў пошуку аптымальнай мадэлі допуску на беларускі рынак буржуяў замежнага паходжаньня зь іхнымі капіталамі (інвэстыцыямі) з такім разьлікам, каб не прыдушыць працэс фармаваньня ўласнай нацыянальнай буржуазіі. І, нарэшце, застаюцца пакуль не гарманізаванымі працэсы лібэралізацыі эканомікі і дэмакратызацыі грамадзтва. Гістарычны вопыт паказвае, што толькі ў дэмакратычным грамадзтве эканоміка разьвіваецца найбольш пасьпяхова. Пасьляваенны эканамічны ўздым Нямеччыны і Японіі быў зьвязаны з адмовай ад нацызму і японскага шавінізму. Фармаваньне сучаснай клясы буржуяў, аб'ектыўна зацікаўленай у стабільным прававым грамадзтве, дазваляе спадзявацца на дэмакратычнае разьвіцьцё беларускай дзяржавы.

— *Дык чаму міт пра буржуяў як ворагаў народу аказаўся такім жывучым? Калі і пры якіх умовах магчымае яго разбурэньне?*

— Жывучасьць выклікана ня толькі кароткім часам пасьля разбурэньня савецкай імпэрыі, але й псыхалёгіяй простага чалавека, які заўсёды з зайздрасьцю глядзеў на багацеяў. Ім ніхто не тлумачыў, што так званыя буржуі нічым ня горшыя за савецкіх дырэктараў, што яны яшчэ больш старанна ставяцца да арганізацыі





вытворчасьці і гандлю, бо зьяўляюцца гаспадарамі свайго дабра. Іхнымі стараньнямі больш пасьпяхова напаўняецца дзяржаўны бюджэт, якім карыстаецца ўсё грамадзтва. Нэгатыўнае стаўленьне да новых беларусаў дэкансалідуе нацыю, шкодзіць эканамічнай мадэрнізацыі сучаснай Беларусі. Але грамадзтва паступова пераадольвае ідэалягічныя стэрэатыпы. Носьбіты навукова-тэхнічных ідэяў (інтэлектуальныя пралетарыі, якія жывуць з зарплаты) імкнуцца да ўлады, адстойваюць права на асабістую ўласнасьць і камэрцыйную дзейнасьць і адстаяць яе. А слова «буржуй», найбольш верагодна, зьнікне з ужытку і застанецца толькі ў гістарычнай літаратуры.

# Папараць-кветка

Папар

*Павярхоўная ідэя лёгкага ўзбагачэньня аказалася настолькі прыцягальнай, што пасыпаліся катлеты і коктэйлі пад назовам «Папараць-кветка»*



*Размова з Тацянай Валодзінай*

***— Папараць-кветка — мітычная кветка, якая, паводле паданьняў, расьцьвітае ў Купальскую ноч і прыносіць чалавеку незвычайнае шчасьце. У Беларусі гэты вобраз стаў брэндавым і актыўна скарыстоўваецца для назову цэлага шэрагу рэаліяў. З савецкага часу ў Менску працуе рэстарацыя «Папараць-кветка», у сталоўках і крамах можна купіць і зьесьці катлету «Папараць-кветка». Гэтак званае віно-чарніла «Папараць-кветка» можна закусіць салатай «Папараць-кветка». Менавіта такой назвай аднолькава ахвотна называюць як рэспубліканскі турнір інтэлектуальных гульняў, гэтак і фэстываль саломапляценьня. У Беларусі хацелі пабудаваць ледзь ня самую вялікую ў сьвеце тэлевежу — таксама пад назовам «Папараць-кветка». Чаму зь вельмі багатага беларускага фальклёру менавіта папараць-кветку камэрцыялізавалі?***

— Ідэя, закладзеная ў гэты міт, — надзвычай глыбокая, прычым яна актуальная ня толькі для сялянскай грамады, але і для чалавечай мэнтальнасьці ўвогуле. Дзіўным чынам акумулявала яна ў сабе мары і жаданьні ці ня кожнага з нас. Ну, хто б не хацеў яе адшукаць?

*— Словам, суцэльная і паўсюдная папараць-кветка. І гэта пры тым, што насамрэч папараць*

*не цьвіце. Калі не лічыць падобнай да кветкі асаблівай мяцёлкі на ніжнім баку лісьця ў каралеўскага папаратніка, які захаваўся яшчэ ў Белавескай пушчы. Ці ўсё ж ёсьць нейкая інфармацыя пра такое цьвіценьне?*

— Адмыслоўцы і літаратары спрабавалі зьвярнуцца да гісторыі папараць-кветкі і нават шукалі пацьверджаньня яе цьвіценьня. Такія зьвесткі нібыта і траплялiся ў старых летапісах. Выказваліся нават меркаваньні пра ўзьдзеяньне кветкі на чалавека — адкрыцьцё энэргетычных каналаў і паўстаньне экстрасэнсорных здольнасьцяў.

*— Калі цьвіценьня гэтага ніхто ўжо даўно ня бачыў, адкуль тады такая неверагодная папулярнасьць у гэтага сымбалю?*

— Напачатку крыху пра саму легенду. У Купальскую ноч, у самую поўнач яе, зацьвітае на нейкае імгненьне гэтая папараць-кветка, прычым гарыць ярка, як агонь. Сьцерагуць яе розныя духі нячыстыя, чэрці і ўсякая нежыць. Чалавек жа, атрымаўшы кветку, набывае незвычайнае шчасьце. Заманліва гучыць — пайшоў, знайшоў, добра яшчэ, не спалохаўся жахаў — і на табе, ужо шчасьлівы. Прычым і шчасьце часьцей разумеецца як прымітыўнае багацьце. Бо ў асобных варыянтах апавядаецца, што здолее той сьмяльчак адшукаць скарбы. І той прывідны бляск золата асьляпляе, і ўжо ня хочацца думаць, якія ж скарбы замыкае сабою папараць-кветка.

*— А якія скарбы яна замыкае? І ці ёсьць скарбы іншыя, акрамя залатых?*

— Здабыцьцё грошай — настолькі павярхоўны





і прымітыўны вынік знаходжаньня кветкі, што і абмяркоўваць яго ня варта. Паказальна толькі тое, што менавіта такі, спажывецка-лянотны, варыянт быў падхоплены папулярызатарамі фальклёру, далёкімі ад яго праўдзівай сутнасьці. Калі ж зьвярнуцца да сапраўды народных легендаў, якія і сёньня яшчэ запісваюцца ў нашых вёсках, пабачым, што папараць-кветка дае веды. Незвычайныя, магутныя веды, бо чалавек пачынае разумець мову зьвяроў і птушак, словы і шапаценьне кожнага дрэўца і травінкі. Чалавек той ня проста можа весьці зь імі гутарку, але і спасьцігае схаваныя ад простых вачэй лекавыя ўласьцівасьці зёлак, умее прадказаць надвор'е і адпаведна сплянаваць сваю дзейнасьць. Умее лекаваць. Чуе плёткі сабакі з катом і даведваецца шмат цікавага пра сямейнікаў і суседзяў. Словам, яму адкрываецца ўвесь навакольны сьвет.

*— Але ж вы напачатку заўважылі, што паход па кветку суправаджаецца жахамі і пужаньнямі. Чаму так?*

— Праўда, у легендах скрозь апавядаецца пра скрайнюю небясьпеку такіх пошукаў. Падкрэсьліваецца, што пільнуе кветку чорт, а сьмельчаку падаецца, што паміж лапухоў сядзіць зялёная вужака з галавой пеўня, а ў паветры на рэшаце ляціць ведзьма, махае мятлой, за ёй ляцяць крылатыя каты, жабы на кароткіх нагах і ўсялякая нечысьць. У іншых месцах ахоўваюць папараць зьмеі. Шлях з кветкаю поўніцца нежартоўнымі выпрабаваньнямі і вадою, і агнём, і болем. Данесьці да дому нямногім давялося. Расказваюць, адзін прынёс. Але дні праз тры знайшлі яго на тым жа месцы, куды за кветкай хадзіў: вісеў на асіне зь вяроўкай на шыі.

*— Ці не атрымліваем мы парадокс, што ключ ад ведаў належыць чорту? І ён ніяк ня хоча яго аддаць чалавеку, ці ня так?*

— У пэўнай ступені так. Чалавек у імкненьні спазнаць усе таямніцы і мову Сусьвету прэтэндуе на тое, каб стаць уровень з самім Творцам, з Богам. І тады б парушылася зацьверджаная ад пачатку ярархія, лопнуў бы ўсталяваны на пачатку сьвету касьмічны парадак, і наўкола запанаваў бы хаос. Менавіта ў такіх фарбах і вобразах і апісваецца зрываньне кветкі — як страшны катаклізм. Старажытныя мудрацы сказалі б проста: што дазволена Юпітэру, не дазволена быку. Можна сказаць і трошку інакш — чалавек прэтэндуе на мудрасьць засьветаў, на магчымасьць зазірнуць у той сьвет і атрымаць адтуль яму неналежнае. Папараць-кветка самім фактам свайго існаваньня або незацьвітаньня беражэ мяжу паміж сьветамі.

*— Калі гэта так страшна і небясьпечна, то як даведаліся людзі пра чароўныя ўласьцівасьці папараць-кветкі?*

— У бальшыні легендаў чароўная кветка трапляе чалавеку па-за ягонай воляй і намерамі. Гаворка ідзе часьцей пра тое, як згубілася ў чалавека жывёліна ды ён пайшоў шукаць яе ў лес. А там, сярод папараці, і ўпалі яму незвычайныя пялёсткі ў лапаць, ад чаго чалавек ня толькі сваю жывёлу знайшоў, але і наслухаўся рознага ад лясных насельнікаў. Толькі ж, пераабуўшыся ды памяняўшы лапці, згубіў ён і свае надзвычайныя здольнасьці.

*— Што ж яшчэ прыносіць гэтая папараць-кветка?*





— Неаднаразова даводзілася чуць, што шукаць гэтую кветку ідуць з мэтай убачыць там свайго суджанага. Для гэтага голаму трэба было сядзець у зарасьцях папаратніка і чакаць паўночы. З расказу аднаго смельчака, убачыў ён сваю, як ён пасьмяяўся, «крываногую Зінку», але наўкола так страшна сьвішчэла, верашчэла і палохала, што ён ледзь дабег дадому. Іншыя ж даводзяць, што шукаць тую папараць хадзілі хлопец зь дзяўчынаю разам. І няма ў гэтым ніякай супярэчнасьці, бо адшукаць сваё каханьне, блізкага і дарагога чалавека — найвялікшы дар і шчасьце, шматкроць большыя за якое б ні было багацьце.

*— Такім чынам, у самой міталягеме «папараць-кветка» закладзены вельмі глыбокі сэнс — магчымасьць атрыманьня дару адчуваць Сусьвет і ягоных насельнікаў. У ёй закладзеная прага да праўдзівага шчасьця і багацьця. Яны могуць быць у суладзьдзі з Сусьветам і сваім асабістым «Я». Як жа сталася, што такі важкі сэнс аказаўся размытым і раскіданым па салатах ды катлетах?*

— Вось тут мы наўпрост падышлі да праблемы бытаваньня, папулярызацыі ці беражлівага стаўленьня да сваёй фальклёрнай спадчыны, у якой, як бы патэтычна гэта ні гучала, закладзена векавая мудрасьць. На жаль, прыходзіцца канстатаваць, што доўгі час культываваўся сцэнічна-лубачны варыянт фальклёру, калі акцэнт рабіўся на зьнешняй нібыта прыгажосьці, яскравасьці, весялосьці. Сумна, але павярхоўная ідэя лёгкага ўзбагачэньня аказалася настолькі прыцягальнай, што пасыпаліся катлеты і кактэйлі пад назовам «Папараць-кветка». У падобным стаўленьні да фальклёру — росквіт самадзейнасьці побач з занядбаньнем

аўтэнтычнай традыцыі. Вонкавым сымбалем нашага фальклёру сталі бабулі ў крамных безгустоўных строях з саламянымі аднадзёнкамі ў руках. І гэта пры тым, што яны здолелі захаваць праўдзівую філязофію таямнічай папараць-кветкі, не заплямілі і не спаганілі яе сквапнасьцю ці прымітывам. Разам з тым такая папулярнасьць самога сымбалю папараць-кветкі пакідае надзею, што глыбінная, прыгожая і мудрая сутнасьць самой традыцыі захаваецца.

— *Ці трэба ў XXI стагодзьдзі сучаснаму грамадзтву міталягізаваць зьявы рэальнасьці з дапамогай фальклёрных вобразаў?*

— Натуральна. Але толькі не ў «салатавай» інтэрпрэтацыі. Міты патрэбныя чалавеку заўсёдна. Мітычнае мысьленьне — вельмі важны складнік чалавечай псыхікі і мэнтальнасьці наагул. Іншая рэч, чалавек кожнай эпохі падае і аранжыруе іх па-свойму, бо ня ёсьць пастаяннай сыстэма каштоўнасьцяў, не застаецца нязьменным само разуменьне багацьця. Ня выключана, што ў будучым шукальнік чароўнай папараці будзе марыць пра ключ да кампутарных сусьветных сыстэмаў. Пастаяннай выступае толькі нясконачаная неспатольная прага чароўнага, прага імгненнага спаўненьня жаданьняў. І ёсьць яна ў кожным з нас. Сучасны чалавек, нягледзячы на ўсе вышыні навукова-тэхнічнага прагрэсу, якога ён здолеў дасягнуць, робіцца ўсё больш і больш самотным у сьвеце бяздушных кампутарных сыстэмаў ды глябальных рынкавых адносінаў. Месца для душы, таямніцы, мары застаецца гранічна мала. Вядома, міт пра папараць-кветку ня стане панацэяй ад фінансавага крызісу і не дапаможа ўзяць ільготны крэдыт, але ён дазваляе





чалавеку ўбачыць тое, на што ён не зважаў дагэтуль. Цурчаньне лясной крыніцы, цяпло камянёў і сьпевы птушак могуць дарыць шчырую радасьць чалавеку. А гэта ўжо нямала.

— *У якім кірунку варта разьвіваць фальклёрныя міты?*

— Сёньня мы яшчэ можам запісваць, чуць і перажываць голас традыцыі разам зь яе носьбітамі. Мы можам яшчэ бачыць тых людзей, якія данесьлі да нас веды і навыкі, можам павучыцца ў іх. Не, ня столькі нават расказваць казкі ды голасна сьпяваць, колькі павучыцца ўспрымаць сьвет ва ўсім яго багацьці, а сябе бачыць у суладзьдзі зь ім. Да таго ж і этнакультуролягі, сярод іншых людзей навукі і мастацтва, нясуць адказнасьць за ўзровень адчуваньня стылю і густоўнасьць, прычым на ўсіх узроўнях: ад дзіцячых садкоў да айчыннага тэлебачаньня.


савецкі запаведнік
homo soveticus
народ
камунізм
Ленін
КДБ
22 чэрвеня 1941 году
Вялікая Айчынная вайна
Машэраў
сялянская нацыя
дзьвюхмоўны народ
старэйшы брат
гуманізм расейскай літаратуры


ня нашае наша

# Савецкі запаведнік

*У Беларусі праводзіўся сьвядомы і мэтанакіраваны экспэрымэнт для стварэньня новага этнасу — савецкага народу*



*Размова з Алегам Трусавым*

***— Запаведнікі — гэта ахоўныя тэрыторыі з разьмешчанымі ў іхных межах тыповымі альбо ўнікальнымі прыроднымі комплексамі, выключанымі з гаспадарчага і рэкрэацыйнага карыстаньня, а таксама помнікі архітэктуры, гісторыі і археалёгіі. У розных сродках масавай інфармацыі Беларусь ня раз называлі і называюць савецкім ці камуністычным запаведнікам, маючы на ўвазе, што ў краіне дасюль застаецца і надзейна ахоўваецца матэрыяльная і духоўная спадчына савецкай пары. Што самае тыповае з савецкай спадчыны захавала сёньняшняя Беларусь?***

— Нямала. У першую чаргу савецкую мэнтальнасьць і ўсё, што з гэтага вынікае. Гэта — нэгатыўнае стаўленьне да ўсяго замежнага, да высокай культуры і рэлігіі, мастацтва, заможных і адукаваных людзей. Таксама празьмерная фанабэрыстасьць і непавага да іншадумства. Асабліва варта адзначыць поўную непавагу да сваіх каранёў, мовы, гісторыі, культуры, традыцыяў, помнікаў гісторыі і культуры. «Весь мир насилья мы разрушим до основанья, а затем...» — так сьпявалі бальшавікі. І сваё абяцаньне выканалі.

*— Вы лічыце, што мэнтальнасьць ці псыхалёгія беларускага грамадзтва спарадзіла непавагу да нацыянальных помнікаў гісторыі і архітэктуры? Вось жа літоўскія камуністы адбудоўвалі за савецкія грошы замкі і касьцёлы, а беларускія — іх узрывалі, перабудоўвалі ў склады і дамы культу-*

*ры. Якая гістарычная падстава для такіх паводзінаў?*

— Тут некалькі чыньнікаў, пра якія варта сказаць. Па-першае, літоўцы пажылі ў незалежнай дзяржаве болей за дваццаць гадоў і пасьпелі выхаваць у свайго народу павагу да роднай мовы, гісторыі і культуры. Мала таго, яны скарысталі гістарычны міт пра Вялікую Літву ад Клайпеды да Нясьвіжу і Міра, запісалі яго ў свае падручнікі і настолькі ў яго паверылі, што Сталін падарыў ім спачатку Вільню, потым Друскенікі, а ў 1945 годзе і Клайпеду. Пасьля вайны ў Літве быў моцны партызанскі ўзброены супраціў, і таму Сталін ішоў літоўскім камуністам на саступкі ў культурным будаўніцтве. У Беларусі ўсё адбывалася інакш. Спачатку ў Рызе ў 1921 годзе Беларусь падзялілі паміж Польшчай і Расеяй. Пры гэтым БССР была створана толькі на частцы беларускай этнічнай тэрыторыі без Смаленшчыны, Браншчыны і іншых земляў. Беларусы былі ў асноўным сялянскай нацыяй і лічылі сваіх паноў палякамі, якія, як правіла, праводзілі палітыку паланізацыі, асабліва на тэрыторыі Заходняй Беларусі, прычым праз касьцёл. Не было ў іх вялікай павагі і да расейскіх палітыкаў, якія не лічылі іх за людзей, і да расейскіх папоў. Таму бараніць «літоўскія» замкі, «польскія» палацы і касьцёлы, «рускія» сядзібы і цэрквы мясцовыя камуністы, асабліва небеларускага паходжаньня, не хацелі.

*— Беларусы не сьпяшаюцца бараніць і родную мову, нягледзячы на тое, што відавочна прымаюць незалежную беларускую дзяржаву. У часе перапісу называюць роднай мову беларускую, а карыстаюцца суседзкай, расейскай.*





— І зноў жа параўнаю зь іншымі суседзямі — літоўцамі. Літоўцаў пакаленьнямі вучылі толькі па-літоўску, таму і ў сям'і яны прынцыпова гаварылі толькі па-літоўску, нават у мяшаных сем'ях. Заходнюю Беларусь захлынула хваля татальнай паланізацыі. У БССР дзякуючы беларусізацыі спачатку пазыцыі беларускай мовы ўзмацніліся, але ў 30-я гады XX стагодзьдзя змаганьне з «нацдэмаўшчынай» прывяло да фізычнага зьнішчэньня спачатку савецкай, а потым (пасьля верасьня 1939 году) і заходнебеларускай эліты. Размаўляць па-беларуску, асабліва ў гарадах, стала проста небясьпечна. Я добра памятаю, як плакала мая бабуля, якая, дарэчы, вучылася ў беларускім пэдтэхнікуме разам з Аркадзем Куляшовым, калі я дома і на дварэ пачаў гаварыць па-беларуску. Яна казала: «Унучак, што ты робіш, цябе за гэта заб'юць».

*— Не было б тое, было б што другое — цьвердзіць народная мудрасьць. І жыцьцё гэта пацьвярджае. Дык чым замянілі зьнішчаныя помнікі беларускай гісторыі і культуры?*

— Савецкімі навабудамі. Напрыклад, на месцы Восіпаўскага сабору XVIII стагодзьдзя ў Магілёве збудавалі гатэль, на месцы могілак узводзілі жылыя дамы і стадыёны, на разбураным Менскім замчышчы — Палац працоўных рэзэрваў, а пазьней станцыю мэтро, на старажытным дзядзінцы Слуцку збудавалі дом культуры. Сьпіс можна доўжыць.

*— Гэта, як мне падаецца, яшчэ паўбяды. Але ж помнікі новым героям, новым ідалам ставілі і на старых, і на новых плошчах. У выніку ляндшафт гарадоў мяняўся, мяняўся і ляндшафт усёй краі-*

*ны. Калі мэтафарычна, дык і ляндшафт мэнтальнасьці...*

— Прапаганда, у тым ліку і манумэнтальная, працавала надзвычай моцна. Спачатку разбуралі і зьнішчалі старыя помнікі царскага часу, прычым ня толькі на вуліцах і плошчах, але дабраліся нават да могілак. Потым пачалі ставіць помнікі рэвалюцыянэрам, асабліва Леніну і Сталіну. Пасьля вайны, калі Хрушчоў зьнішчыў сталінскую сымболіку, Беларусь скрозь забудавалі помнікамі Леніну (іх было болей за 400) і ягоным прыхільнікам. Усе вуліцы гарадоў і вёсак, асабліва ў цэнтры, былі пераназваныя ў гонар савецкіх ці расейскіх дарэвалюцыйных дзеячаў, а пасьля апошняй вайны дадаліся вуліцы з імёнамі савецкіх вайскоўцаў і партызанаў.

*— І вось ужо шыльдачка «Помнік ахоўваецца дзяржавай» перамясьцілася з муроў старажытных храмаў і замкаў на немастацкія выявы правадыроў... У сэнсе пашырэньня камуністычнай ідэалёгіі, стварэньня камуністычных мітаў Беларусь за савецкім часам лічылася самай перадавой. Аж да такой ступені, што сама стала мітам стварэньня і захаваньня савецкага запаведніка. Чаму менавіта Беларусь абганяла іншыя савецкія рэспублікі, тых жа сваіх суседак — Украіну, Расею?*

— Таму што ў Беларусі праводзіўся сьвядомы і мэтанакіраваны экспэрымэнт для стварэньня новага этнасу — савецкага народу. Распачаў яго Мікіта Хрушчоў, які прыехаў у Беларусь і на ганку БДУ ўрачыста заявіў, што беларусы першымі ў СССР адмовяцца ад роднай мовы і таму першымі зажывуць пры камунізьме.





*— А чаму выбралі менавіта Беларусь, а не Расею, Украіну?*

— Зь некалькіх прычынаў. Па-першае, меншыя памеры. Нацыянальная эліта была зьнішчаная, або знаходзілася ў ГУЛАГу ці зьехала ў эміграцыю пасьля Другой усясьветнай вайны. Па-другое, на іхнае месца прыслалі людзей з Расеі ці зь іншых рэспублік, прычым пераважна мужчынаў, якія часта бралі ў жонкі беларусак, але сем'і былі толькі расейскамоўныя. Па-трэцяе, сюды прыслалі тысячы вайскоўцаў, завезьлі атамную зброю. Вайскоўцы зь сем'ямі жылі ў спэцыяльных вайсковых гарадках, дзе беларускай мовы прынцыпова не вучылі. І дзяржава дазваляла ім гэта. Тым часам маладых беларусаў вывозілі на працу і сталае пражываньне ў Карэлію, Калінінградзкую вобласьць, Казахстан, Сібір, расейскія Поўнач і Далёкі Ўсход. Маладых спэцыялістаў-беларусаў пасьля ВНУ накіроўвалі па-за межы Беларусі, а сюды прывозілі небеларусаў, нават праваслаўных сьвятароў везьлі.

*— Адной з догмаў, якая ўбівалася ў галовы савецкіх беларусаў, была догма пра савецкі народ як непарушную еднасьць, маналіт, пра неабсяжную прастору СССР як радзіму. І Якутыя, і Эстонія, і Туркмэнія былі радзімай беларусаў, а вось Беласточчына — не. А вось жа грымнула незалежнасьць. Чаму вельмі хутка беларусы яе прынялі і ня сталі бараніць СССР?*

— Здарыўся зьбег акалічнасьцяў. Найперш, пачалася перабудова, быў створаны БНФ, які разбудзіў гістарычную памяць беларусаў, асабліва калі яны даведаліся пра Курапаты. Чарнобыльская катастрофа таксама вывела людзей на вуліцы і плошчы. Мясцо-

вае кіраўніцтва было супраць перабудовы і часткова падтрымала ў жніўні 1991 году путч. Незалежнасьць ураду была патрэбная, каб пазьбегчы пакараньня. І, вядома, палітыка Ельцына, які, змагаючыся за ўладу з Гарбачовым, мусіў абапірацца на Ўкраіну і Беларусь. СССР быў скасаваны менавіта ў Віскулях, на нашай зямлі. Такім чынам, самая савецкая частка СССР аддзялілася і мела жыць самастойна.

*— Але ж чаму так хутка прыйшлі да ўлады людзі, якія ў новых рэаліях незалежнай Беларусі і непазьбежнасьці рынкавых дачыненьняў, здавалася б, пайшлі насуперак лёгіцы? І сярод прыярытэтаў дэкларуюць, другое ўжо дзесяцігодзьдзе, захаваньне савецкіх каштоўнасьцяў, найперш ідэалягічных? Беларусь як запаведнік савецкіх каштоўнасьцяў — гэта дзяржаўная палітыка?*

— Мясцовае кіраўніцтва не прыняло рэформаў і вырашыла захаваць усю маёмасьць без рэформаў. Яно ня ўмела ствараць алігархічнага капіталізму, як гэта было ў Расеі. Пры гэтым настальгія па СССР, пры якім жыхары Беларусі жылі значна лепей, чым пры перабудове і ў першыя гады незалежнасьці, прывяла да ўлады сілы, якія напоўніцу скарысталі савецкі мэнталітэт беларусаў, што нарадзіліся і жывуць у запаведніку. І толькі цяпер, калі эканоміка ўжо ня можа жыць паводле савецкіх законаў і вырастае першае пакаленьне, якое нарадзілася ў 1990-я гады, гэты запаведнік можа неўзабаве адысьці ў нябыт.

*— Пры якіх абставінах можа быць разбураны міт пра Беларусь як запаведнік? Хто і калі можа выступіць ягоным разбуральнікам?*





— Разбуральнікам выступалі і выступаюць вонкавыя абставіны, якія закранулі ўсіх суседзяў і патрабуюць эканамічных рэформаў. Унутры Беларусі супраць савецкіх канонаў выступаюць шматлікія прадпрымальнікі, культурная эліта і студэнты. Цяпер да іх далучаецца частка намэнклятуры, якая хоча легалізаваць сваю маёмасьць хоць бы паводле расейскага ўзору. Усё гэта разам і стварае тую сілу, якая можа і павінна ліквідаваць савецкія мэнтальныя звычкі.

*— І пакуль беларусы гэтага міту не разбурылі, ці маглі б яны ім скарыстацца?*

— Яны пакуль і карыстаюцца гэтым напоўніцу. Дзякуючы адпаведным ідэалягічным абяцанкам Расея дае танныя энэрганосьбіты. А ў той жа час дзеці намэнклятуры навучаюцца за мяжой і рыхтуюцца прыняць уладу ўжо паводле іншых, несавецкіх, узораў.

*— І нарэшце, што трэба рабіць з матэрыяльнымі знакамі Беларусі як савецкага запаведніка, тымі сотнямі статуяў, бюстаў бальшавікоў, сярод якіх і людзі, што мелі ня толькі «замест сэрца палымяны матор», а і крывавыя рукі?*

— Трэба зноў жа браць прыклад з суседзяў, тых жа літоўцаў. Я прапаную стварыць музэй манумэнтальнай савецкай прапаганды. І разьмясьціць яго недалёка ад Курапатаў, каб людзі бачылі: вось яны — тыя, хто паліў крывёю Курапаты.

# Homo soveticus

*Савецкі чалавек — гэта перадусім хам, які зьявіўся на палітычнай авансцэне*



*Размова з Алесем Анціпенкам*

***— Што, з вашага гледзішча, ахоплівае такое азначэньне, як савецкі чалавек, ці, на лацінскі манер, — Homo soveticus?***

— Гэта прадукт камуністычнай таталітарнай сыстэмы. Гэта чалавек, пазбаўлены ўнутранай свабоды. Замбаваны камуністычнай ідэалёгіяй, ён вырозьніваўся ірацыянальнай верай у сьвятасьць камуністычных правадыроў, перамогу камунізму ва ўсім сьвеце, а таксама нянавісьцю да ворагаў народу і сацыялізму. Homo soveticus — новы чалавек, пазьней — будаўнік сьветлай будучыні для ўсяго чалавецтва. Сфармаваўся ў СССР да сярэдзіны 1930-х гадоў. Генэтычна і эвалюцыйна зьвязаны з расейскай патрыярхальнай сьвядомасьцю, саборнасьцю і абшчынным уладкаваньнем расейскага грамадзтва. На нерасейскіх тэрыторыях былога СССР «савок» найяскравей выявіўся там, дзе нацыянальныя адметнасьці карэнных народаў былі найбольш нівэляваныя.

*— А ці няма супярэчнасьці паміж такімі вызначэньнямі? Вы лічыце, што ў аснове «саўка» ляжыць расейская мэнтальнасьць?*

— Прататыпам савецкага чалавека зьяўляецца абшчынны чалавек, своеасаблівая квінтэсэнцыя расейскай гістарычнай мэнтальнасьці. Менавіта гаворка ідзе пра патрыярхальную абшчынную сьвядомасьць і пра веру ў казачную справядлівасьць і яе ўвасабленьне — добрага і справядлівага цара. За савецкім часам бальшавікі аднавілі тую самую мадэль уладкаваньня

грамадзтва, якая фактычна існавала ў XIX стагодзьдзі ў Расеі.

*— Што такое расейская мэнтальнасьць, зразумець ня цяжка. Кожная нацыя мае ўласьцівую ёй мэнтальнасьць. У аснове савецкасьці, паводле вызначэньня, не магла ляжаць нацыянальная прыкмета, хоць камуністы і гаварылі пра савецкую супольнасьць, якая ў пэрспэктыве мусіла замяніць нацыянальнасьць. Што ўласьціва савецкай мэнтальнасьці, якая прыходзіла на зьмену нацыянальнай?*

— Гэта мэнтальнасьць чалавека, уштукаванага ў савецкую сыстэму, падпарадкаванага ўладзе. Згадаем «Сабачае сэрца» Міхаіла Булгакава. Вобразы Швондэра і Шарыкава — гэта вобразы ўласна савецкіх людзей. Савецкі чалавек — гэта перадусім хам, які зьявіўся на палітычнай авансцэне. Гэта — чалавек, які пазбаўлены нават самага малога пачуцьця адказнасьці. Гэта — чалавек, які прэтэндуе на тое, каб усё паставіць пад свой кантроль.

*— На якім падмурку фармавалася савецкая мэнтальнасьць? Як хутка зьявіўся савецкі чалавек?*

— Савецкі чалавек адбыўся ўжо да сярэдзіны 1930-х гадоў. І сярод інструмэнтаў, якія сфармавалі савецкага чалавека, у першую чаргу былі страх і сыстэма пакараньня, якую мы ведаем у выглядзе ГУЛАГу. Камуністы імкнуліся кантраляваць сям'ю, рэлігію, мову — усе тыя сфэры, дзе магла выявіцца чалавечая індывідуальнасьць. Падмуркам быў і радыкальны разрыў з культурнай традыцыяй. На загад Леніна былі пагружаны на баржу і выпраўлены ў эміграцыю





расейскія інтэлектуалы. Савецкі чалавек — чалавек без традыцыяў, без апірышча. Гэта чалавек, якім лёгка маніпуляваць.

*— Як цягам дзесяцігодзьдзяў савецкай гісторы зьмяняўся ці эвалюцыянаваў homo soveticus?*

— На самым пачатку эвалюцыі савецкага чалавека Мікалай Бярдзяеў, які быў сярод тых, каго выслалі з савецкай Расеі, вызначаў савецкага чалавека як новы антрапалягічны тып, як тып мілітарнага чалавека, што выйшаў з вайны. Гэта — чалавек без палавых прыкметаў. На самым пачатку камуністы нават выступалі супраць шлюбаў. А ўсе тыя выгоды, якія былі натуральным прадуктам чалавечай цывілізацыі, часта лічыліся буржуазнымі перажыткамі. Такі чалавек мусіў быць самаахвярны і адданы камуністычнай ідэі. І ўжо пазьней савецкі чалавек мусіў усяго баяцца. Гэта быў цынік з падвоенай сьвядомасьцю. Калі напрыканцы Другой усясьветнай вайны Ларыса Геніюш сустрэлася ў Празе з савецкімі людзьмі, яна пісала: «Мы вельмі расчароўваліся ў гэтак званых савецкіх людзях, беларусах. Яны ішлі ўсімі падманамі да сваіх шкурных мэтаў, ня ведаючы ніякай этыкі, былі спрытнымі і хітрымі. Іх мэтады часам былі страшныя. Гэта былі ваўкі. Ніякай дабрыні і міласэрнасьці. І ніякай граніцы для зла. Гутарка зь імі не акрыляла, а насьцярожвала тым, што прыніжалі яны лепшае ў людзях і людзкасьці. Здавалася, што цяжкія варункі жыцьця ўжо даўно зьнішчылі ў іх розныя ідэалы, акрамя тых, якія ў дадзены момант аплачваліся».

*— Цынізм, эгацэнтрызм, невуцтва і хамства — самаразбуральныя рысы. Ці не да самазьнішчэньня ўрэшце эвалюцыянаваў савецкі чалавек?*

— Эвалюцыя савецкага чалавека і савецкай мэнтальнасьці завяршылася тупіком. У позьні пэрыяд сацыялізму, у брэжнеўскі пэрыяд, савецкі чалавек вызначаўся падвойным мысьленьнем. З аднаго боку, ён казаў, што падтрымлівае камуністычныя ідэалы, усімі сіламі імкнуўся ўступіць у камуністычную партыю. З другога — у той жа самы час шукаў «буржуазнага» дэфіцыту, калі ў савецкіх крамах нельга было купіць ні фінскіх боцікаў, ні крымпленавай марынаркі. Для савецкіх мужчынаў і жанчын ідэалам спажываньня аказаліся не савецкія тавары, а прадукты «гнілога» Захаду.

*— Ці ёсьць адрозьненьні паміж савецкім чалавекам, які жыў у Расеі, і савецкім чалавекам у нацыянальных рэспубліках былога СССР?*

— Безумоўна, ёсьць. Таму што савецкая мэнтальнасьць сфармавалася, абапіраючыся на шэраг важных міталягемаў расейскай мэнтальнасьці — саборнасьці, якая была замененая калектывізмам, расейскага мэсіянізму, які ў савецкім варыянце быў верай у перамогу камунізму ва ўсім сьвеце, самаўладзьдзі, замененым на адданасьць камуністычнай партыі і згуртаванасьць вакол аднаго лідэра, што выявілася ў культе асобы. Дзіўная рэч: за ўсю гісторыю савецкай улады не было ніводнага выпадку, каб паводле абвінавачаньня ў нацыяналізьме асудзілі хоць бы аднаго рускага чалавека. Затое ў іншых савецкіх рэспубліках, прыкладам, у Беларусі ці ва Ўкраіне, дзясяткі тысячаў людзей былі асуджаныя да ссылак і расстрэлаў за гэтак званую нацдэмаўшчыну. Пасьля Другой усясьветнай вайны паводле тых жа самых абвінавачаньняў цэлымі эшалёнамі вывозілі ў Сібір літоўцаў, латышоў, эстонцаў. Гэта





быў канвэер зьнішчэньня ўсяго, што магло супрацьстаяць савецкай мэнтальнасьці, бо якраз нацыянальная прыналежнасьць — адна з прыкметаў самавызначэньня чалавека як індывідуальнасьці. Невыпадкова, што распад Савецкага Саюзу пачаўся з адраджэньня нацыянальных ідэалёгіяў.

*— У паняцьці «савецкі чалавек» што ёсьць рэальнасьцю, а што — мітам?*

— Савецкі чалавек увогуле жыў мітамі. І ўся гісторыя, якую мы ведаем як гісторыю КПСС ці гісторыю СССР — гэта гісторыя мітаў. Індустрыялізацыя — тыя гераічныя высілкі былі зусім не патрэбныя, каб стварыць эфэктыўную прамысловасьць. І не патрэбная была тая калектывізацыя. Паралельна ў той жа самы час у заходніх краінах і прамысловасьць, і сельская гаспадарка разьвіваліся натуральным чынам і больш эфэктыўна. Саўковая мэнтальнасьць збудаваная з адных мітаў.

*— Сканаў Савецкі Саюз. Ці пашыраны такі тып савецкага чалавека ў сучасным постсавецкім беларускім грамадзтве?*

— Савецкі чалавек паступова сыходзіць са сцэны, але ў Беларусі ён быў і яшчэ застаецца даволі распаўсюджанай зьявай. Зусім невыпадкова першы беларускі прэзыдэнт пачынаў сваю дзейнасьць з апэляцыі да мітаў савецкай гісторыі.

*— Што адмоўнага і што станоўчага нясе беларускаму грамадзтву савецкі чалавек?*

— Гаворка ўвогуле ня можа весьціся пра нешта пазытыўнае. А адмоўных наступстваў той нашай

савецкай гісторыі зашмат. Найперш, савецкія людзі ня мелі ніякага пачуцьця адказнасьці, дый дагэтуль усяляк уцякаюць ад гэтай адказнасьці. Пры сацыялізьме ідэя працы фактычна была замененая ідэяй разьмеркаваньня. Савецкі чалавек — той, хто гатовы праяўляць працоўны гераізм, але зусім ня хоча працаваць. Працоўны гераізм і эфэктыўная праца — гэта зусім розныя рэчы.

*— Вы хочаце сказаць — тое, што сёньня Беларусь знаходзіцца на ўзбочыне Эўропы, ёсьць таксама і вынікам захаваньня савецкасьці ў гэтай краіне?*

— Гэта абсалютна адназначна, і кансэрвацыя гэтай савецкасьці, што адбылася адразу пасьля распаду СССР (а кансэрвацыяй займаўся сучасны беларускі рэжым), ёсьць адной з прычынаў таго, што мы знаходзімся на той фазе разьвіцьця, якую шэраг былых савецкіх рэспублік ужо прайшоў. Прычынай імклівай эвалюцыі былых савецкіх балтыйскіх рэспублік зьяўляецца разбурэньне савецкай мэнтальнасьці. Хоць, трэба прызнаць, гэта павольны працэс. Калі вы сёньня прыедзеце ў Вільню, то вам мо пашчасьціць сустрэцца з «саўком» нават у сталіцы гэтай краіны Эўрапейскага Зьвязу.

*— Мне падаецца, што апошнім часам беларускія ўлады, улучна з Аляксандрам Лукашэнкам, усё меней і меней апэлююць да савецкасьці. Ці гэта так? І чаму?*

— Гэта так. Таму што савецкасьць сыходзіць разам са старэйшымі генэрацыямі. Маладыя людзі ўжо ня маюць досьведу савецкага часу. Яны ўжо не былі ні акцябратамі, ні піянэрамі. Іх не вучылі адданасьці





камуністычнай партыі. Яны не сьпявалі песьняў, што яны — «дзеці рабочых». Да таго ж шмат хто зь іх і нарадзіўся ў горадзе. Шмат хто выхаваны на зусім іншых кнігах, песьнях, музыцы. Натуральна, што камуністычнасьць, савецкасьць, саўковасьць гістарычна павінны зьнікнуць.

*— Дык калі зьнікне савецкі чалавек і адначасна міт пра яго?*

— Савецкі чалавек зьнікне тады, калі людзі будуць мець прыватную маёмасьць, і калі права на валоданьне ёй будзе замацаванае ў законе, калі ня нейкія цьмяныя ідэалы, а менавіта пісаныя законы будуць грунтам грамадзкага жыцьця, калі ўлада будзе абмежаваная, калі мы пазбавімся аўтарытарных і таталітарных мэтадаў кіраваньня. Тады савецкасьць зьнікне абсалютна натуральным чынам, бо зьнікне тая база, на якой яна была збудаваная.

# Народ

*Сучаснае беларускае грамадзтва далучылася да міту пра народ савецкай пары, і ўлада гэта накіравана падтрымлівае*



*Размова з Тацянай Процькай*

***— У савецкі час існавала ідэалягема: народ — гэта рабочая кляса і калгасьнікі, усе астатнія — эліта, якая мусіць маўчаць і падпарадкоўвацца гэтаму народу. І ўсё ж, як у беларускай навуцы, савецкай і постсавецкай, вызначаецца паняцьце «народ»?***

— Возьмем, да прыкладу, Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У ім сьцьвярджаецца, што ў беларускай мове слова «народ» азначае: «1 — насельніцтва якой-небудзь краіны, дзяржавы; 2 — нацыю, нацыянальнасьць, народнасьць; 3 — асноўную працоўную масу насельніцтва; 4 — проста людзей».

*— Тут жа зусім супрацьлеглыя вызначэньні. Атрымліваецца, што любую групу людзей можна назваць народам? Гэта што — невуцтва замест навукі? Ці для такога вызначэньня ёсьць нейкія прычыны?*

— Мне падаецца, што такая дэфініцыя рабілася сьвядома, бо яна дае магчымасьці для розных ідэалягічных і палітычных маніпуляцыяў. Менавіта такое складанае і дастаткова супрацьлеглае вызначэньне паняцьця «народ» давала і дае падставы і магчымасьці для ягонай міталягізацыі. Згадзіцеся, што з аднаго боку — «тунеядцы», як раней казалі, проста лайдакі, злачынцы, наркаманы, прастытуткі — народ як частка насельніцтва, з другога — не, бо яны не працоўныя масы, не ствараюць матэрыяльных каштоўнасьцяў.

Бо доўгі час (увесь савецкі пэрыяд нашай гісторыі) да працоўных масаў адносіліся толькі тыя, хто ствараў матэрыяльныя каштоўнасьці. Адсюль і дыскусіі: інтэлігенцыя — гэта народ ці не?

*— Так, народ у савецкай навуцы і практыцы быў вельмі зручнай ідэалягемай. Вы ж, Тацяна, падкрэсьліваеце, што паняцьце «народ» нават міталягізавалася. Якім чынам? Чаму?*

— Каб адказаць на гэтае пытаньне, давайце разам успомнім устойлівыя, крылатыя, мэтафарычныя словазлучэньні са словам «народ». Менавіта ў іх заўсёды існуе асноўны сэнс міту. Там зафіксаваныя асноўныя сфэры распаўсюджваньня і асаблівага жыцьця міту. Калі ласка, Вячаслаў, пачынайце.

*— Народная мудрасьць, народная творчасьць, народная мэдыцына, душа народу, народны артыст, просты народ, голас народу, інтарэсы народу...*

— Гэты шэраг можна працягваць да бясконцасьці. Бо ўсё можа быць народным, калі вельмі захацець, прынамсі на словах — ад духоўнага да матэрыяльнага. Працягну і я з націскам на ідэалягічных аспэктах міталягемы «народ» — *савецкі народ, народная любоў, шчасьце народу, народная партыя, народны камісар, ворагі народу, народныя масы...* Далей — болей, калі нешта пазбаўляецца асабовага, прыватнага пачатку, губляе адушаўлёнасьць, можна навязваць такой супольнасьці і любыя дзеяньні і сьцверджаньні. Калі ласка: *народ заўсёды мае рацыю, народ ня можа памыліцца.* Людзі старэйшага веку, якія ўяўлялі





сябе савецкім народам, былі выхаваныя на падобных сьцьверджаньнях.

*— На гэтых людзей у грамадзтве перакладвалася адказнасьць за дзеяньні ўлады. І, такім чынам, ніхто ні за што не адказваў, бо дзейнічаў ад імя народу. Памятаецца, як на просьбу народу нават падвышаліся цэны.*

— Савецкі народ неабходна было любіць, рабіць усё ў ягоных інтарэсах, нават страціць жыцьцё за народ лічылася пачэсным. Таксама сьцьвярджалася, што народ кіруе дзяржавай праз сваіх прадстаўнікоў, а дзяржава ўсё робіць для народу. Унесьці асабісты ўклад у народнае шчасьце — мэта жыцьця кожнага чалавека. Так коратка можна выкласьці зьмест міту пра савецкі народ. Коратка можна зазначыць, што ў нас народ — гэта, як у Індыі, такая сьвяшчэнная карова, якую можна і не карміць, і прагнаць, але чапаць нельга — барані Бог!

*— Гэта пра савецкі народ. Вядома ж, гэта была не проста міталягема, а найперш ідэалягема. А ў іншых народаў такое ж складанае і супярэчлівае ўяўленьне пра народ?*

— У навуцы паняцьце «народ» вызначае тое, што мы далі ў дэфініцыі ад самага пачатку — устойлівая супольнасьць людзей, якая мае пэўныя адметныя рысы і ўсьведамляе сябе супольнасьцю. У ангельскай мове народ — гэта проста людзі. Але і іншыя народы таксама міталягізавалі сябе. Напрыклад, немцы лічылі сябе звышрасай, якая можа прэтэндаваць на ўсясьветнае валадарства, расейцы вераць у сваю, Богам ім наканаваную, унікальнасьць, яны бачылі і бачаць

свой адметны шлях разьвіцьця і ганарацца ўласнымі ўнёскамі ва ўсясьветную цывілізацыю. Амэрыканцы даволі хутка таксама стварылі міт пра сваю краіну як краіну ўсеагульных магчымасьцяў. Амэрыканец можа ўмомант з Папялушкі пераўтварыцца ў мільярдэра ці кіназорку. Міталягема «народ» уласьцівая ўсім народам.

*— Адкінем зараз убок ідэалягічнае шалупіньне савецкай пары. Ачысьцім ад яго паняцьце «народ». Ці ёсьць у беларусаў свой сапраўдны міт пра народ?*

— Вядома. Ёсьць міты пра беларускі народ, праз прызму якіх іншыя народы ўспрымаюць беларусаў. І ёсьць міты, якія мы самі пра сябе стварылі. Цікава, што ў бальшыні народаў зьнешнія і ўнутраныя міты адрозьніваюцца, а ў беларусаў яны амаль што аднолькавыя.

*— Якія ж гэта міты?*

— Беларускі народ — добразычлівы, гасьцінны, лагодны, даволі кансэрватыўны, працавіты, нехлусьлівы, цярплівы, неканфліктны, зь вельмі нізкімі патрабаваньнямі да жыцьця. Згадаю ўжо клясычнае: быў бы хлеб і не было б вайны — і можна жыць шчасьліва. Не з пустога папулярны палітычны лідэр коратка сфармуляваў сваю праграму як неабходнасьць забясьпечыць усіх беларусаў чаркай і шкваркай.

*— І што ж тут міталягічнага? Кожны скажа, што мы сапраўды такія.*

— Так, скажа. І ніколі не пацьвердзіць, што зайздросьціць, баіцца ўлады і адначасова яе ненавідзіць, што прагне заможнага прыгожага жыцьця. У гэтым і ёсьць спэцыфіка міту. Ён — ня штучнае ўтварэньне паліттэхнолягаў ці ідэолягаў. Калі міт жыве, значыць, ён патрэбны, ён выконвае пэўныя сацыяльныя задачы, дапамагае людзям выжываць і жыць. Міты, якія асабліва падабаюцца беларусам, дапамагаюць захаваць пачуцьцё асабістай годнасьці, значнасьці сваёй ролі ў разьвіцьці краіны, дзяржавы. Чаму, напрыклад, беларусы ня хочуць ніяк адрэагаваць на масавыя падробкі вынікаў выбараў? Таму што тады разбурыцца міт пра тое, што мы выбіраем, што ад нас залежыць вынік выбараў. Разбурыцца міт пра ўладу народу.

*— А ў сучасным грамадзтве ў якой форме існуе міт пра народ?*

— У сучасным грамадзтве распаўсюджанай зьяўляецца форма дзяржаўных мітаў. Яны могуць быць зафіксаваныя ў літаратуры, выяўленчым мастацтве, гістарычных і філязофскіх працах, гэтак званай дзяржаўнай ідэалёгіі. І тут распаўсюджваньнем міту пачынае займацца ўжо дзяржава са спэцыяльным апаратам людзей і сродкаў. Спэцыфікай міту аб народзе зьяўляецца тое, што ягоным носьбітам у сучасным беларускім грамадзтве зьяўляецца як само насельніцтва, гэтак і дзяржава. Сучаснае беларускае грамадзтва далучылася да міту пра народ савецкай пары, і ўлада гэта накіравана падтрымлівае.

*— Як ён фармаваўся?*

— З наданьня слову «народ» станоўчага сэнсу так званымі «народнікамі» — удзельнікамі руху інтэлігенцыі ў другой палове XIX стагодзьдзя. Народнікі лічылі сялянскую грамаду найлепшай формай грамадзкіх

дачыненьняў, а сялянства — найбольш прагрэсіўнай часткай грамадзтва. Бальшавікі, якія адмовіліся ад асноўных пастулятаў народнікаў, узялі ў іх, аднак, погляды на народныя масы як на галоўны фактар грамадзкага разьвіцьця. Толькі да сялянаў дадалі яшчэ і рабочых. Бальшавікі і распрацавалі сучасныя міты пра народ. Праўда, пры бальшавіках ён называўся савецкім народам. Але, адмовіўшыся ў цэлым ад бальшавіцкай сыстэмы ўлады і эканамічных адносінаў, мы поўнасьцю захавалі бальшавіцкія міты.

— *І якія гэта мела наступствы?*

— Самыя розныя. Па-першае, гэта дапамагло захаваць стабільнасьць, якой беларуская дзяржава вельмі ганарыцца. Па-другое, дапамагло ўмацавацца ва ўладзе тым палітыкам, якія бачылі неабходным рэстаўрацыю сацыялізму з «чалавечым абліччам». Па-трэцяе, замарудзіла, а ў асобных галінах і спыніла разьвіцьцё дэмакратыі ў Беларусі. Па-чацьвертае, гэта зрабіла камфортным пераход да новай сыстэмы каштоўнасьцяў для значнай часткі беларускага насельніцтва, асабліва пэнсійнага ўзросту, хоць і значна прытармазіла ўмацаваньне гэтай сыстэмы.

— *Чаму гэта адбылося?*

— Савецкія міты былі скіраваныя ў будучыню, яны адцягвалі ўвагу ад праблемаў сучаснасьці, знаходзілі простыя і зразумелыя тлумачэньні розным зьявам грамадзтва, у тым ліку і палітычным. Цэнтральным паняцьцем гэтых мітаў, вядома ж, зьяўляецца народ. Не выпадкова, калі людзі дэмакратычных перакананьняў толькі паспрабавалі разбурыць міт пра беларускі народ, супрацоўнікі абвінавацілі іх у тым, што дэмакраты





ня любяць свайго народу. Нават прэзыдэнт краіны гэта публічна выказваў. Захаваньню старых мітаў спрыяе закрытая інфармацыйная прастора, адзяржаўленьне тэлебачаньня, неразьвітасьць інстытуту прыватнай уласнасьці. У краінах былога СССР, дзе гэтыя хібы зьліквідаваныя, савецкіх мітаў ня згадваюць, людзям яны ўжо непатрэбныя.

— *Як суадносяцца прастора міту і прастора рэальнасьці ў сучаснай Беларусі? Чаму самі людзі вельмі часта гавораць не ад сябе, а ад імя мітычнага народу?*

— Колькасьць насельніцтва меншае, штогод нас усё меней, беларуская мова як адметная прыкмета народу не разьвіваецца, кола яе ўжываньня звужаецца. Пад пагрозай эканамічная самастойнасьць беларусаў і, як вынік, і палітычная. Ёсьць яшчэ шмат іншых праблемаў. І каб не задумвацца над гэтымі праблемамі, не псаваць сабе настрою, людзі пачынаюць ужываць міт пра сябе як пра заможны, шчасьлівы, квітнеючы беларускі народ. Так прасьцей, і няма адказнасьці. Існаваньне ў прасторы міту больш камфортнае, чым у прасторы рэальнасьці.

— *І што б сталася, калі б раптам міт пра народ зьнік увогуле?*

— Думаю, людзі адчулі б сябе вельмі няўтульна. У расейскага пісьменьніка і публіцыста Пісарава ёсьць апавяданьне пра людзей, якія ўвесь час жылі ў цемры. І калі герой запаліў сьвятло, усе ўбачылі, якія яны брудныя, непрыгожыя. Тады яны затушылі сьвятло, а героя забілі. Пра гэта заўсёды трэба памятаць, калі хочацца раптоўна памяняць міты. На шчасьце, міты

проста так не зьнікаюць. Павінны значна зьмяніцца абставіны жыцьця, нават павінны сфармавацца новыя міты. У нас гэты працэс ужо пайшоў. Створаны міт пра прэзыдэнта, які ўсё можа, дбае пра інтарэсы народу і гэтак далей. Гэты новы міт паціхеньку выцiскае стары міт пра ўладу народу, пра бязгрэшнасьць народу, пра мудрасьць народу. Гэтыя і іншыя якасьці пераходзяць да прэзыдэнта, які ўжо і назву *Бацька* атрымаў. Адзінае, дзе народ яшчэ можа паводле афіцыйнай вэрсіі выявіць сваю мудрасьць — гэта правільна выбраць прэзыдэнта ці дэпутатаў парлямэнту. Аднак у Беларусі гэтая працэдура настолькі фармалізаваная, што ўсур'ёз значнай часткай насельніцтва не ўспрымаецца.

— *А як быць зь любоўю да народу?*

— Ня думаю, што гэта міт. Ва ўсялякім разе для мяне гэта рэальнасьць жыцьця. Бо для мяне народ — канкрэтныя жывыя людзі, зь якімі я сустракаюся ў маім жыцьці, якія радуюцца і пакутуюць, нараджаюцца і паміраюць. У Старым Запавеце Бог сказаў, што мае толькі адзін любімы народ, у Новым Запавеце нам адкрылі, што любоў Божая распаўсюджваецца на ўсе народы. Для верніка гэтага дастаткова, а няверуючы будзе ствараць сабе розныя іншыя міты. І нават скажа, што Бог — таксама міт.

— *Як доўга праіснуе гэты самы пашыраны і ўкаранёны ў беларускую сьвядомасьць міт пра народ? І што станецца з народам, калі згіне міт пра яго?*

— Я думаю, што міт пра народ ня згіне ніколі, бо народ — людзі, насельніцтва — ня могуць існаваць бязь мітаў. Іншая рэч, што сучасныя папулярныя міты





зьменяцца, трансфармуюцца ў іншыя. Напрыклад, міт пра тое, што народ заўсёды мае рацыю, згіне пасьля таго, як будзе разбураны міт пра першага прэзыдэнта. А гэта здарыцца, калі людзі адчуюць адказнасьць за сваё жыцьцё і ня будуць перакладаць яе на плечы дзяржавы. У новым жыцьці будуць новыя міты.

# Камунізм

*Самая спакусьлівая
з усіх спакусаў
камуністычнага міту:
людзі ва ўсе часы хацелі,
каб гэты міт быў
рэальнасьцю*



*Размова з Тацянай Працькай*

***— Камунізм — агульная назва канцэпцыяў пра ідэальную грамадзкую арганізацыю, а таксама гіпатэтычны грамадзкі і эканамічны лад, заснаваны на поўнай роўнасьці і грамадзкай уласнасьці на сродкі вытворчасьці. Камунізмам таксама называюць тып грамадзтва, першы ўзор якога быў створаны ў СССР і ў якім сфармаваліся цяперашнія людзі сярэдняга і старэйшага пакаленьня на адной шостай частцы Зямлі, улучна зь Беларусьсю. Чаму міт пра камунізм такі спакусьлівы, прывабны?***

— Камунізм — міт бедных колаў грамадзтва. Чым больш заможнае грамадзтва, тым міт пра камунізм менш папулярны.

*— Люмпэн кідкі на спакусы. У чым спакуса камунізму?*

— Спакусаў шмат. Першая: камунізм — гэта ўяўленьні людзей пра райскае (ці найлепшае) жыцьцё ня ў боскім Эдэме, а на ўсёй Зямлі. Другая — рай, пабудаваны людзьмі на зямлі і бяз Бога, якога ня трэба слухацца, баяцца, любіць. Больш за тое, чалавек сам станавіўся гаспадаром прыроды, богам гэтага сьвету. Трэцяя — пры камунізьме ўсе людзі роўныя: няма падзелу на багатых і бедных, разумных і дурных, прыгожых і непрыгожых, моцных і слабых, здаровых і хворых. Чацьвертая — кожны можа кіраваць усімі,

калі ёсьць жаданьне. Пятая — кожны атрымоўвае за сваю працу тое, што захоча, чаго душа пажадае. Шостая — няма прыватнай уласнасьці, ёсьць толькі ўсеагульная, а гэта значыць — «усё маё».

*— Давайце спынім пералік, бо можна да бясконцасьці паўтараць ледзь ня ўсе чалавечыя спакусы, якія прысабечыў камунізм. Але ж нейкая адна спакуса мусіць усе гэтыя спакусы падпарадкаваць сабе?*

— Яна ёсьць. Самая спакусьлівая з усіх спакусаў камуністычнага міту: людзі ва ўсе часы хацелі, каб гэты міт быў рэальнасьцю.

*— Але існуе меркаваньне дыямэтральна супрацьлеглае, што камуністычная ідэалёгія ўвогуле злачынная. Якая падстава меркаваць менавіта так?*

— Камуністычная ідэалёгія пабудаваная на адмаўленьні інстытуту прыватнай уласнасьці. Краіны ж Заходняй Эўропы і Амэрыкі пабудавалі сваю эканоміку на падмурку інстытуту прыватнай уласнасьці. Таму для іх камуністычная ідэалёгія разбуральная, варожая, злачынная.

*— Калі ў 1960-я гады з высокіх трыбунаў казалі, што «сучаснае пакаленьне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізьме», мелася на ўвазе ня толькі тэарэтычная мадэль. На што абапіраліся аўтары гэтай ідэі?*

— Так, канечне, не тэарэтычная. Людзі ня толькі заўсёды хацелі зрабіць гэты міт рэальнасьцю, а і рабілі. Так, у Беларусі камуністы існавалі ня толькі ў савецкі





час. Камуністамі называліся рымска-каталіцкія ксяндзы, якія мелі сваё аб'яднаньне з статутам, зацьверджаным Папам Рымскім у 1684 годзе. Абшчына такіх камуністаў (яны называліся «дамы»), якія абавязаліся жыць сумесна, мець агульны прыбытак, дапамагаць адзін аднаму, клапаціцца пра сваю цнатлівасьць, існавала ў Пінску, у іх быў свой касьцёл Сьвятога Барамея ў Караліне каля Пінску. «Дамы» камуністаў у Расейскай імпэрыі былі зачыненыя разам з каталіцкімі кляштарамі ў 1830—1860-я гады. Так што міт пра камунізм вядомы ўжо дастаткова даўно.

*— У XX стагодзьдзі камуністычны міт выявіўся ў ляканічных і выразных лёзунгах: «Ад кожнага — паводле здольнасьцяў, кожнаму — паводле патрэбаў», «Чалавек чалавеку — сябра, таварыш і брат», «Камуністы заўсёды наперадзе» і іншых. Хто быў стваральнікам і носьбітам у Беларусі камуністычнага міту?*

— Камуністычны міт распрацоўваўся, падтрымліваўся і распаўсюджваўся ў Беларусі без малога стагодзьдзе — з 1917 году ў якасьці дзяржаўнай ідэалёгіі, а ў апошняе дзесяцігодзьдзе — пры яўнай падтрымцы дзяржавы. У залежнасьці ад абставінаў унутранай і замежнай палітыкі камуністычны міт мадэрнізаваўся, удакладняўся, тлумачыўся. Былі вызначаныя этапы, фазы ў пабудове камунізму. Адрозна, напрыклад, ад Францыі, у Беларусі міт «камунізм», безумоўна, дзяржаўны. Для вырашэньня мэтаў і задач камунізму тут існавала нават спэцыяльная кляса чыноўнікаў. Яны называліся ідэалягічнымі работнікамі. Носьбітамі ідэяў камунізму ў грамадзтве зьяўляліся камуністы — сябры адзінай дзяржаўна-грамадзкай палітычнай

структуры, Камуністычнай партыі Савецкага Саюзу (КПСС). Адной са структураў КПСС зьяўлялася Камуністычная партыя Беларусі.

*— Беларусы гэтак жа ставіліся да камуністычнага міту, як і іншыя народы былога СССР, ці ўсё ж неяк інакш?*

— Беларусы да гэтага міту спачатку ставіліся дастаткова прыхільна. Відаць, таму, што кастрычніцкі дзяржаўны пераварот, які пазьней назвалі рэвалюцыяй, тут быў фактычна бяскроўны, да ўсталяваньня савецкай улады людзі ставіліся ляяльна. Тым болей, што характэрных для цэнтральнай Расеі адмоўных зьяваў ва ўсталяваньні дыктатуры пралетарыяту ў Беларусі было значна меней. Хоць і зьбіраліся выслаць Лёсіка як буржуазнага інтэлігента, але нікога ня выслалі. У Расеі ж выслалі каля 200 знакамітых вучоных-гуманітарыяў, якія не пагадзіліся з камуністычнай уладай. Хоць і брalі закладнікаў, але пераважна з багатых і польскай нацыянальнасьці, адразу не расстрэльвалі, трымалі для абмену на чырвонаармейцаў, што трапілі ў палон у часе Польска-савецкай вайны. Акрамя таго, камуністычныя ўлады абвясьцілі Беларусь рэспублікай, гэта значыць, дзяржавай. Хоць і з абмежаванымі правамі, але далі магчымасьць размаўляць па-беларуску і ганарыцца беларускай мовай, зрабіўшы яе дзяржаўнай. У Беларусі пачалі раздаваць зямлю, хоць і малымі надзеламі. Далі магчымасьць, як цяпер гавораць, займацца малым бізнэсам. І хоць адкрыўся ў Менску канцэнтрацыйны лягер у 1919 годзе, але таксама парадкі там спачатку былі даволі ляяльныя. Паводле Рыскай дамовы, палякам гарантавалася магчымасьць хадзіць у касьцёл. Тыя беларусы, якія не хацелі губляць веры, назваліся





палякамі і маглі маліцца ў храмах. Аднаўленчы рух у Рускай праваслаўнай царкве ня быў забаронены і карыстаўся падтрымкай улады. Праваслаўныя храмы таксама працавалі, хоць бальшавікі канфіскоўвалі царкоўнае багацьце. Да масавай калектывізацыі, масавага закрыцьця храмаў у 1935—1937 гадах, зьнішчэньня хутароў у 1939 годзе значная частка беларусаў памяркоўна ўспрымала савецкія пераўтварэньні, пры гэтым як простыя працаўнікі, так і інтэлігенцыя. Трэба зазначыць, што тых, хто думаў па-іншаму, адсочвалі спэцслужбы, кідалі ў ГУЛАГ ці проста забівалі. Камунізм і страх сталі сынонімамі. Зьнешне падтрымліваць камуністычную ідэалёгію было і выгадна, і давала адчуваньне бясьпекі.

*— Але ж ня ўсе падтрымлівалі камуністычную ідэалёгію, нават на пачатку станаўленьня савецкай улады. Мы ведаем пра арганізацыю ў пачатку 1920-х гадоў падпольнай сялянскай партыі «Зялёны дуб», пра Слуцкі збройны чын, пра Аршанскае паўстаньне.*

— Канечне, супраціў быў. Ён перш за ўсё тычыўся спосабаў рэалізацыі міту. Але, на жаль, ён ня быў масавы, ня быў пасьпяховы. Цяпер гісторыкі, не беларускія, больш расейскія, украінскія, займаюцца аналізам таго, як бальшавікам удалося замацавацца ва ўладзе, падавіць супраціў. Розныя прычыны называюцца, сярод іх галоўнае месца займаюць прымус з боку дзяржавы і тэрор, але, мяркую, адна зь немалаважных прычынаў тая, што беларусы спакусіліся на камуністычныя даброты і абяцанкі. І каб замаскаваць свае спакусы, яны з самага пачатку сталі аддзяляць ідэю ад выканаўцаў, камунізм ад ягонага носьбіта —

камуністаў. Калі што добрае — гэта ўвасабленьне ідэі ў жыцьцё. Калі што благое — вінаватыя канкрэтныя людзі: Ленін, Сталін, Дзяржынскі, іншыя кіраўнікі. Ідэя — ні прычым, партыя — ні прычым і, вядома, народ — ні прычым. Між іншым, гэты падыход і сёньня пасьпяхова выкарыстоўваецца, асабліва пры ацэнцы падзеяў савецкага часу.

*— І ўсё ж мне падаецца, што беларусы не былі масавымі прыхільнікамі камуністычнага міту. Дастаткова згадаць, як яны называлі камуністаў. «Камунякі» — ці ня самая бяскрыўдная з гэтых мянушак.*

— Гэтая мянушка першапачаткова зьвязаная са словам «камуна». У 1918—1919 гадах на месцах буйных памешчыцкіх маёнткаў ствараліся сельскагаспадарчыя прадпрыемствы — камуны. Ствараліся яны паводле камуністычных прынцыпаў: абагульненьне ўсіх сродкаў вытворчасьці, калектыўнае бытавое абслугоўваньне (сталовая, яслі, садкі), роўная аплата працы, у асобных выпадках — сумеснае пражываньне. Памешчыцкія гаспадаркі мелі добры інвэнтар, тэхніку, шмат іншага багацьця, апрацаваную зямлю. Усё гэта было аддадзена камунарам — самым бедным сялянам, якія нават зямлі ня мелі. Скончыўся гэты экспэрымэнт ў Беларусі ўжо ў 1920 годзе — маёмасьць былых маёнткаў проста разьнесьлі па хатах, а самі камунары разьбегліся. Буйныя сельскія памешчыцкія гаспадаркі былі незваротна зьнішчаныя. Вядома, людзі адмоўна паставіліся да такога камунізму. Камунякі — гэта, як казала мая бабуля, лайдакі і галадранцы.

*— І ўсё ж, калі пры канцы 1980-х гадоў на вуліцы Менску пад сьцягамі БНФ і палкімі прамовамі Зянона Пазьняка выйшлі дзясяткі тысячаў людзей, з майго гледзішча, яны найперш выступалі супраць камуністычнай улады, а не за незалежную Беларусь. Памятаю ў 1991 годзе масавыя акцыі пахаваньня камунізму і акцыю выгнаньня камуністычнай нячыстай сілы з будынку ЦК КПБ на вуліцы Карла Маркса, 38. Чаму раптам беларусы так рэзка выказалі нянавісьць да камуністаў?*

— Не магу пагадзіцца, што людзі выступалі супраць камуністычнай ідэалёгіі. Нават беларускія навукоўцы ня маюць грунтоўных антыкамуністычных дасьледаваньняў. Людзі выступалі перш-наперш супраць камуністычнай партыі як адзінага кіраўніка дзяржавы, супраць хлусьні і падману. Таму, як толькі ўзьнікаюць нейкія эканамічныя цяжкасьці, старыя людзі пачынаюць казаць — вось тады было добра, каўбаса і гарэлка былі танныя.

*— Але прайшоў непрацяглы час, і камуністычны міт у Беларусі зноў ажыў і пачаў раскручвацца пэўнымі сіламі, нягледзячы на тое, што крамы заваленыя каўбасой. Хто і чаму раскручвае міт?*

— Цікавая дынаміка росту і зьмяншэньня распаўсюднікаў камуністычнага міту. Калі мы возьмем статыстыку колькасьці сяброў КПБ, то пабачым, што іх штогод большала, і ў 1990 годзе партыя мела 685 270 сяброў і 12 338 кандыдатаў. Але ўжо ў 1996 годзе ў КПБ засталіся толькі каля 7000 сяброў. Як толькі камуністы перасталі быць кіроўнай дзяржаўнай структурай, колькасьць іхная зьменшылася, папулярнасьць рэзка ўпала. Людзі цяпер інкрымінуюць камуністам, асабліва ідэалягічным работнікам, насаджэньне масавага атэізму, пазбаўленьне ўласнасьці на зямлю, масавую, на

дзяржаўным узроўні хлусьню. Але частка людзей, якія, як яны самі кажуць, атрымалі ад савецкай улады «ўсё», засталіся прыхільнікамі камунізму. Яны падтрымалі дзейнага прэзыдэнта, разам сталі кіраваць. Яны лічылі, што камунізм можна пабудаваць часткова — узяць ад яго ўсё найлепшае, прыкладам, сацыяльную абарону, а горшае адрынуць. Тое, што дагэтуль не атрымалася, — дык кадры былі ня тыя, дрэнныя. Знойдзем новыя — і пабудуем. У гэтых людзей была падтрымка і ў Расеі, яны будавалі адзіны камуністычны фронт, сваю «лінію Сталіна».

*— З распадам СССР і камуністычнага лягеру зьменшылася колькасьць камуністаў і ў сьвеце. Можна сказаць, што камуністычны міт ціхенька канае?*

— Можна, вядома, але я ня маю вялікага аптымізму. Пакуль жывыя людзі, якія бачылі «даброты» рэальнага камунізму, у грамадзтва ёсьць прышчэпка ад гэтай хваробы. Але спакусы засталіся. Сусьветнае грамадзтва, каб людзі ведалі праўду пра рэальны камунізм, друкуе кнігі з апісаньнем рэальнага, а не мітычнага камунізму. Адна зь іх называецца «Чорная кніга камунізму». У гэтай кнізе на падставе дакумэнтаў гаворыцца пра тое, што камунізм за час панаваньня ў XX стагодзьдзі забраў жыцьці каля 95 мільёнаў людзей. Таму камунізм — адзін з самых жахлівых мітаў.

*— Ці існуюць рэальныя падставы для паміраньня міту пра камунізм у Беларусі? А можа ён на гэтай зямлі будзе жыць вечна?*

— Рэальны магільшчык камунізму — толькі інстытут прыватнай уласнасьці. Калі людзі стануць уласьнікамі, яны адчуюць адказнасьць за гэтую ўласнасьць, за свой лёс. Ім будзе патрэбны закон — сапраўдны, а не мітычны, які мелі ў камуністычны час. І падставы для надзеі ёсьць. Але баюся, каб у нас капіталізм не зрабіўся мітам, як раней камунізм.

# Ленін

*Ленін згадваў Беларусь вылучна ў зьвязку з чарговымі геапалітычнымі гульнямі*



*Размова зь Вінцуком Вячоркам*

***— Ленін — адна зь некалькіх асобаў у гісторыі чалавецтва XX стагодзьдзя з найвышэйшай ступеньню міталягізацыі. Гэты міт пакрывае ледзь ня ўсю зямную кулю. Якая гістарычная падстава для такой глябальнай міталягізацыі?***

— Пра глябальную міталягізацыю разважаць не магу. Хаця вуліцы й плошчы Леніна можна знайсьці ў гарадах Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амэрыкі і нават Заходняй Эўропы (Францыя, Італія). Арэал ягонага культываваньня ў прынцыпе супадае з тэрыторыяй дзейнасьці камуністычных (ленінісцкіх) партыяў. Патрэба апошніх у міце пра Леніна ўзмацнілася пасьля раскрыцьця праўды пра савецкі камунізм, каб было каго процiпаставіць Сталіну.

*— Прапаную стаць на беларусацэнтрычнае гледзішча: ці быў (ёсьць, будзе) гэты міт у беларусаў?*

— Мітам пра Леніна ягоныя творцы імкнуліся заняць стандартную для міталягічнага падзелу функцыяў нішу: *абярог*, *волат*, *абаронца*. Прычым — абаронца ўбогіх. Дасьледнік міталягічнага сьветапогляду Ігар Вуглік піша: «...была створаная новая міталёгія і рэлігія са сваім раем (камунізмам), сьвятымі месцамі (чырвоны куток, сьвятарны агонь, Маўзалей, Палац зьездаў), багамі і героямі. Людзі верылі, што найвышэйшае кіраўніцтва валодае незвычайнымі магчымасьцямі. У творах беларускіх літаратараў таго

часу Леніна мае рысы ўладара прыродных стыхіяў, міталягічнага творцы, там так і пісалася, што як ён нахмурыць бровы — бура пачынаецца». Я б не пагадзіўся тут з адным — з тым, што менавіта беларусы масава верылі ў панадпрыродную сілу Леніна і да яго падобных.

*— Каб рэальная постаць стала мітам, адных яе заслугаў мала. Патрэбна, каб існавала адпаведная, так бы мовіць, псыхалягічная глеба, на якой гэтае зерне ўскаласілася б. Чым так прывабны быў Ленін і ягоныя ідэі для псыхалёгіі?*

— Сацыяльнаю глебаю такіх мітаў ёсьць маргінальныя й люмпэнізаваныя як са сваёй віны, так і зусім не вінаватыя ва ўласнай беднасьці людзі. Для зьняверанай Расеі, дзе нацыянальная ідэя непазьбежна заражалася імпэрскасьцю, Ленін быў увасабленьнем простага разьвязаньня няпростых пытаньняў. Для Беларусі выратавальнай ідэяй была нацыянальна-незалежніцкая, і Ленінам зь ягонымі сэнтэнцыямі пазьней спрабавалі прыкрывацца і ратавацца нашыя адраджэнцы, змушаныя дастасоўвацца да бальшавіцкіх правілаў (згадайма Ленінава: «Для ўкраінцаў і беларусаў [адрозна ад заходніх эўрапейцаў. — *В. В.*], напрыклад, толькі чалавек, што ў марах жыве на Марсе, мог бы адмаўляць, што тут няма яшчэ завяршэньня нацыянальнага руху, што абуджэньне масаў да валоданьня роднаю мовай і яе літаратурай (а гэта неабходная ўмова і спадарожнік поўнага разьвіцьця капіталізму, поўнага пранікненьня абмену да апошняй сялянскай сям'і) — тут яшчэ адбываецца. «Айчына» тут яшчэ ня сьпела ўсяе свае гістарычнае песьні...». Якое ўтылітарнае стаўленьне да ўсіх нашых сьвятыняў — Бацькаўшчыны, мовы, культуры (апошнія толькі інструмэнт пашырэньня рынку, неўзабаве адыграюць сваё й сыдуць у нябыт).





*— Ленін вельмі хутка станавіўся мітам. Гэты міт фармаваўся стыхійна, падсьвядома ці мэтанакіравана? Перадусім у СССР?*

— Безумоўна, мэтанакіравана. Бальшавіцкая *канцэпцыя* правадырства наўпрост прадугледжвала культ лідэра. Ленін прасоўваў плян мэмарыялізацыі ранейшых камуністычных пратаганістаў ды ідэолягаў, на аснове якога зручна й плянава быў пераўтвораны ў стодзіва сам Ленін. Ня варта перабольшваць пранікненьня гэтага міту ў глыбіню сьвядомасьці беларусаў. Я б казаў пра рытуальнае пакланеньне, абрады якога ўсе ведалі і на публіцы выконвалі. Культ — гэта рытуал. Міт ёсьць у вялікай ступені сакральным імем. Помнікі й барэльефы, вуліцы, іменныя назвы заводаў, унівэрсытэтаў і мэтрапалітэнаў, назвы гарадоў і вёсак — такога шырокамаштабнага й тэхналягічнага ўкараненьня міту, бадай, папярэдняя гісторыя ня ведала. З шматлікіх ленінскіх назоваў паселішчаў і калгасаў заступлюся за палескае мястэчка Ленін у Жыткавіцкім раёне, якое звалася так спрадвеку (а тамтэйшыя краязнаўцы ў парыве легальнага патрыятызму імкнуліся даказаць, што якраз правадыр пераназваўся ў гонар мястэчка).

У захаваньні міту пра Леніна быў зацікаўлены Сталін, які праектаваў гэты міт і на сябе. Камуністы пайшлі на дэсталінізацыю, але нават падчас адлігі 1960-х не маглі вырачыся пэрсаніфікаванага ў асобе Леніна камуністычнага міту.

*— Як, калі і чаму гэты міт хутка перайшоў межы адной шостай зямной кулі?*

— Сапраўды перайшоў. Але гэты міт усё ж не пасуе да Эўропы. Пашыраўся ён найперш у краінах Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амэрыкі. Давялося бачыць на Сыцыліі камуністычную дэманстрацыю супраць прыезду Гілары Клінтан, а потым забрысьці ў раён Палерма, пакрыты графіці накшталт *Lenin Suca* — дык і дэманстрацыю ладзілі, і раён засялялі людзі прыежджага аблічча.

*— Міт пра Леніна існуе на ўсіх узроўнях беларускага грамадзтва. Якія заслугі перад Беларусьсю Ленін напраўду мае? Як зьвязаны Ленін зь Беларусьсю?*

— Наконт заслугаў можна было б казаць, калі б нашая краіна здабыла незалежнасьць у выніку падзеяў 1917-га і наступных гадоў. Нямала манаграфіяў было напісана пра повязі Леніна й тутэйшых левых («В. И. Ленин и революционная Белоруссия» і г. д.), аднак толькі наконт ідэйных уплываў. Ніяк Ленін зь Беларусьсю эксклюзіўна не зьвязаны й не бываў у нас. Як кажа гісторык Аляксей Кароль, той хіба раз праяжджаў празь Беларусь, цягнік пятнаццаць хвілінаў стаяў у Менску. Ленін згадваў Беларусь вылучна ў зьвязку з чарговымі геапалітычнымі гульнямі. Нашую зямлю ўсе вакол, у тым ліку і бальшавікі, трактавалі як разьменную манэту. Да перамоваў у Берасьці ў 1918 годзе беларусы не былі дапушчаныя, і Берасьцейскі мір, паводле якога акупанты дзялілі нашую краіну, заключаўся бальшавікамі без удзелу беларусаў. Ленін без ваганьняў здаваў Менск немцам ці палякам, потым патрабаваў назад (і трэба чарговы раз зьняць капелюшы перад айцамі БНР, што скарысталі час паміж акупацыямі для стварэньня праўнага грунту ды інстытутаў незалежнае беларускае дзяржавы). А потым — то нам сталіца Смаленск, то Менск. То ЛітБелССР, то ССРБ. То Вяліж — Себеж — Невель лічаць беларускімі, то, каб не дасталіся наступальным палякам, перапісваюць усё тамтэйшае насельніцтва расейцамі. І гэтак далей.





*— У які пэрыяд гісторыі Беларусі міт пра Леніна пачынае пераўтварацца ў ідэалягему, надзвычай запатрабаваную дзяржавай, кіроўнай і адзінай партыяй?*

— Ад пачатку гэта і была ідэалягема, якую сіліліся пераўтварыць у міталягему. Сам Сталін, з аднаго боку, мусіў зьвяртацца да Ленінавага міту, бо пазыцыянаваў сябе як нашчадак і намашчоны прадаўжальнік; з другога боку — ён хацеў як мага хутчэйшага выцісканьня сваім мітам міту пра Леніна. Дый працягласьць кіраваньня аднаго й другога непараўнальная. Магчыма, гэтым тлумачыцца слабая прысутнасьць Леніна параўнальна з Сталіным у аўтэнтычным фальклёры — у палітычных показках. Магчыма таксама, што грамадзтва не пасьпела асэнсаваць сатанінскай сутнасьці палітыкі Леніна з браку часу (памёр у 1924 годзе, ад справаў адышоў раней, а сытуацыя ва Ўсходняй Беларусі больш-менш стабілізавалася толькі ў 1921—1922 гадах), але для ўразуменьня д'ябальшчыны, якую ажыцьцяўляў Сталін, хапіла часу амаль двух пакаленьняў.

*— У якіх формах існаваў і пашыраўся міт пра Леніна? Ці розьніліся формы існаваньня міту пра Леніна ў Беларусі ад іншых рэспублік, краінаў сацыялістычнага лягеру?*

— Ад палякаў, відавочна, розьніліся. У іх былі сьмяшнейшыя ды больш пашыраныя показкі. Вось

самая папулярная. У ПНР настаўніца пытае дзяцей: «Хто ваш любімы герой і чаму?» Падымаецца Ясь і кажа: «Ленін, бо ён любіў дзяцей і ўсё такое». Настаўніца: «Сядай, Ясю. Выдатна!» Ясь з сумным выглядам сядае, дастае з-пад лаўкі разгорнутую кніжку і кажа: «Sorry, Вінэту, — бізнэс ёсьць бізнэс...» Нездарма ў самым пачатку 1990-х гадоў першым пытаньнем-воклічам маладога журналіста-паляка, які прыехаў у Менск, было: «Ile u was tutaj leninków!?» Уявіце, як успрымалася на такім натуральным фоне афіцыйнае найменьне «Гданьская суднавэрф імя У. І. Леніна». Па-сапраўднаму Ленін свой толькі для Расеі. Бо ён у новай іпастасі увасобіў расейскі імпэрскі канцэпт. Вось што кажа Віталь Трэцякоў, галоўны рэдактар той самай «Независимой газеты», які на пачатку зьменаў у СССР і Расеі здаваўся неадʼемным складнікам Расеі дэмакратычнай. «Ленін — выдатны палітычны мысьляр і пісьменьнік. Ягоныя тэорыі й догматы могуць не падабацца. Але іх у яго было мноства. Акрамя таго, яны былі канструктыўныя і эфэктыўныя. Акрамя таго, амаль аднавіў Расею ў яе натуральных межах. Акрамя таго, аўтар адзінага расейскага глябальнага праекту». Крык душы расейца, у якога спрабавалі адабраць грунт з-пад ног. Немагчыма ўявіць сабе шматтысячныя добраахвотныя акцыі пакланеньня Леніну ў Беларусі цягам апошніх двух дзесяцігодзьдзяў. А ў Расеі яны адбываюцца — і ў сталіцах, і ў правінцыі.

*— З вашага гледзішча, Ленін у камуністычнай Беларусі быў мітам, ідэалягемай, палітальгемай, брэндам?*

— Міт адлюстроўвае рэчаіснасьць звышнатуральна. Падставовая адзінка міталягічнае карціны сьвету — міталягема. Для расейскае масавае сьвядомасьці Ленін ёсьць міталягемай. Для Беларусі ж гэта хутчэй ідэалягема, створаная на патрэбу палітычнага рэжыму для маніпуляваньня сьвядомасьцю людзей і рэалізаваная праз велізарны комплекс рытуальных дзеяньняў, накінутых згары. Аўтэнтычныя беларускія казкі, легенды, прымхліцы, паданьні, бываліцы практычна ня ведаюць ніякага Леніна. Хоць у бываліцах нярэдкія і цар, і генэралы — асабліва калі яны пра Першую ўсясьветную вайну. У аповедах-успамінах хутчэй сустрэнем тое, з чым людзі непасрэдна сутыкаліся. Тое самае ў зычаньнях, параўнаньнях. А далёкі Ленін быў чужы. Фальсыфікатарам фальклёру значна прасьцей было напладзіць узораў кароткіх жанраў — прыказак, загадак. Вось прыклады халтуры: *Сілу слова Леніна ўвесь сьвет ведае. Ленін і партыя згуртавалі народы пад сьцягам свабоды.* Або прыпеўкі:

Зьнікне кветка на гародзе
З шырокага касача.
Мы ж ніколі не забудзем
Уладзімера Ільліча.

Цікава, што ёсьць і ўкраінскія, і расейскія адпаведнікі многіх такіх твораў. Значыць, пісаліся ня ў Менску. І ня ўзброенае літаратуразнаўчымі мэтадамі вока бачыць, што гэта не народная творчасьць. Вядома, што некаторыя камуністычныя прыпеўкі на замову пісаў Кандрат Крапіва.

Што такое брэнд? Гэта старажытнае германскае слова (параўн. зьвязаныя з агнём *брандмаўэр, брандспойт*). Карацей, кляймо. Праклядцем заклеймёныя. Брэнд у традыцыйным значэньні — таўро рабства. Так, быў у нас такі брэнд-таўро: на акцябрацкіх, піянэрскіх і камсамольскіх значках. А вось брэндам у сучасным

значэньні — камэрцыйна важкім таварным знакам для продажу на любым рынку (у тым ліку палітычным) — Ленін у сучаснай Беларусі так і ня стаў.

*— Як беларускае грамадзтва ў тую пару ставілася да гэтага міту? Ці бралася нешта пад сумнеў? І кім?*

— Беларусам вякамі дазволіла зьберагаць ідэнтычнасьць тое, што пад рознымі чужацкімі ўладамі традыцыйнае грамадзтва ня брала на веру спушчаных згары ідэалягемаў. Пад сумнеў ставілі ня гэтулькі Леніна, колькі ўсю сыстэму. А рытуалы (суботнік, кветкі, цытаты) выконвалі. Менавіта так — «Сэрвілізм як рытуал» — называецца ў Пятра Васючэнкі прысьвечаны беларускім савецкім літаратарам разьдзел курсу лекцыяў «Таталітарызм»: «Служэньне сыстэме ўсё болей набывае рытуальны характар, пазначаецца асабістым нявер'ем або няшчырасьцю. Пісьменьнік аддае даніну тэме — піша, скажам, твор, прысьвечаны Леніну, партыі, Кастрычніку, а затым бярэцца за ажыцьцяўленьне больш цікавых яму творчых праектаў». Сьвядомыя беларусы спрабавалі рацыянальна выкарыстоўваць рытуальнае цытаваньне Леніна. Спасылка на Леніна дзейнічала на ўладу, як позірк удава на трусіка.

У час «перастройкі» (другая палова 1980-х гадоў) камсамолу было даручана працаваць зь «нефармаламі». У Беларусі да апошніх, нароўні з маргінальнымі ды субкультурнымі групоўкамі, далучылі і нас. З мэтай прыручыць «Талаку» яе запрасілі праводзіць паседжаньні не абы-дзе, а ў гаркаме камсамолу. І вось на адной са зборак выступае Віктар Івашкевіч ды кажа прыблізна гэтак: «Абараніць беларусаў ад нашэсьця таго ісьцінна рускага чалавека, вялікароса-шавініста, па сутнасьці, мярзотніка і гвалтаўніка, якім зьяўляецца тыповы рускі бюракрат. Ці прынялі мы з дастатковай руплівасьцю захады, каб сапраўды абараніць беларусаў ад ісьцінна рускага дзяржыморды? Я думаю, што мы гэтых захадаў не прынялі, хоць маглі і павінны былі прыняць. Нічога ня вартая абстрактная пастаноўка пытання аб нацыяналізьме наагул. Неабходна адрозьніваць нацыяналізм нацыі, якая прыгнятае, і нацыяналізм нацыі прыгнечанай, нацыяналізм вялікай нацыі і нацыяналізм нацыі маленькай». У камсамольскіх начальнікаў адвісьлі сківіцы. Стольк і намаганьняў прыклалі, каб нацыянал-нефармалаў «косю-косю — ды ў аглоблі», і на табе: у самым іхным гнязьдзе адкрытая нацыяналістычная правакацыя! Івашкевіч, вытрымаўшы паўзу, завяршае: «Укладзена паводле У. І. Леніна, «Да пытаньня аб нацыянальнасьцях ці аб «аўтанамізацыі», 1922 год». Натуральна, у арыгінальны тэкст былі ўнесеныя пэўныя зьмены: «іншародцы» замененыя «іншымі нацыянальнасьцямі» або й проста «беларусамі» ды іншае. Рытуальны зварот да Леніна быў абавязковы ў прадмовах да дысэртацыяў, рэфэратаў і навуковых артыкулаў незалежна ад галіны ведаў. Антышавіністычныя воклічы сьмяротна хворага ў 1922 годзе правадыра рабілі ўражаньне: даволі і таго, што нацыяналізм тут ня лічыцца апрыёры небясьпечным ды кепскім. У гараджанаў майго пакаленьня ў школьныя гады не трымцела рука мяняць Леніна на *Lennona* дзе магчыма. Дагэтуль у мяне ляжыць мапа Менску сярэдзіны 1970-х, дзе вуліца й плошча Леніна «перайменаваныя» ў гонар Ленана (а вуліца Маркса адпаведна ў Макартні). Так накінутая ідэалягема, якая выклікае пякотку, стыхійна мянялася на рэальна існую сярод моладзі міталягему *Beatles*.

*— Творчая інтэлігенцыя накіравана стварала лениніяну. Скульптары ляпілі помнікі і бюсты правадыру. Рэжысэры ставілі спэктаклі і фільмы, а абраныя акторы выконвалі яго ролю. Кампазытары пісалі опэры, песьні, сымфоніі. Паэты — вершы... Што рухала гэтымі людзьмі?*

— Творцы 1920-х, бальшыня якіх была ўрэшце расстраляная й закатаваная, зваротам да афіцыёзных тэмаў спрабавалі ўратаваць жыцьці. Пра Купалавы вершы накшталт «Дзякую партыі Леніна—Сталіна». Пятро Васючэнка справядліва кажа: «Дарма шукаць у гэтых творах шчырасьць. Прымітыўнасьць вышэйпададзеных радкоў паказвае не на творчую бездапаможнасьць, але на наўмысную нязграбнасьць». Што да пазьнейшых, асабліва паваенных творцаў, матэрыяльна-кар'ерна-статусная матывацыя для іх была найпершая. І ня толькі ў нас. Той жа Гедымінас Ёкубоніс поруч з Чурлёнісам і Міцкевічам наваяў і Леніна. Пра Леніна як невычэрпны рынак працы для беднага скульптара выдатна напісаў Адам Глобус: бярэш рубель з важджовым профілем — і ў любы калгас, дзе заўсёды на барэльеф будзе попыт. Сярод творцаў здараліся шчырыя пеюны, хоць іхная колькасьць імкліва зьмяншалася адпаведна маштабу рэпрэсіяў ды пазьнейшаму выкрыцьцю таго маштабу. Былі нацыянальна сьведамыя творцы, якія (на маю думку, наіўна) спрабавалі скарыстаць вобраз Леніна як прыкрыўку для нацыянальнай ідэі (тут яскравы прыклад — паэма Генадзя Бураўкіна «Ленін думае пра Беларусь», пра якую сам аўтар кажа: «Для мяне важна было праз цэнзуру правесьці тое, што я думаў пра нашу гісторыю, мову. Я ўзяў дарагія для мяне імёны — Скарына, Каліноўскі і Купала — і паспрабаваў «дадумаць», ці мог Ленін пра іх ведаць». У 1960—1980-я гады беларуская мова ў нефілялягічных навуках амаль цалкам была змаргіналізаваная. Пераклад на беларускую мову поўнага (55-тамовага «сіняга») збору твораў Леніна, якім займаўся адмысловы Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ, быў адною зь дзьвюх падтрыманых дзяржаваю беларускамоўных выспаў у расейскім моры навуковых — і псэўданавуковых — публікацыяў. (Другая была Беларуская савецкая энцыкляпэдыя.) Зразумела, што рабілася гэта паводле разнарадкі: ЦК камуністычнае партыі кожнае саюзнае рэспублікі мусіў выдаваць Леніна на мове «тытульнай нацыі». Вось так — хоць шэрсьці клок. Калі мы зь Пётрам Садоўскім укладалі першыя ў гісторыі беларускамоўныя праграму і чытанку для дзіцячых садкоў, выкруціліся з абавязковым упамінаньнем такім чынам: пра кастрычнік далі прыродаапісальны верш «Кастрычнік» Алега Мінкіна. Ну, а Леніну далі рады дзякуючы Зошчанку: уключылі два ягоныя апавяданьні, дзе іронія калі й схаваная, то кепска.

*— Пры канцы 1980-х гадоў стала шырока вядомая праўда пра Леніна. Пачалі руйнаваць помнікі яму па ўсім СССР, даваць іншыя назовы вуліцам. Паўсюль, выглядае, апроч Беларусі. Чаму ў Беларусі Ленін для ўладаў непарушны?*

— Фізычна Леніны бываюць вельмі нават «парушныя». Нядаўна загінуў пад абломкамі стодзіва малады жыхар Уваравічаў, што ў разгарачаным стане палез на пяцімэтровую статую. Дзіва, што дагэтуль не прынятае рашэньне ніколі таго Леніна ва Ўваравічах не аднаўляць. Унікальная, але ў нечым вельмі беларуская сытуацыя з помнікамі ў Сьвіслачы — прыгожым

мястэчку каля Белавескае пушчы, шчыльна зьвязаным з іменамі братоў Каліноўскіх. Там на цэнтральным пляцы стаяць гуськом: савецкі салдат-вызваліцель, Ленін (шматкроць пафарбаваны і таму спэцыфічнага выгляду), Кастусь Каліноўскі, Сталін, Рамуальд Траўгут. Прычым Сталіна паставілі ўжо ў час Рэспублікі Беларусь. Прынцып «старых ня рухаці, новых ня ставіці» спараджае фантасмагорыю. Помнікі фармуюць эстэтычныя й ідэалягічныя стэрэатыпы. Таму найбольш знакавай у сэрыі антыленінскіх акцыяў была нечувана масавая на цяперашні погляд антыкамуністычная дэманстрацыя Беларускага народнага фронту 7 лістапада 1990 году, калі падчас мітынгу на будучай плошчы Незалежнасьці да помніка Леніну, нягледзячы на супраціў сілавікоў, былі ўскладзеныя адпаведныя «дары» — гулагаўская роба, шыбеніца й кайданкі. Я вёў гэты мітынг. І, анансуючы ўскладаньне «дароў», сказаў прыблізна наступнае: «Беларускі народ недвухсэнсоўна сьведчыць сваё стаўленьне да камуністычных тыранаў. Апошнія месяцы, а можа і дні, стаіць на гэтым пляцы ўвасабленьне чужой антычалавечай улады». Я памыляўся. Вось ужо дваццаць гадоў пасьля таго стаіць няскратна. Некаторыя нават шукаюць нацыянальнага апраўданьня такому стаяньню: маўляў, надпісы на барэльефах пастамэнту выкананыя тарашкевіцай… Найлепшы — ашчадны літоўскі варыянт вырашэньня праблемы помнікаў, як у Груце пад Друскенікамі. У нас аналягічны парк будзе значна больш уражальны і вусьцішны, бо, паводле некаторых ацэнак, у Беларусі да 10 тысячаў помнікаў і бюстаў аднаму толькі Леніну.

Наконт назоваў вуліц я маю пазыцыю, якую падзяляла і Тапанімічная камісія пры Менскім гарадзкім





выканаўчым камітэце: вуліцы ў гістарычных цэнтрах мусяць называцца як спрадвеку. Паколькі імем Леніна называлі акурат цэнтральныя вуліцы, практычна ўсе яны падпадаюць пад аднаўленьне спрадвечнага тапанімічнага ляндшафту. Такі падыход нэўтралізуе супраціў нешматлікіх ленінІстаў ды іхныя магчымыя абвінавачаньні ў чарговай ідэалягізацыі.

*— Чаму істотная частка беларускага грамадзтва і сёньня жыве з гэтым мітам? У якой форме існуе гэты міт у Беларусі?*

— Ня згодны пра істотную частку. Да Ленінавых тэкстаў зьвяртаюцца беларускія левыя, штопраўда, падкрэсьліваючы важнасьць у іх рэвалюцыйнае тэорыі ды практычных інструкцыяў (я быў уражаны, калі сустрэў у камэры на Акрэсьціна Аляксандра Бухвостава зь сінім томікам у руках). Рэспубліка Беларусь засталася ці не адзіная, дзе 7 лістапада ёсьць дзяржаўным сьвятам з нагоды юбілею бальшавіцкага перавароту. Тым ня менш, сам Лукашэнка ў прынцыпе перастаў пакланяцца помнікам Леніну.

*— Што пераняла сучасная беларуская ўлада ад Леніна?*

— Ходзіць пагалоска, што настольная кніга кіраўніка дзяржавы — ня Ленін, а Макʼявэлі. Зрэшты, абодва аўтары-практыкі цынічныя дастаткова, каб угледзець іхныя ўплывы ў палітыцы цяперашняга афіцыйнага Менску. Лукашэнка спрабаваў паставіць Леніна і зьвязаныя зь ім ідэалягемы сабе на службу. Не выпадковым было рашэньне гвалтам пераназваць назад станцыю мэтро пад плошчай Незалежнасьці. Аднак, відавочна, гэта не дае пажаданага эфэкту. Лукашэнка цяпер амаль

ня згадвае Леніна. Так, хіба што ў жніўні 2002 году ён сказаў: «Нават Ленін і Сталін не даўмеліся да таго, каб раздрабіць Беларусь і ўключыць у склад СССР». Але яму ў гэтай пары бліжэйшы Сталін. Магчыма, таму, што Ленін занадта вучоны і задоўга жыў у Эўропе. Тым ня менш, многія Ленінавы вынаходзтвы захоўваюцца ў практыцы цяперашняга менскага рэжыму. Палітычныя вязьні. Варожасьць да нацыянальнага пытаньня. Манаполія на прэсу. Нянавісьць да эканамічна самастойных (прадпрымальнікаў). Грэблівае стаўленьне да інтэлігенцыі ды культуры. Разнастайныя паборы. Гэта ўсё ленінічшына.

*— Калі, пры якіх умовах гэты міт спыніць бытаваньне ў Беларусі? Хто пахавае яго?*

— Парадаксальна, але, будуючы фальшывую лінію Сталіна, улада адначасова прамацвае шляхі для адступленьня зь цьвёрдакаменных ленінскіх пазыцыяў. Адказваючы ў 2008 годзе на пытаньне «Ці не зашмат у Беларусі помнікаў Леніну? Ці месца ім на галоўных плошчах нашых гарадоў?» дзяржаўнай газэце «Звязда», сябра Палаты прадстаўнікоў Уладзімер Дзяленідзік сказаў: «Ленін — ня самая знакавая асоба для Беларусі, таму няма патрэбы ў мностве помнікаў на тэрыторыі краіны і ў тым, каб гэтае імя часта сустракалася ў назвах беларускіх вуліц. Гісторыю, безумоўна, не закрэсьліш, таму згадкі пра Леніна могуць заставацца ў адпаведных гістарычных месцах, напрыклад, было б да месца разьмясьціць помнік Леніну ля Дому першага зьезду РСДРП у Менску». Такія заявы чыноўнікі ня робяць бязь яўнага ці няяўнага дазволу.

Аднак калі ягоныя «калегі» ў Расеі пацiху замяняюць міт Леніна й камунізму на стары звыклы імпэрскі





міт, то Лукашэнка скуты сваёй антыбеларускасьцю. Зьнішчыўшы Леніна, ён падвісае ў вакууме. Таму Ленін у Беларусі будзе датуль, дакуль ёсьць Лукашэнка. Але я не сьпяшаўся б казаць пра паўсюдны канец міту пра Леніна. У Расеі мы яшчэ пабачым ягонае адраджэньне. Для многіх сучасных беларускіх школьнікаў Ленін у адной катэгорыі з Хамурапі і Напалеонам — гістарычны дзяяч няяснай прыналежнасьці й канатацыі. Гэта даказвае, што міт-ідэалягема ў Беларусі трымаўся выключна на мыліцах дзяржаўнае прапаганды.

*— Добра ці кепска, што маладыя ня ведаюць Леніна?*

— Думаю, кепска, бо, па-першае, гісторыю наагул трэба ведаць, а па-другое, асабліва такую гісторыю, як ленінішчына. Разьвітвацца з гэтым ужо напаўмёртвым мітам, проста забываючыся на яго ці нават сьмеючыся зь яго, рызыкоўна. Трэба ведаць, як Ленін нішчыў БНР, чыніў расстрэльныя рэпрэсіі, стварaў канцлягеры. Каб не было ілюзіяў і паўтарэньня, патрэбная тлустая кропка. Неабходная не стыхійная, а сьвядомая, абгрунтаваная дэленінізацыя.

# КДБ

*Людзі памятаюць несправядлівасьць і сьмерць, жахлівае чаканьне «чорнага варанка», пасьля якога чалавек зьнікаў бясьсьледна*



*Размова з Тацянай Процькай*

***— Камітэт дзяржаўнай бясьпекі Рэспублікі Беларусь — адна са спэцслужбаў Беларусі. У савецкую пару, паводле «Палажэньня аб КДБ», КДБ зьяўляўся палітычным органам, які ажыцьцяўляў мерапрыемствы дзеля абароны дзяржавы ад замахаў з боку зьнешніх і ўнутраных ворагаў, а таксама дзеля ахоўы дзяржаўных межаў СССР. У грамадзтве КДБ успрымаўся, дый працягвае ўспрымацца, як таемная паліцыя, якая сочыць за чалавекам ва ўсіх ягоных сфэрах дзейнасьці, уключна з прыватным жыцьцём, і як карны апарат. Паводле такіх вызначэньняў — КДБ міт ці рэальнасьць?***

— Безумоўна, рэальнасьць. Гэта засьведчаць тыя маладыя людзі, якіх выклікáлі ў КДБ з прычыны ўдзелу ў дэманстрацыях ці дзейнасьці ад імя незарэгістраваных арганізацыяў. Але гэта і міт, якім бацькі пужаюць тую ж моладзь.

*— Дык чаму існуе міт пра КДБ, з чаго ён складаецца?*

— Міт пра КДБ складаецца зь дзьвюх супрацьлеглых частак. Фактычна, гэта два самастойныя міты. Першы можна каротка сфармуляваць наступным чынам: КДБ — усёмагутны і паўсюдны, ён кантралюе нас, нашы тэлефонныя размовы, кожны з тваіх знаёмцаў можа быць супрацоўнікам КДБ. Там працуюць

асобы, абсалютна адмоўныя паводле сваіх чалавечых якасьцяў, і нічога добрага ад кантактаў з гэтай установай чакаць ня трэба. Гэта міт, так бы мовіць, абсалютна адмоўны, бо ён заснаваны на страху перад спэцслужбамі, і сам выклікае і падтрымлівае гэты страх. Другі міт — станоўчы. «У чэкіста павінны быць халодная галава, гарачае сэрца, чыстыя рукі» — людзі старэйшага пакаленьня пісалі гэта ў школе. «Карны меч рэвалюцыі», «нядрэмнае вока партыі» — такія прыгожыя азначэньні выкарыстоўваліся для публічных аповедаў пра дзейнасьць КДБ. Лічылася, што менавіта ў Камітэце знаходзяцца і звышспэцыялісты, якія могуць абсалютна ўсё.

*— Што зьявілася рэальнай падставай для стварэньня мітаў пра КДБ?*

— У падмурку адмоўнага міту ляжыць рэалізаваная супрацоўнікамі КДБ магчымасьць парушаць законы і Канстытуцыю краіны беспакарана, у падмурку станоўчага — спроба «замазаць» наяўнасьць гэтых парушэньняў і, вядома, сапраўдныя добрыя справы. Адмоўны міт склаўся ў народзе, і ягоным носьбітам зьяўляецца народ. Станоўчы міт пра КДБ быў і зьяўляецца часткай афіцыйнай дзяржаўнай ідэалёгіі. Зразумела, што ягоным стваральнікам былі пэўныя дзяржаўныя ўстановы, распаўсюджвалі станоўчы міт дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі.

*— А як доўга паўставаў гэты міт?*

— Амаль што сто гадоў. Разам з савецкай уладай у 1918—1919 гадах у Беларусь прыйшлі спэцслужбы, якія спачатку мелі назву ЧК Бел, потым ДПУ БССР,





НКУС БССР, МГБ БССР, КДБ БССР. Ад 1991 году — КДБ Рэспублікі Беларусь.

*— З распадам СССР былыя саюзныя рэспублікі, улучна з Расеяй, адмовіліся ад гэтай назвы. У Беларусі КДБ застаўся. Чаму?*

— Мяркую, тагачаснае кіраўніцтва краіны і самога КДБ не захацелі мяняць назвы. У 1997 годзе беларускі КДБ сьвяткаваў свае 80-я ўгодкі. Пераемнасьць падкрэсьлівалася і ў артыкуле тагачаснага старшыні Камітэту Ўладзімера Мацкевіча. Ён пісаў: «Нельга ўсёй дзейнасьці КДБ і ягоных кадраў падаваць аднавымерна і толькі ў чорных фарбах. Рэальнае жыцьцё шматвымернае, і ягоная колеравая гама больш разнастайная. Пры гэтым варта зазначыць, што ў гістарычны пэрыяд органаў бясьпекі, якія дзейнічалі пад абрэвіятурай КДБ, у Беларусі яны не заплямілі сваёй рэпутацыі. Нават ва ўмовах тагачаснага заканадаўства ў нас у рэспубліцы не было судовых працэсаў над «антысаветчыкамі», «дысыдэнтамі», да іх падобных паводле артыкулаў, падсьледных КДБ».

*— Напэўна, у Беларусі не было шмат афіцыйных дысыдэнтаў, пра якіх усе б ведалі. Але ж працэсы над іншадумцамі былі.*

— Так, магу згадаць Міхаіла Кукабаку, які за тое, што распаўсюджваў літаратуру самвыдату, неаднойчы зьмяшчаўся ў псыхіятрычны шпіталь, а ў кастрычніку 1978 году быў арыштаваны і асуджаны. Магу таксама згадаць працэсы над баптыстамі, высылку габрэяў, справы гэтак званых адказьнікаў — маладых людзей, якія адмаўляліся служыць у савецкім войску. У 1992—1994 гады я мела магчымасьць працаваць з архівамі

КДБ па тэме сваёй доктарскай дысэртацыі. Памятаю, як супрацоўнікі КДБ вельмі ганарыліся справамі сваёй установы ў барацьбе з крадзяжамі дзяржаўнай маёмасьці і карупцыяй. Людзі, якія працавалі ў КДБ, не адчувалі за сабой віны, сьпісвалі ўсе хібы на сталінскі час, адмаўлялі наяўнасьць Курапатаў. Яны вельмі хацелі, каб застаўся толькі адзін міт пра КДБ — станоўчы. Тыя ж, хто імкнуўся і дасягнуў палітычнай улады ў Беларусі, ня толькі не зьбіраліся што-небудзь мяняць у краіне, але наадварот, стараліся збудаваць тут узорны сацыялізм — сацыялізм з «чалавечым абліччам». Міт пра КДБ з чыстымі рукамі быў ім вельмі патрэбны.

*— Але ў гэты час у краінах былога СССР і нават у сьвеце гучала праўда пра Курапаты — месца, дзе былі не пахаваныя, а проста закапаныя ахвяры масавых расстрэлаў, якія адбываліся ў Беларусі ў другой палове 1930-х гадоў. Няўжо гэты цень не хвалявай кіраўніцтва тагачаснага КДБ?*

— Вядома, хваляваў. Але каб не прыцягваць увагі грамадзкасьці да гэтых падзеяў, была пададзеная наступная афіцыйная вэрсія. Мы — КДБ, а не НКУС, які рабіў усе гэтыя злачынствы, і таму да іх ня маем ніякага дачыненьня. А ў самім КДБ была створана камісія, якая займалася праглядам асабістых справаў асуджаных з дапамогай НКУС. Пра справы паваеннага КДБ наагул мала хто ведаў нешта дакладна. Гэта было выкарыстана для таго, каб яшчэ раз зацьвердзіць у грамадзкай думцы: мы сапраўды маем гарачае сэрца і чыстыя рукі.

*— У сьвядомасьці людзей, насуперак жаданьню ўладаў, усё ж пераважае адмоўнае стаўленьне да КДБ. Чаму?*





— Таму што людзі памятаюць несправядлівасьць і сьмерць, жахлівае чаканьне «чорнага варанка», пасьля якога чалавек зьнікаў бясьсьледна. Памятаюць сваю бездапаможнасьць, безабароннасьць перад дзяржавай. Гэта памяць, калі можна так мовіць, генэтычная, на ўзроўні падсьвядомасьці. Яна не зьвязаная ні зь якой канкрэтнай датай. Гэта проста страх, пераадолець які ня так проста.

*— Існуюць жа лічбы, якія могуць даказаць, крывавыя гэта рукі ці чыстыя.*

— Дакладная колькасьць рэпрэсаваных невядомая, бо архівы КДБ застаюцца закрытыя, нават болей, чым гэта было пятнаццаць гадоў таму. Паводле маіх падлікаў, ахвярамі рэпрэсіяў толькі з 1917 году па 1953 у Беларусі сталі больш за 650 тысячаў чалавек. За пяць гадоў (1935—1940) было расстраляна 28 425 чалавек з 86 168 асуджаных. Падкрэсьліваю, што гэтых дадзеных не абвяргаюць нават заангажаваныя гісторыкі.

*— Падчас вайны, падаецца, больш людзей загінула. У тым ліку і мірных жыхароў. Але ж ніхто сёньня не баіцца немцаў. А чэкістаў, кадэбістаў баяцца.*

— Мабыць, гэта крыху цынічна гучыць, але ў міце пра КДБ важная ня столькі колькасьць рэпрэсаваных, колькі іхная «якасьць» і «якасьць» саміх рэпрэсіяў. У Беларусі зьнішчанай сталася значная частка нацыянальнай інтэлігенцыі, кіроўнага апарату, як палітычнага, так і гаспадарча-эканамічнага. Гэта людзі ў большасьці вядомыя, паважаныя, у свой час магутныя. І іхныя рэпрэсіі выклікалі найбольшы рэзананс. Менавіта гэты «здабытак» спэцслужбаў 1930-х гадоў

добра выкарыстоўваецца і сёньня. Памятаеце, як па тэлебачаньні паказвалі міністра ў кайданках?

*— Натуральна, памятаю. Але я памятаю таксама шмат фільмаў, дзе супрацоўнікі КДБ зьдзяйсьнялі добрыя справы.*

— Так, дзейнасьць КДБ нельга апісваць толькі праз змрочныя гісторыі. У міце пра КДБ галоўны акцэнт якраз на тым, што людзі з гэтага ведамства парушаюць закон беспакарана ў сваёй штодзённай працы.

*— Мабыць, праблема толькі ў людзях? У тым, што ў КДБ пранікаюць ворагі і кампрамэтуюць гэтае паважанае ведамства?*

— Вядома ж, безь людзей абысьціся нельга. Канкрэтныя людзі, гэтак званыя чэкісты, катавалі беларускіх пісьменьнікаў ня горш, чым у фашыстоўскіх засьценках, давалі загады на расстрэлы. І асноўная маса катаў таксама была пакараная тымі ж спэцслужбамі. Але падчас маёй працы ў архівах КДБ я пазнаёмілася са значнай колькасьцю супрацоўнікаў КДБ. Большасьць зь іх — па-свойму добрыя і сумленныя людзі. Але — толькі па-свойму. Усім ім уласьцівае ўяўленьне пра тое, што супрацоўнік КДБ — звышчалавек, які адзін ведае праўду, можа асуджаць і караць без суду.

*— І Дзяржынскі таксама звышчалавек? Зрэшты, такім ён выглядае ў афіцыйнай беларускай прапагандзе. Насупраць будынку КДБ і да сёньня стаіць ягоны бюст. І клюб КДБ носіць імя Дзяржынскага. А як заходзіш туды, прыкладам, на рок-канцэрт, цябе там у фае сустракае ягоная вялікая статуя. Ажно жах ахоплівае, калі бачыш гэтага вялікага жалезнага Фэлікса...*





— Не, рамантычныя гісторыі пра вернасьць і каханьне да жонкі не даюць падставаў далучаць «жалезнага Фэлікса» да звышлюдзей. Як і ягоных нашчадкаў у прафэсіі. Падчас працы ў архівах расейскай ФСБ мне прынесьлі справу Апанскага. Дык я з той справы даведалася, што гэты чалавек настолькі быў жорсткі і хлусьлівы, што нават самі кіраўнікі беларускага ДПУ ня ведалі, як ад яго пазбавіцца. Факт ягонай сьмерці дасканала расьсьледаваўся ня столькі на прадмет удзелу ў гэтым белапалякаў, колькі саміх супрацоўнікаў АДПУ. І было прызнана пасьля ўсяго, што ён стаў ахвярай няшчаснага выпадку. Але ў тым часопісе, прысьвечаным 80-м угодкам КДБ, пададзена зусім іншая вэрсія жыцьця і сьмерці Апанскага — як станоўчага звышчалавека, які загінуў ад рук ворагаў.

*— Вельмі хацелася б, каб адмоўны міт пра КДБ як найхутчэй зьнік. Але ня верыцца, што гэта адбудзецца бліжэйшым часам — нават таму, што стаяць па Беларусі помнікі Дзяржынскаму, а горад Койданава называецца Дзяржынскам... Ці магчымае зьнікненьне гэтага міту, і што будзе, калі гэта (насуперак пэсымізму) усё ж адбудзецца?*

— Людзі ня будуць больш баяцца спэцслужбаў, у грамадзтве запануе ня міт, а ўпэўненасьць, што КДБ абараняе інтарэсы дзяржавы і чалавека, вядзе барацьбу з злачыннымі зьявамі жыцьця. Як бачым, міт пра КДБ можа зьнікнуць толькі тады, калі Камітэт дзяржаўнай бясьпекі стане рэальна выконваць вызначаныя яму законам функцыі. А яшчэ лепш, калі гэтая структура зьменіць назву і прынцыпова адмовіцца ад пераемнасьці з КДБ, за якім цягнецца шлейф брудных і злачынных справаў.

# 22 чэрвеня 1941 году

*Саманадзейнасьць Сталіна прывяла да таго, што Беларусь аддалі на волю агрэсара*



*Размова з Анатолем Сідарэвічам*

***— Пачнем з даты пачатку вайны. Чаму менавіта гэтая дата, 22 чэрвеня 1941 году, зьяўляецца тут дагэтуль афіцыйнай датай пачатку вайны, хоць ва ўсім сьвеце вядомыя іншыя даты — 1 верасьня 1939 году — пачатак Другой усясьветнай вайны і 17 верасьня 1939 году — дата ўступленьня ў яе СССР? 22 чэрвеня, прынамсі для Беларусі, як дата пачатку вайны не зусім праўдзівая.***

— Так, СССР удзельнічаў у Другой усясьветнай вайне з 17 верасьня 1939 году, але «вызваленчы паход» Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Ўкраіну штучна вырываецца з кантэксту гэтай вайны. Афіцыйным гісторыкам няёмка нагадваць, што ў верасьні 1939-га немцы ўзялі ладны кавалак Беласточчыны і Берасьцейшчыны, а потым мірна саступілі гэтую тэрыторыю Савецкаму Саюзу. Няёмка нагадваць і тое, што «вызваленчы паход» пачаўся пасьля адпаведных сыгналаў з Бэрліна. Бо калі нагадваць пра гэта, трэба абавязкова казаць пра сакрэтныя пратаколы, падпісаныя 23 жніўня 1939 году.

*— Пра вераломны напад першы публічна сказаў у сваім выступе па радыё народны камісар замежных справаў СССР Вячаслаў Молатаў 22 чэрвеня 1941 году. Маўляў, мы падпісалі 23 жніўня 1939 году пакт аб ненападзе, яго выконвалі і верылі, што Гітлер таксама будзе выконваць. Калі ж 3 ліпеня пра вераломства Гітлера ў сваёй пра-*

*мове па радыё сказаў і Сталін, гэта стала для ўсяго партыйнага і чэкісцкага апарату догматам і кіраўніцтвам да дзеяньня. Наколькі вераломны быў напад гітлераўскай Нямеччыны на СССР 22 чэрвеня? Няўжо Сталін, які ня верыў сваім, мог гэтак неабачліва верыць Гітлеру?*

— Заключыўшы 23 жніўня 1939 году пакт аб ненападзе і сакрэтны пратакол аб падзеле сфэраў уплыву з СССР, праз тыдзень Нямеччына ўступіла ва ўсясьветную вайну.

Пратакол аб падзеле сфэраў уплыву не азначаў, што Нямеччына дае карт-блянш на далучэньне да СССР краінаў Балтыі і Бэсарабіі. Тым часам Сталін, карыстаючыся з таго, што Нямеччына захрасла ў вайне на Захадзе, адхапіў значную частку Фінляндыі. У той час, як немцы ўсталёўвалі акупацыйныя рэжымы ў Люксэмбургу, Бэльгіі, Нідэрляндах і Нарвэгіі, ваявалі з Францыяй, Сталін увёў свае дывізіі на тэрыторыю Латвіі, Літвы і Эстоніі і далучыў іх да СССР, а таксама адарваў ад Румыніі і далучыў да СССР Бэсарабію. Гэтыя акцыі Савецкага Саюзу, асабліва захоп Літвы, Гітлер расцэньваў як антынямецкія, але з асуджэньнем савецкай агрэсіі не выступаў. Празь месяц пасьля таго, як Францыя капітулявала, ён загадаў свайму генштабу распрацаваць плян вайны з Савецкім Саюзам, плян «Барбароса». Гітлер выдатна разумеў, што вайна на два франты можа істотна ўскладніць стан Нямеччыны, таму стаўка рабілася на маланкавую вайну. Распрацоўка пляну «Барбароса» працягвалася амаль пяць месяцаў.

*— Сталін ня ведаў пра гэта? Савецкі ўрад не распрацоўваў сваёй стратэгіі ў адказ?*





— Савецкі плян прыкрыцьця дзяржаўнай мяжы і разгортваньня ваенных дзеяньняў у выпадку вайны быў прадстаўлены ў наркамат абароны толькі 11 чэрвеня 1941 году.

*— Напэўна ж, ня спала нямецкая дыпляматыя, працягваў свае гульні ў перадзел сьвету і Крэмль?*

— 27 верасьня 1940 году Нямеччына, Італія і Японія падпісалі Бэрлінскі пакт, які прадугледжваў перадзел сьвету. Яахім фон Рыбэнтроп выказаў жаданьне зноў прыехаць у Маскву, каб выкласьці Сталіну «мэты і намеры фюрэра». Тым больш, што Сталін і Молатаў спадзяваліся далучыцца да саюзу Нямеччыны, Італіі і Японіі і ўзяць удзел у далейшым падзеле сьвету. Гітлер і Рыбэнтроп арыентавалі Сталіна на Індыйскі акіян, падбівалі на захоп Паўночнага Ірану і Іраку. У Сталіна ж былі маштабнейшыя пляны: ён хацеў ня толькі авалодаць тэрыторыямі на поўдзень ад Баку і Батумі, але і ўвесьці свае войскі ў Баўгарыю, пабудаваць базы на Басфоры і Дарданэлах. Мала таго, Сталін жадаў, каб Нямеччына вывела войска зь Фінляндыі, якое апынулася там на просьбу фінляндзкага ўраду. Усе гэтыя ідэі былі агучаныя падчас паездкі Молатава ў Бэрлін у лістападзе 1940 году. У часе візыту Молатава ў Бэрлін Гітлер зразумеў, што Сталін жадае далучыць да Савецкага Саюзу Фінляндыю і ажыцьцявіць даўнюю расейскую мару пра авалоданьне пралівамі Басфор і Дарданэлы і Канстантынопалем. Вынікам візыту Молатава ў Бэрлін стала далучэньне да Бэрлінскага пакту краінаў, якія былі пакрыўджаны Савецкім Саюзам або якім пагражала ці магла пагражаць савецкая агрэсія, — Вугоршчыны, Румыніі, Славаччыны, Баўгарыі, Фінляндыі.

*— Вы хочаце сказаць, што кіраўнікі Савецкага Саюзу самі дапамагалі ствараць кааліцыю супраць сваёй дзяржавы?*

— Бясспрэчна. Сталін і Молатаў бачылі антысавецкую скіраванасьць Бэрлінскага пакту. Савецкае кіраўніцтва, думаючы, што гэтак удасца падмануць Нямеччыну, час ад часу запытвала Бэрлін, ці разглядаюцца савецкія прапановы наконт Баўгарыі, Басфору і Дарданэлаў, а само нарошчвала свае сілы на заходняй мяжы. Бэрлін на запыты ніяк не рэагаваў, затое пільна сачыў, што дзеецца на ўсходзе.

*— Дарэчы, у тых перамовах зь Нямеччынай, увогуле ў савецкай дыпляматыі перадваеннага часу, ці ўлічваўся інтарэс Беларусі? Ці Беларусь зноў, як і ў 1920-я гады для ўладаў СССР, існавала толькі як зручная разьменная манэта?*

— Пачытайце апублікаваны нядаўна том дакумэнтаў «Беларусь в начале Великой Отечественной войны». Менскае кіраўніцтва абсалютна не чакала вайны, не было да яе гатовае. 22 чэрвеня яно папросту не разумела, якая бяда звалілася на Беларусь. Сталін не лічыў патрэбным інфармаваць менскае кіраўніцтва пра тое, з кім і пра што ён дамаўляецца.

*— Нават у савецкую пару, калі быў закрыты доступ да любой інфармацыі, якая б пярэчыла афіцыйнай ідэалёгіі, хадзілі размовы, чуткі пра тое, што напад ня мог быць нечаканым, што савецкі ўрад папярэджвалі аб рэальнасьці нападу. Дык у якой ступені напад быў нечаканы?*

— 3 ліпеня 1941 году Сталін спарадзіў міт пра тое, што гітлераўская Нямеччына напала на СССР зьнянацку. У хрушчоўскі час зьявіліся зьвесткі, што савецкія выведнікі і нямецкія перабежчыкі папярэджвалі савецкае кіраўніцтва і асабіста Сталіна, што Гітлер нападзе ў 20-х чыслах чэрвеня. Асаблівая была паказальная гісторыя Рыхарда Зорге, які назваў дакладную дату пачатку вайны і якому Сталін не паверыў.





*— Дарэчы, гэты міт зьліваецца яшчэ з адным мітам — пра Берасьцейскую крэпасьць-герой. Зь дзяцінства мы ведаем, што вайна пачалася з нападу на Берасьцейскую крэпасьць. Дык чаму ў той гістарычнай прамове Молатаў не назваў яе, а сказаў, што вайна пачалася з бамбаваньня Жытоміру, Кіева, Севастопалю, Коўна?*

— А вы зірніце, што пішуць пра абарону крэпасьці сучасныя гісторыкі. Арганізаваная абарона скончылася 30 чэрвеня. У казэматах, падзямельлях захаваліся толькі асобныя ачагі супраціву. Дый, зрэшты, якое стратэгічнае значэньне мела гэтая крэпасьць у век танкаў і авіяцыі далёкага дзеяньня? 28 чэрвеня нямецкія войскі ўвайшлі ў Менск.

*— Ці праўдзівыя сьцьвярджэньні, што Гітлер меў перавагу ў жывой сіле і ўзбраеньнях?*

— Гэты міт таксама спароджаны Сталіным у дакладзе 6 лістапада 1941 году, які скардзіўся на нехахоп танкаў і самалётаў. Савецкія прапагандысты і гісторыкі пяцьдзясят гадоў пасьля вайны і так і гэтак апэравалі лічбамі, каб давесьці нам, што 22 чэрвеня 1941 году сілы вэрмахту пераўзыходзілі сілы Чырвонай Арміі. У пятым томе «Гісторыі Беларусі» можна прачытаць, што па стане на 22 чэрвеня 1941 году на захадзе Беларусі былі разгорнутыя тры арміі і што перад самай

вайной у гэты раён пачалі перакідваць чацьвертую. Карпусы ішлі з-пад Вязьмы, Смаленску, Віцебску, Бабруйску і Менску. Пры гэтым ня ўлічана, што яшчэ дзьве арміі рухаліся на захад з Уральскай і Прыволскай ваенных акругаў. Апошнім часам гістарычная літаратура прызнае, што савецкія войскі першага эшалёну пераўзыходзілі немцаў колькасьцю танкаў і самалётаў. Але лічбы блытаныя. Так, да прыкладу, паведамляецца, што на ўзбраеньні мелася 2200 танкаў супраць 1800 нямецкіх. Аднак сустракаюцца зьвесткі, што ў Беластоцкім катле немцы захапілі 3332 савецкія танкі. Значыць, іх было не 2200. Маючы такую разьбежку ў лічбах, я не магу верыць аўтарам, якія сьцьвярджаюць, што перадавыя савецкія злучэньні саступалі нямецкай групоўцы ў колькасьці байцоў і камандзіраў.

— *А як працавалі выведкі дзьвюх краінаў?*

— Нямецкая выведка працавала добра. Гітлер нават хваліўся: «Мы маглі ўстанавіць, дзе, як і калі перамяшчаецца кожнае асобнае злучэньне». Вядома, выведка мелася і ў Савецкага Саюзу. Але адрозьненьне паміж Гітлерам і Сталіным было ў тым, што адзін верыў сваім выведнікам, а другі — не. Сталін памятаў, што ў траўні — чэрвені 1940 году вэрмахт захапіў Бэльгію, Люксэмбург, Нідэрлянды, Данію, Нарвэгію і Францыю. У тую ж пару ў 1941 годзе Гітлер паставіў на парадак дня зьнішчэньне Вялікабрытаніі. Ведамства Гёбэльса вяло антыбрытанскую прапаганду, на чыгунках назіраўся інтэнсіўны рух эшалёнаў. Сталін верыў, што Гітлер сапраўды пойдзе вайною на Англію. Сталін падцягваў да заходняй мяжы ўсё новыя і новыя злучэньні, бо нават гатовы быў дапамагчы Нямеччыне. Ён так і не здагадаўся, што «падрыхтоўка да вайны з Англіяй» была містыфікацыяй, прыкрыцьцём падрыхтоўкі нямецкага наступу на ўсход. Распрацоўку гэтай акцыі гісторыкі цалкам прыпісваюць нямецкай ваеннай выведцы і яе шэфу Вільгельму Канарысу.





— *Дык усё ж вайна стала для Сталіна нечаканасьцю?*

— 22 чэрвеня 1941 году для Сталіна сапраўднай нечаканасьцю было тое, што Гітлер перахітрыў яго, бо ён, Сталін, яшчэ ў 1939 годзе быў упэўнены, што падмануў Гітлера.

— *А які вынік для Беларусі?*

— Саманадзейнасьць Сталіна прывяла да таго, што Беларусь аддалі на волю агрэсара. Як сьведчыў былы першы сакратар камсамолу Беларусі Міхаіл Зімянін, маскоўскае кіраўніцтва пакінула Беларусь сам-насам з Гітлерам да сярэдзіны 1942 году. Больш за тое, перад сваёй сьмерцю Лаўрэнці Берыя прызнаўся, што 26 чэрвеня 1941 году Сталіну прыйшла ў галаву думка — заключыць зь Нямеччынай мірнае пагадненьне і аддаць ёй частку Беларусі. Пасярэднікам паміж СССР і Нямеччынай ён жадаў мець Баўгарыю. Дзеля гэтага на пачатку ліпеня ў Крэмль паклікалі баўгарскага пасла Івана Стаменава. Баўгарыя не ўзяла на сябе ролю пасярэдніка. Дый Гітлер наўрад ці захацеў бы падпісваць мірную дамову з Сталіным. 8 ліпеня 1941 году была завершана Беластоцка-Менская наступальная апэрацыя. У агромністым катле цалкам ці часткова былі разьбітыя чатыры арміі. Немцы ўзялі ў палон больш за 328 тысячаў чырвонаармейцаў, захапілі 3332 танкі, зьнішчылі каля 1700 баявых самалётаў. У цэлым жа да сярэдзіны ліпеня Чырвоная Армія страціла 850 ты-

сячаў байцоў і камандзіраў. У гэтых умовах Гітлер ня стаў бы і слухаць баўгарскага пасярэдніка.

*— З вашага гледзішча, у чым сапраўдная прычына вайны? Хто вінаваты ў сьмерці кожнага чацьвертага ці нават кожнага трэцяга беларуса?*

— Прычына вайны вядомая: імпэрыялістычныя пляны Нямеччыны і СССР. Інтарэсы дзьвюх імпэрыяў сутыкнуліся. Я б ня стаў сьцьвярджаць, што ў тую вайну загінуў кожны чацьверты жыхар Беларусі, бо ў бальшавікоў вядома якая была статыстыка. Затое я дакладна ведаю, што ў сьмерці соцень тысячаў нашых суайчыньнікаў вінаватыя Сталін і Молатаў, а таксама наркам абароны Сямён Цімашэнка і начальнік генэральнага штабу Георгі Жукаў. Яны не забясьпечылі абароны Беларусі.

*— Споўнілася 70 гадоў пакту Гітлера — Сталіна, ці, як часьцей яго называюць на постсавецкай прасторы, Рыбэнтропа — Молатава. Напярэдадні тагачасны міністар замежных справаў Нямеччыны Франк Вальтэр Штайнмаер заклікаў па-новаму прадыскутаваць прычыны пачатку вайны і ролю ў гэтым кожнай з эўрапейскіх краінаў. Тым часам Расея гатовая ўвесьці крымінальную адказнасьць за скажэньне афіцыйнай пазыцыі, якая і ёсьць мітам. Ці магчымае адраджэньне праўды на постсавецкай прасторы?*

— Калі была створана расейская камісія для барацьбы са спробамі фальшаваньня гісторыі супраць інтарэсаў Расеі, адна нямецкая газэта пакпіла: значыць, на карысьць Расеі гісторыю сказіць можна. Архівы палітбюро, савецкіх наркамату абароны і генштабу





для незалежных дасьледчыкаў зноў закрытыя. Значыць, ёсьць што хаваць. І мы ведаем, што яны хаваюць: праўду пра імпэрыялістычную сутнасьць савецкай палітыкі. Але гэта ня значыць, што сілы рэакцыі, імпэрскія сілы запанавалі навечна. Як пісаў афіцэр тае вайны Аляксандар Твардоўскі афіцэру Васілю Быкаву, усё пройдзе, а праўда застанецца.

# Вялікая Айчынная вайна

*Вайна не была
ўсеагульнай
для беларускай нацыі,
бо розныя групоўкі
змагаліся за айчыну
ў сваім разуменьні*



*Размова з Алегам Гардзіенкам*

***— Партнэры СССР у антыгітлераўскай кааліцыі вайну саракавых гадоў мінулага стагодзьдзя называюць Другой усясьветнай, падкрэсьліваючы, што яны не былі выключэньнем у агульным шматнацыянальным змаганьні з фашызмам. Яны — адны з шэрагу змагарных краінаў. У СССР вылучалася з агульнай вайны яшчэ адна — Вялікая Айчынная. Чаму?***

— Бо лічылася, што гэта выключна вайна СССР зь Нямеччынай, якая завяршылася перамогай народаў Савецкага Саюзу над гітлераўцамі. І беларусы былі ўключаныя ў пералік савецкіх народаў.

*— Розьніца ў падыходах відавочная і ў часавых межах вайны. Сьвет вызначае яе пачатак 1 верасьня 1939 году, СССР — 22 чэрвеня 1941 году. А якая дата пачатку вайны праўдзівая для Беларусі?*

— Гісторыкі апэлююць фактамі. І факт тут адзін. Для беларусаў Другая ўсясьветная пачалася 1 верасьня 1939 году, калі Нямеччына напала на Польшчу. І дзясяткі тысячаў беларусаў, што служылі ці былі мабілізаваныя ў польскае войска, узялі ўдзел у баях зь немцамі. Каля 70 тысячаў нашых землякоў апынуліся тады ў нямецкім палоне. А 17 верасьня Чырвоная Армія перайшла заходнюю мяжу СССР (ці ўсходнюю мяжу Польшчы) і ўвайшла на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Ўкраіны. Ня будзем заглыбляцца ў тое, больш карыснага ці больш кепскага прынёс паход Чырвонай Арміі.

Зазначу толькі, што польскія вайскоўцы — а сярод іх было багата і беларусаў — былі інтэрнаваныя, жаўнеры высланыя на поўнач ці ў Казахстан, а многія афіцэры і падафіцэры потым былі расстраляныя ў Катыні, Асташкаве, Казельску. Таму фільм Вайды «Катынь» і працэс вакол катынскай справы ў Хамоўніцкім судзе тычыцца і Беларусі. Бо там ляжаць таксама і беларусы. І гэты ўдар у сьпіну беларусы атрымалі ад аднаго зь пераможцаў у той вайне.

*— Так на сваёй тэрыторыі пачалася для беларусаў Другая ўсясьветная вайна. І тэрыторыя вайны для іх адразу ж пашырылася далёка за свае межы. Беларусы апынуліся і ў Заходняй Эўропе, і нават у Палестыне. І ў часе, і ў прасторы вайна ад самага пачатку станавілася для беларусаў усясьветнай?*

— Так. Тыя, каму пашчасьціла выжыць, потым ваявалі ў складзе Арміі Андэрса ў Палестыне і ў Заходняй Эўропе. Савецка-польская дамова 1941 году дала магчымасьць сфармаваць польскі корпус з палонных польскіх вайскоўцаў у СССР (Армія Андэрса), што бралі ўдзел у баявых дзеяньнях на Блізкім Усходзе, штурмавалі Монтэ-Касына. Таму тэрмін «Вялікая Айчынная вайна» ў дачыненьні да Беларусі не падыходзіць з храналягічных і тэрытарыяльных рамак. Не падыходзіць яшчэ і таму, што беларусы не адносіліся выключна да савецкіх народаў, бо да ўступленьня Чырвонай Арміі на тэрыторыю Заходняй Беларусі яны былі грамадзянамі Польшчы. Больш за тое, каля 10—15 тысячаў нашых суайчыньнікаў змагаліся з нацыстамі ў складзе польскай Арміі Андэрса, якая ў сваю чаргу ўваходзіла ў склад брытанскіх узброеных сілаў.





*— Але саюзьнікі СССР у антыгітлераўскай кааліцыі — гэта ж ня толькі брытанцы і палякі, але і французы, і амэрыканцы. Ці былі зафіксаваныя выпадкі змаганьня беларусаў на іхным баку?*

— На пачатку XX стагодзьдзя ў ЗША апынулася больш за паўмільёна нашых суайчыньнікаў. І, натуральна, што іхныя дзеці потым служылі ў амэрыканскім войску. Іх былі тысячы. Як амэрыканскія салдаты ў чэрвені 1944-га яны высаджваліся ў Нармандыі, Галяндыі, і амэрыканскія газэты, у сваю чаргу, пісалі пра гэтых герояў — Івана Радзюковіча (ён адзін зь першых высадзіўся ў Нармандыі ў дзень адкрыцьця Другога фронту — 6 чэрвеня 1944 году), Мікалая Арэшку. Уладзімер Каваленка быў узнагароджаны найвышэйшай узнагародай — амэрыканскім Крыжам Ваенна-паветранага флёту. Знайшлі вечны спачын у Францыі, Бэльгіі, Галяндыі Вікенці Прост, А. Русецкі, Даніла Ўладыка ды шмат іншых.

*— Цяпер мы ўжо ведаем, што ня толькі ў розных войсках розных краінаў змагаліся беларусы супраць нацызму, а і тое, што шмат іх ваявала і на нямецкім баку ў рэгулярных вайсковых фармаваньнях. Значыць, не было агульнанацыянальнага памкненьня ў той вайне? Не было стопрацэнтнай еднасьці, што давала б падставу назваць змаганьне беларусаў Айчыннай вайной?*

— Безумоўна. Гэта найперш тычыцца гэтак званай 30-й дывізіі СС (брыгады Зыглінга), да якой былі далучаныя беларускія паліцэйскія фармаваньні і жаўнеры Беларускай краёвай абароны ўлетку 1944 году, што адступілі зь Беларусі. Паводле розных падлікаў, іх было ад 12 да 16 тысячаў. У жніўні 1944 году пасьля кароткага

перанавучаньня яны былі адпраўленыя ў Рэйнлянд, дзе ахоўвалі масты, чыгунку, і ва ўсходнюю Францыю, дзе мелі месца сутычкі з францускімі партызанамі. Як вядома, там былі зафіксаваныя выпадкі дэзэртэрства. Прычым, беларусы ня толькі пераходзілі на бок францускіх партызанаў (потым яны былі далучаныя да Арміі Андэрса), але і папаўнялі польскі корпус. Ён павялічыўся на некалькі тысячаў. Ёсьць зьвесткі, што ў 1942—1943 гадах у Нямеччыне быў сфармаваны беларускі батальён, які нібыта ваяваў на баку немцаў у Італіі, але тыя зьвесткі варта добра спраўджваць. Зазначу толькі, што легенда пра тое, што Монтэ-Касына і штурмавалі беларусы, і зь нямецкага боку абаранялі беларусы, так і застаецца легендай.

*— Вайна — страшная зьява. Няўжо беларусы не хаваліся ад яе, не ўцякалі ад яе?*

— І хаваліся, і ўцякалі. І зноў жа, ня толькі на сваю тэрыторыю. Зафіксаваныя выпадкі ўцёкаў у нэўтральную Швайцарыю. Немцы апамяталіся тады і вярнулі рэшткі дывізіі ў Прусію. Частка была далучаная да арміі генэрала Ўласава (каб потым узяць удзел у вызваленьні Прагі), іншую частку ўжо беларускае кіраўніцтва доўга і нудна вучыла вайсковай падрыхтоўцы, пакуль брыгада не была сфармаваная ў сакавіку 1945 году пад патранатам немцаў, але ўжо не было з кім ваяваць.

*— З далёкіх краінаў вернемся на беларускія землі, дзе ўжо пад дуламі савецкіх аўтаматаў нацыя аб'ядналася ў новых вызначаных межах пад назовам БССР у складзе СССР. Ці можна казаць пра ўсенародную барацьбу на гэтай тэрыторыі падчас вайны?*





— Складанае пытаньне. Бо ў Беларусі сутыкнуліся розныя інтарэсы: і польскага падпольля, і савецкага, спрабавала сфармаваць свае атрады беларускае падпольле. Пад самы канец вайны, як пачалося адступленьне немцаў з тэрыторыі Расеі ва ўсходнюю Беларусь, сюды перавялі расейскія нацыянальныя брыгады. Адным з цэнтраў пранямецкага нацыянальнага руху быў Бабруйск. Тэрыторыя Заходняй Беларусі наагул была тэрыторыяй, дзе спляліся інтарэсы розных народаў. Вядома, што багата беларусаў, у тым ліку і праваслаўных, ваявалі ў складзе Арміі Краёвай. На поўдні быў моцны ўкраінскі рух. Беларусы маглі весьці хіба барацьбу супраць усіх, што было нерэальна. Таму трэба было кагосьці падтрымліваць.

*— І каго пераважна падтрымлівалі?*

— Абсалютная бальшыня людзей проста імкнулася выжыць. Дасьледчыкі называюць лічбу — 375 тысячаў чалавек, што былі ў савецкіх партызанах. Але гэта ў першай палове 1944 году, калі немцы на ўсходзе стварылі такі невыносны рэжым, што прасьцей было пераседзець у партызанах. У 1943 годзе ў партызанах было каля 60 тысячаў чалавек.

*— А ў паліцыі?*

— Ва ўсіх паліцэйскіх фармаваньнях — каля 40—50 тысячаў. Таму большасьць імкнулася проста выжыць і чакала заканчэньня вайны, кім бы тая вайна ні была скончаная.

*— Сёньня пашыраная думка, што беларуская інтэлігенцыя абірала гэтак званы трэці шлях — скарыстацца зь нямецкай акупацыі дзеля разьвіцьця нацыянальнай культуры, а ў пэрспэктыве*

*стварэньня нацыянальнай самастойнай беларускай дзяржавы. Наіўныя людзі былі?*

— Гэта частка інтэлігенцыі, якая варожа ўспрымала савецкі рэжым. Яны ў 1920—1930-я гады пераканаліся, што беларусы не атрымаюць нічога ні ад палякаў, ні ад бальшавікоў, і паспрабавалі зрабіць стаўку на немцаў. Але стаўка была памылковая.

*— У эміграцыйнага дзеяча Аўгена Калубовіча ў зборніку «Крокі гісторыі» я знайшоў такую лічбу — у 1944 годзе зь Беларусі эміgravала некалькі соцень тысячаў беларусаў, без уліку, падкрэсьлівае Калубовіч, ваеннапалонных і вывезеных на прымусовую працу. Гэта сапраўды так?*

— Некалькі соцень тысячаў — гэта і 200 тысячаў... Безумоўна, беларусы, імкнучыся дамагчыся на эміграцыі пэўных прэфэрэнцыяў ад урадаў ЗША і Брытаніі, часам завышалі лічбы. Неяк у адной з эміграцыйных газэт канца 1940-х я сустрэў лічбу, што беларусаў у сьвеце жыве 24 мільёны. Натуральна, нельга казаць, што ў 1944 годзе выехала 500 тысячаў чалавек. Хутчэй, больш за 100 тысячаў. Нейкая частка асела ў Польшчы — пагатоў, Польшча набыла ад немцаў новыя тэрыторыі, якія трэба было засяляць. Разам, паводле падлікаў Беларускага нацыянальнага камітэту ў Нямеччыне, у 1945 годзе вырашылі не вяртацца на радзіму ад 75 тысячаў да 100 тысячаў беларусаў. А арганізацыя ЮНРРА, якая займалася апекай перамешчаных асобаў, наагул казала пра 25 тысячаў беларусаў у лягерах. Таму праўда дзесьці пасярэдзіне. Большасьць уцекачоў потым выехала зь Нямеччыны, найбольш беларусаў перабралася ў ЗША, іх было больш за 20 тысячаў.





*— Паводле савецкіх і постсавецкіх энцыкляпэдыяў, ня толькі дата пачатку вайны, але і дата завяршэньня — 9 траўня, розьніца ад заходніх, дзе Дзень перамогі пазначаны 8 траўня 1945 году. Калі для беларусаў рэальна скончылася тая вайна?*

— 9 траўня, бо Беларусь жыла паводле маскоўскага часу. Але яшчэ некалькі гадоў аж да пачатку 1950-х працягвалася барацьба на тэрыторыі Беларусі супраць камуністычных уладаў польскага, украінскага, беларускага падпольляў. Ішла рэпатрыяцыя зь Нямеччыны і Польшчы.

*— Такім чынам, мы маем падставы называць гэтак званую Вялікую Айчынную вайну мітам?*

— Вайна не была ўсеагульнай для беларускай нацыі, бо розныя групоўкі змагаліся за айчыну ў сваім разуменьні. Тым болей яна не была айчыннай у разуменьні яе як вайны толькі народаў былога СССР зь нямецкімі фашыстамі, бо беларусы змагаліся і на баку саюзьнікаў. Былі, як мы ўжо тут казалі, і людзі, якія аднолькава змагаліся ці хацелі змагацца як зь нямецкімі акупантамі, так і з саветамі. У кожнага была свая праўда. І нарэшце, храналягічна вайна ў Беларусі не супадае з вайной, якую вялі іншыя народы СССР.

*— Як доўга будзе існаваць міт пра Вялікую Айчынную вайну як пра трагедыю сярэдзіны XX стагодзьдзя?*

— Пытаньне Вялікай Айчыннай вайны стане менш балючым гадоў праз дваццаць. Усяму свой час, збольшага адыдзе пакаленьне вэтэранаў, і будзе ня так балюча глядзець на гэтыя падзеі.

# Машэраў

Машэ

*Беларусы пры Машэраву зрабілі істотны крок да зьнікненьня з этнічнай мапы сьвету, каб растварыцца ў Расеі*



*Размова з Алесем Краўцэвічам*

***— Пётар Машэраў — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, герой Савецкага Саюзу. Зь ягоным імем зьвязваюцца эканамічныя дасягненьні БССР, якія зрабілі рэспубліку адной з найбольш разьвітых у СССР. Пасьля загадкавай сьмерці ў аўтамабільнай катастрофе ў пахаваньні першага сакратара ЦК КПБ на сваё жаданьне ўзялі ўдзел дзясяткі тысячаў чалавек. Імем Машэрава названыя вуліцы ў шэрагу гарадоў краіны. Дык Пётар Машэраў — асоба легендарная ці міталягічная для беларускай гісторыі і для разуменьня прыроды беларускай мэнтальнасьці?***

— З Машэравым зьвязаныя і элемэнты легенды, і элемэнты міту. Можна ўспомніць, напрыклад, як ён без аховы ці з адным ахоўнікам далёка збоку прагульваўся між месцам працы — будынкам ЦК і сваім жыльлём, вілай на вуліцы Чырвонаармейскай. Уявіць такое пра сучаснага кіраўніка немагчыма. Гэтаксама, як і ягоныя размовы з простымі людзьмі. Падобныя прыклады можна працягваць.

*— Як бы вы вызначылі сутнасьць міту пра Машэрава?*

— Найперш, гэта нефармальны міт. Ён узьнік з усьведамленьняў розных слаёў савецкага грамадзтва. Міт пра Машэрава ня быў штучна створаны камуністычнай ці Лукашэнкавай прапагандай. Ён падтрыма-

ны людзьмі старэйшага веку, псыхалягічна глыбока закаранёнымі ў мінуўшчыне БССР. Калі ж коратка сфармуляваць сутнасьць, дык гэта — міт пра сумленнага, таленавітага, пасьпяховага кіраўніка, пры якім краіна дасягнула найвышэйшага за сваю гісторыю ўзроўню разьвіцьця.

— *Якія рэальныя падставы нараджэньня гэтага міту?*

— Я лічу, што ёсьць дзьве асноўныя падставы. Па-першае, на час дзейнасьці Машэрава (другая палова 1960-х — 1970-я гады), прыпала адноснае паляпшэньне ўмоваў жыцьця ў Савецкім Саюзе, стабільнасьць, рост дабрабыту. У масавай сьвядомасьці гэта можа асацыявацца з асобай Машэрава. Па-другое, асабістыя якасьці гэтага чалавека, індывідуальнасьць асобы: зьнешні дэмакратызм у паводзінах, лагодная ўсьмешка, нестандартныя дзеяньні (напрыклад, палёт на гелікоптэры, пасадка на лузе, размова з пастухом і падобнае). Пётар Машэраў не выглядаў недасяжным правадыром, жыхаром партыйных нябёсаў.

— *Што ў асобе Машэрава і ягонай дзейнасьці было рэальнасьцю? А што мітам?*

— Падобна, што ў побыце Машэраў быў сапраўды неблагі чалавек. Рэальнасьць — ягоны ўдзел у найбуйнейшым пераломе беларускай гісторыі: пераходзе ад традыцыйнага да індустрыяльнага грамадзтва, пераломе, які адбіўся на лёсе мільёнаў беларусаў. Міт — менавіта ён падымаў Беларусь, бо індустрыялізацыя не зьяўлялася выключна беларускай зьявай, а праводзілася ва ўсім Савецкім Саюзе. Хоць адбывалася гэта з істотным адставаньнем і паводле зусім іншай мадэлі.





І гэта не была зьява выключна беларуская. Кіраваць Беларусьсю ў той пэрыяд мог і нехта іншы.

— *Каб стаць мітам ці пры жыцьці, ці пасьля сьмерці, трэба мець харызму. На прыкладзе асобы Машэрава патлумачце, калі ласка, якія рысы характару, якія факты ў біяграфіі трэба мець, каб стаць легендай і нават мітам?*

— У расейскай традыцыі, і ў савецкай гісторыі таксама, высокія кіраўнікі недасяжныя. У машэраўскі час для партыйнага боса дастаткова было выявіць трохі чалавечнасьці. Не надзімацца ўсьведамленьнем сваёй моцы і ўлады, а ветліва ўсьміхнуцца з тэлеэкрану, ласкава памахаць рукой з трыбуны. Карацей — паказаць сябе жывым чалавекам. У Машэрава гэта атрымлівалася.

— *Я памятаю пахаваньне Машэрава — усенародная жалоба, нават сьлёзы. Тады мне згадалася яшчэ адно гістарычнае пахаваньне ў СССР, напэўна ж, больш маштабнае. Сотні тысячаў людзей плакалі па Сталіну ў 1953-м. З чым зьвязаны ўвогуле плач па палітыку? Не па памерлых бацьках, дзецях, сябрах, а па чужым чалавеку? Няўжо беларусы думалі, што з гэтым заканчваецца і іхнае жыцьцё?*

— Жалоба па Машэраву мае некалькі іншае вымярэньне, чым па Сталіну. Сталін быў богам, цэнтрам пэўнага культу. А міт у цэлым, і жалоба па Машэраву ў прыватнасьці, больш чалавечныя зьявы. Сотні тысячаў вясковых беларусаў выехалі з калгасаў, знайшлі працу ў горадзе, за якую атрымлівалі рэальныя грошы, а ня палачкі «трудаднёў», палепшылі свае жыцьцёвыя

ўмовы. Натуральна, яны зьвязвалі гэта з асобай, якая ў той час стаяла на чале краіны.

*— Такая псыхалёгія людзей: нябожчыку многае даруецца, шмат зь ягонага зямнога жыцьця ідэалізуецца. А пры жыцьці Машэрава такое ж аднадушнае стаўленьне да гэтай асобы было?*

— Не магу сказаць пра шырокія масы, таму што тады рэйтынг палітыкаў не вымяраўся, ніхто ня ведаў нават, што такое можна рабіць. Пра нас, студэнтаў унівэрсытэту, магу сказаць: ніякага захапленьня асобай Машэрава мы не адчувалі. Мы мелі ўжо досыць камуністычнай, наскрозь фальшывай прапаганды, ненавідзелі і паціху зьдзекаваліся зь яе. Прывяду такі прыклад: у нашым інтэрнаце быў звычай вывешваць у прыбіральні на дзьвярах кабінак выразкі газэтных загалоўкаў з «Правды» і «Советской Белоруссии». Кожны загаловак выдатна пасаваў да месца і дзеі, якая адбывалася ў кабінцы. Напрыклад, «Пятилетку за четыре года», «Ударный труд советских горняков», «Партийная организация впереди»...

*— Такое стаўленьне да камунізму і тагачаснага рэжыму вы пераносілі і на людзей, якія былі на чале таго рэжыму? А ці не былі яны самі закладнікамі, а мо нават і ахвярамі рэжыму?*

— Тады мы не аддзялялі кіраўнікоў рэжыму ад самога рэжыму. І сярод тых шэрых партыйных босаў асоба Машэрава намі, студэнтамі, не вылучалася.

*— Першыя гады свайго кіраваньня Аляксандар Лукашэнка часта зьвяртаўся да імя Машэрава, карыстаўся гэтым мітам. І вось ужо пра Машэрава маўчыць. Чаму ўжо не патрэбны гэты міт сучаснай беларускай уладзе?*





— Тут спрацоўвае звычайная лёгіка аўтарытарнага рэжыму, які хоча стаць таталітарным. У цэнтры рэжыму павінен стаяць культ правадыра, які не памыляецца, які лепшы за ўсіх, папярэдніх і наступных, які перамагае ўсіх ворагаў, які абраны народам, лёсам, Богам. У нашай сытуацыі міт пра Машэрава стварае канкурэнцыю культу сёньняшняга правадыра, які павінен быць найлепшым з усіх папярэдніх і наступных. Таму міт пра Машэрава ўжо не эксплюатуецца.

*— Улады адмаўляюцца ад міту пра Машэрава, пакарысталіся і кінулі. І тым ня меней, міт, хоць і ня вельмі актыўна, усё ж існуе. Якія грамадзкія слаі яго падтрымліваюць? Навошта ён ім?*

— Падтрымліваюць сталыя і сярэдняга веку людзі, маладосьць якіх прыпала на канец 1960-х — 1970-я гады, якія настальгуюць па савецкай стабільнасьці, ды ўвогуле па шчасьлівай маладосьці. А маладосьць — заўсёды прыемны ўспамін.

*— Я ўжо сутыкнуўся з тым, што маладыя людзі амаль нічога канкрэтнага ня ведаюць пра Леніна. А ці ведаюць яны хоць нешта пра Машэрава?*

— Мне цяжка сказаць, бо ў беларускіх унівэрсытэтах я ўжо даўно не выкладаю. Я думаю, што яны больш, чым ад іх вымагаюць праграмы па гісторыі Беларусі, ня ведаюць. Калі выкладчыкі паходзяць з той эпохі і маюць настальгію па ёй, дык нейкім чынам могуць перадаваць гэта студэнтам. Але ня думаю, што гэта можа быць масавай зьявай і адбудзецца нейкае ўкараненьне тых поглядаў у сьвядомасьці студэнтаў.

*— Што станоўчае і што адмоўнае нясе міт пра Машэрава сучаснай Беларусі? Ці патрэбны ён увогуле Беларусі XXI стагодзьдзя?*

— Я лічу, што міт пра Машэрава шкодны, бо ён стварае ілюзію чалавечнасьці камунізму. Камуністычны рэжым ахоўвалі розныя людзі. Адны ахоўнікі былі лепшыя, іншыя — горшыя. Машэраў быў з тых, дабрэйшых, але ўсё ж адным зь іх. Паўстае пытаньне: ці можна падтрымліваць міт таталітарнага рэжыму? Пры Машэраву пазачыняліся беларускія школы ва ўсіх гарадах краіны, а беларусы сталі ў масе сваёй *homo soveticus*. І ў гэтай масе маршыраваў тады яшчэ малады Аляксандар Лукашэнка — будучы першы прэзыдэнт Беларусі. Мы можам успомніць таксама, што ў тыя гады індустрыялізацыі было найвялікшае ўзмацненьне асыміляцыі беларускага народу. Беларусы зь вёсак прыходзілі ў гэтыя асыміляцыйныя катлы — буйныя гарады і пераварваліся там у расейскамоўнае насельніцтва. Акрамя таго, пры Машэраву распачалася страшная экалягічная зьява, ці нават катастрофа — мэліярацыя. Пры ім бяздушна асушылі балоты. У Беларусі ў многіх мясьцінах зьявілася мёртвая зямля. Шмат чаго можна яшчэ прыпомніць. Але самае галоўнае — беларусы пры Машэраву зрабілі істотны крок да зьнікненьня з этнічнай мапы сьвету, каб растварыцца ў Расеі.

*— Ці сьвядома Пётар Машэраў усё гэта рабіў? І ці мог ён быць самастойны ў сваіх рашэньнях?*

— Цяжка сказаць. Магчыма, ён быў беларускі патрыёт. І ў пэўным сэнсе Машэраў ім быў, але ў разуменьні камуністаў. Беларускія камуністы разумеюць патрыятызм, каб быць наперадзе Расеі, як гэта і выяўлялася, калі кіраваў Машэраў. Але ці быў ён за-





кладнікам гэтай сыстэмы? Кожны чалавек меў выбар. Эўрапейцы робяць выбар паводле сваёй традыцыі: калі я не магу зьмяніць нядобрую сыстэму, дык я прынамсі ў ёй ня ўдзельнічаю. Машэраў, да прыкладу, мог быць настаўнікам. Гэта таксама быў бы ўдзел у сыстэме, але нашмат меншы.

*— Як доўга будзе існаваць гэты міт?*

— Я думаю, датуль, пакуль у Беларусі будуць жыць савецкія людзі, якія каранямі сядзяць у той эпосе.

*— Хто стане магільшчыкам міту пра Машэрава?*

— Рэальнасьць жыцьця краіны, якая ўжо ніколі ня вернецца ў савецкую мінуўшчыну, як бы ні стараўся яе туды павярнуць з эпохі Машэрава першы прэзыдэнт Беларусі.

# Сялянская нацыя

*Новая беларуская нацыя мусіць мець повязь зь мінулым і хоць бы трошкі быць сялянскай, але не калгаснай*



*Размова з Захарам Шыбекам*

***— Адно з шырока распаўсюджаных уяўленьняў пра беларусаў: яны — сялянская нацыя. Што маецца на ўвазе, калі даецца такое вызначэньне — сялянская нацыя?***

— Гэтае паняцьце можна разумець у трох аспэктах: сацыяльным, калі сяляне складаюць большасьць, культурна-інтэлектуальным, калі сялянская мэнтальнасьць і культурная традыцыя пераважаюць, і, нарэшце, у палітычным аспэкце, калі нацыянальны праект, або нацыянальная ідэя, падладжваецца пад сялянскую адметнасьць (інтарэсы, культуру, сьветабачаньне).

*— Калі ж склалася беларуская сялянская нацыя? Існуе меркаваньне, што сялянскай яна была спрадвеку. Гэта міт ці рэальнасьць?*

— Што тычыцца беларускага этнасу, які ўзьнік у XIII стагодзьдзі, то ў сацыяльным пляне гэта сапраўды так. Сяляне складалі ў ім абсалютную бальшыню. Толькі ў гэтым нічога дрэннага няма. Такі ж сацыяльны склад мелі ўсе народы даіндустрыяльных грамадзтваў. Урэшце, усе нацыі — сялянскага паходжаньня. Як і іншыя сялянскія этнасы, беларускі этнас недзе з XIV стагодзьдзя спарадзіў устойлівую сацыяльную разнастайнасьць: эліту грамадзтва (вядомых асьветнікаў, шляхту, купецтва, духавенства) і сярэднія пласты грамадзтва, ці трэцяе саслоўе (рамесьнікі, гандляры, разначынцы). Каля 10 % насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім прыпадала на шляхту. Беларускі этнас спарадзіў і элітарную культуру. У культурным

і мэнтальным пляне беларускі этнас у ВКЛ ня быў выключна сялянскі.

*— Некаторыя гісторыкі сьцьвярджаюць, што пасьля самай крывавай для Беларусі вайны з Масковіяй у сярэдзіне XVII стагодзьдзя беларускі этнас згубіў сваю эліту. Маўляў, аграрная арыстакратыя спалянізавалася, гарады сталі габрэйскія, і толькі шырокім слаям сялянства было наканавана захоўваць беларускую традыцыю. Гэта так?*

— Мяркую, што не. Беларускі этнас ня стаў ад таго ў далейшым сялянскім. Спалянізаваная шляхта заставалася этнічна беларускай. Зь сялянствам яе лучылі адна дзяржава, этнічная тэрыторыя. Ні іншая мова, ні іншая рэлігія не разбуралі этнасу. У духоўным пляне і да XVII стагодзьдзя, і пасьля яго эліта (пераважна буйная і сярэдняя шляхта) заставалася ізаляванай ад сялянства і толькі карысталася здабыткамі ягонай працы. Як і іншыя саслоўі, сялянства жыло адасобленым жыцьцём, у межах сваёй лякальнай традыцыі і лякальнай культуры. Да таго ж сярэдняя і дробная шляхта заставалася пераважна беларускамоўнай. Тут ня варта распаўсюджваць на этнас нацыянальную сьвядомасьць, характэрную для нацыі. На этапе нацыятворчасьці эліты звычайна вярталіся да сваіх этнічных каранёў. Беларускі этнас да пэрыяду ўступленьня яго ў фазу нацыятворчасьці падрывалі маскоўскі генацыд і маскоўска-расейскія захопы беларускіх этнічных тэрыторыяў, а не палянізацыя і акаталічваньне. Нават у пачатку XX стагодзьдзя, калі рэсурсы ідэалягічнага ўзьдзеяньня ўзрасьлі, польскія ўлады адмовіліся ўлучаць у адроджаную Польшчу ўвесь беларускі народ,





бо пабаяліся, што ня змогуць палянізаваць яго, а таму падзяліліся беларускімі землямі з савецкай Расеяй.

*— У канцы XVIII стагодзьдзя, якраз тады, калі ў Эўропе пачалі складацца сучасныя нацыі, беларускія землі былі захопленыя Расеяй. Царскі ўрад разглядаў беларусаў як этнічны матэрыял для вялікарускай нацыі, а таму мэтадычна вынішчаў нацыянальную эліту. Ці паўплывалі гэтыя працэсы на фармаваньне беларускай нацыі як сялянскай?*

— Зразумела, што нацыянальная палітыка царызму, спалянізаванасьць аграрнай эліты, адсутнасьць значнай колькасьці беларускай буржуазіі не спрыялі нацыянальнаму самасьцьвярджэньню беларусаў. Фармаваньне беларускай нацыі ў XIX — пачатку XX стагодзьдзя ў складзе Расеі сапраўды ішло пераважна на сялянскай аснове.

І ня дзіўна. Паводле перапісу насельніцтва ад 1897 году, сяляне складалі каля 90 % жыхароў цяперашніх беларускіх земляў. Але працэс нацыятворчасьці ўсё ж не абмяжоўваўся сялянскай масай. Ён быў больш разнастайны. Дзейсны ўдзел у ім прымала дробная шляхта, асобныя памешчыкі, духавенства, мяшчане. Сярод прыхільнікаў беларускай ідэі («гоманаўцаў» і «нашаніўцаў») былі габрэі. Падчас перапісу 1897 году больш за 8 тысячаў прадстаўнікоў інтэлігенцкіх прафэсіяў назвалі беларускую мову роднай.

*— А што дрэннага ў тым, што нацыя фармавалася на сялянскай аснове? Прыкладам, сялянская аснова стварала добры фундамэнт для нацыянальнага дому фінаў, эстонцаў, латышоў ды і літоўцаў. Яны ж ня мелі амаль нічога, акрамя*

*сялянскага этнічнага матэрыялу, але пасьпяхова стварылі сучасныя нацыі.*

— Нічога дрэннага. Шлях нацыятворчасьці ад сялянскага этнасу да этнакультурнай нацыі і нацыянальнай дзяржавы ўяўляецца якраз заканамерным і дае больш надзейныя вынікі, чым шлях нацыятворчасьці ў адваротным кірунку: імпэрская дзяржава — палітычная нацыя. Гісторыя паказвае няўстойлівасьць палітычных, як правіла, імпэрскіх, паводле свайго паходжаньня, нацыяў. Напрыклад, сэпаратызм у Англіі і Гішпаніі тлее дагэтуль. Беларуская нацыя, ва ўлоньні царскай Расейскай імпэрыі, фармавалася адпаведна першаму сцэнару. І ўмовы тады былі нашмат больш спрыяльныя, чым у час сталінізму.

*— Аднак, як кажуць на адзін голас вучоныя, беларускія сяляне, адрозна ад іншых, чамусьці мелі нізкую нацыянальную сьвядомасьць, ці нават зусім яе ня мелі. Дык што гэта былі за сяляне? Атрымліваецца, што ў адрозьненьне ад іншых, яны аказаліся не прыдатныя для фармаваньня беларускай нацыі?*

— Выходзіць — так. Па-першае, не было нацыі, а тым больш — сялянскай нацыі. З аднаго боку, захоўваўся беларускі этнас, які царызму не ўдалося русіфікаваць, а з другога — распрацаваны «нашаніўцамі» праект стварэньня беларускай нацыі, якога сяляне амаль не падтрымлівалі.

*— Але чаму? Нацыянальны беларускі праект быў жа праектам сялянскай нацыі, створаным, здавалася б, з максымальным улікам сялянскіх інтарэсаў.*





— У індыфэрэнтнасьці сялянаў можна, зразумела, вінаваціць царызм. І гэта будзе слушна. Але калі быць больш самакрытычнымі, то, можа, прычына адчужанасьці народу ад беларускага нацыянальнага праекту хаваецца і ў тэарэтычных памылках ягоных аўтараў? Рэч у тым, што той праект быў малапрэстыжны, ня столькі сялянскі, колькі плебэйскі, разьлічаны на беднякоў, паўпэраў. Зь енкам і плачам пра гаротную долю сялянаў ім прапаноўвалася заставацца сялянамі, задавальняцца малым (сацыяльнай роўнасьцю), а яны, можа, хацелі быць панамі. Беларускі праект быў агістарычны, не абапіраўся на гістарычную традыцыю. Сялянам прапаноўвалі стаць беларусамі, а яны, можа, былі літвінамі ды русінамі, і таму хаваліся за тутэйшасьцю. У гістарычнай памяці народу, паводле сьведчаньня Янкі Станкевіча, захоўваўся назоў дзяржавы — Літва (ВКЛ), а назоў «Беларусь» выглядаў штучным і чужым. Тадэвуша Касьцюшку і Кастуся Каліноўскага, на штандарах якіх яшчэ была Літва, сяляне часткова падтрымлівалі, а за народнікамі 1870—1880-х гадоў, «нашаніўцамі», дзеячамі БНР амаль не ішлі. Так што ў дыскурсе нацыянальнага праекту пад назвай «Беларусь» нацыянальная сьвядомасьць у сялянаў была, сапраўды, нізкая. У той жа час пашыранасьць сярод іх усьведамленьня пра сваю тутэйшасьць шмат пра што кажа. Тутэйшасьць — першасная і альтэрнатыўная форма нацыянальнай сьвядомасьці. Гэта — сьведчаньне, так бы мовіць, стыхійнай нацыятворчасьці.

*— Атрымліваецца, што ні сялянская, ні якая іншая нацыя ў складзе царскай Расеі так і ня ўзьнікла. Дык можа беларускім нацыянал-камуністам удалося павесьці за сабой сялянства і запачатка-*

*ваць беларускую сялянскую нацыю пасьля бальшавіцкага перавароту ў 1917 годзе?*

— Маеце рацыю. У БССР 1920-х гадоў быць беларусам стала бясьпечна і нават выгадна. У беларускі праект уплятаЛася камуністычная ілюзія пра шчасьлівае жыцьцё. Плач замяняўся верай у сьветлую будучыню і надзеяй ва ўмовах нэпу стаць чырвонымі панамі. Таму ідэю беларускай камуністычнай нацыі ў асноўнай масе прымалі сяляне як БССР, так і Заходняй Беларусі. Падзеленасьць беларускіх земляў толькі спрыяла росту нацыянальнай сьвядомасьці. На працягу 1920-х гадоў паўсталі рэальныя контуры беларускай камуністычнай нацыі, якая была тады сапраўды сялянскай і ў сацыяльным, і ў культурным, і ў палітычным сэнсах. Буржуазія вынішчалася. Індустрыялізацыя і ўрбанізацыя беларускіх земляў тады яшчэ не кранулі.

*— А як жа гэта стасавалася з галоўным бальшавіцкім пастулятам пра дыктатуру пралетарыяту?*

— Беларускія нацыянал-камуністы доўга не хацелі ўключаць у канстытуцыю БССР марксісцкае палажэньне пра дыктатуру пралетарыяту, спасылаючыся перадусім на сялянскасьць беларускай нацыі. Аднак зьяўленьне ў 1920-х гадах зародкаў беларускай камунізаванай нацыі нагадвала заўчасныя роды, справакаваныя расейскімі бальшавікамі, каб пагубіць неданошанае дзіця. Сталіністы вынішчалі ня толькі нацыянальную інтэлігенцыю, але і заможнае сялянства. Рэшту сялянаў пераўтварылі ў калгасьнікаў, вярнулі да прыгонных парадкаў. У выніку рэпрэсіяў зародкі нацыі зьніклі. Застаўся скалечаны беларускі этнас, які стаў выключна паўпэраўскім — калгасным.





Беларусазнаўца з Польшчы Рышард Радзік называе яго «саветызаванай этнічнай сялянскасьцю». Паўнавартасны сялянскі этнас захоўваўся толькі ў Заходняй Беларусі.

*— Але паралельна ці нават разам з высілкамі ў фармаваньні сялянскай нацыі, бальшавікі праводзілі сваю нацыянальную палітыку, у аснове якой былі ня мова ці культурная, побытавая традыцыя, а тыя ж камуністычныя догмы. Як выявілася гэта ў беларусаў?*

— Пасьля вайны ў ходзе савецкай індустрыялізацыі БССР працэс насаджэньня савецкай сьвядомасьці істотна ўзмацніўся. Побач з новай палітычнай нацыяй (савецкі народ) была створана савецкая беларуская нацыя, вельмі канфармісцкая і нетрывалая. Дакладней — прывід этнакультурнай нацыі, бо савецкая сьвядомасьць дамінавала ў ёй над нацыянальнай. Паводле свайго сацыяльнага складу гэта была калгасная (вясковая) нацыя; паводле сваёй мэнтальнасьці і культуры — таксама, хоць з 1970-х гадоў большыня насельніцтва БССР пражывала ў індустрыялізаваных гарадах.

*— Чаму так сталася?*

— Ды таму, што гарадзкія навасёлы, у тым ліку і партыйныя лідэры, заставаліся ў мэнтальным і культурным пляне вяскоўцамі-калгасьнікамі. Пасьляваенны праект савецкай беларускай нацыі быў плебэйскі і задавальняў плебэяў. Ягонымі падставовымі ідэямі былі сацыяльная роўнасьць, стабільнасьць, мірнае жыцьцё, нібыта немагчымыя без Расеі і мудрага кіраўніцтва бальшавікоў.

*— Значыць, пасьля вынішчэньня бальшавікамі сялянства гаварыць пра сялянскую нацыю не выпадае. Сфармавалася калгасная нацыя, а гэта відавочна зусім іншае. Якія ж пэрспэктывы ў выжываньні беларусаў як нацыі цяпер, калі сялянства, што зьяўляецца асновай для натуральнай нацыятворчасьці, зьнікла?*

— Пасьля атрыманьня дзяржаўнай незалежнасьці ў Беларусі ідзе даволі спэцыфічны працэс разбурэньня калгасна-вясковай нацыі і фармаваньня на яе руінах гарадзкой. Новая беларуская нацыя ўзьнікае як палітычная нацыя не на аснове сялянаў, а на аснове гараджанаў. У гэтым — адметнасьць запозьненага нацыятворчага працэсу Беларусі, ягоная нетыповасьць для Эўропы. Аднак у гэтым ёсьць і перавага — эканоміцца час. Гарадзкая ідэнтычнасьць у былых сялянаў ужо склалася (гэта значыць, успрыманьне гораду як роднага, як сваёй малой радзімы), і яна адразу перарастае ў нацыянальную. Другая асаблівасьць нацыятворчага працэсу ў Беларусі палягае ў тым, што ён зьдзяйсьняецца ў большай ступені дзякуючы гораду, а не дзяржаве. Горад, зь ягоным жорсткім эканамічным рацыяналізмам і пэўнай гарантыяй узбагачэньня, апярэджвае дзяржаву, ачышчае людзей ад саветызму нават насуперак волі прасавецкага кіраўніцтва. Паўтараецца сытуацыя, што існавала ў царскай Расеі, калі пазбаўлены дзяржаўнасьці народ тварыў нацыю стыхійна, самадзейна, называючы сябе тутэйшым.

*— Але наколькі жыцьцядзейная так хутка і штучна сфармаваная гарадзкая нацыя з адрынутым сялянскім падмуркам?*

— Пакуль што горад разбурае вёску, сьцягвае да сябе вяскоўцаў, абязьлюджвае беларускія прасторы. Гараджане пагардна глядзяць на вяскоўцаў. Але, думаю, гарадзкія фанабэрыя, снабізм хутка мінуць, і ўзьнікне разуменьне, што час вяртацца з гарадоў да зямлі, каб утрымаць гэты скарб у руках беларускай нацыі. Новая беларуская нацыя мусіць мець повязь зь мінулым і хоць бы трошкі быць сялянскай, але не калгаснай.

*— У чым шкоднасьць міту пра беларусаў як сялянскую нацыю? Што тут трэба захаваць, а ад чаго адмовіцца ці нават разбурыць?*

— Гэты міт узьнік у эпоху каланізацыі беларускіх земляў сьпярша Расеяй, а на пачатку XX стагодзьдзя і Польшчай, каб паказаць няздатнасьць беларусаў стварыць нацыянальную эліту, высокую нацыянальную культуру, сваю нацыянальную дзяржаўнасьць. Падтрымліваўся ён і бальшавіцкімі захопнікамі. А з мэтай дыскрэдытацыі нацыянальнай ідэі выкарыстоўваецца дагэтуль. У ім — ня толькі прыніжэньне беларусаў, але і самапрыніжэньне. Сялянства атаясамліваецца з калгасьнікамі, цемнатой, прымітывізмам, з усім адмоўным. Гэта комплекс непаўнавартаснасьці і правінцыйнасьці, гэта — праява посткаляніяльнага сындрому, гэта — перажытак грэблівасьці расейскага гораду да беларускай вёскі і вяскоўцаў. Новай беларускай нацыі час ад усяго гэтага адмовіцца і з павагай ставіцца да сваіх вытокаў: ня толькі да шляхты, але і да сялянства.

# Дзьвюхмоўны народ

Дзьвюю

*Дзьвюхмоўе ёсьць вынікам цынічнай палітыкі прымусу і заваблiваньня беларусаў да добраахвотнага адмаўленьня ад матчынай мовы*



*Размова з Валянцінам Мазцом*

***— Дзьвюхмоўе, або білінгвізм — папераменнае карыстаньне дзьвюма мовамі. У Беларусі, паводле вынікаў рэфэрэндуму 1995 году, праведзенага з істотнымі парушэньнямі, расейская мова атрымала роўны афіцыйны статус зь беларускай. Агульнасьць мовы — адна з самых істотных прыкметаў нацыі. І раптам беларусы становяцца дзьвюхмоўным народам. Ці ёсьць падобныя прыклады ў Эўропе?***

— Дзьвюхмоўныя і нават болей моўныя краіны ёсьць — Фінляндыя, Швайцарыя, Бэльгія. Але гаворка ідзе пра краіны, у якіх пражываюць розныя нацыі ў прыблізна роўных ці вялікіх прапорцыях. Але прыкладу дзьвюхмоўнага народу няма. І ня можа быць. Значыць, беларусаў штучна зрабілі дзьвюхмоўнымі. Дзьвюхмоўны народ — гэта міт і ня болей, але на ягонай падставе так актыўна пэўныя сілы рэалізуюць пэўныя мэты, так пасьлядоўна змушаюць да дзьвюхмоўя людзей, што тыя насамрэч паверылі ў сваё дзьвюхмоўе.

*— Хто ж і зь якой мэтай праводзіць у Беларусі ў жыцьцё дзьвюхмоўе?*

— Адкажу вельмі красамоўнай цытатай. Расейскі генэрал-губэрнатар М. А. Даўгарукаў у 1833 годзе ў справаздачы цару Мікалаю I аб кіраваньні Віленскай, і Гарадзенскай, і Беластоцкай губэрнямі пісаў: «Ва ўсе часы, ва ўсіх краінах сьвету мова заўжды была і будзе непасрэднай зброяй урадаў для дасягненьня ўсемагчы-

мых плянаў і намераў. Усюды паноўная мова дзяржавы, як паноўнае веравызнаньне, павінна мець перавагу перад мясцовымі гаворкамі аддаленых, памежных ці навадалучаных краінаў. Агульнае ўжываньне паноўнай мовы ў дзяржаве непрыкметна зьбліжае разнародныя яе плямёны... і нарэшце зьлівае ўсе чужацкія плямёны ў адзін народ». Такім чынам, у Беларусі праводзілася моўная палітыка для ўмацаваньня расейскага панаваньня. Мова — адзін з магутных сродкаў ажыцьцяўленьня каляніяльнай палітыкі.

*— Якім быў працэс узьнікненьня і фармаваньня міту «беларусы — дзьвюхмоўны народ»?*

— Дадзены міт фармаваўся цягам амаль што двух стагодзьдзяў. Пасьля далучэньня нашых земляў да Расейскай імпэрыі пачалося паступовае выцясьненьне з камунікатыўнай прасторы паноўнай раней польскай мовы і замены яе на расейскую. Чарговы этап у разьвіцьці дадзенага міту быў зьвязаны з умацаваньнем пазыцыяў расейскай мовы ў СССР як сродку міжнацыянальных зносінаў. Так, на міжрэспубліканскай партканфэрэнцыі ў жніўні 1956 году была прынятая дэкларацыя, у якой адзначалася, што расейская мова павінна стаць другой роднай мовай для ўсіх савецкіх народаў і элемэнтам узбагачэньня лексыкі мясцовых моваў.

*— Міт мітам, але ж народ працягваў гаварыць сваёй мовай. І гэты міт трэба было нейкім чынам укараняць у сьвядомасьць людзей — гэта значыць, прымушаць людзей гаварыць чужой мовай. Як гэта магло стацца магчымым?*

— Абвешчаны партыйным кіраўніцтвам лёзунг пра





непазьбежнае зьліцьцё нацыяў у працэсе будаўніцтва камунізму найбольш пасьлядоўна ажыцьцяўляўся на практыцы ў БССР, што прывяло да прыніжэньня ролі беларускай мовы даслоўна ва ўсіх сфэрах жыцьця грамадзтва і павелічэньня ролі расейскай мовы, якая зьяўлялася сродкам міжнацыянальных зносінаў. Найбольш адчувальны працэс русіфікацыі ў БССР быў у галіне адукацыі, як школьнай, так і вышэйшай. Гэта выявілася ў скарачэньні колькасьці беларускамоўных школ і павелічэньні колькасьці расейскамоўных. Абумоўліваўся такі стан у сфэры адукацыі шэрагам фактараў, адным з якіх быў хранічны недахоп настаўнікаў. У БССР да 1 студзеня 1945 году вярнуліся толькі каля дзьвюх тысячаў настаўнікаў-беларусаў. На працу ў БССР прыяжджалі настаўнікі зь іншых савецкіх рэспублік. Большасьць зь іх ня ведала беларускай мовы і не магла выкладаць у школе на гэтай мове. Працэс русіфікацыі сыстэмы адукацыі пашыраўся і ў сувязі з тым, што ў школы рэспублікі ў велізарнай колькасьці паступалі падручнікі з Расейскай Фэдэрацыі пераважна на расейскай мове, што абавязвала будаваць на ёй і навучальна-выхаваўчы працэс. У большасьці вышэйшых навучальных установаў пасьля вайны, з прычыны адсутнасьці кваліфікаваных кадраў беларускамоўных выкладчыкаў, навучаньне студэнтаў праводзілася на расейскай мове.

*— Хто канкрэтна, якія структуры, інстытуты практычна пашыралі выкарыстаньне расейскай мовы ў БССР?*

— Галоўным правадніком палітыкі русіфікацыі выступалі дзяржаўна-партыйныя структуры. Так, у красавіку 1951 году Міністэрства асьветы БССР

сваім загадам адмяніла ў расейскамоўных школах пераводныя іспыты і іспыты на атэстат сталасьці па беларускай мове. У 1952 годзе на прапанову ЦК КП(б)Б у Белдзяржунівэрсытэце абмежавалі выкладаньне беларускай гісторыі і культуры, праз некаторы час беларуская мова была амаль цалкам выцесьненая зь сьценаў гэтай навучальнай установы, а катэдра гісторыі Беларусі — закрытая. Выступаючы на IV Пленуме ЦК КП(б)Б 25—27 чэрвеня 1953 году, міністар асьветы БССР І. Ільлюшын адзначаў: «Няма чаго заплюшчваць вочы на той факт, што ў горадзе Менску, у абласных гарадах і многіх раённых цэнтрах у беларусаў (асабліва тых, што знаходзяцца на кіроўных пасадах) ёсьць імкненьне накіроўваць сваіх дзяцей вучыцца толькі ў расейскую школу». Русіфікацыя пашыралася і на сыстэму дашкольных установаў. У адпаведнасьці з рашэньнямі Савету Міністраў СССР ад 29 чэрвеня 1979 году і Савету Міністраў БССР ад 3 ліпеня 1979 году, пачынаючы з 1 верасьня 1981 году ўводзілася абавязковае вывучэньне расейскай мовы ў дашкольных установах для дзяцей, якія не валодалі ёю, а таксама ў падрыхтоўчых клясах пры агульнаадукацыйных беларускамоўных школах. 26 траўня 1983 году была прынятая пастанова ЦК КПСС і Савету Міністраў СССР пра павелічэньне на 15 % зарплаты настаўнікам расейскай мовы і літаратуры ў беларускамоўных школах.

*— З галіной адукацыі ўсё зразумела. А як адбываліся гэтыя працэсы ў іншых сфэрах? Як там мацаваўся гэты міт?*

— Рост прамысловага патэнцыялу БССР павялічваў тэмпы ўрбанізацыі і зьвязаныя зь ёй перамяшчэньні сельскага насельніцтва ў гарады. Адначасна зь міжрэспубліканскай, у БССР адбывалася інтэнсіўная ўнутраная міграцыя, якая істотна ўплывала на суадносіны гарадзкога і сельскага насельніцтва. У даволі складаных і супярэчлівых працэсах адаптацыі беларусы вымушаны былі пераходзіць на выкарыстаньне ў побыце і паўсядзённым жыцьці расейскай мовы, якая выступала ў якасьці галоўнага камунікатыўнага сродку абсалютна для ўсіх нацыянальнасьцяў, што жывуць у гарадах Беларусі.

*— Ці існуюць нейкія афіцыйныя зьвесткі пра зьніжэньне ўдзельнай вагі беларусаў, якія валодалі беларускай мовай?*

— Так, калі ў сельскай мясцовасьці з 1959 да 1989 году гэтае зьніжэньне склала каля 1,5 %, дык удзельная вага беларусаў у гарадах, якія назвалі роднай беларускую мову, паменшылася з 77,5 % да амаль 70 %. Сярод гарадзкога насельніцтва ўдзельная вага беларусаў, якія назвалі роднай расейскую мову, складала ў 1970 годзе 24 %, у той час, як адпаведны паказчык па рэспубліцы быў прыкладна 10 %. Яшчэ большы быў гэты паказчык у Менску — амаль 40 % беларусаў назвалі расейскую мову роднай. Менш за палову жыхароў Менску, Гомелю, Віцебску, Горадні, Берасьця, Полацку, Бабруйску, Пінску і Наваполацку падчас перапісу 1989 году назвалі беларускую мову роднай.

*— Дык ці сапраўды беларусы добраахвотна зрабілі сьвядомы выбар на карысьць расейскай мовы?*

— 15 траўня 1957 году на паседжаньні Бюро ЦК КПБ быў зацьверджаны праект пастановы Савету Міністраў БССР «Пра парадак вызваленьня вучняў ад

абавязковага вывучэньня беларускай мовы ў расейскіх школах БССР». У адпаведнасьці з прынятай пастановай прадугледжвалася «дазволіць Міністэрству асьветы БССР вызваляць ад абавязковага вывучэньня беларускай мовы вучняў — дзяцей асобаў кадравага складу Савецкай Арміі, Ваенна-паветраных і Ваенна-марскіх сілаў і памежных войскаў, незалежна ад таго, у якую клясу расейскамоўнай школы БССР яны паступаюць». У 1959 годзе прынялі Закон СССР «Аб умацаваньні сувязі школы з жыцьцём і пра далейшае развіцьцё сыстэмы народнай адукацыі ў СССР». У адпаведнасьці з Законам неабходнасьць вывучэньня роднай мовы тытульнай нацыі ў саюзных рэспубліках як асобнага прадмета ў расейскамоўных школах цалкам залежала ад жаданьня бацькоў і вучняў.

Прыняцьце дадзенага Закону выклікала значнае павелічэньне колькасьці навучэнцаў расейскамоўных школаў. Былыя вайскоўцы і асобы, якія прыехалі на работу ў БССР зь іншых саюзных рэспублік, зьвярталіся ў Міністэрства асьветы з просьбамі пазбавіць іхных дзяцей ад вывучэньня беларускай мовы, матывуючы гэта неабходнасьцю вызваліць дзяцей ад перагрузкі вучэбнай працай, «бо яны не валодаюць беларускай гутарковай мовай, у сем'ях размаўляюць толькі па-расейску і ня бачаць практычнай мэтазгоднасьці вывучаць беларускую мову паралельна з расейскай». Такім чынам, дзьвюхмоўе ёсьць вынікам цынічнай палітыкі прымусу і завабліваньня беларусаў да добраахвотнага адмаўленьня ад матчынай мовы.

*— З свайго досьведу, памяці чалавека, які сямнаццаць гадоў гаварыў і вучыўся толькі на беларускай мове, а затым пры паступленьні ў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт быў змушаны перахо-*





*дзіць на чужую мне расейскую мову, скажу, што вырашальным момантам выбару беларусамі — школьнікамі і іхнымі бацькамі — школы з расейскай мовай навучаньня было і тое, што пасьля заканчэньня сярэдняй школы на тэрыторыі БССР маладыя людзі маглі працягваць навучаньне пераважна толькі на расейскай мове, а беларуская заставалася незапатрабаванай пры атрыманьні сярэдняй спэцыяльнай і вышэйшай адукацыі.*

— Так. Беларуская мова і літаратура паступова выключаліся зь ліку ўступных іспытаў пры наборы ў вышэйшыя і сярэднія спэцыяльныя навучальныя ўстановы. Гэтая тэндэнцыя паўстала задоўга да вашага паступленьня ва ўнівэрсытэт, а менавіта ў 1945/46 навучальным годзе. Пры паступленьні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы зь пятнаццаці ў васьмі прымаліся ўступныя іспыты па расейскай і беларускай мове і літаратуры. У пяці ВНУ ў пераліку ўступных іспытаў беларуская мова і літаратура адсутнічалі. Уступныя іспыты па беларускай мове не прымаліся ў большасьці сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў негуманітарнага профілю. У 1955 годзе ўступны іспыт па беларускай мове і літаратуры прымаўся толькі ў пэдагагічных інстытутах і тэатральна-мастацкім. Акрамя тэхнічных ВНУ, ад уступнага іспыту па беларускай мове і літаратуры адмовіўся і Белдзяржунівэрсытэт. Зь пяцідзесяці васьмі сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў толькі ў васьмі захаваўся ўступны іспыт па беларускай мове. Разам з тым нават у згаданых вышэй установах беларуская мова прымалася на ўступных іспытах не як альтэрнатыва расейскай. Як вынік, абітурыенты, што выбралі

для здачы беларускую мову, былі вымушаныя здаваць на адзін іспыт болей.

*— Але тут я зноў згадаў самы галоўны аспэкт нашай з вамі, Валянцін, гутаркі — добраахвотнасьць. Усё ж дэмакратычна выглядала: абітурыенты самі выбіралі мову, на якой яны здавалі іспыты...*

— І сапраўды. 25 чэрвеня 1966 году міністар асьветы БССР Міхаіл Дарашэвіч накіраваў рэктарам ВНУ распараджэньне, паводле якога абітурыентам дазвалялася здаваць вусныя ўступныя іспыты паводле жаданьня як на расейскай, так і на беларускай мове. Выпускнікі беларускамоўных школаў на ўступных іспытах па мове і літаратуры атрымалі права выбару: пісаць твор на расейскай або беларускай мове на ўсе спэцыяльнасьці, за выключэньнем толькі тых, дзе расейская мова была профільнай. На практыцы гэтае распараджэньне праігнаравала большасьць ВНУ рэспублікі. У 1980 годзе з трыццаці адной толькі дванаццаць ВНУ далі магчымасьць здаваць уступныя іспыты па беларускай мове і літаратуры. Гэта — ўнівэрсітэты: БДУ, Гомельскі і Гарадзенскі, пяць пэдагагічных інстытутаў, Менскі інстытут культуры, Менскі пэдагагічны інстытут замежных моваў, Беларускі тэатральна-мастацкі і Гарадзенскі мэдычны інстытуты. Ніводны з тэхнічных, а таксама інстытуты сельскагаспадарчага профілю, дзе навучалася пераважна вясковая моладзь, як сьведчаць архіўныя зьвесткі, уступных іспытаў па беларускай мове і літаратуры не прымалі.

*— А што дрэннага нясе беларускай нацыі, беларускай дзяржаве такая сытуацыя? Можа, галоўнае — матэрыяльны дабрабыт, а ня мова? Можа,*





*з расейскай мовай, якую нават кіраўнік краіны лічыць больш разьвітай за беларускую, лягчэй і хутчэй беларусы прыйдуць да так жаданага стандарту дабрабыту?*

— Вынікам панаваньня міту пра дзьвюхмоўны народ можа стацца моўная асыміляцыя беларусаў. А моўная асыміляцыя, як падкрэсьліла ў сваім дасьледаваньні Таццяна Мікуліч, «па сутнасьці, ёсьць рашучым крокам да поўнай этнічнай асыміляцыі». Таму сёньня надзвычай актуальнай зьяўляецца праблема захаваньня і разьвіцьця нацыянальнай ідэнтычнасьці беларусаў і найперш беларускай мовы, якая ёсьць трывалай асновай самасьвядомасьці. І перш як стаць эўрапейцам, неабходна ўсё ж стаць беларусам. Тым больш, як паказвае вопыт суседніх дзяржаваў на постсавецкай прасторы, менавіта абарона інтарэсаў гэтак званага расейскамоўнага насельніцтва зьяўляецца дзейсным сродкам умяшаньня Расеі ва ўнутраныя справы гэтых краінаў. А там недалёка і да страты дзяржаўнасьці.

*— Ці доўга можа існаваць міт пра тое, што ў аднаго народу могуць быць адначасна дзьве родныя мовы? Як доўга беларусы ў гэта будуць верыць?*

— А гэта залежыць як ад уладных структураў краіны, так і ад актыўнасьці грамадзкасьці. Калі беларусы выкажуць актыўнае жаданьне быць беларусамі, а не насельніцтвам дзяржавы пад назваю Рэспубліка Беларусь, то шанцаў на існаваньне гэтага міту мала. Кожны павінен пачынаць зь сябе, размаўляць паўсюль на сваёй адзінай роднай мове. Бо ў прыродзе толькі зьмяя мае раздвоены язык, але ні ў якім разе не чалавек, а тым больш ня цэлы народ.

# Старэйшы брат

*Міт пра старэйшага брата даваў пэўнай часткы беларусаў заможнае жыцьцё*



*Размова з Алегам Трусавым*

***— Расеец — старэйшы брат беларуса. Гэты міт моцна ўкаранёны ў сьвядомасьць і расейцаў, і беларусаў, і нават суседніх народаў, а можа, і ва ўсім сьвеце. Памятаецца, як кожнага і беларуса, і ўкраінца, і нават казаха ці ўзбэка за савецкім часам за мяжой называлі «рускімі». Калі, пры якіх абставінах нараджаўся міт пра беларуса як малодшага брата расейца?***

— Пасьля таго, як у канцы XVIII стагодзьдзя Расейская імпэрыя захапіла ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай усе беларускія і большасьць украінскіх земляў, і пачынае фармавацца міт пра старэйшага, галоўнага брата, які атрымаў назоў *вялікарос*, і двух малодшых братоў — *маларoса* (украінца) і *беларуса* (жыхара Белай Русі).

*— Русіфікацыя — працяглы працэс, які мае свае мэханізмы. Дык калі пачалася русіфікацыя Беларусі?*

— Яна пачалася пасьля перамогі над Напалеонам, калі расейскія войскі ўвайшлі ў Парыж і Расея стала жандарам Эўропы. Да гэтага дзякуючы Аляксандру I у Беларусі квітнела польская мова. Менавіта на ёй працавалі Віленскі ўнівэрсытэт і шматлікія прыватныя каталіцкія школы пры кляштарах. Аднак пасьля падаўленьня паўстаньня 1830—1831 гадоў сытуацыя зьмянілася, і пачалася першая хваля русіфікацыі. Як

асяродак польскасьці быў зачынены Віленскі ўнівэрсытэт. Значную ролю тут адыграў і знакаміты слоўнік Уладзімера Даля, які меў назву «Словарь великорусского диалекта русского языка». Беларуская і ўкраінская мовы сталі лічыцца дыялектамі расейскай мовы і былі забароненыя.

*— Такім чынам, гэта была не спантанная дзейнасьць, а распрацаваная — мэтанакіраваная, кажучы сучаснай мовай, праграма. Дык у якіх сфэрах жыцьця Расейскай імпэрыі і калі пачаў складацца гэты міт пра старэйшага брата «вялікароса», які працягваецца і пашыраецца дагэтуль?*

— Спачатку гэта была моўная сфэра. Прычым працэс адбываўся паступова. У XVIII стагодзьдзі ў Расеі панавала пэўны час нямецкая мова, родная мова Кацярыны II, якая і захапіла Беларусь. Расейская Акадэмія навук працавала пераважна на нямецкай мове. Толькі адзін Міхайла Ламаносаў змагаўся за правы расейскай мовы ў літаратуры і навуцы. У пачатку XIX стагодзьдзя сярод расейскай эліты пашырылася мода на францускую мову, якая тады запанавала ў Эўропе. Дастаткова прыгадаць факт, што Аляксандар Пушкін першыя свае вершы напісаў па-францускy, але менавіта ён і сфармаваў сучасную расейскую літаратурную мову. Пушкін і стаіць ля вытокаў гэтага міту.

*— У якіх яшчэ кірунках разьвівалася расейская шавіністычная ідэалёгія?*

— Яна пачала бурна разьвівацца пры Мікалаю I. Тады склаліся два варожыя лягеры: славянафілы і заходнікі. Славянафілы крытыкавалі рэформы Пятра I, ягоную арыентацыю на Заходнюю Эўропу і выступалі





за самабытнасьць «вялікага рускага народу», да якога залічалі беларусаў і ўкраінцаў. Заходнікі, наадварот, лічылі Пятра I сваім ідэалам і бралі за ўзор філязофію Нямеччыны і Францыі, хацелі далучыцца да заходнеэўрапейскай цывілізацыі — але разам зь беларусамі і ўкраінцамі. Яны таксама адмаўлялі беларусам і ўкраінцам у іхнай этнічнай адметнасьці.

*— І які быў адказ беларусаў і ўкраінцаў? Як паставіліся да гэтага іхныя эліты?*

— Першыя выступілі за сваю адметнасьць украінцы, якія распачалі нацыянальны рух спачатку ў Пецярбургу, а потым у Галіцыі, якая ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі. Яны ствараюць першую ўкраінскую граматыку і правапіс. Зьявіўся знакаміты «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі. У Беларусі самабытнасьць беларускай мовы і тэрыторыю яе ўжываньня першы вызначае Адам Міцкевіч, а супраць «вялікарускага адзінства» рашуча выступае ў сваёй «Мужыцкай праўдзе» Кастусь Каліноўскі. Іхную эстафэту падхапіў і канчаткова замацаваў сярод новай беларускай эліты Францішак Багушэвіч. Як вынік, падчас перапісу 1897 году беларусы і ўкраінцы ўпершыню былі прызнаныя як асобныя этнасы, а пасьля рэвалюцыі 1905 году яны атрымалі права друкаваць газэты і кніжкі на роднай мове. Аднак школы на роднай мове для іх былі забароненыя.

*— У XX стагодзьдзі на велічэзных абшарах Расейскай імпэрыі грымнула бальшавіцкая рэвалюцыя, і пачалося стварэньне новай дзяржавы — СССР, у аснове ідэалёгіі якой мусіла быць (так дэклявалася, прынамсі) роўнасьць народаў. Дык чаму міт пра старэйшага брата аказаўся жывучы?*

— З гэтым мітам актыўна змагаўся Ленін, які напісаў шэраг артыкулаў супраць вялікадзяржаўнага ці вялікарускага шавінізму. Ленін на паперы выступаў за роўнасьць усіх народаў Расейскай імпэрыі. І нават болей — у 1917 годзе ён прызнае незалежнасьць Фінляндыі, потым — незалежнасьць Польшчы, Латвіі, Літвы, Эстоніі. Таксама дзякуючы яму пачалася беларусізацыя і ўкраінізацыя. Аднак пры канцы 1920-х гадоў Сталін канчаткова захапіў уладу ў Маскве і вярнуўся да старога імпэрскага міту. Пры гэтым ён быў крыху перароблены, асабліва ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў. Менавіта тады ўзьніклі такія вызначэньні, як *Старажытная Русь* і *старажытнаруская народнасьць.* На грунце мітычнай старажытнарускай народнасьці ў XIV—XVI стагодзьдзях і скlаліся, на думку сталінскіх гісторыкаў, адначасна тры братнія народы: рускі, украінскі і беларускі. Пры гэтым роля старэйшага брата была адразу замацаваная за рускім народам.

*— Парадаксальна: Сталін — грузін, ва ўрадзе — прадстаўнікі іншых народаў. Дык чаму ж у савецкі час за расейскім народам замацоўваецца роля старэйшага брата?*

— Імпэрыя, створаная Сталіным, магла трымацца толькі на расейскай мове. І таму Сталін заявіў, што менавіта расейскі народ выйграў вайну з фашызмам. Потым Мікіта Хрушчоў сказаў, што пры камунізьме ўсе ў СССР будуць гаварыць па-расейску, а ў пару Брэжнева загаварылі пра будучы адзіны савецкі расейскамоўны народ. Міт пра тры братнія народы, сярод якіх старэйшы брат, якому ўсё належыць, расейскі, трывала ўвайшоў у савецкія падручнікі. Актыўным





прапаведнікам гэтага міта ў Беларусі быў акадэмік Лаўрэн Абэцэдарскі.

*— Нарэшце рухнула і савецкая імпэрыя, пачаліся нацыянальна-вызвольныя працэсы. Дык чаму ж зноў адраджаецца міт пра старэйшага брата на тэрыторыі былога СССР?*

— Таму што Расея застаецца імпэрскай краінай. І менавіта ў Маскве з ініцыятывы расейскага прэзыдэнта Барыса Ельцына была створаная гэтак званая саюзная дзяржава з адзінай расейскай мовай. Трэці «братні» славянскі народ, украінскі, некуды зьнік і перастаў быць братнім, асабліва калі прэзыдэнтам Украіны стаў Віктар Юшчанка. Засталіся два братнія народы, і, вядома, старэйшы брат — расейскі. Былы прэзыдэнт Расеі Ўладзімер Пуцін нават заявіў, што беларусы і расейцы — гэта адзін народ, і прапанаваў Беларусі далучыцца да Расеі шасьцю губэрнямі.

*— А чаму беларусы ня хочуць разьвітацца з гэтым мітам? Хто ім перашкаджае? Сілы звонку? Ці гэта ў крыві беларусаў — быць падпарадкаванымі некаму?*

— Тут сытуацыя няпростая. Па-першае, беларусы былі замбаваныя савецкай адукацыяй. Пакаленьні беларусаў адукоўваліся на падручніках Абэцэдарскага. Па-другое, міт пра старэйшага брата даваў пэўнай часткі беларусаў заможнае жыцьцё: за гэты міт Расея плаціла таннай нафтай, танным газам, бязвыплатнымі крэдытамі. Дзякуючы гэтаму міту беларусы жылі нават лепей, чым іхныя старэйшыя браты дзесьці там у Смаленскай ці Бранскай губэрнях.

*— Якія яшчэ рычагі мае Расея сёньня, каб гэты міт разьвіваць, пашыраць, укараняць?*

— Найперш эканамічныя рычагі: танныя крэдыты, выгадныя інвэстыцыі. І, канечне, глябальная расейская прапаганда. Але яна сутыкнулася зь вялікім супрацьдзеяньнем новай украінскай эліты. Менавіта дзякуючы ўкраінцам міт пачаў развальвацца. Кіеў перастаў быць «матерью городов русских». На ролю маці стала прэтэндаваць Ладага, дзесьці там пад Ноўгарадам. Падругое, сытуацыя стала мяняцца і ў Беларусі. Кіраўнік Беларусі апошнія гады стаў аспрэчваць ролю расейцаў, сказаўшы, што беларусы — тыя ж расейцы, але са знакам якасьці, і калі мы браты, дык давайце нам танныя нафту і газ, купляйце наша малако ў неабмежаванай колькасьці і па нізкай цане. Пачаліся «газавыя», «цукровыя», «малочныя» войны. Аднак гэтая мітатворчасьць працягваецца і будзе працягвацца аж датуль, пакуль будзе існаваць гэтак званая саюзная дзяржава.

*— Вы хочаце сказаць, што ўсё можна купіць... Беларусаў таксама можна купляць да бясконцасьці?*

— Купляць беларусаў можна, але не да бясконцасьці. Сытуацыя зьменіцца тады, калі зьменяцца пакаленьні, калі пакінуць гэты сьвет савецкія людзі, выхаваныя савецкай ідэалёгіяй. Ужо цяпер сярод маладзейшых пакаленьняў існуе моцная тэндэнцыя — падтрымліваць далучэньне да Эўрапейскага Зьвязу на роўных умовах. Эўрапейскі Зьвяз — першая міждзяржаўная структура, дзе няма падзелу на братоў малодшых і старэйшых. Скажам, эстонец у Эўрапарлямэнце мае тыя ж правы, як немец ці француз. Наша пэрспэктыва — далучэньне да аб'яднанай Эўропы. Акурат у аб'яднанай Эўропе гэты міт канчаткова сканае.





*— А ці магчыма, каб расейцы самі адмовіліся ад ролі старэйшага брата? Увогуле — як доўга яшчэ будзе існаваць міт пра расейцаў як пра старэйшага брата іншых народаў?*

— Пакуль ня скончацца расейскія шалёныя грошы за нафту і газ. І як толькі перастануць расейцы плаціць грошы, адразу ж зьнікнуць і малодшыя браты.

# Гуманізм расейскай літаратуры

*Расейская імпэрыя замкнула ў татальную моўчу ўсе прыгнечаныя народы, пакінуўшы прамаўляць толькі адзін голас — голас вялікадзяржаўнай расейскай літаратуры*



*Размова з Валянцінам Акудовічам*

***— Расейская літаратура прэзэнтуе сябе як дыскурс высокай духоўнасьці і гуманізму. Міт пра гуманізм расейскай літаратуры сфармаваўся ў самой Расеі, найперш самімі расейскімі літаратарамі. Потым ён пашырыўся сярод многіх народаў. Натуральна, беларусы тут не былі выключэньнем. Наколькі гэты міт адпавядае праўдзівасьці расейскай літаратуры, і ці быў істотны ягоны ўплыў на беларускую культуру?***

— Мяркую, што нам вельмі важна зразумець сутнасьць гэтага міту, бо цягам апошніх стагодзьдзяў расейская літаратура ўплывала на фармаваньне сьветапогляду беларусаў куды больш маштабна, чым якая яшчэ. У тым ліку і беларуская, якую нам Расейская імпэрыя дазволіла займець усяго стагодзьдзе таму. Да таго ж сьветапоглядна беларуская літаратура ўсё роўна толькі капіявала матрыцы расейскай літаратуры. Таму будзе зусім ня лішнім зазірнуць у падыспод таго, што столькі часу арганізоўвала духоўны сьвет беларусаў. Асабіста я гэта вельмі востра адчуў, калі завяршыў рэдагаваньне кнігі амэрыканскай дасьледніцы Эвы Томпсан «Песьняры імпэрыі: расейская літаратура і каляніялізм», якую на беларускую мову пераклала Таццяна Нядбай. Гэта акадэмічная манаграфія, якая сыстэмна і грунтоўна даводзіць, што ўся вялікая расейская літаратура была (і застаецца) каляніяльнай па сваёй сутнасьці. Інакш кажучы, гэта тая ж імпэрская экспансія Расеі ва ўсе бакі сьвету, толькі сродкамі літаратуры.

*— «Расея — турма народаў», «Расейская імпэрыя — імпэрыя зла»... Гэтыя і да таго падобныя мэтафары даюць выразнае ўяўленьне пра агрэсіўнасьць і рэпрэсіўнасьць палітыкі як Расейскай імпэрыі, так і маскоўскіх уладаў у камуністычнай імпэрыі. Але расейская літаратура ў вачах і саміх расейцаў, і ў вачах усяго сьвету застаецца, як кажуць, белай ды пухнатай. Маўляў, імпэрыя — гэта адно, а літаратура — зусім іншае.*

— На Захадзе за апошнія дзесяцігодзьдзі сфармавалася магутная інтэлектуальная плынь, якая займаецца дэканструкцыяй мастацкіх тэкстаў, створаных знакамітымі аўтарамі вялікіх каляніяльных імпэрыяў, перадусім ангельскай, француcкай, амэрыканскай. Рэй у гэтай справе вядуць інтэлектуалы з былых калёніяў, якія, кажучы словамі Гомі Бгабгі, «расшыфроўваюць коды прыгнёту», схаваныя ў мастацкіх творах пісьменьнікаў з мэтраполіі. А вось у інтэлектуалаў бальшыні калёніяў Расеі, якія вызваліліся з каляніяльнай залежнасьці, рукі да гэтага ўсё яшчэ не даходзяць. Прынамсі, у Беларусі мне згадваюцца толькі рэзанансны артыкул Зянона Пазьняка на пачатку 1990-х, дзе ён абвінавацiў расейскіх клясыкаў у імпэрскасьці, і «Русская книга» Сяргея Дубаўца прыкладна таго ж часу.

*— У расейскай літаратуры, у тым ліку клясычнай, нямала твораў, дзеяньне якіх адбываецца на тэрыторыі іншых, часьцей суседніх, заваяваных расейцамі, народаў — ад Каўказу праз Украіну і Беларусь, Сярэднюю Азію, Сібір аж да Далёкага Ўсходу. Ці існуюць у расейскіх пісьменьнікаў прынцыпова розныя падыходы да адлюстраваньня гісторыі, побыту, характараў гэтых народаў?*





— Калі палітыка Расейскай імпэрыі была рознай у залежнасьці ад канкрэтнай сытуацыі на пабраных землях, дык расейская літаратура заўсёды выяўляла сябе аднолькава. У гэтым сэнсе няма розьніцы паміж вершам Аляксандра Пушкіна «Клеветникам России», дзе разьятраны камэр-юнкер ганьбіць усіх, хто спачуваў польска-беларускаму паўстаньню супраць імпэрыі, раманам Міхаіла Лермантава «Герой нашего времени», у якім вечна апальны паэт Расеі з агідай малюе паняволеных чэркесаў, і патаснай паэмай Мікалая Гумілёва «Туркестанские генералы», што скарылі нікчэмных азіятаў і ўзьнялі «русский флаг над белой Хивой». Таму якія б літаратурныя творы ні аналізаваліся, гэта аналіз і беларускай сытуацыі.

Хаця, натуральна, праявы расейскага каляніялізму ў Беларусі значна розьніліся ад тых, што былі на Каўказе ці, скажам, у Сібіры. Валянцін Распуцін у кнізе «Сибирь, Сибирь...» бязьмежна захапляецца тымі расейцамі, што заваёўвалі для імпэрыі гэты край, і заклікае больш урачыста шанаваць іхную памяць. Але вядомы пісьменьнік нідзе ня згадвае, што Хабараў, імя якога носіць знаны сібірскі горад, аднойчы «спаланіў колькі сотняў карэнных насельнікаў зь дзецьмі і смажыў дзяцей на рашотках, утвораных зь целаў іхных бацькоў». Зразумела, у Беларусі нічога падобнага быць не магло, бо мы ж з украінцамі таксама як бы імпэрскі народ, хоць і пэрыфэрыйны, да таго ж беларусы збольшага праваслаўныя. І нас быццам не заваёўвалі, а толькі «воссоединяли» з Расеяй. Што, зрэшты, не зашкодзіла расейскім уладам засьпеліць касьцямі беларускіх паўстанцаў тую ж самую Сібір. А вялікаму рускаму паэту Мікалаю Някрасаву напісаць хвалебную оду ў гонар Мураўёва-вешальніка.

*— Дарэчы, у кантэксьце нашай размовы пра гуманізм ды імпэрскасьць расейскай літаратуры, чаму Расея бальшыню народаў заваёўвала, а для беларусаў і ўкраінцаў былі выдуманыя формулы «воссоединения» і «триединого русского народа»?*

— Замест адказу я лепш спашлюся на Эдварда Кінана. Гэты дасьледчык піша, што Масковія ніколі не лічыла, што яна зьяўляецца працягам Кіеўскай Русі. І няма ніякіх сьведчаньняў, каб Іван Грозны або ягоныя папярэднікі хоць калі-небудзь разглядалі землі Беларусі альбо Ўкраіны як свае. Канцэпт узьяднаньня трох усходнеславянскіх народаў быў вынайдзены напрыканцы XVII стагодзьдзя. А рэальна яго пачалі рэалізоўваць толькі ў XVIII стагодзьдзі, калі Расея ўсхапілася інтэнсіўна пашыраць свае тэрыторыі. Як прападлічыў амэрыканскі дасьледчык Ален Чу, паміж XVII і XIX стагодзьдзямі Расейская імпэрыя пашыралася з хуткасьцю больш як 80 квадратных кілямэтраў на дзень. Беларусь таксама патрапіла пад гэтае «пашырэньне», якое ідэолягі імпэрыі чамусьці назвалі «воссоединением». Быццам раней мы былі аб'яднаныя з маскоўцамі?!

*— Але вернемся да нашай тэмы. Вы сьцьвярджаеце, што вялікадзяржаўная ідэя ад самага пачатку паланіла расейскіх пісьменьнікаў і не адпускае іх да гэтай пары? Ці я дакладна вас разумею?*

— Нават больш за тое: расейскія пісьменьнікі самі сваёй адметнай творчасьцю прычыніліся да таго, што гэтая ідэя сталася загалоўнай у сьвядомасьці расейскага чалавека. Вобраз вялікай Расеі, перад якой мусяць скарацца ўсе народы, упершыню быў эфэктна і эфэктыўна прэзэнтаваны ў вершаваньнях Аляксандра





Пушкіна. Выключную ролю ў сакралізацыі імпэрыі адыграў раман Лява Талстога «Война и мир». Да таго ж пасьля «Войны и мира» Расея пачала ўспрымацца як дзяржава, якая ня толькі можа скараць іншыя народы, але і вызваляць іх, і нават цэлыя кантынэнты. Таму перамога ў вайне 1812 году і вызваленьне Эўропы ад Напалеона сталіся надзвычай важным аргумэнтам на карысьць умацаваньня імпэрскіх інтэнцыяў у расейскай літаратуры і ў расейскім грамадзтве ўвогуле.

*— Аднак пасьля гэтай вайны Расейская імпэрыя ня кінула скараць іншыя народы, а расейская літаратура падтрымліваць яе гвалт?*

— Расейская імпэрыя ня кінула гэта рабіць і ў пару вызвольнай вайны з Напалеонам, бо адначасна працягвала захопніцкія войны на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі. Падчас польска-беларускага паўстаньня 1863 году Талстой піша Фету: «Што вы думаеце пра польскую сытуацыю?.. Выглядае, што справы кепскія, ці не давядзецца нам з вамі і з Барысавым зноў здымаць меч з іржавага цьвіка?» А ў іншым лісьце «вялікі гуманіст» Леў Талстой напісаў: «Мне абсалютна ўсё роўна, што палякаў душаць». Тут, здаецца, няма чаго і дадаць, акрамя хіба таго, што разам з палякамі, ды ня зь меншай жорсткасьцю, расейцы тады душылі і беларусаў.

*— Але ж вы ня станеце адмаўляць, што ў расейскай літаратуры безьліч прыкладаў спагады, кажучы словамі Дастаеўскага, да «униженных и оскорбленных», што яна поўніцца крытыкай самадурства расейскіх і камуністычных уладаў, што ў парываньнях да спасьціжэньня таямніцы быцьця ёй няма роўных ў сьвеце.*

— Безумоўна, усяго гэтага адмаўляць я ня буду. Больш за тое, асабіста для мяне расейская літаратура — гэта цэлая эпоха ў маім уласным жыцьці. Разам з тым... Вось вы згадалі Дастаеўскага, ягоныя раманы сапраўды поўняцца любоўю да чалавека, але... толькі да расейскага чалавека. Палякі ў яго заўсёды называюцца «полячишками», заваёва Туркестану прымаецца ім з захапленьнем, а пра высланых у Сібір паўстанцаў ён зьдзекліва піша, што яны паехалі туды за царскія грошы. Абсалютная глухата ды абыякавасьць расейскай літаратуры да пакутаў і праблемаў этнічна іншых народаў проста ашаламляе. Для расейскай літаратуры быў толькі адзін народ — рускі. А калі сярод яе герояў зрэдку і сустракаліся іншародцы, дык яны былі альбо нагружаныя адмоўнымі характарыстыкамі, як габрэй Багроў у рамане Салжаніцына «Август четырнадцатого», альбо выступалі аб'ектам экзатычнай прыгоды расейскага чалавека, як дзікая паляшучка Алеся ў аднайменнай аповесьці Купрына.

— *Інакш кажучы, расейская літаратура выдаліла з свайго кантэксту амаль усё, што было ў імпэрыі нерасейскім?*

— Прыкладна так. Адна з клясыкаў посткаляніяльнай тэорыі Гаятры Сьпівак неяк рытарычна запыталася: ці можа паняволены прамаўляць? Дык вось, Расейская імпэрыя замкнула ў татальную моўчу ўсе прыгнечаныя народы, пакінуўшы прамаўляць толькі адзін голас — голас вялікадзяржаўнай расейскай літаратуры. З гэтага да самага апошняга часу ніхто ня ведаў: кім і як уяўляюць самі сябе каланізаваныя народы? Нам было вядома адно тое, што лічыла патрэбным сказаць пра іх расейская літаратура.





— *Такім чынам, зь мітам пра гуманізм расейскай літаратуры мы, выглядае, разабраліся. А ў рэальнасьці, адкінуўшы ўсе міталягічныя напластаваньні, якая яна, расейская літаратура?*

— Найперш скажу, што расейская літаратура не гуманістычная, а эгаістычная. Зрэшты, такія былі ўсе літаратуры вялікіх каляніяльных імпэрыяў. Але я ні ў якім разе ня маю намеру адмаўляць ёй у сапраўды высокіх мастацкіх вартасьцях. Я толькі хацеў зьвярнуць увагу на тое, што перадусім расейская літаратура была рытарычным інструмэнтам імпэрскай палітыкі Расеі і менавіта таму з фантастычнай абыякавасьцю, а нават і грэблівасьцю, ставілася да ўсяго, што не было расейскім.

— *Якая пэрспэктыва міту пра гуманізм расейскай літаратуры ў Беларусі? Няўжо ён будзе існаваць вечна? Я раблю такі востры акцэнт, бо і сёньня ў беларускіх школах, унівэрсытэтах гэты міт падаецца як ісьціна. Калі, пры якіх умовах, дзякуючы каму беларусы змогуць разьвітацца зь ім?*

— У гэтага міту яшчэ доўгі век, але ўжо кароткая пэрспэктыва. Міт пра вялікі гуманізм расейскай літаратуры і, шырэй, культуры — гэта найвялікшае алібі імпэрскага чалавека. Пакуль гэты міт існуе, на кожны закід аб прынцыповай антыгуманнасьці імпэрскай палітыкі расеец заўсёды зможа сказаць: затое ў нас самая гуманная літаратура. А што да Беларусі, дык мы мусім неадкладна, але бязь сьпеху, правесьці сыстэмную дэканструкцыю гэтага міту. Спачатку ў незалежнай супольнасьці, а затым і ў акадэмічных інстытутах. І тады ў нашых вачах адразу паболее сьвятла.

# Зямля

Зямля

*Найвялікшай паразай у савецкую пару сталі дэструктыўныя тэндэнцыі ў самой мэнтальнасьці, калі зямля выпала з кола мараў і каштоўнасьцяў беларуса*



*Размова з Тацянай Валодзінай*

***— У традыцыйнай культуры зямля ўспрымаецца вельмі шырока, вобразна, сакральна. Што сталася асноваю замацаваньня зямлі ў якасьці міталягемы? Дзе вытокі яе сакралізацыі?***

— Першапрычынаю сталася вытворчая, спараджальная функцыя зямлі. Яна выступае як сымбаль жаночага ўрадлівага пачатку, асэнсоўваецца як прарадзіцелька і карміцелька ўсяго жывога. *Зямля нарадзіла* і *зямля-маці* — гэта дзьве ключавыя формулы, якія вызначаюць сутнасьць зямлі ў мітапаэтычных уяўленьнях. Яны адносяць зямлю найперш да жывой, адушаўлёнай, а таксама пазначаюць унівэрсальны характар яе мацярынства. «Зямля — наша маці, будзе пітаці, чараўніка, чараўніцу да нашага табару не пускаці» — гэта з замоваў. Зямля — маці ўсяму, што на ёй ёсьць, што было і што будзе наперадзе.

*— Вы сказалі — адушаўлёнай. У чым гэта выяўляецца?*

— Зямля паўстае як жанчына, як маці, часта сталага веку, і нават ахрышчаная хрысьціянскім імем Тацяна. У замовах да зямлі і іншых стыхіяў зьвяртаюцца: «*Зямля Тацяна, вада Вульляна, калодзезь Іван*». Зямля як жанчына апладнялася жыватворным дажджом (увасабленьнем мужчынскага пачатку) і давала новы ўраджай, таму ў песенных і празаічных творах яе называюць «маці-сырая зямля». Зямля як карміцель-

ка лічылася ня проста сьвятой, але і раўнавалася да жанчыны, перадусім маці, што і тлумачыць паважнае, асьцярожнае да яе стаўленьне (*няможна зямлю біць, зьневажаць ці паскудзіць, бо зямля сьвятая*). Адначасна існавала забарона чапаць зямлю ў пэрыяд яе зімовага сну — ад Пакроваў і да Радаўніцы (*можа быць сьмерць у сваёй сям'і або неўраджай*). Казалі, што да Благавешчаньня зямля цяжарная, і таму ніяк нельга гарадзіць платоў ды забіваць ў яе колікі. Да таго ж адухоўленасьць зямлі сталася адным са штуршкоў суаднясеньня яе з Маці Божай.

*— Але якім чынам паганскі культ зямлі мог судакранацца з выключна хрысьціянскім культам Божае Маці? Здаецца, што гэтыя культы — зьявы зусім розных парадкаў.*

— Маці-зямля ніколі не зьліваецца з Божай Маці цалкам, але яны стала і арганічна суадносяцца адна з адною, разам выяўляюць нейкую агульную глыбінную ідэю. Суаднясеньне маці-зямлі з Маці Божай адбываецца праз агульныя для іх перажываньні — вялікай радасьці мацярынства і вялікага гора, пакуты, страты. І гэта не дзьвюхвер'е, не падваеньне сутнасна аднаго вобразу, але два ракурсы адной рэлігійнай ідэі, два тыпы яе сымбалізацыі.

*— Такім чынам, першай падставаю міталягізацыі зямлі стала роля яе як карміцелькі. Але карміць зямля паўсюль — і ў Беларусі, і далёка па-за яе межамі. Што ж дадае сакралізацыі зямлі менавіта беларускай?*

— Тая зямля сьвяшчэнная і родная, дзе ляжаць продкі, дзе нарадзіліся бацькі і ты сам, і ў гэтым сэнсе





разьяднанасьць зь зямлёю перажывалася асабліва балюча. Вымушаныя перасяленцы перад адʼездам бралі жменьку роднай зямлі, каб прыжыцца на новым месцы і не сумаваць.

Зямля ж з магілаў родных наагул надзялялася магутнай абарончай сілай, бо магла засланіць ад бедаў ды хваробаў. Генэтычна запраграмаваныя тэрытарыяльныя матывацыі і зьвязаны зь імі эмацыйны стан надзейнага пачуваньня тут і на гэтай зямлі толькі падтрымлівалі міталягему зямлі як маці, што трымае побач.

*— Зямля, як і маці, трымае чалавека побач. Дык чаму ж тады беларусы зь лёгкасьцю пакідаюць яе?*

— Але кожная маці гадуе дзіцця, каб адправіць яго ў людзі. Даць, аддаць усё і чакаць. Іншая рэч, ня кожны сын вырастае ўдзячным. Але кожны ў апошнія свае хвіліны кліча маці. Так і беларусы — у мінулым пакідалі зямлю ў скрайніх выпадках. Цяпер па-іншаму, але тычыцца гэта перадусім моладзі, якая вырасла ў іншых варунках.

*— У маці яшчэ існуе выразны інстынкт абароны сваіх дзяцей дый сябе дзеля дзяцей...*

— Нават не патрабуе доказаў той факт, наколькі магутна можа выконваць гэтая міталягема функцыі псыхалягічнай абароны. Міталягемы такога кшталту спараджалі ўяўленьні аб містычнай сувязі зямлі і яе насельнікаў, аб непрымальнасьці чужых, што ў многім вызначае псыхалёгію міжнацыянальных канфліктаў ды этнічных чыстак.

*— Як жа тады быць з войнамі, што не супыняюцца на ўсёй плянэце? З захопам чужых тэрыторыяў?*

— Паводле назіраньняў адмыслоўцаў, этнасы з асабліва моцным культам зямлі больш бароняцца, чым ладзяць агрэсіі. Чужая зямля, паводле Юнга, асымілюе заваёўніка. Тут жа дарэчы прыгадаць і меркаваньне асобных першабытных плямёнаў, згодна зь якім нельга прысвойваць чужой зямлі, бо на ёй жывуць душы чужых продкаў, якія стануць перасяляцца ў немаўлятаў. «У гэтым заключана вялікая псыхалягічная ісьціна», — зазначае Юнг. Так і беларус, калі меў сваю зямельку і быў сыты зь яе, слаба бачыў суседзяў, ці не хацеў іх бачыць. І зброю браў у рукі, толькі калі гэтую зямельку адымалі. Беларуская ваенная гісторыя — гэта пераважна гісторыя абарончых войнаў, а не захопніцкіх.

*— Беларусам хапала сваёй зямлі, яны не хацелі пашыраць тэрыторыю, бо гэтае пашырэньне для дзяржавы, а не для сябе. Зрэшты, калі зьвярнуцца да беларускай літаратуры, фальклёрных тэкстаў, то асабліва выразна бачыцца, што беларус атаясамлівае радзіму не зь дзяржавай, а менавіта з сваёй зямлёю. А што думаеце вы, Таццяна, як этнакультуроляг?*

— «Свая зямелька як зморанаму пасьцелька» — кажуць беларусы. Наша зямля была асвоеная людзьмі каля 100 тысячаў гадоў таму, і з тае пары яе насяляе адзін і той самы народ, аўтахтонны. І таму мясцовыя жыхары, седзячы на сваёй зямлі, настойліва і ўпарта ідэнтыфікуюць сябе як «тутэйшыя» — тыя, хто жыве і даглядае зямельку тут. Мне здаецца, што ў стаўленьні





да зямлі таксама варта шукаць адказу, чаму для беларусаў тутэйшасьць важнейшая за беларускасьць...

*— А зараз хацелася б паразважаць пра маральныя аспэкты міталягемы «зямля».*

— Зямля выступае крытэрам чалавечай маральнасьці наагул. Яна — найвышэйшы маральны аўтарытэт, які стаў парадкам і правілам, той апошняй і найвышэйшай інстанцыяй, перад якой адказвалі, на суд якой выносілі тое, што не магло быць разьвязана інакш. Зямлёй беларусы бажыліся, кляліся, цалавалі і нават елі зямлю, каб даказаць сваю праўду. Ворагаў і злачынцаў зямлёю клялі: «Штоб ты сваімі паганымі лапамі больш не таптаў сьвятое зямелькі, да штоб яна цябе ніколі не прыняла ў сваё мацярынскае лона!» Дарэчы, верылі, што такіх вылюдкаў зямля і не пускае ў сябе, выяргае вонкі. Зямля, як чыстая стыхія, магла не прымаць самагубцаў, чараўнікоў, гэтаксама як і забітага Перуном чорта, зьмея і іншых міталягічных пэрсанажаў.

*— У такім разе гаворка ідзе пра суд над памерлымі. А дачыненьні паміж жывымі і зямлёй? Наколькі былі яны актуальныя ў беларускай традыцыі?*

— Зямля судзіць і жывога чалавека, і нават цэлае паселішча. За грахі зямля можа праваліцца або праглынуць горад, вёску ці манастыр. Асабліва папулярныя аповеды пра зямлю, якая разышлася і схавала ў сабе царкву з прыхаджанамі, што надта награшылі. Нават не прыняла ў сябе, а раскрылася і паглынула іх, каб паляцелі ў невядомыя глыбіні. Дарэчы, тая акалічнасьць, што зямля трымае ў сабе нябожчыкаў, што чалавек зь зямлі паходзіць і ў зямлю вяртаецца, надае статусу

зямлі яшчэ большую сакральнасьць. Двухполюснасьць стасункаў чалавека зь зямлёй выразна адлюстраваная ў пахавальнай абраднасьці і каляндарных сьвятах, зьвязаных з ушанаваньнем продкаў. Перад пахаваньнем нябожчыка абавязкова абмывалі і пераадзявалі ва ўсё чыстае, новае. Сьмерць і пахаваньне разглядаліся як вяртаньне ў матчына ўлоньне — зямлю.

*— Гісторыю нацыі шмат у чым вызначылі дачыненьні беларускага селяніна зь зямлёю. Шмат вырашальных падзеяў адбылося ў выніку змаганьня за зямлю. А ў XX стагодзьдзі асабліва. Рэформы, рэвалюцыя, у якой на першым месцы было ня «Ўлада — саветам», а «Зямля — сялянам», раскулачваньне, калгаснае безьзямельле на зямлі аж да апагею савецкай заможнасьці — шасьцісоткавых лецішчаў. Што ў гэтай эвалюцыі дачыненьняў беларуса зь зямлёй найбольш прынцыпова паўплывала на сьвядомасьць нацыі?*

— Адбываецца разбурэньне міталягемы, традыцыйных усьведамленьняў, ідзе скрыўленьне маральных крытэраў. І перадусім праз тое, што зямля перастала быць сваёй, стала ўсіхнай, а значыць, нічыёй. Перастала даваць жаданую і чаканую волю. А хацелася б падкрэсьліць ня толькі падставовасьць міталягемы зямлі як сымбалю жыцьця матэрыяльна бязьбеднага, сымбалю роднай зямелькі-радзімы, але і арганічную спалучанасьць такіх вызначальных паняцьцяў, як «зямля» і «воля». Менавіта «Зямлёй і воляй» называлася рэвалюцыйная арганізацыя разначынцаў у XIX стагодзьдзі. Менавіта зямля, калі яна твая, прыносіць чаканую волю. Калгасы, калі «ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё», пазбавілі селяніна зямлі, менавіта ягонай,





уласнай, і тым самым пацярпелі паразу. Але найвялікшай паразай у савецкую пару сталі дэструктыўныя тэндэнцыі ў самой мэнтальнасьці, калі зямля выпала з кола мараў і каштоўнасьцяў беларуса.

*— Савецкі час вельмі кароткі ў гісторыі беларусаў. Мараль, якая фармавалася тысячагодзьдзямі, была гвалтоўна парушана цягам некалькіх дзесяцігодзьдзяў. Дык ці магчымае вяртаньне беларусаў да высокага маральнага крытэру, які выяўляўся ў стаўленьні да зямлі? Пры якіх умовах? Калі?*

— Адназначны адказ даць цяжка, але, можа быць, тады, як зямля вернецца ва ўласнасьць, як зямля зноў зможа карміць, калі ўзровень стасункаў зь зямлёю страціць савецкае прымітыўнае толькі спажывецтва. Калі сын зямлі стане ня толькі браць, але і даваць.

# Душа

*Душа беларусаў*
*хутчэй стрыманая,*
*чым разгульная,*
*больш сьціплая,*
*чым адкрытая*



*Размова з Тацянай Валодзінай*

***— Душа — гэта тое, чаго не відаць, што можна толькі ўявіць, а затым у гэта паверыць. Але з чаго нарадзілася такое ўяўленьне? Кожная ідэя ўзьнікае зь нейкага назіраньня, нейкага матэрыяльнага досьведу.***

— Назіраньні за дыханьнем жывога, якое пасьля сьмерці зьнікала, спарадзілі старажытныя ўяўленьні пра душу як дыханьне. Так, самі словы *дым*, *дыхаць*, *дух*, *душа* зьяўляюцца этымалягічна роднаснымі і набліжаюцца да індаэўрапейскага кораню з значэньнем *віцца клубамі, дыміцца, веяць, дыхаць*. Як з крывёю сыходзіла жыцьцё, так насіцелькаю душы стала ўспрымацца і кроў. А снабачаньні толькі пацьвярджалі самастойнасьць душы.

*— На слыху ўсё ж адмежаваньні душы ад духу, хоць і прызнаецца іхная пэўная аўтаномія. Калі так, то ў чым яна?*

— Дух арыентаваны на высокае, на абсалют, скіроўвае жыцьцё чалавека ў ягонае прадчуваньне сустрэчы з Усявышнім, у той час як душа вызначае ўнутранае жыцьцё чалавека, раскрывае ягоную індывідуальнасьць і ўлучанасьць у навакольны сьвет. І тады душа гэтая паказвае нам чалавека жывога, зь ягонымі хібамі і радасьцямі, добрага і ня вельмі. І мы кажам пра кагось — *добрая душа, цёмная душа, сьветлая душа.*

*— Але ж мы гэтаксама кажам і — беларуская душа, украінская ці якая яшчэ. Наколькі апраўда-*

*ным выступае аднясеньне такой індывідуальнай характарыстыкі да народу ў цэлым? І дзе крытэр такога вылучэньня?*

— Адносна этнасаў канцэпт душы наўпрост судачыняецца з мэнталітэтам, з нацыянальным характарам, калі выводзіцца нешта сярэднеарытмэтычнае. Мы розныя, але ж да нас не стасуецца азначэньне *шырокая душа* (як да расейцаў) ці *закрытая душа* (як да ўкраінцаў). І душа беларусаў хутчэй стрыманая, чым разгульная, больш сьціплая, чым адкрытая. Хоць апошнімі дзесяцігодзьдзямі адбываюцца такія рашучыя зьмены ва ўсім сьвеце, што не пакідаюць нязьменнай нават самую душу, якою надзяляе па нараджэньні кожнага з нас сам Бог.

*— А чаму беларусы так часта лезуць у душу іншых? Хіба душа не прыватная субстанцыя?*

— Але ці адны беларусы? Можа, таму, што ня супраць адкрыцца самі і імкнуцца такім чынам кінуць масток? А цела, хіба, не прыватнае? Тым ня меней, нават самае сьмелае агаленьне не азначае, што цела даступнае. Можа, так і з душою, самае інтымнае і важкае ўсё адно застаецца пры нас, а людзям — вонкавае.

*— Пытаньне зьяўленьня душы ў чалавека ў сучасным сьвеце набывае праблемнае, маральна-рэлігійнае значэньне. Вельмі часта ў якасьці аргумэнту ў розных спрэчках, у тым ліку і агульнанацыянальнага ці нават глябальнага характару, чалавецтва выкарыстоўвае душу. Прыклад, які ляжыць на паверхні, — у спрэчках пра аборты. Ці не забіваюць людзі і душу разам з зародкам цела?*





— Аднадушнага меркаваньня тут няма. У адных вёсках сьцьвярджалі, што ўкладае Бог душу з нараджэньнем дзіцяткі, у іншых — з зачацьцем, а асобныя кажуць, што толькі з хростам. Нярэдкія і выказваньні пра тое, што душы памерлых пераходзяць да нашчадкаў, і праз тое ўнукам стараліся даць імя дзеда ці прадзеда.

*— Мы кажам — «душа баліць». А яшчэ — «душа ў пяткі ўвалілася». Ці не азначае гэта, што душа мае ў целе чалавека нейкае трывалае прыстанішча? І калі душа ў целе жыве, дык дзе?*

— Жытло душы ў целе чалавека вызначалася ў розных месцах (сэрца, жывот, галава), але падкрэслена ў найважнейшых жыцьцёвых органах. І сёньняшняя мэтафара «вочы — люстра душы» знаходзіць працяг у народных аповедах пра тое, як у момант сьмерці выкаціцца душа зь цела сьлёзкаю. Часьцей жа ў народных аповедах душа выходзіць праз рот або нос, і толькі ў чарадзеяў — у рэчышчы традыцыйных інвэрсіяў — праз задні праход. Падчас жыцьця чалавека душа выглядала як «цела ў целе», але пасьля ягонай сьмерці станавілася зьвярком, птушкай, мухай. І сёньня старэйшае пакаленьне ахвотна расказвае пра розныя здарэньні, калі бачылі, як пасьля сьмерці круціцца над нябожчыкам муха, ці нават як кветачка сіненькая падае ля роту. З палявых запісаў хапае паведамленьняў пра тое, як бегла з роту ў сьпячага мышка. Таму забараняюць будзіць рэзка, каб пасьпела душа вярнуцца. Але найбольшую папулярнасьць маюць уяўленьні пра існаваньне душы ў тым, замагільным, сьвеце.

*— Значыць, душа пасьля сьмерці працягвае сваё існаваньне. Менавіта на гэтай міталягеме —*

*жыцьцё пасьля сьмерці, хай сабе і праз існаваньне несьмяротнай душы, выбудоўваецца бальшыня ўсясьветных рэлігіяў. Але ўсё ж як апавядаюць пра тое беларусы?*

— Паводле традыцыйных уяўленьняў, душа птушкай адлятае ад памерлага ці, наадварот, вяртаецца дадому, да сям'і, да тых, да каго яна была найбольш прывязаная. У гэтым сэнсе вельмі цікавы мэмарат, запіс якога зроблены ў мястэчку Даўгінава Вялейскага раёну ў наш час ад немаладой жанчыны, бабулі ўнучкі-сіроткі, маці якой памерла на дзявяты дзень пасьля родаў. Паводле апавяданьня, увечары пасьля пахаваньня маладой маці ў акно стала біцца птушачка. Калі акно адчынілі, гэтая прыгожая, зь яскравым пер'ем птушачка адразу села на калыску дзяўчынкі-сіроткі і так праседзела над ёй усю ноч, толькі раніцай яе выпусьцілі з хаты. Людзі адразу здагадаліся, што ня простая гэта была птушка, а душа маці-пакутніцы не магла разьвітацца са сваім дзіцем.

*— Душа-птушка ва ўсясьветных міталёгіях ужо выступае своеасаблівай канстантаю. А як яшчэ ўяўлялі сабе беларусы душу?*

— А вось тут ужо залежыць ад чалавека, ад адвечнай дыхатаміі «добры — дрэнны». Бо душа чалавека благога ці, што яшчэ больш катэгарычна, ведзьмака ці самагубцы, так і не знаходзіла сабе прыстанішча ў засьветах, а вярталася на зямлю чорным крумкачом, гадам ці жабаю, кружляла кажаном. Даволі пашыранае і ўяўленьне пра душу як свойскую жывёліну, асабліва ката. Даводзілася чуць, як пасьля сьмерці кагосьці з блізкіх зьяўляліся ля хаты нейкія незнаёмыя коткі, што «ціrнуцца ля ног і зьнікаюць». Але гэта тычыцца





душы, так бы мовіць, свабоднай, што пакінула ўжо цела фізычнае. Душа жывога чалавека адпраўлялася ў свае вандроўкі ў выглядзе кузуркі — пчолкі, мухі, матылька. Нездарма ў дыялектах матылёў і завуць часта *душачкі, бабачкі.*

*— А потым куды ідзе душа? Дзе тое жыцьцё вечнае?*

— Напачатку душа кожнага нябожчыка трапляла ў вырай, але хрысьціянства прынесла падзел на грэшных і праведных. І тады душы грэшнікаў падалі ў пекла, а людзей сумленных — ішлі ў рай. Душа нябожчыка да сарака дзён магла прыходзіць у сваю хату, дзеля яе пакідалі ручнік і ваду для мыцьця, яна наведвала ўсе месцы, дзе быў чалавек пры жыцьці, пасьля чаго выпраўлялася ў вырай. У той жа час душы памерлых няхрышчаных дзяцей, самагубцаў, чараўнікоў заставаліся на зямлі, пераўтвараючыся ў русалак, вупыроў ды іншых прадстаўнікоў нячыстай сілы. А вось душам забітых салдатаў сам Бог спускаў драбіны, каб адразу патрапілі на неба.

*— А ці прадавалі беларусы душу д'яблу? Можа ў XX стагодзьдзі гэта зрабілі? Бо неяк усё менш і менш клапоцяцца людзі пра душу, дый гавораць пра яе таксама рэдка...*

— Бяз гэтага не бывае... Іншая рэч, што д'ябал як далей, то становіцца ўсё больш вычварным. І патрабуе ўсё болей ахвяраў. Як праўдзівы д'ябал зьяўляюцца асобныя выдаткі цывілізацыі, алькаголь і асабліва прымітыўнасьць, прымат выключна матэрыяльных каштоўнасьцяў, якія забіраюць душу спакваля, але яшчэ больш моцна. І нават не патрабуюць расьпіскі

крывёю ўзамен. XX стагодзьдзе прыклала шмат намаганьняў, каб выціснуць з душы беларуса Бога. Ня будзем разумець Бога ў вузка хрысьціянскім аспэкце. Новы лад памяняў месцамі ў душы чалавека верх і ніз, спрасьціў і адкінуў неба.

*— Ва ўсе часы чалавеку хацелася зазірнуць за той бок сьвету і пабачыць, як жа жывуць там душы. Ці ва ўсіх іх роўныя ўмовы ў тым жа выраі, і які іхны шлях да жывых? І ці патрэбны ім той шлях?*

— Душа памерлага на апошнім этапе ідэнтыфікуецца зь ім самім і выступае ўжо ў якасьці ягонага двайніка. Акрамя таго, для душы мае значэньне ня толькі тое, які быў чалавек пры жыцьці, але і ягонае стаўленьне да яго родных. Ці належным чынам пахавалі, ці плакалі, ці ладзяць Дзяды і ці памінаюць як трэба? Дагэтуль жывыя ўяўленьні пра тое, як нагадваюць пра сябе «душачкі», як прыходзяць у сны ці нават палохаюць нечаканым прывідным зьяўленьнем. Важна і тое, што душа захоўвае свае патрэбы — хоча піць ды есьці (і тады прыносяць ежу ды ліюць на магілу гарэлку), хоча памыцца (клічуць у лазьню), можа зьмерзнуць, сядзець за памінальным сталом ды нябачна сачыць за роднымі ў храме. Словам, вечнае жыцьцё, толькі ў нябачных нам сфэрах.

*— Хрысьціянства настойліва прапаноўвае дыхатамію душы як божага, райскага пачатку і матэрыяльнага цела як пякельнага нізу. Наколькі прыжылася гэтая канцэпцыя ў народным жыцьці?*

— Гэтая ідэя прысутнічае, але яна ня сталася распрацаванай. Выразным і бясспрэчным ёсьць тое, што самае страшнае пекла — тое пекла, што ўнутры кожнага з нас, пекла, якім можа стаць нашае сумленьне, душа і нават сэрца. Часам толькі спачуваецца здраднікам, якія, меўшы вырай, так лёгка пускаюць у сэрца пекла. Да таго ж і душа пры ўсёй сваёй нябеснасьці часам наўпрост змыкаецца з долам. Карл Густаў Юнг адну з сваіх працаў назваў, на першы погляд, парадаксальна — «Душа і зямля». Душа, паводле Юнга, больш шырокая і незразумелая галіна вопыту, чым строга акрэсьлены конус сьвядомасьці. Сьвядомасьць — верхні паверх псыхікі чалавека, а несьвядомае — ніжні паверх, тое, што пад ім — глеба, зямля. Так зямля ўжо на роўні архетыпу становіцца падставовай каштоўнасьцю для чалавека. Міталягему зямлі нясе кожны з нас у сабе, і нават незалежна ад полу.

*— Ці ня згубяць душу людзі ўвогуле і беларусы ў прыватнасьці ўжо ў найбліжэйшы час? Спакусы ж растуць і растуць, становяцца больш і больш небясьпечнымі для самога існаваньня душы.*

— Хацелася б верыць, што не. Бо без душы ня стане ні нацыяў, ні народаў, ні дзяржаваў, ні чалавека ўвогуле.

# Вялікае Княства Літоўскае

*ВКЛ практычна не існуе ў масавай сьвядомасьці беларусаў як іхная законная гістарычная спадчына. Яго месца займае міт пра царскую Расею*



*Размова з Алесем Краўцэвічам*

***— Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае — сярэднявечная дзяржава на тэрыторыі сучасных Беларусі, Літвы, Украіны, часткі Расеі. Яно цалкам зьнікла з эўрапейскай мапы пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай пры канцы XVIII стагодзьдзя. Калі і ў зьвязку з чым адраджаецца гэтае дзяржаўнае ўтварэньне ў сьвядомасьці беларусаў на ўзроўні міталягічным?***

— Міт пра ВКЛ стаў найбольш патрэбным беларусам у другой палове XIX — на пачатку XX стагодзьдзя, калі пачаў афармляцца беларускі нацыянальны рух. Якраз у той час у нашым рэгіёне Эўропы, менавіта ў Сярэдняй Эўропе, усе недзяржаўныя народы (чэхі, палякі, славакі, славенцы, харваты, летувісы і іншыя) фармавалі праграму ўласнага дзяржаўнага ладу, нацыянальную праграму на будучыню. Надзвычай важнай складанай часткай той праграмы ва ўсіх народаў была гістарычная парадыгма — пошукі даўняй сярэднявечнай дзяржаўнай традыцыі. Яны імкнуліся абаперціся на нейкую даўнюю дзяржаву. Чэхі, вугорцы, палякі, харваты — на свае сярэднявечныя каралеўствы. А летувісы — на Вялікае Княства Літоўскае. Тыя народы, якія не маглі знайсьці ў мінулым уласнай дзяржавы, мусілі шукаць іншыя доказы, чаму яны ў найноўшы час павінны атрымаць незалежнасьць, і, як правіла, такія нацыянальныя рухі адставалі ад іншых. Такі лёс і ў беларусаў. Сёньня можна сьцьвярджаць, што

аб’ектыўна на ролю гістарычнага падмурку беларускага нацыяналізму найбольш прыдатны быў міт пра ВКЛ. Гаворка, натуральна, пра міт у сэнсе культуралягічным.

*— Дык беларусы ня здолелі ці не пасьпелі на пачатку XX стагодзьдзя падмацаваць нацыянальную ідэалёгію гістарычным мітам пра ВКЛ? Чаму яны не знайшлі сваёй дзяржавы ў Сярэднявеччы?*

— На жаль, стварыць беларускі міт пра ВКЛ, загаспадарыць ягоную дзяржаўную традыцыю беларускія дзеячы не пасьпелі. На гэта было некалькі прычынаў. Галоўная зь іх у тым, што ўся тэрыторыя Беларусі трапіла пад Расею. У нас не было гэтак званага культурнага П’емонту, нацыянальных анкляваў, як Клайпедзкі край (Малая Літва) у летувісаў у Прусіі, Галіцыя ў палякаў і ўкраінцаў, дзе працавалі школы, тэатры, выдаваліся кнігі, газэты, часопісы, якія кантрабандай перавозіліся на тэрыторыю Расейскай імпэрыі і распаўсюджваліся сярод суайчыньнікаў. У Расеі было забароненае нават пачатковае беларускае школьніцтва, беларускія выдавецтвы, і нават сама назва *Беларусь*. У нас не было той нацыянальнай царквы, чые дзеячы прышчаплялі б народнай масе нацыянальную ідэю, як уніяцкая царква ў Заходняй Украіне, польскі ці летувіскі каталіцкі касьцёл. Царква і касьцёл там паўсюль мелі свае структуры, яны даходзілі да кожнага чалавека. У нас такога не было. Таму мы спазьніліся, і ВКЛ зрабілі сваім мітам летувісы.

*— Ці сапраўды Вялікае Княства Літоўскае было магутнай і ўплывовай дзяржавай у Эўропе?*

— Вялікае Княства Літоўскае нельга назваць супэрдзяржавай, якая ўдзельнічала ў эўрапейскай палітыцы напоўніцу. Але ў XV стагодзьдзі, калі гаспадарыў Вітаўт, яго запрашалі чэскім каралём. Зь ім падпісвалі дамовы Вэнэцыянская рэспубліка, Вугорскае каралеўства. Быў час, калі Вялікае Княства Літоўскае было тэрытарыяльна найвялікшай дзяржавай у Эўропе. Вядома, яна была ўскрайкам эўрапейскай цывілізацыі, але яна была там.





*— Зь якой дзяржавай ВКЛ можна было б параўнаць?*

— З гледзішча ўплываў ВКЛ можна параўнаць зь іншымі сярэднеэўрапейскімі дзяржавамі — Вугорскім, Чэскім, Польскім каралеўствамі. І, натуральна, яна была вельмі важным чыньнікам ва Ўсходняй Эўропе.

*— Наколькі культура гэтай дзяржавы была самабытнай і вядомай у Эўропе?*

— Культура ВКЛ разьвівалася ў заходнеэўрапейскіх, хрысьціянскіх традыцыях. Яна не была асабліва вядомая ў сьвеце. Яна становіцца шырока вядомай толькі цяпер — дзякуючы таму, што з пазыцыяў сучаснага гуманістычнага грамадзтва мы бачым, які багаты быў сынтэз гэтых дзьвюх эўрапейскіх культурных традыцыяў — усходняй і заходняй.

*— Чаму ВКЛ — старажытная беларуская дзяржава — так доўга не ўспрымалася як беларуская? Чаму нават расейцы яе гатовыя былі называць сваёй дзяржавай, ня кажучы ўжо пра сучасных літоўцаў?*

— Расейцы называлі Вялікае Княства руска-літоўс-

кай дзяржавай. Казалі, што палітычна там дамінавалі летувісы, а культуру вызначалі рускія. «Рускі» азначала «расейскі», бо беларусаў і ўкраінцаў у імпэрыі не лічылі самастойнымі народамі, а толькі паасобнымі галінамі «рускага племя». Расейскія гісторыкі падкрэсьлівалі дамінаваньне ў ВКЛ «рускай культуры» і гэтым абгрунтоўвалі гістарычнае права Расейскай імпэрыі на валоданьне землямі былога Вялікага Княства пасьля захопу гэтых земляў. Беларусам была прыдуманая казачка пра захоп іх летувісамі і прыгнёт пад летувіскімі, потым яшчэ і польскімі панамі ды адвечнае імкненьне ўзьяднацца зь вялікім расейскім народам. Цікава, што адначасна расейская навука даказвала, што беларускі народ сфармаваўся ў XIV—XVII стагодзьдзях, гэта значыць, менавіта ў складзе ВКЛ. Але паколькі беларусы «былі там прыгнечаным народам», то атрымлівалася, што само фармаваньне народу набывала нэгатыўнае адцэньне — народ пад прыгнётам.

*— І сёньня можна пачуць, перадусім ад расейцаў, што беларусы і ўкраінцы — несамастойныя нацыі. Ці можна праз ВКЛ даказаць, што беларусы — самастойная нацыя?*

— У тым ліку і праз ВКЛ, і праз будаваньне ўласнай дзяржаўнасьці. Прыкладам, апошнім часам пра ўкраінцаў расейцы нашмат радзей гавораць, што яны несамастойныя. Таму што ва Ўкраіне будуецца дзяржава паводле нацыянальнай канцэпцыі. І з гэтым мусяць лічыцца суседзі, улучна з расейцамі. І пакуль мы ня станем усур'ёз будаваць уласную нацыянальную дзяржаву і не пачнем самі сябе паважаць ва ўласным доме, нас ня будуць паважаць і суседзі.





*— Якія падставы лічыць ВКЛ беларускай дзяржавай?*

— ВКЛ было сапраўды вялікай дзяржавай, існавала больш як пяць стагодзьдзяў; некалькі стагодзьдзяў (прынамсі XIV—XV) дамінавала ва Ўсходняй Эўропе, аб'ядноўвала большасьць усходнеславянскіх земляў — сёньняшнія Беларусь і Ўкраіну і значную частку карэннай Расеі. Пасьля Люблінскай уніі 1569 году, калі Ўкраіна адышла да Польскага каралеўства, менавіта беларускія землі да самага канца дзяржавы ў 1795 годзе заставаліся галоўнай цэнтральнай часткай гэтай дзяржавы. І самае важнае — ад сярэдзіны XIII і да канца XVII стагодзьдзя беларуская мова заставалася дзяржаўнай мовай і мовай культуры ВКЛ. Яна ахоплівала ўсю сацыяльную структуру грамадзтва ВКЛ — ад сялянаў да вялікіх князёў. Менавіта таму называюць XV—XVI стагодзьдзі «залатым векам» беларускай культуры. Ад таго часу засталася агромністая пісьмовая спадчына (летапісы, акты, прыватныя лісты, мэмуары, падарожныя дзёньнікі), спадчына, якая да сёньня вельмі дрэнна вывучаная і не засвоеная беларускай культурай. Мову гэтую тады называлі рускай (русінскай), а ў Маскоўскай дзяржаве яе называлі літоўскай.

*— А як адбывалася вяртаньне ВКЛ беларусам? Калі і з чаго адбывалася міталягізацыя ВКЛ як беларускай дзяржавы?*

— Мы спазьніліся: толькі ў пачатку XX стагодзьдзя. Можам назваць «Кароткую гісторыю Беларусі» Вацлава Ластоўскага, працы Мітрафана Доўнар-Запольскага, у пэўнай ступені нават працы Мацея Любаўскага ў 1920-я гады ў пару беларусізацыі. Пачалося паступовае

набываньне намі гэтага міту. Але не пасьпелі гэтага зрабіць з прычыны таго, што ўсе творцы і дасьледчыкі гісторыі былі фізычна вынішчаныя сталінскім рэжымам. Толькі адзін прадстаўнік той вялікай гістарычнай школы ацалеў — Мікола Улашчык, якога да канца ягоных дзён не пусьцілі ў Менск, каб хоць бы адзіную лекцыю прачытаў ва ўнівэрсытэце.

*— Дык ці рэалізаваны ў Беларусі міт пра ВКЛ? Ці стаў ён набыткам беларускай нацыянальнай ідэалёгіі і культуры?*

— Паўтаруся, міт пра ВКЛ рэалізаваны ў Беларусі толькі часткова. Дзякуючы настойлівым намаганьням гісторыкаў (маю на ўвазе сапраўдных гісторыкаў, а не афіцыёзных прыслужнікаў рэжыму) спадчына ВКЛ трывала засвоеная хіба ў колах інтэлігенцыі. Але міт можна назваць рэалізаваным толькі тады, калі ён авалодае масамі. Якраз гэтага ў нас няма. ВКЛ практычна не існуе ў масавай сьвядомасьці беларусаў як іхная законная гістарычная спадчына. Ягонае месца займае міт пра царскую Расею. Паглядзіце, як у Менску і іншых нашых гарадах зьяўляюцца назвы рэстарацыяў, харчоў па-расейску зь «яцямі». Зьвярніце ўвагу, як у новых падручніках па гісторыі Беларусі ўсхваляецца Мураўёў-вешальнік («добры адміністратар») і ахайваецца Кастусь Каліноўскі. Я перакананы, што дзяржаўная палітыка сёньняшняй беларускай улады праводзіцца нават не Лукашэнкам, а надалей кіруецца з Масквы.

*— Міт пра ВКЛ, відавочна, утрымлівае ў сабе яшчэ шэраг мітаў. Якія культурніцкія зьявы вартыя шырокай міталягізацыі?*

— Несумненна, гэта «залаты век» беларускай культуры (XV—XVI стагодзьдзі). Абавязкова павінен быць міталягізаваны сынтэз культураў на памежжы ўсходняй і заходняй. Гэта наш унёсак ва ўсясьветную спадчыну. Абавязкова павінна быць міталягізаваная талерантнасьць беларусаў. У значнай ступені гэты міт ужо рэалізуецца як даўняя гістарычная традыцыя. Вартая міталягізацыі беларуская вайсковая слава. Усе гэтыя культурніцкія міты павінны ствараецца на салідная навуковай аснове. Тады яны маюць шанцы жыць доўга. Міты штучныя раней ці пазьней разбураць маладыя пакаленьні.

*— А ці можа міт пра ВКЛ нарэшце рэалізавацца ў Беларусі? Што для гэтага трэба зрабіць?*

— Найперш трэба мець нацыянальную дзяржаву. Я ўсё яшчэ веру ў магчымасьць рэалізацыі гэтага міту. І галоўнай прыкметай для мяне будзе нават не вяртаньне беларускай мовы ў штодзённае жыцьцё, але новы адміністрацыйны падзел краіны, калі замест абласьцей і іхных «губэрнатараў» зьявяцца ваяводзтвы і ваяводы; калі нашым гарадам і вёскам будуць вернутыя сапраўдныя назвы, што засталіся ад ВКЛ: Менск, Навагрудак, Гародня, Берасьце, Янава (замест Іванава). І ўрэшце, калі наш прэзыдэнт будзе езьдзіць 15 ліпеня на Грунвальдзкае поле, а 8 верасьня — на Крапіўнае, пад Воршу.

# Радзівілы

*Слова Радзівіл*
*зрабілася знакам якасьці,*
*брэндам нацыі,*
*а ня толькі шыпучага віна*
*ці хлеба*



*Размова з Глебам Лабадзенкам*

***— Радзівілы — адзін з самых буйных і ўплывовых магнацкіх родаў у Вялікім Княстве Літоўскім у XVI—XVIII стагодзьдзях. Амаль сем стагодзьдзяў налічвае гісторыя роду. Гэтая сям'я стала для Беларусі мітам магутнасьці, заможнасьці, непатапляльнасьці і чараўніцтва. Якія заслугі Радзівілаў перад беларускай нацыяй выдзяляеце вы — пісьменьнік, журналіст, які піша пра гэты род, — урэшце, чалавек, беларус, які добра знаёмы з нашчадкамі роду, якія жывуць сёньня?***

— Радзівілы сталі мітам, бо больш за шэсьць стагодзьдзяў былі актыўнымі ўдзельнікамі ды ўладарамі рэчаіснасьці. Яны зрабілі вялікі ўнёсак хіба што ва ўсе сфэры — палітыку, эканоміку, культуру, навуку. Ужо на пачатку XVI стагодзьдзя Радзівілы трымалі ў руках значную частку тэрыторыі ВКЛ. Чатыры браты Радзівілы дасягнулі значных посьпехаў ва ўладзе: Мікалай быў віленскім ваяводам і канцлерам, Альбрэхт — япіскапам, Ежы — кашталянам віленскім і вялікім гетманам літоўскім, Ян — кашталянам троцкім.

*— Калі б Радзівілы клапаціліся толькі пра ўладу і грошы, не жыла б іх слава столькі стагодзьдзяў, ня сталі б яны мітам. Яны мусілі пакінуць матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасьці.*

— І яны іх пакінулі. Найвялікшая постаць у сям'і Радзівілаў — Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка. Гэта

чалавек, які пачаў будаўніцтва Нясьвіскага замку, дамогся магдэбурскага права для Нясьвіжу і збудаваў ратушу — першы на тэрыторыі Ўсходняй Эўропы барочны касьцёл, дзе заклаў першую на нашай зямлі і трэцюю ў Эўропе сямейную пахавальню. Гэта быў геніяльны крок — запрасіць з Італіі архітэктара Джавані Марыя Бэрнардоні. Сіротка прывіў моду на эўрапейскую архітэктуру ў тутэйшых мястэчках. За ім пацягнуліся астатнія, дзякуючы чаму мы можам пабачыць у нас выдатныя творы эўрапейскіх архітэктараў. Сіротка паставіў для беларускіх арыстакратаў шалёна высокую планку, да якой імкнуліся ўсе іншыя магнаты. Літаратурную спадчыну пакінулі па сябе драматург Францішка Ўршуля Радзівіл і паэт Ульрых Крыштаф Радзівіл. Антоні Гэнрык Радзівіл быў кампазытарам, напісаў цікавую музыку да «Фаўста» Гётэ.

— *Менавіта культурныя здабыткі гэтага роду перадусім сталі падставай для міталягізацыі Радзівілаў... Акупацыя Вялікага Княства Літоўскага Расейскай імпэрыяй вынішчыла ці прывяла ў заняпад старажытныя магнацкія і шляхецкія роды, у тым ліку і Радзівілаў. Як склаўся лёс Радзівілаў у гэтую пару беларускай гісторыі?*

— Канец нясьвіскай лініі Радзівілаў сягае ў 1813 год і зьвязаны зь імем Дамініка Радзівіла. Бацька Дамініка, Геранім Радзівіл, адышоў у лепшы сьвет праз паўтара месяца пасьля нараджэньня сына. Выхоўвалі Дамініка спачатку ягоны дзядзька Пане Каханку, а пасьля Мацей Радзівіл, які запомніўся найперш як кампазытар. Выглядае, што выхаваньне Пане Каханку не мінулася для Дамініка марна. У 1807 годзе ён, ужо ажаніўшыся з графіняй Мнішак, быў на вясельлі сваячкі Тэафіліі Мараўскай. У адзін з момантаў Дамінік з-за стала выйшаў на двор. За ім праз пэўны час выйшла маладая. І на вясельле не вярнуліся. Яны разам уцяклі ў Аўстрыю — проста з-за вясельнага стала! У 1808 годзе ў Дамініка і Тэафіліі нараджаецца сын Аляксандар. Але яго не прызнаюць, бо пазашлюбны. У 1812 годзе 26-гадовы Дамінік Радзівіл, дзявяты нясьвіскі ардынат, камэргер двара расейскага імпэратара Аляксандра І, кідае гэтага самага Аляксандра І і пераходзіць на бок Напалеона. На свае сродкі забясьпечвае полк уланаў і ідзе змагацца з расейцамі. Дамінік шчыра верыў Напалеону, які абяцаў у выпадку перамогі аднавіць ВКЛ. Радзівіл робіцца палкоўнікам напалеонаўскага войска і ад'ютантам самога імпэратара. У 1813 годзе, калі Банапарт уцякаў пераможаны ў Францыю, Дамінік Радзівіл ня кінуў яго, не застаўся ў Нясьвіжы, а загінуў як сапраўдны жаўнер. Расейцы на знак помсты рабуюць і спусташаюць Нясьвіскі замак, і той занепадае больш як на паўстагодзьдзя.

— *Калі ж Нясьвіскі замак ажыў, зноў пабачыў беларускіх, так бы мовіць, некаранаваных каралёў?*

— Гэтая падзея зьвязаная з унукам Антонія Гэнрыка — Антоніем Вільгельмам Радзівілам. У сям'і яго называлі, каб не заблытацца, Антоніем Другім, а ягонага дзеда, адпаведна, Антоніем Першым. Антоні Другі пабраўся з дачкой маркіза дэ Кастэляна Марыяй. Яна й натхніла мужа кінуць Бэрлін і вярнуцца ў Нясьвіж. І ў 1875 годзе яны вяртаюцца, іх сустракаюць адміністратары ў спустошаным замку. Столь правалілася, падлога згніла. Аднак спакуса вярнуць Нясьвіжу славу часу Сіроткі робіць сваё — і Антоні

Гэнрык з Марыяй дэ Кастэлян бяруцца за справу. Жывуць спачатку ў Радзівілімонтах, затым у замкавым пакойчыку. За некалькі гадоў завяршаюць рамонт, і Нясьвіж ізноў зьзяе, як у найлепшы свой час!

*— Калі пачалася міталягізацыя Радзівілаў у сьвядомасьці людзей? І навошта? Хто гэтым займаўся?*

— Самае цікавае, што спэцыяльна ніхто — хіба толькі яны самі. Уся гісторыя Радзівілаў — суцэльная міталёгія, пачынаючы зь першага вядомага нам прадстаўніка роду. Дый зьяўленьне прозьвішча саміх Радзівілаў — таксама міт. Нібыта быў такі Лізьдзейка, малодшы сын наваградзкага князя Нарымунта. І да яго зьвярнуўся па параду сам Гедымін — папрасіў пераглумачыць свой сон. Лізьдзейка так пераглумачыў сон, што Гедымін заснаваў Вільню. А Лізьдзейку далі мянушку «Радзівіл». Вядома ж, ад беларускага слова «ра́дзіць». І Лізьдзейка, канечне, пражыў роўна сто гадоў. Дарэчы, паводле іншай вэрсіі, Лізьдзейку схавала ў гнязьдзе арла нянька, каб яго не забіў дзядзька Дэймунд, які цэліў на трон. І ў гэтым гнязьдзе яго знайшоў ня хто іншы, як вялікі князь Вітаўт. Некалькі пакаленьняў яны мелі за сабой гэтую мянушку, а пазьней яна зрабілася прозьвішчам. Першым «сапраўдным» Радзівілам быў Войшунд, праўнук Лізьдзейкі. Гэтай гісторыі больш за шэсьцьсот гадоў, і ўсе наступныя міты пра Радзівілаў былі ня меней маляўнічыя. Нашай нацыі, якая ўсю сваю гісторыю прагне мітаў і таямніцаў, і прыдумляць нічога асабліва ня трэба! І ўсе міты пра Радзівілаў — і пра Чорную Панну, і пра гарбатую труну, і пра неверагодныя здольнасьці некаторых прадстаўнікоў роду, — нараджаліся найперш таму, што народ шчыра ў гэта верыў, а па-другое, ня шмат у гэтым было й перабольшаньня.

*— А для Караля Станіслава Радзівіла, празванага Пане Каханку, увогуле стварэньне мітаў, баек, легендаў, было ўлюбёным заняткам. А што сёньня ўключае ў сябе слова «Радзівіл» як міт?*

— Слова Радзівіл стала назыўным. Я заўважаў, што расказваючы небыліцы пра Радзівілаў, простыя людзі не абцяжарваюць сябе запамінаньнем і ўдакладненьнем імёнаў ці тытулаў князёў. Табе расказваюць: «Радзівіл прыехаў, Радзівіл зрабіў, Радзівіл сказаў...» А калі ты пытаесься, які канкрэтна Радзівіл, на цябе глядзяць як на дурня: «Як гэта які? Ну, гэты — князь!» Слова Радзівіл зрабілася знакам якасьці, брэндам нацыі, а ня толькі шыпучага віна ці хлеба. І атрымалася так, што ўсе разам байкі і міты пра шматлікіх выбітных прадстаўнікоў роду напластаваліся адно на адно. Як вынік, мы атрымліваем гэткага міталягічнага Радзівіла, які ўсё можа, які мае нечалавечыя сілы і здольнасьці.

*— Зусім нядаўна нашчадкі роду Радзівілаў наведалі Беларусь, ініцыявалі гэты візыт вы. Вы іх і суправаджалі ў вандроўцы па іхных былых уладаньнях. Вы бачылі, як і чыноўнікі, і простыя людзі радасна іх сустракалі. Дык навошта сучаснай Беларусі Радзівілы?*

— Радзівілы — гэта адзін з самых прыгожых і глыбокіх мітаў пра Беларусь. Пра тую Беларусь, якой мы ня памятаем і ня ведаем. Пра тую Беларусь, пра якую мы марым, — краіну высокакультурную, шляхетную, магнацкую. Краіну баляў, прыгожых кабет і мужчынаў, краіну замкаў і палацаў. XX стагодзьдзе адзначылася

ўбіваньнем у народную сьвядомасьць іншага ўяўленьня пра Беларусь. Як слушна ахарактарызаваў яго філёзаф Валянцін Акудовіч, гэта мужык з каўтуном у валасах, які сядзіць каля гнілой хаткі ды енчыць пра сваю гаротную долю. Зразумела, што ніякіх Радзівілаў ня мог нарадзіць мужык з каўтуном! І цяпер, калі Беларусь ужо амаль дваццаць гадоў мае незалежнасьць, мужык з каўтуном усё яшчэ перасьледуе нас.

І на гэтым тле прыяжджае 91-гадовая княгіня Эльжбэта Марыя Радзівіл, якая жыла ў замку. Паглядзіце толькі на яе прыкладзе, якую прыгожую гісторыю маюць беларусы! Яе бацька быў ардынатам нясьвіскім і клецкім, уладальнікам васьмідзесяці пяці тысячаў гектараў зямлі. Ён прымаў у Нясьвіжы двух кіраўнікоў Польшчы, прынца Манака, герцагаў і курфюрстаў. Яе прадзед вітаў у Нясьвіжы імпэратара Вільгельма II, яны палявалі разам пад Давыд-Гарадком, адкуль задаволены імпэратар павёз дадому трох забітых мядзьведзяў і яшчэ колькі жывых мядзьведзянят.

І паралельная гісторыя — брутальная. 17 верасьня 1939 году камуністы ўварваліся ў Нясьвіж усяго празь некалькі гадзінаў пасьля пераходу мяжы. Галадранцы ў брудных шынялях найперш пабеглі нават не забіваць і рабаваць, а хапаць і цягнуць у турму Радзівілаў. Злачыннай уладзе магнаты стаялі косткай у горле, бо за дванаццаць кілямэтраў ад Савецкага Саюзу гасьцявалі прынцы і каралі. І вось цяпер Радзівілы вяртаюцца ў Нясьвіж. Сотні людзей выйшлі паглядзець на князёў. Кіраўнік гораду вітае іх каля ратушы словамі: «Каб ня вы, не было б нашага гораду». І ён дакладна раскрыў сутнасьць міту «Радзівілы». Гэта вельмі важна, бо ад мужыка з каўтуном мы паціху вяртаемся да сапраўднай Беларусі.





*— Чаму бальшавікам так і не ўдалося зьнішчыць міт пра Радзівілаў?*

— Таму што можна расстраляць людзей, але нельга расстраляць памяць цэлай нацыі... Апроч гэтага, трэба было цалкам зьнішчыць Нясьвіскі замак і ўвесь горад, зруйнаваць Мірскі замак, тузін кляштараў і касьцёлаў, спаліць старыя фаліянты з п'есамі Францішкі Ўршулі Радзівіл і непаўторнымі дыярыюшамі яе мужа Міхала Казіміра Радзівіла, выкрасьліць з гісторыі мастацтва нясьвіскі тэатар, зьнішчыць абраз Маткі Божай Вастрабрамскай, якая, зноў жа, паводле легенды, была маляваная з Барбары Радзівіл. Зьнішчыць міт пра Радзівілаў — значыць, зьнішчыць вялікую частку беларускай гісторыі. Спадчыну такога маштабу ні фашыстам, ні камуністам не ўдавалася зьнішчыць.

*— Міт пра Радзівілаў вечны?*

— Так, і вынікам апошняга прыезду на радзіму рэальных Радзівілаў становіцца яшчэ большая міталягізацыя гэтага роду. Усяго за тыдзень прыезд княгіні Эльжбэты пераўтварыўся ў міталягічную дзею. І вось мне ўжо расказваюць, як яна згубілася ў замку, як горад заплакаў, калі яна зьяжджала. Сапраўды, як толькі Радзівілы выйшлі з замку, сонейка, якое зьзяла ад самага раньня, зьнікла, і зьмянілася на моцную залеву. І ўсе ахнулі: Нясьвіж плача, што княгіня ад'яжджае!.. І я адчуў тады, што міт пра Радзівілаў ніколі не загіне, што пра гэтае «горад плача» даведаюцца дзеці і ўнукі гэтых людзей. Міт пра Радзівілаў патрэбны беларусам нароўні з самімі Радзівіламі. І гэтага з нас ня выбіла савецкая ўлада, ня выб'юць і наступныя. І менавіта гэты міт можа стаць у падмурку эўрапейскай нацыянальнай дзяржавы Беларусь.

# Грунвальд

*Праўда пра Грунвальд перашкаджала ўсім суседзям Беларусі, якія прэтэндавалі на яе этнічную тэрыторыю*



*Размова з Алегам Трусавым*

***— Грунвальдзкая бітва 15 ліпеня 1410 году — бітва паміж аб'яднанымі войскамі Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага і прафэсійным войскам наймагутнейшай у тагачаснай Эўропе мілітарысцкай дзяржавы Тэўтонскага ордэну. Перамога саюзьнікаў пад Грунвальдам спыніла шматвяковую экспансію крыжакаў на славянскія землі. Грунвальд для палякаў і літоўцаў — адзін з найпрыгажэйшых гістарычных мітаў. У Беларусі на дзяржаўным узроўні і ў афіцыйнай навуцы перамога саюзьнікаў пад Грунвальдам замоўчвалася ці аддавалася суседнім народам. І толькі нацыяналісты змагаліся за вяртаньне праўды пра Грунвальд у сьвядомасьць нацыі, выводзілі перамогу ў той бітве на ўзровень міту і нават брэнду. Найперш пра рэальныя гістарычныя падмуркі міту. Якія пляны мелі тэўтоны адносна земляў Вялікага Княства Літоўскага — старажытнай беларускай дзяржавы?***

— Генэральная бітва Вялікай вайны, якая пачалася ў 1409 годзе і скончылася ў 1411-м, зьяўлялася адным з этапаў ажыцьцяўленьня агрэсіўнай ваенна-палітычнай канцэпцыі ордэну «Дранг нах Остэн», канчатковай мэтай якой было стварэньне Вялікай Тэўтоніі ад выспы Руген у Балтыйскім моры да Фінскага заліву з уключэньнем у яе склад Польшчы, Беларусі, старажытнай Літвы, Пскоўшчыны і ўладаньняў Вялікага Ноўгараду.

— *Рэальна — хто, як, пад чыім кіраўніцтвам даў адпор агрэсарам?*

— Асноўныя вайсковыя сілы — гэта аб'яднаныя войскі Вялікага Княства Літоўскага на чале з князем Вітаўтам і Польскай Кароны на чале зь Ягайлам. Таксама прысутнічалі баявыя атрады чэхаў і татараў. Найлепшым намесьнікам Вітаўта быў амсьціслаўскі князь Сіміяон, які зрабіў усё магчымае, каб спыніць тэўтонаў пасярод Грунвальдзкага поля.

— *Які вынік бітвы быў на той час, якія гэта мела наступствы для пэрспэктывы беларусаў?*

— Пасьля бітвы пад Грунвальдам ВКЛ стала адной з самых вялікіх дзяржаваў Эўропы, як кажуць, ад мора да мора. І беларусы здолелі жыць даволі мірна і добра аж да канца XV стагодзьдзя.

— *Такім чынам, бітва мела выключнае значэньне для пэрспэктывы беларусаў. Дык чаму ж тады ў сьвядомасьці шматлікіх пакаленьняў беларусаў гэтая ўнікальная падзея ніяк не адбілася?*

— У паняволенага народу заўсёды забіраюць яго мову, гісторыю і асабліва ягоныя гістарычныя міты. І вядома, што пасьля татальнай паланізацыі спачатку, а пасьля і русіфікацыі ўсе гістарычныя міты беларусаў былі проста зьнішчаныя.

— *Дык што канкрэтна замінала савецкім беларускім гісторыкам належна адзначыць вынікі і наступствы гэтай бітвы, напрыклад, у школьных падручніках?*

— Адсутнасьць нацыянальнага беларускага міту





аб перамозе нашых продкаў на Грунвальдзкім полі тлумачыцца тым, што там не было ні чырвонага, ні савецкага войска. А перамагаць жа, паводле савецкай ідэалёгіі, маглі толькі бальшавікі. Спачатку гэты міт у XIX стагодзьдзі прыватызавала Расейская імпэрыя, а потым — Польшча і Літва, якія вырваліся з кіпцюроў расейскага арла ў 1918 годзе.

— *Значыць, да расейскай акупацыі беларускіх земляў гэты факт гісторыі ўсё ж шанаваўся?*

— Вядома. Ён зафіксаваны ва ўсіх нашых беларуска-літоўскіх летапісах, хроніках і ў гістарычнай літаратуры. Аднак там запісана, што гэта перамога ліцвінаў, жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, бо этнонім «беларусы» — гэта зьява XIX стагодзьдзя.

— *Якім чынам можа нехта прыватызаваць тое, што належыць іншаму? Як так сталася? Ці скралі ў беларусаў іхнюю славу, ці яны самі аддалі яе? Каму перашкаджала праўда пра Грунвальд?*

— Праўда пра Грунвальд перашкаджала ўсім суседзям Беларусі, якія прэтэндавалі на яе этнічную тэрыторыю і не жадалі, каб узьнікла незалежная Беларусь. Гэта можна сказаць у першую чаргу пра Расею. І ў нейкай ступені пра Польшчу і Літву. Канечне, калі ёсьць нацыя з сваімі гістарычнымі мітамі, то тады адабраць у яе нешта складана.

— *Парадаксальна атрымліваецца: самая значная гістарычная падзея замінае абвяшчэньню незалежнасьці краіны...*

— Не замінае, а замінала, бо за савецкім часам падручнікі Лаўрэна Абэцэдарскага ўсё ж прысьвя-

цілі некалькі радкоў Грунвальду. Магу працытаваць: «У 1410 годзе пад Грунвальдам нямецкія рыцары былі разьбітыя. У Грунвальдзкай бітве супраць захопнікаў разам зь літоўцамі і палякамі гераічна змагаліся апалчэньні берасьцейскай, гарадзенскай, ваўкавыскай, лідзкай, пінскай, полацкай, віцебскай, смаленскай зямель». Як бачым, літоўцы і палякі на полі бітвы ёсьць, а беларусаў няма. Замест іх нейкія непрафэсійныя ваякі зь невядомых у XIV стагодзьдзі земляў. Можна было прачытаць і ўвогуле пра «рускія палкі» пад Грунвальдам. Няма пазначэньня месца Грунвальдзкага поля і на гістарычных мапах, што дадаваліся да падручнікаў па гісторыі БССР. Чаму гэтак сталася? Рэч у тым, што, паводле вэрсіі Абэцэдарскага, беларусаў у той час не існавала. Яны паўстануць на аснове «древнерусского народа» толькі ў XVI стагодзьдзі.

*— Такім чынам, гэтак званыя «рускія палкі», пра якія пісалі і расейскія, і беларускія афіцыйныя гісторыкі, былі палкамі беларускімі?*

— Пачнем з XIX стагодзьдзя. У сярэдзіне XIX стагодзьдзя ў Расейскай імпэрыі канчаткова склалася ідэалёгія панславізму, якая варожа ставілася як да нямецкага сьвету, так і да мусульманскага. У папулярным падручніку расейскай гісторыі акадэміка Платонава, што ўпершыню пабачыў сьвет у 1909—1910 гадах, а ў канцы XX стагодзьдзя быў перавыдадзены ў сёньняшняй Расеі, чытаем: «...злучаныя сілы Заходняй Русі, Літвы і Польшчы нанесьлі ў 1410 годзе жахлівую паразу Тэўтонскаму ордэну на мяжы Прусіі і Польшчы, каля вёсак Грунвальд і Танэнбэрг. Гэта знакамітая бітва, у якой рускае і польскае славянства перамагло германцаў, склала эпоху ў гісторыі Ордэну і Польшчы. Магутнасьць Ордэну зьнікла, і заваёвы ягоныя спыніліся». Як бачым, тут няма ня толькі беларусаў, але і сучасных літоўцаў.





*— А што палякам замінала гаварыць усю праўду пра Грунвальдзкую бітву? Чаму яны замоўчвалі ўдзел беларусаў?*

— Да 1939 году Польшча Пілсудзкага мела ад Леніна палову Беларусі, і, канечне, разьвіваць ёй гістарычныя міты было нязручна. Пасьля вайны ўжо польскім камуністам Сталін перадаў частку нашай этнаграфічнай тэрыторыі, таму польскія камуністы баяліся спрыяць уздыму гістарычнай сьвядомасьці беластоцкіх беларусаў.

*— Што зьмянілася ў савецкай і польскай гістарыяграфіі ў апісаньні Грунвальдзкай бітвы пасьля Другой усясьветнай вайны?*

— Вядома, зьмены адбыліся, і часам істотныя. З мапы Эўропы зьнікла Ўсходняя Прусія. Яе падзялілі паміж СССР і Польшчай, кавалачак перадалі Літоўскай ССР. Грунвальдзкае поле апынулася ў складзе польскай дзяржавы, і яна ў 1960 годзе паставіла там помнік і стварыла музэй. Сталін дазволіў літоўскім гісторыкам прыватызаваць гісторыю ВКЛ, і грунвальдзкая тэма запанавала ў савецкай Літве ва ўсіх сфэрах літоўскай культуры. Расейскія савецкія гісторыкі згадвалі пра тры «рускія палкі» (аршанскі, амсьціслаўскі, смаленскі), што мужна стаялі на полі бітвы і не далі немцам разьбіць войска ВКЛ. Толькі беларусы маўчалі.

*— А ведалі праўду?*

— Толькі адзінкі. Гэта некаторыя гісторыкі — Ана-

толь Грыцкевіч, Мікола Ермаловіч, Мікола Ўлашчык і пазьней — Міхась Ткачоў.

*— Калі ж стаў нараджацца беларускі міт пра Грунвальд?*

— У 1980—1990-я гады. Гэта заслуга беларускай інтэлігенцыі — мастакоў, пісьменьнікаў і гісторыкаў. Зьявіліся мастацкія творы, гістарычныя аповесьці і адпаведныя навуковыя публікацыі. Летам 1990 году ўпершыню беларуская дэлегацыя моладзі і патрыятычнай інтэлігенцыі пад кіраўніцтвам знанага гісторыка і археоляга Міхася Ткачова зьявілася на Грунвальдзкім полі, дзе палякі разам зь літоўцамі сьвяткавалі 580-я ўгодкі перамогі.

*— Калі гавораць пра значэньне Грунвальдзкай бітвы для беларускай дзяржаўнасьці, найчасьцей можна пачуць, што ў выніку яе паскорылася кансалідацыя беларускіх і літоўскіх земляў у адну дзяржаву. Ці ня ёсьць гэта перабольшваньнем заходняга фактару?*

— Вядома, ёсьць. Бо беларускія землі канчаткова кансалідаваліся напярэдадні Грунвальдзкай бітвы. У 1404 годзе быў далучаны Смаленск. Іншая рэч, што пасьля Грунвальду пачалася кансалідацыя будучага літоўскага этнасу, бо менавіта Жмудзь трапіла ў склад ВКЛ.

*— Існуюць дакумэнтальныя сьведчаньні, што Ордэн на пачатку XV стагодзьдзя быў схільны да замірэньня з ВКЛ, а Папа Рымскі сваёй булаю наагул забараніў нямецкім рыцарам ваяваць Вялікае Княства Літоўскае. Мо ня варта было Вітаўту лезьці ў бойку ў хаўрусе з Польскай Каронай,*





*супраць якой Тэўтонскі ордэн найперш і ваяваў? Зрэшты, бітва была не на беларускіх землях...*

— Да Грунвальду немцы больш за сто пяцьдзясят гадоў рэзалі і палілі беларускія гарады і вёскі. Толькі Гародню яны палілі некалькі разоў. І Вітаўт ледзь уцёк з таго драўлянага замку, які абклалі і спалілі крыжакі, акурат за некалькі гадоў да бітвы.

*— Удзел у Грунвальдзкай бітве — помста?*

— І помста таксама. Але з другога боку — немцы не пускалі беларусаў у Балтыйскае мора. У выніку перамогі пад Грунвальдам мы далучылі Жмудзь, атрымалі шырокі выхад у Балтыку і змаглі жыць спакойна і заможна яшчэ сто гадоў.

*— Вы лічыце міт пра Грунвальдзкую бітву беларускім?*

— Грунвальд — агульны ўсходнеэўрапейскі міт. Ён павінен належаць чатыром народам-пераможцам — беларусам, палякам, літоўцам і ўкраінцам, якія там таксама былі.

*— Які плён зь яго можа быць для нацыі? У якім кірунку яго трэба разьвіваць?*

— Цяпер вельмі важна, каб людзі ганарыліся ўласнай гісторыяй, каб беларусы ведалі, што яны могуць абараніць сваю незалежнасьць, калі будзе ў гэтым патрэба. І што менавіта нашы далёкія продкі паказалі такія прыклады мужнасьці, што ў кожным горадзе трэба ставіць помнікі нашым змагарам.

# Каліноўскі

Каліно

*Кастуся Каліноўскага з поўным правам можна назваць вестуном беларускага нацыяналізму*



*Размова з Алесем Краўцэвічам*

***— Кастусь Каліноўскі — палітычны дзеяч, публіцыст, паэт. Адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863—1864 гадоў на землях Беларусі і Літвы супраць расейскага панаваньня. Каліноўскі — той рэдкі нацыянальны герой, які быў міталягізаваны ў савецкую камуністычную пару. Гэты ж міт быў прыняты і незалежніцкім беларускім грамадзтвам. Чаму так сталася?***

— Міт пра Кастуся Каліноўскага — адзін зь нешматлікіх мітаў савецкай эпохі, які арганічна ўклаўся ў кантэкст беларускай нацыянальнай ідэалёгіі. Ён ня нішчыў яе, а, наадварот, падмацоўваў. Каліноўскі — змагар за вольнасьць беларусаў. І менавіта за нацыянальную і сацыяльную вольнасьць беларускага сялянства — тады, у XIX стагодзьдзі, фактычна адзінага сацыяльнага пласта, які быў носьбітам нацыянальнай беларускай культуры.

*— Дык чаму ж камуністычныя ідэолягі так прыязна ставіліся да асобы Каліноўскага, вывучалі паўстаньне, якое ён ачольваў, у школах, унівэрсытэтах, называлі ягоным імем вуліцы, дазвалялі мастакам ствараць ягоныя партрэты, а пісьменьнікам пісаць раманы? І гэта адбывалася ў так званай інтэрнацыянальнай дзяржаве, дзе насамрэч дамінавала расейская нацыя, супраць панаваньня якой у XIX стагодзьдзі на землях Беларусі і Літвы змагаўся Каліноўскі?*

— Узьнікненьне міту пра Каліноўскага ў савецкі час было абумоўлена ідэалягемай змаганьня з самадзяржаўем. Гэтая ідэалягема была складнікам ідэалягічнай праграмы расейскіх камуністаў. Парадокс у тым, што, адбудоўваючы Расейскую імпэрыю, бальшавікі адкідалі яе галоўнага будаўніка — царызм. Абвяржэньне самадзяржаўя было іхным інструмэнтам здабыцьця ўлады. А потым, калі ўладу здабылі, царская Расея ў Савецкім Саюзе заставалася фонам, на якім дэманстраваліся савецкія дасягненьні ў эканоміцы, культуры і дзяржаўным жыцьці. Таму ў савецкай мадыфікацыі Расейскай імпэрыі дазвалялася міталягізацыя гістарычных асобаў, якія выступалі супраць тагачаснай улады, такіх, як Разін, Пугачоў, дзекабрысты, а ў нашым выпадку — Кастусь Каліноўскі. І беларусы напоўніцу скарысталіся з гэтага негалоснага ідэалягічнага дазволу і раскруцілі вобраз Кастуся настолькі, наколькі было магчыма.

*— Раскручвалі яго сьвядома як нацыянальнага героя, змагара супраць расейскай акупацыі, ці ўсё ж у межах камуністычнай ідэалягемы — як змагара супраць царскага прыгнёту?*

— Натуральна, ва ўмовах Савецкага Саюзу акцэнтуацыя антырасейскай пазыцыі Каліноўскага была немагчымая. Гісторыкі, літаратары зьвярталі ўвагу найперш на сацыяльна-рэвалюцыйны аспэкт дзейнасьці Каліноўскага і замоўчвалі антырасейскі. Нават згадка пра нейкія нэгатыўныя ў адносінах да расейцаў дзеяньні ці выказваньні не дапускалася. Пра братні народ можна было пісаць толькі станоўча. Успомнім, напрыклад, творы Ўладзімера Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», «Паром на бурнай рацэ», «Зброя».





Там абавязкова прысутнічалі станоўчыя расейцы, якія спачувалі або дапамагалі паўстанцам.

*— Чаму менавіта Каліноўскі так лёгка паддаваўся міталягізацыі як найярчэйшы нацыянальны герой?*

— Кастусь Каліноўскі ідэальна надаецца на функцыю аднаго з найважнейшых беларускіх нацыянальных мітаў з прычыны ягонай надзвычай грунтоўнай і рэальнай гістарычнай асновы. Кастусь Каліноўскі — сапраўдны герой, прычым герой выразна беларускі. Змагаўся за высакародную справу, застаўся ёй верны да канца, ня выказаў слабасьці нават у апошнія хвіліны жыцьця, стоячы пад шыбеніцай. Вядомыя ягоныя апошнія словы. Калі зачытвалі прысуд, у якім яго назвалі дваранінам, Каліноўскі крыкнуў да вялізнага тлуму людзей на плошчы: «У нас няма дваран, усе роўныя!» А ягоныя знакамітыя «Лісты з-пад шыбеніцы», скіраваныя «Да беларускага народу»! І напісаныя яны былі ў турме, калі аўтар ужо ведаў прысуд і ня меў ніякіх ілюзіяў адносна свайго лёсу.

*— І тут варта яшчэ раз працытаваць тыя словы Каліноўскага з-пад шыбеніцы: «Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — но ня жаль згінуць за тваю праўду... Няма ж, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку... Но як дзень з ночу ня ходзіць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва зь няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе, ня будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, — адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу... Бо я табе*

*з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжэ ня будзе».*

— Нават зьнешнасьць Каліноўскага выдатна пасуе да гераізацыі — ладны малады мужчына з прыгожым, мужным, рашучым і адначасна інтэлігентным тварам. Таму так любяць яго маляваць беларускія мастакі.

*— Беларусы міталягізавалі Каліноўскага як нацыянальнага героя. Але нацыянальная прыналежнасьць Каліноўскага аспрэчваецца ў розных гістарыяграфіях, і ня толькі ў польскай ці літоўскай, але і ў беларускай. Дык якія ж былі нацыянальныя погляды Каліноўскага?*

— Сапраўды, канкрэтныя нацыянальныя погляды Каліноўскага не былі выразна афармленыя як беларускія. Прычына ў тым, што беларускай нацыянальнай ідэалёгіі на той час яшчэ не існавала. Яна толькі зараджалася. Наша запозьненая нацыятворчасьць тады знаходзілася на першай з трох фазаў будаўніцтва нацыі — на фазе навуковага дасьледаваньня традыцыйнай нацыянальнай культуры, а дакладней, у стадыі пераходу ад фазы навуковага дасьледаваньня да фазы нацыянальнай агітацыі, калі група інтэлігенцыі пачынае працу для перакананьня сваёй этнічнай групы, што яна зьяўляецца народам. Каліноўскі, выкарыстоўваючы беларускую мову ў сваіх адозвах, стаў ці ня першым нацыянальным агітатарам. Беларускі рух яшчэ толькі зараджаўся, знаходзіўся на стадыі ідэі ў галовах некалькіх інтэлігентаў, а Каліноўскі ўжо зьвяртаўся да беларусаў на іхнай роднай мове! Таму Кастуся Каліноўскага з поўным правам можна назваць вестуном беларускага нацыяналізму.





*— Мы ўжо сказалі, што міталягізацыя Каліноўскага адбывалася ў савецкую пару. Аднак, хоць Каліноўскі і шанаваўся, але афіцыйна ўсё ж не ўключаўся ў пантэон галоўных герояў. Чаму?*

— Думаю, што так адбывалася якраз таму, што гэты герой быў занадта беларускі і да таго ж змагаўся з расейскай дзяржавай. А Беларусь у Савецкім Саюзе павінна была быць наперадзе ў стварэньні расейскамоўнага савецкага народу. У нашых гарадах яго імем называліся вуліцы, хоць і ня самыя цэнтральныя. Але ў высокіх творах таго ж Уладзімера Караткевіча ён станавіўся цэнтральным героем.

*— Такім чынам, у савецкім міце пра Каліноўскага акцэнтаваўся сацыяльны, а не нацыянальны аспэкт ягонай дзейнасьці?*

— Так. Як пацьверджаньне прывяду цытату са школьнага падручніка, выдадзенага ў 1992 годзе, у пачатку незалежнай Беларусі, але напісанага яшчэ савецкімі аўтарамі. Вось як характарызуецца асоба Каліноўскага: «Каліноўскі стаў палымяным рэвалюцыянэрам-дэмакратам, ворагам царызму, памешчыкаў, усёй прыгонніцкай сыстэмы... Пераапрануўшыся ў сялянскую вопратку і ўзяўшы торбу, гэты сьмелы і мужны чалавек адправіўся вандраваць па роднай зямлі. Ён сустракаўся зь сялянамі, унікаў у іх патрэбы і настроі. Прагна лавілі сяляне кожнае яго слова аб зямлі і волі». Сапраўды, тут відаць выразны акцэнт на рэвалюцыйнай дзейнасьці.

*— Але акцэнт, як мне падаецца, усё ж не зусім адпавядаў гістарычнай праўдзе пра рэвалюцыйную дзейнасьць Каліноўскага. З гэтай цытаты хутчэй*

*паўстае асьветнік, агітатар, а не радыкальны змагар. Наколькі радыкальнай была рэвалюцыйная дзейнасьць Каліноўскага? І як яна стасавалася з рамкамі міту пра Каліноўскага, вызначанага камуністычным рэжымам?*

— Каліноўскі ўсьведамляў, што без актыўнага ўдзелу сялянства ў барацьбе супраць царызму перамогу здабыць немагчыма. Адсюль ягоная праграма — даць зямлю і волю сялянам. Для многіх шляхціцаў — удзельнікаў паўстаньня — праграма Каліноўскага была занадта радыкальнай. Таму гэтак званыя «белыя» яго і не любілі ды стараліся адсунуць ад кіраўніцтва.

*— Як ставіцца сучасная ўлада, улада незалежнай Беларусі, за якую акурат і змагаўся Каліноўскі, да асобы гэтага героя і да міту пра яго?*

— Ідэолягі цяперашняга беларускага рэжыму пачалі актыўна змагацца зь мітам пра Каліноўскага. Спробы ідэалягічнага апарату Лукашэнкі зьнішчыць міт пра Каліноўскага — яшчэ адно пацьверджаньне, што ягоная ўлада не беларуская. Сутнасьць культурніцкай палітыкі незалежнай Беларусі — зачыстка беларускай культурнай прасторы, выдаленьне зь яе ўсяго беларускага. Найперш, маргіналізацыя беларускай мовы, яе носьбітаў і творцаў; вынішчэньне нацыянальных помнікаў архітэктуры, разбурэньне нацыянальнай ідэалёгіі. У гэтым шэрагу і спробы дэміталягізацыі Каліноўскага. Працытую найноўшы (2008 году) вучэбны дапаможнік па гісторыі Беларусі для вучняў 10-й клясы школаў зь беларускай мовай навучаньня. Падручнік, галоўным аўтарам якога і адначасна рэдактарам зьяўляецца Якаў Трашчанок. Падручнік для беларускай школы перакладзены з расейскай мовы!





Ён уведзены Міністэрствам адукацыі употайкі ад грамадзкасьці. Там ёсьць спэцыяльны параграф пад назвай «Гістарыяграфічны міф пра Вікенція (Кастуся) Каліноўскага». Тлустым шрыфтам вылучаная фраза: «Паводле этнічнай ідэнтыфікацыі, ён быў палякам і ніколі не называў сябе беларусам». І далей робіцца высновa: «Ніякіх аб'ектыўных падстаў для ператварэньня В. Каліноўскага ў «нацыянальнага героя беларускага народу» не існуе». А ў наступным параграфе гэтага падручніка кат Каліноўскага генэрал Мураўёў названы «таленавітым адміністратарам і арганізатарам».

*— Але адначасна, калі пісаўся гэты падручнік, нацыянальна і дэмакратычна арыентаваная беларуская моладзь брала на свой шчыт вобраз Каліноўскага. У сакавіку 2006 году яна, паставіўшы намётавы лягер на Цэнтральнай плошчы Менску, такую выспачку свабоды на знак пратэсту супраць скрадзеных галасоў на прэзыдэнцкіх выбарах, пераназвала Кастрычніцкую плошчу ў плошчу імя Кастуся Каліноўскага. Гэта адзін з прыкладаў рэальнага жыцьця гэтага міту. Якую пэрспэктыву міту пра Каліноўскага вы бачыце?*

— Сёньня імя Каліноўскага становіцца сьцягам незалежніцкага беларускага грамадзтва. Калі мы станем гаспадарамі ў сваёй краіне, дык Каліноўскі, несумненна, увойдзе ў самы ганаровы шэраг нацыянальных герояў. Будзе праведзеная міталягізацыя ягонай асобы на дзяржаўным узроўні. Я веру, што вядомая ва ўсім сьвеце праз змаганьне моладзі ў намётавым гарадку вясной 2006 году менская плошча будзе мець назву «Плошча Каліноўскага» ня толькі ў грамадзкай сьвядомасьці, але і цалкам афіцыйна.

# Вільня

Вільня

*Разьвітаньне з «Крывіцкай Мэкай» непазьбежнае, калі мы хочам, каб духі памерлых пакінулі нас у спакоі*



*Размова зь Сяргеем Харэўскім*

***— Вільнюс (да 1939 году афіцыйная беларуская назва Вільня) — сталіца і самы вялікі горад Літвы. У мінулым гістарычны грамадзка-культурны цэнтар літоўскіх і беларускіх земляў, супольны асяродак літаратурна-мастацкага жыцьця. Стары горад у 1994 годзе занесены ЮНЭСКО ў сьпіс усясьветнай культурнай спадчыны. Гэтае места зьнітавана з выбітнымі культурнымі дасягненьнямі беларусаў. І сёньня багата студэнтаў і навукоўцаў, мастакоў і актораў прамаўляюць гэтае імя з трапяткім прыдыханьнем. Вільня — адзін з самых вялікіх і прыгожых беларускіх мітаў. У чым зьмест, сэнс ягоны?***

— На пачатку 1980-х гадоў нацыянальная самасьвядомасьць беларусаў пачала расьці ў геамэтрычнай прагрэсіі. Але рэаліі жыцьця ў БССР відавочна не адпавядалі жаданьням нацыянальнай інтэлігенцыі — руйнаваліся помнікі архітэктуры, у заняпадзе была мова, вытручвалася рэлігія. Міт пра Вільню, у сучасным сэнсе, узьнік як антытэза савецкасьці Менску. Гледзячы адсюль, там усё здавалася лепшым — і дамы і паветра. «Вільня — Крывіцкая Мэка» несупынна вабіла беларускіх гуманітарыяў, студэнтаў, як дэфіцытная кніга.

*— Але ж Вільня ад пачатку рэальны горад, не міталягічны. Зь якіх рэаліяў, зь якой гісторыі паўставала Вільня як беларуская міталягема?*

— Тут былі найбольшыя рэлігійныя сьвятыні, саборы й вялікакняскія замкі. Тут зьявіліся першыя беларускія кнігі, першыя беларускія газэты «Наша Доля», «Наша Ніва», «Гоман», першая беларуская нацыянальная гімназія, першы ўласнабеларускі музэй. То бок, менавіта тут, у колішняй сталіцы краю, на пачатку XX стагодзьдзя і пачалі ўвасабляць у рэальнасьць беларускую ідэю.

*— Для кожнага з нас, чыё юнацтва і маладосьць прыпалі на савецкую пару, калі не было мяжы паміж Літвой і Беларусьсю, Літва была ня мітам, а рэальнасьцю. Мы сядалі ў знакаміты цягнік «Чайка» і праз тры гадзіны ўжо блукалі ля Вострай Брамы ці ўлюбёнага касьцёлу Сьвятых Пятра і Паўла. Цяпер горад апынуўся за мяжой, у ня лёгка дасягальнай беларусам Шэнгенскай зоне. Ці не таму гэты міт вабіць яшчэ больш, бо горад становіцца таямнічым?*

— З аднаго боку — так. Для бальшыні беларусаў рэальная Вільня наагул недаступная. І з прычыны сваёй недаступнасьці вобраз Вільні набывае ў вачах нацыянальна сьвядомых беларусаў ідэальныя рысы — без расейшчыны, савецкасьці, лукашызму. А зь іншага — бальшыні беларусаў даводзіцца каваць сваё шчасьце тут, а ня там. Для цяперашняга пакаленьня беларусаў Вільня — перадусім сталіца Літвы, Вільнюс.

*— На самым пачатку 1990-х вы і яшчэ шэраг беларускіх інтэлектуалаў, літаратараў, мастакоў перабраліся ў Вільню. Чаму? Каб казку зрабіць быльлю? Працягваць міт? Напаўняць яго новым зьместам?*





— Мы былі пэўныя, што зробім у Вільні для Беларусі болей, чым у Менску, тады «Вандэі перастройкі». Задачаю было адрадзіць у гэтым сэрцы краю беларускае культурнае й палітычнае жыцьцё, каб уплываць адсюль на Беларусь. Сюды беларускія інтэлігенты прыехалі сем'ямі. Яны стварылі школу, перадачы на літоўскім радыё і тэлебачаньні. У Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце была адкрытая катэдра беларусістыкі.

*— Але ж беларускае жыцьцё было наладжана і да вас, і бяз вас...*

— Вядома! Быў клюб «Сябрына». Затым узьнікла Таварыства беларускай культуры ў Літве, тузін хораў, клюбаў, каапэратываў. Мэтаю стала разбудова ўласнай прысутнасьці, адраджэньне беларускай грамадзкай дзейнасьці ў Вільні, уласнага рэлігійнага жыцьця.

*— А ці магчымая паўнавартасная беларушчына безь Беларусі?*

— Вось гэта і было маёй першай ілюзіяй. Не, безь Беларусі ні на Беласточчыне, ні за акіянам, ні ў Вільні паўнавартаснай беларускай культуры ня зьлепіш. Беларусь захрасла ў савецкім міжчасьсі, а Літва адразу ўзяла цьвёрды курс на Захад. Ніякага хаўрусу ці салідарнасьці паміж нашымі краінамі не ўтварылася. Вільня цяпер у зусім іншай геапалітычнай прасторы, чым Беларусь. Тым часам адыходзілі адзін за адным легендарныя людзі — Зоська Верас, Юрка і Лявон Луцкевічы, Зоя Каўшанка, Сьцяпан Дуж-Душэўскі і многія іншыя, што вучылі мяне, адчынялі мне свае дзьверы ў віленскія таямніцы. Старая аўтэнтычная беларушчына ў Вільні ўжо амаль зьнікла. А гэта і быў найвялікшы скарб — самі людзі.

*— А як уплываў на беларускае жыцьцё ў Вільні адкат самой Беларусі ад беларушчыны?*

— Балючым і, я ўпэўнены, галоўным ударам па ўсёй беларушчыне ў Вільні, стаў рэфэрэндум Лукашэнкі ў 1995 годзе, пасьля якога фактычна былі зьнішчаныя галоўныя атрыбуты нацыянальнай ідэнтычнасьці — мова, сьцяг, герб. Калі беларускасьць непатрэбная ў Беларусі, дык навошта чапляцца за яе ў Літве? Гэтая лёгіка стала галоўнай матывацыяй для тысячаў віленскіх беларусаў, паўбеларусаў, небеларусаў, што яшчэ нядаўна баранілі тую самую беларушчыну ў Вільні. Лукашэнкава чынавенства рэзка абмежавала кантакты з дыяспарай.

*— А ўвогуле, ці магла яна стаць культурнай сталіцай беларусам? Хіба любы горад на сьвеце адначасна можа быць культурнай сталіцай некальком народам? Літоўцы ж найперш сабе будавалі і сабе будуюць культурную сталіцу.*

— Магла б, каб не цяперашні рэжым у Менску. Магла б, каб Беларусь крочыла зь Літвою разам. Але... Хоць там, у Вільні, нас яшчэ чакаюць навуковыя і творчыя адкрыцьці, што тычыцца матэрыяльных беларускіх скарбаў, то іх шматкроць болей схавана ў Пецярбургу, Маскве і Варшаве, чым у Вільні.

*— Некалі Чэслаў Мілаш пісаў, згадваючы 1930-я гады: «Правінцыйнасьць Вільні. Яна мяне прыгнятала, і я марыў вырвацца на прастор... Таму што Вільня была проста дзюрай: нечувана вузкай аўдыторыяй, калі не лічыць габрэяў, гаворачых і чытаючых па-ідыш альбо па-расейску, і «тутэйшых», не чытаючых нічога...». Натуральна, што*





*калянізаваная Вільня была правінцыяй адносна Масквы ці Пецярбургу ў вялікай Расейскай імпэрыі. Цяпер Літва — самастойная дзяржава. Але мяне не пакідае адчуваньне, што яе сталіца Вільня захоўвае правінцыйны дух, праўда, ужо адносна вялікіх сталіцаў аб'яднанай Эўропы. Чаму? Ці я маю рацыю?*

— Пра захалуснасьць даваеннай Вільні пісалі і Рамэн Гары, і Гілбэрт Чэстэртан. Сучасная ж Вільня — гэта зусім іншы горад. Яна амаль непазнавальна зьмянілася за апошнія пятнаццаць гадоў. Зь ціхага й маларухомага, хай і вельмі сымпатычнага закутка спачатку Эўропы, затым і імпэрыі, Вільня ператварылася ў сучасны горад, які мусіць быць вітрынаю дзяржавы. Цяпер толькі Літоўскай дзяржавы. А ў 2009 годзе — культурнай сталіцай Эўропы. І Вільня ўпершыню за многія стагодзьдзі стала сталіцай паўнавартаснай краіны, і горад стаў выконваць зусім іншыя функцыі і адпавядаць зусім іншым уяўленьням. Так што, правінцыйнасьць Вільні зьнікае сынхронна з тамтэйшай беларушчынай.

*— А ці не знаходзіцца ўсё ж на пэрыфэрыі, на ўзбочыне ўсіх этнічных беларускіх тэрыторыяў Вільня?*

— Гэта так. Але абапал беларуска-літоўскай мяжы бальшыня народу лічыць сябе палякамі, а гавораць па-расейску. Праўда, акурат у міжваенным часе можна казаць пра выбуховы рост віленскай беларушчыны. Тут былі створаныя беларускія выдавецтвы, выходзілі шматлікія пэрыёдыкі, працавала славутая гімназія, музэй, розныя таварыствы. І гэта ня міт. Але ў Менску за 1920-я гады было створана намнога больш. Невыпад-

кова многія віленскія інтэлігенты імкнуліся ў Менск. Як матылі на агонь.

*— І ўсё ж у Вільні застаюцца такія беларускія сьвятыні, як абраз Маці Божай Вастрабрамскай, мошчы Трох Віленскіх пакутнікаў... Хіба яны не працягваюць жыць у сьвядомасьці беларусаў? Ня робяць Вільню ў гэтай сьвядомасьці культурнай сталіцай?*

— Для беларусаў, на жаль, ужо не... І гэта прыкра. Але апошнія сямнаццаць гадоў не прайшлі марна. Сёньня пра тых Трох Віленскіх пакутнікаў бессэнсоўна пытацца каго ў Беларусі. Пагатоў, яны не ўвайшлі ў Сабор Беларускіх сьвятых Праваслаўнай царквы. А Вастрабрамскі абраз ведаюць і шануюць хіба старэйшыя. А зь іншага боку — сёньня фэсты ў гонар абразоў Маці Божай у Будславе, Лагішыне, Браславе зьбіраюць тлумы вернікаў з усёй Беларусі. І, відавочна, гэтая ўласнабеларуская традыцыя будзе толькі мацавацца.

*— І тым ня меней, міт пра Вільню як культурную, духоўную сталіцу Беларусі працягвае жыць. Што сілкуе яго ў нашы дні?*

— Цяжкая духоўная і палітычная атмасфэра ў Беларусі і нявытручаны комплекс непаўнавартаснасьці. Маўляў, Менск такі шэры, занудны, нецікавы, а вось там... Заўсёды ёсьць спакуса памарыць пра тое, што недзе ўжо ўсё зроблена. Застаецца толькі купіць квіток. Прыгожы міт ніколі не бывае лішнім у багажы нацыі. Але сёньня трэба хутчэй вызваляцца ад старых мітаў і грунтоўна брацца за саму Беларусь. Хіба мы да канца раскрылі ўсе таямніцы, знайшлі ўсе скарбы Менску,





Полацку, Навагрудку? Які сэнс інвэставаць свой інтэлект, свой талент у міт, хай сабе й прыгожы?

*— Які лёс чакае міт пра Вільню? Ці непазьбежнае разьвітаньне зь ім?*

— Думаю, што разьвітаньне з «Крывіцкай Мэкай» непазьбежнае, калі мы хочам, каб духі памерлых пакінулі нас у спакоі. Мы столькі сілаў аддалі апалягетыцы Вільні, што ўжо было зусім забыліся пра Менск. Каб столькі імпэту і таленту было аддадзена беларускай сталіцы, то мы б сёньня пэўна ганарыліся б Менскам. Маўляў, тут у нас няма нічога вартага, а вось там... «Рабі пільна — будзе і тут Вільня» — гавораць у нашым народзе. Дарэчы, я ў траўні 2008-га браў удзел у міжнародным сэмінары «Вільня — месца памяці многіх нацыяў» і зь зьдзіўленьнем дазнаўся, што ў калектыўнай памяці палякаў, габрэяў, расейцаў колішнія нацыянальныя вобразы Вільні ўжо амаль сьцёртыя. У кожнага зьнікае свая Вільня.

*— Што застанецца беларусам ад віленскага міту?*

— Застанецца вялізарная частка нашай клясычнай традыцыі — архітэктура, мастацтва. Вільня стане беларускай, калі пра яе будуць ведаць усе школьнікі. Яна будзе беларускай у нашай сьвядомасьці. Жыве адзін з самых удалых беларускіх праектаў — катэдра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры ў Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце. Воляю лёсу ў Вільні апынуўся Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт. І мастакі зь Беларусі заўсёды знаходзілі й будуць знаходзіць магчымасьць патрапіць у Вільню. Празь любыя межы...

# Заходняя Беларусь

*У Заходняй Беларусі, далей ад Расеі, лепей захавалася культура вытворчасьці, патрабавальнасьць да ўзроўню жыцьця, да асабістай свабоды, да рэлігіі*



*Размова зь Сяргеем Харэўскім*

***— Заходняя Беларусь — неафіцыйная назва беларускіх земляў, якія ў выніку польска-савецкай вайны, Рыскай дамовы 1921 году і далучэньня ў 1922 годзе Сярэдняй Літвы апынуліся ў складзе Польскай Рэспублікі. Назва ўжывалася ў процівагу ўсходняй частцы беларускага абшару — Савецкай Беларусі (БССР). Паводле пагадненьня паміж СССР і Нямеччынай і ў выніку апэрацыі савецкіх войскаў праз сямнаццаць дзён пасьля пачатку Другой усясьветнай вайны 17 верасьня 1939 году Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР. Пра Заходнюю Беларусь існуе багата стэрэатыпаў. Паводле савецкіх хрэстаматыяў, панская Польшча захапіла беларускі абшар і вынішчала там усё няпольскае, акаталічвала і апалячвала. Паводле іншых стэрэатыпаў, у Заходняй Беларусі жылося спрадвеку лепей, культурней і сытней. Найперш, ці слушна адмерваць гісторыю Заходняй Беларусі ад Рыскай дамовы 1921 году?***

— Не. Бо калі браць гісторыю ХХ стагодзьдзя, дык падзел Беларусі адбыўся падчас Першай усясьветнай вайны. Ужо ў 1915 годзе палова краіны была акупаваная нямецкімі войскамі і іхнымі саюзьнікамі. Такім чынам, рэальны падзел, у выніку якога перарваліся многія гаспадарчыя, культурныя дый чалавечыя повязі, адбыўся за шэсьць гадоў да польска-савецкіх перамоваў у Рызе.

*— Шэсьць гадоў — таксама нямала... А што істотнага зьмянілася ў жыцьці Заходняй Беларусі за першай нямецкай акупацыяй?*

— Беларушчына перарасла з асьветна-культурніцкага праекту ў палітычна-дзяржаўны. На тэрыторыі, што адышла да Нямеччыны, выходзіла беларуская прэса, без цэнзуры ладзіліся мастацкія выставы, свабодна ствараліся беларускія клюбы, бібліятэкі, школы. Калі ж у 1917 годзе адбыўся бальшавіцкі пераварот, дык жыхары беларускіх абшараў імкліва пачалі самаарганізоўвацца, і ідэя ўласнай беларускай дзяржавы стала рэалістычнай.

*— То бок, прыход палякаў можна таксама называць акупацыяй?*

— Так. Зрэшты, так гэта называюць літоўцы і ўкраінцы. Але трэба разумець: каб не было акупацыі польскай, была б толькі савецкая акупацыя. Адназначна. І толькі разам, плячом да пляча з палякамі, удалося спыніць расейска-бальшавіцкую арду.

*— І як жылося беларусам пад польскай акупацыяй? Тое, што мы чыталі ў савецкіх кніжках пра прымусовае апалячваньне і акаталічваньне заходніх беларусаў, міт ці праўда?*

— Так і было. Польская дзяржава прыклала нямала намаганьняў, каб навязаць тутэйшым людзям польскасьць праз моладзевыя арганізацыі, школу, прэсу. Касьцельныя ўлады рабілі ўсё, каб вытруціць беларушчыну з касьцёлу, павысылаць куды далей тутэйшых ксяндзоў. На іхныя месцы ехалі ксяндзы з Польшчы. Панаехала безьліч «каляністаў-асаднікаў» з карэннай Польшчы, якім улады раздавалі беларускую





зямлю. Слушна пісаў Ігнат Абдзіраловіч: «Гвалт, прымус, зьдзек, вырываньне душы беларуса ідзе разам з усімі атрыбутамі прыемнага заходняга твару».

*— Але міжваенная Польшча, у склад якой уваходзіла Заходняя Беларусь, усё ж мела больш рэальных дэмакратычных інстытутаў, чым СССР, куды ўваходзілі ўсходнія беларускія тэрыторыі.*

— Гаварыць у 1920—1930-я гады пра нейкую дэмакратыю ня толькі ў Польшчы, але і ўвогуле ў Эўропе, было б у пэўнай ступені перабольшваньнем. Быў рэальны перасьлед беларускіх арганізацыяў. Не было да 1930-х гадоў дэмакратычных выбараў. Зь іншага боку, у міжваеннай Польшчы была адкрытая судовая сыстэма, ніхто не прапаў бязь зьвестак, было насычанае рэлігійнае жыцьцё: у Заходняй Беларусі да 1939 году дзейнічала 446 касьцёлаў, 542 царквы, 387 сынагог, 14 манастыроў. Сьвятарскую паслугу выконвалі 617 каталіцкіх, 606 праваслаўных сьвятароў, 293 рабіны, 32 мулы.

*— У рэлігійным жыцьці мы выявілі розьніцу велізарную. Гэта не магло не ўплываць і на фармаваньне мэнтальнасьці. У пляне разьвіцьця культуры, адукацыі таксама, напэўна ж, была розьніца?*

— У міжваенны час у Заходняй Беларусі быў сапраўдны будаўнічы і адукацыйны бум. Пра размах можна меркаваць паводле дзяржаўнага пляну на 1938—1939 гады. Толькі ў Браслаўскім павеце аб'ектаў грамадзкага і сацыяльнага прызначэньня плянавалася ўзьвесьці 144. То бок, менавіта ў самай далёкай правінцыі, на крэсах, будаваліся шпіталі і школы, пошты і

вакзалы. У выніку, напрыклад, у Палескім ваяводзтве (цяперашняя Берасьцейская вобласьць), дзе было 85 % непісьменных, паводле апошняга расейскага перапісу, да 1931 году непісьменнасьць была амаль ліквідаваная. Разам з тым, як мы казалі, вытручвалася ўсё няпольскае. 711 тысячаў людзей назвалі сябе ў перапісе «тутэйшымі», альбо 68 % (!), хоць якіх пяцьдзясят ці нават дваццаць гадоў перад тым тамтэйшы люд выразна ідэнтыфікаваў сябе беларусамі альбо ўкраінцамі.

*— І, напэўна ж, заходнебеларуская культура адчула на сабе большы эўрапейскі ўплыў, чым усходнебеларуская? Да прыкладу, пры ўсіх камуністычных поглядах паэта Максіма Танка, ягоная паэзія вытанчаная, вобразная, мэтафарычная, філязофская. Эўрапейская?*

— Гэтаксама, як і паэзія Ларысы Геніюш, проза Янкі Брыля, Аляксея Карпюка, Вячаслава Адамчыка. Так, гэта праўда. Абсалютна несавецкімі да канца дзён заставаліся такія выбітныя нашы мастакі, сьвядомыя беларусы, як Язэп Драздовіч, Міхась Сеўрук, Пётра Сергіевіч. У Заходняй Беларусі кшталтаваўся наш нацыянальны беларускі стыль у архітэктуры, дзякуючы Лявону Вітан-Дубейкаўскаму, які ў свой час вучыўся ў Варшаве і Парыжы. Тысячы маладых беларусаў пасьпелі да 1939 году павучыцца ў Эўропе, падыхаць яе паветрам.

*— Ці была ўжо настолькі вялікая розьніца паміж Усходам і Захадам Беларусі ў паваенныя гады?*

— Адрозьненьні былі, і гэта тлумачыцца ня толькі тым часам, да 1939 году. Калі Заходняя Беларусь была адасобленая ад астатняга краю, пачала закладацца





індустрыяльная база БССР. Заводы і фабрыкі актыўна высмоктвалі рабочую сілу з рэгіёнаў, а дадаткова сюды — на ўдарныя будоўлі — прыяжджалі людзі з Расеі і Украіны. Беларускія вёскі спустошваліся і саветызаваліся. У Заходняй Беларусі, далей ад Расеі, лепей захавалася культура вытворчасьці, патрабавальнасьць да ўзроўню жыцьця, да асабістай свабоды, да рэлігіі. Беларусы на захадзе болей заставаліся аднаасобнікамі на ўласных гаспадарках. Калектывізацыя ў заходніх раёнах прайшла толькі ў сярэдзіне 1950-х. То бок, на сорак гадоў пазьней, чым ва ўсходніх раёнах. І гэта адбілася на мэнталітэце людзей. Каб дваццаць гадоў таму ў Заходняй Беларусі правялі рэстытуцыю і прыватызацыю зямлі, то гэтая б розьніца захавалася. Цяпер позна. Людзі пакідаюць калгасную зямлю паўсюдна.

*— А ў сэнсе нацыянальнай сьвядомасьці, актыўнай беларушчыны як выглядала сытуацыя пасьля вайны? Як уласна беларусы сустрэлі саветаў? Як вызваліцеляў? Ці як акупантаў?*

— Па-рознаму. У заходніх, каталіцкіх раёнах — як акупантаў. Калектывізацыя, мабілізацыя ў Чырвоную Армію, сельгаспастаўкі, антыцаркоўная палітыка, дзікая русіфікацыя стваралі базу для антысавецкага падпольля.

*— Я родам з Заходняй Беларусі, зь Віленшчыны. Мая памяць захавала культуру заходнебеларускіх мястэчак — з дагледжанымі панадворкамі, сьвяточнымі кірмашовымі днямі і рэлігійнымі фэстамі, зь незамкнёнымі на замок дзьвярыма, без расейскага брыдкаслоўя... Інакш Заходняя Беларусь галасавала і на першых прэзыдэнцкіх выбарах. У Ашмяне, Смаргоні, Маладэчне, Глыбокім,*

*Браславе, Мёрах ад дваццаці да трыццаці і болей працэнтаў людзей аддалі свае галасы за Пазьняка. Усход даваў такія лічбы Лукашэнку і Кебічу. Як доўга захоўвалася заходнебеларуская мэнтальнасьць на заходнебеларускіх тэрыторыях? Ці адчуваецца яшчэ падзел на заходнікаў і ўсходнікаў у нашай правінцыі?*

— Іншая, несавецкая мэнтальнасьць у заходніх раёнах была заўважная яшчэ гадоў дваццаць таму. Але новыя адміністрацыйныя падзелы, калі склейваліся заходнія раёны з усходнімі, індустрыялізацыя 1960—1970-х гадоў, калгасны лад, савецкія войска і школа той падзел сьцёрлі. Пасьля Чарнобылю і распаду СССР гэтыя працэсы яшчэ больш паскорыліся. У тым ліку і коштам ратацыі кіроўных кадраў з усходу на захад і наадварот. Адрозьненьні ў сацыяльным, культурным, палітычным сэнсах паміж, напрыклад, Стаўпецкім і Барысаўскім раёнамі цяпер не заўважныя. Цяпер засталіся адно рэгіянальныя, ляндшафтныя, дыялектычныя асаблівасьці. Беларусы, заходнія і ўсходнія, моцна перамяшаліся ў буйных гарадах — Менску, Магілёве, Віцебску, Наваполацку. Багата людзей з «чарнобыльскіх» раёнаў перасялілі ў заходнія раёны. Там, дзе ўжо не было праваслаўных, напрыклад, у Сапоцкіне, Жодзішках ці ў Астраўцы, зьявіліся расейскія цэрквы. І наадварот, там дзе ніколі не было касьцёлаў, у Нароўлі, Брагіне ці Сьветлагорску, яны ўзьніклі. Па ўсёй Беларусі стаяць, як і стаялі, помнікі Леніну, засталіся савецкія ўшчэнт норавы ва ўладзе, камуністычныя назовы вуліцаў, разваленыя калгасныя гаспадаркі, палітычная пасіўнасьць. І абыякавасьць да беларушчыны за апошнія пятнаццаць гадоў таксама па ўсёй краіне амаль аднолькавая. Быў шанец на пачатку 1990-х сытуацыю зьмяніць, але... Таму за апошнія пятнаццаць гадоў розьніца між Заходняй Беларусьсю і Ўсходняй сьцёртая канчаткова.

*— І сёньня, больш за семдзесят гадоў пасьля ўзьяднаньня, Заходняя Беларусь існуе ў сьвядомасьці людзей толькі на ўзроўні міту?*

— І так, і не. Безумоўна, ёсьць розьніца паміж «чыстымі» і «чарнобыльскімі» раёнамі. Ёсьць яшчэ вельмі сымпатычныя анклявы на Палесьсі і на паўночна-заходнім памежжы. Яшчэ можна сустрэць калярытных старых людзей, натрапіць на старасьвецкія могілкі ці ўбачыць пад нагамі рэшткі польскага бруку. Яшчэ жывуць людзі, якія цудоўна памятаюць пачатак калектывізацыі на абшарах Заходняй Беларусі, антысавецкую партызанку. Але яны ўжо не вызначаюць культурнага, сацыяльнага, духоўнага стану рэгіёну. А мяркуючы па моладзі, і гэта ненадоўга. У іхнай постсавецкай сьвядомасьці такога міту ўжо няма.

# Тарашкевіца

*Вяртаньне да ранейшага правапіснага стандарту спатрэбілася тым, хто ўсьведамляў, што савецкі правапіс узьнік з прычынаў палітычных*



*Размова са Зьмітром Саўкам*

***— Тарашкевіца — або клясычны правапіс — артаграфічны стандарт беларускага пісьма, які ў агульных рысах склаўся на пачатку XX стагодзьдзя і быў кадыфікаваны ў граматыцы Браніслава Тарашкевіча. У шырокім сэнсе тарашкевіцаю называюць усе праявы несавецкае беларускае мовы, што ўжо ёсьць кшталтам міту. Жылі мы і жылі. Ведалі, што ёсьць беларуская мова. І раптам узьнікае падзел на наркамаўку і тарашкевіцу... Калі ж упершыню пачалі карыстацца тэрмінам «тарашкевіца»?***

— Тэрмін «тарашкевіца» адносна новы. Упершыню яго пачынаюць ужываць ў канцы 1980-х гадоў, на пачатку чарговай хвалі Беларускага Адраджэньня. Але правапіс паводле граматыкі Браніслава Тарашкевіча пачаў існаваць як мінімум з 1918 году.

*— А чаму насьпела ў канцы мінулага стагодзьдзя такая пільнасьць падзяліць мову на тарашкевіцу і наркамаўку? Хто быў ініцыятарам? Навошта і каму трэба было даставаць з шуфлядаў старую граматыку?*

— Вы вэрбалізавалі яшчэ адзін міт, зьвязаны з тарашкевіцаю, — міт пра тое, што гэта мова. Тарашкевіца — не варыянт мовы, а варыянт пісьма, проста графіка — тое, якім чынам мы факты беларускай мовы пазначаем на пісьме, а таксама ў нейкай ступені тое,

як мы напісанае будзем вымаўляць. Мова ж у нас адна, адзіная — беларуская. Вяртаньне да ранейшага правапіснага стандарту спатрэбілася тым, хто ўсьведамляў, што савецкі правапіс узьнік з прычынаў палітычных. І ён ня мог задавальняць адраджэнцаў. На тое яны і адраджэнцы, каб адраджаць ранейшае, страчанае, тое, што ў нашага народу забралі.

*— Хто захаваў яе для нас, сёньняшніх? Ці была яна ў пісьмовым ужытку ў другой палове XX стагодзьдзя?*

— Толькі такім правапісам карысталася беларуская эміграцыя. Гэтым правапісам карысталіся і ў Заходняй Беларусі ў 1920—1930-я гады. Толькі такім правапісам карысталася кнігавыданьне, працавала адукацыйная сыстэма ў гады Другой усясьветнай вайны. Існуе вялікі корпус тэкстаў гэтым правапісам. І гэты правапіс эміграцыя данесла да нашага часу.

*— Тэрмін «тарашкевіца» ад самага пачатку нёс на сабе налёт міту. Ён падаваў беларускую мову як ахвяру бальшавізму, расейскай акупацыі. Нацыянальна-дэмакратычна арыентаваная грамадзкасьць падхапіла тарашкевіцу дзеля свайго змаганьня. Гэта палітычная падстава міту. А якія ўласна моўныя падставы былі для адраджэньня і нават міталягізацыі тарашкевіцы?*

— Я думаю, што міталягізацыя адбылася незалежна ад уласна моўных падставаў. Гэта натуральны працэс, калі ідзе вяртаньне да ранейшага, калі адбываецца рэканструкцыя: якою магла быць Беларусь, калі б яе не апанавалі бальшавікі; таксама — як магла б разьвівацца беларуская мова, калі б не гвалтоўная русіфікацыя.





І ўсё ж калі гаварыць пра ўласна моўныя прычыны вяртаньня да тарашкевіцы, гэта, несумненна, імкненьне максымальна дакладна захаваць гучаньне беларускага слова, што і дазваляе клясычны правапіс. Па-другое, максымальна дакладна, наколькі гэта магчыма сродкамі беларускай мовы, данесьці арыгінальнае гучаньне словаў-пазычаньняў.

*— Гэтым самым тарашкевіца выяўляла адрознасьць беларускай нацыі ад іншых славянскіх народаў?*

— Мы падкрэсьліваем асаблівасьці нашай мовы тарашкевіцкім пісьмом, з аднаго боку. З другога боку, не стараемся пераўтварыць пазычаньні ва ўласныя беларускія словы. Слова павінна захоўваць сваю зыходную форму. Гэта цяпер агульны падыход у мовазнаўчай практыцы.

*— Тыя, хто ў 1990-я гады пачаў карыстацца старым правапісам (Радыё Свабода, часопіс «Спадчына», газэта «Наша Ніва», іншыя выданьні), называлі гэты правапіс тарашкевіцаю. І раптам ён ператварыўся ў правапіс клясычны. Памятаю, як Сяргей Дубавец гэты тэрмін ужыў на судзе над моваю «Нашай Нівы». Вы разам з калегамі нават кніжку напісалі — «Беларускі клясычны правапіс». Чаму раптам? Так імгненна? Клясыка ў адзін момант не нараджаецца...*

— Тое, што мы назвалі клясычным правапісам, сталася такім ужо ў мінулым стагодзьдзі. Якраз для таго, каб ня блытаць правапісных праяваў мовы зь іншымі (граматычнымі, лексычнымі, сынтаксычнымі), на пачатку 1990-х увялі тэрмін «беларускі клясычны

правапіс». Тэрмін узьнік, каб адрозьніваць любыя праявы несавецкай мовы ад праяваў уласна фанэтычных і артаграфічных. Рэч у тым, што ў тэрміне *тарашкевіца* ня ўтрымліваюцца словы *правапіс* і *артаграфія*. І калі чалавек ня надта ў гэтых пытаньнях разьбіраецца, ён асацыюе тарашкевіцу з усімі несавецкімі моўнымі праявамі. Напрыклад, можна пачуць такое цьверджаньне: «*Заўзятар* — гэта тарашкевіцкае слова, а *балельшчык* — наркамаўскае». Ні аднаго, ні другога слова не было. *Балельшчык* — гэта відавочна позьні русізм, а *заўзятар* — уласнабеларускі наватвор. Але гэта галіна лексычная, зьвязаная са слоўнікавым запасам мовы, а не зь яе графікаю, пісьмом.

*— Мы называем правапіс словам, утвораным ад прозьвішча аднаго, хай сабе і геніяльнага чалавека. Ці можна так? Няўжо адзін чалавек стварае правапіс? Звужу, удакладню пытаньне: ці сапраўды тарашкевіцу вынайшаў Тарашкевіч?*

— Не, не Тарашкевіч вынайшаў тарашкевіцу. Гэта адзін зь мітаў пра тарашкевіцу — як пісаць па-беларуску, вынайшаў Тарашкевіч. Паказальна, што ў часе нядаўняй палемікі з нагоды пераходу газэты «Наша Ніва» на афіцыйны правапіс, шэф-рэдактар выданьня Андрэй Дынько цьвердзіў, што «Наша Ніва» ніколі не пісала тарашкевіцаю, бо тарашкевіца зьявілася ў 1918 годзе, калі «Наша Ніва» ўжо не выходзіла.

*— Дык які ўнёсак Браніслава Тарашкевіча ў тарашкевіцу? І які ўнёсак іншых навукоўцаў, літаратараў?*

— У сапраўднасьці Тарашкевіч стварыў кадыфікацыйны дакумэнт, сама ж кадыфікацыя (г. зн. унармаваньне пісьма) у агульных рысах адбылася да 1918 году, калі выйшла ягоная «Беларуская граматыка для школ». На той момант на сьвет зьявіліся ўжо сотні беларускіх выданьняў, сярод іх клясычныя, знаёмыя кожнаму з школы паэтычныя зборнікі Купалы, Коласа, Багдановічаў «Вянок». Няўжо ўсё гэта было напісана рунамі ці арабіцаю?! «Бацькамі» беларускага правапісу новай эпохі можна без сумневу лічыць Вацлава Іваноўскага і Антона Луцкевіча, якія працавалі ў двух цэнтрах беларускага руху пачатку XX стагодзьдзя: у Пецярбургу — сталіцы імпэрыі, і ў Вільні — сталіцы Краю. Іваноўскі быў першым прафэсійным выдаўцом беларускіх кніг, разам з Эдвардам Будзькам ён заснаваў і вёў выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца», дзе зьявіліся і купалаўская «Жалейка» (1908), і коласаўскі «Шляхам жыцьця» (1913, дарэчы — лацінкаю), пазьней у Вільні заснаваў Беларускае выдавецкае таварыства і кіраваў ім. Антон Луцкевіч, апроч палітычнай дзейнасьці, выступіў і як лінгвіст-нармалізатар: менавіта ён аўтар і першай навучальнай граматыкі беларускай мовы, якая, праўда, засталася ў рукапісе, і першага правапіснага збору «Jak prawilna pisać pa biełarusku», які зьявіўся ў 1917 годзе. Такім чынам, Тарашкевічу было на што абаперціся й што насьледаваць.

*— Вельмі часта можна пачуць, што тарашкевіца рэпрэзэнтуе дыялектнае маўленьне Віленшчыны, максымум паўночна-заходняй Беларусі. Дык гэта правапіс рэгіянальны, ці ўсё ж агульнабеларускі?*

— Гэта чарговы міт. Такія ўяўленьні пануюць сярод тых несымпатыкаў тарашкевіцы, хто не атрымаў філялягічнай адукацыі. Бо любы чалавек, узяўшы ў рукі падручнік сучаснай беларускай мовы для ўнівэрсытэтаў,

я ўжо не кажу пра тых, хто здаваў такую дысцыпліну, як беларуская дыялекталёгія, — ведае: з фанэтычнага гледзішча гаворкі ад Вільні праз Маладэчна, Менск і аж да Гомелю тыя самыя. І маюць яны агульную назву — «сярэднебеларускія», яны й сталі асноваю літаратурнае мовы — хоць тарашкевіцаю пішы, хоць наркамаўкаю, але артаэпічныя нормы (г. зн. правілы вымаўленьня) беларускай лексыкі — тыя самыя.

*— Сярод аргумэнтаў супрацiўнікаў тарашкевіцы ёсьць і такі: маўляў, тарашкевіца рэпрэзэнтуе польскі тып вымаўленьня пазычаньняў. Ці ёсьць тут нейкая рацыя?*

— Нейкая рацыя ёсьць. Але казаць, што тарашкевіца — гэта толькі палянізатарская інтрыга, нельга. Рэч у тым, што славянскія мовы маюць рысу, якая выразна адрозьнівае іх ад заходнеэўрапейскіх, — гэта наяўнасьць мяккіх параў для большасьці зычных. І калі ўзьнікае патрэба асвоіць, адаптаваць іншамоўнае слова для патрэбаў пэўнай славянскай мовы, можа паўставаць пытаньне: якім гукам, цьвёрдым ці мяккім, адлюстроўваць адпаведны гук, напрыклад, лацінскае ці нямецкае мовы? Тут трэба памятаць, што новая беларуская літаратурная мова фармавалася найперш як лацінаграфічная: творы Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, «Мужыцкая праўда» Каліноўскага — усё гэта зьявілася лацініцаю. А калі браць лацініцу за аснову, то спалучэньні, напрыклад, *be*, *pe*, *de*, *te* кірыліцаю трэба рэпрэзэнтаваць як *бэ*, *пэ*, *дэ*, *тэ*. Таму па-беларуску зычныя ў даўніх пазычаньнях гучаць цьвёрда: *бэз*, *бэлька*, *вэксаль*, *вэрхал*, *мэта*, *сэнс*, ды і ў мностве ўласнабеларускіх словаў зычныя перад э вымаўляюцца цьвёрда: *сэрца*, *халадэча*, *худэрля*, *тэпці*, *вэдзгаць*,





*квэцаць*, *пэцкаць*. Тарашкевіч толькі замацаваў гэтую практыку ў сваёй граматыцы.

У расейскай мове сытуацыя крыху іншая: там няма выразных правілаў вымаўленьня зычных у пазычаньнях, прынамсі з напісаньня не вынікае, як трэба вымаўляць — цьвёрда ці мякка. Аднак шмат у якіх словах зычны па-расейску мусіць вымаўляцца цьвёрда: *тэмп*, а ня *темп*, *сэнсор*, а ня *сенсор*, *родэо*, а не *родео*. І такіх прыкладаў — тысячы. Паводле лёгікі тых, хто інкрымінуе тарашкевіцы палянізацыйны сьлед, атрымліваецца, што і расейская мова аказалася пад польскім уплывам.

*— Вы цяпер закранулі праблему культуры мовы. А мо сапраўды, як часам кажуць асобныя людзі, у гаротным стане беларускае мовы вінаватая тарашкевіца? Маўляў, і ад наркамаўкі адмовіліся, і тарашкевіцу не засвоілі...*

— Нават не камэнтую такіх выказваньняў... Толькі заўважу, што, калі беларускамоўным прыйдзецца заставацца на маргінэсе жыцьця яшчэ зь дзясятак гадоў, то знойдуцца й такія з нас, хто зьвінаваціць ува ўсіх паразах каня на гербе «Пагоня», ці палічыць бел-чырвона-белы сьцяг сымбалем заняпаду. Як вядома, няспынныя няўдачы адбіраюць розум.

*— Вы пералічылі найбольш характэрныя міты несымпатыкаў тарашкевіцы, а ці маглі б вы згадаць, якія міты ходзяць у асяродзьдзі тых, хто прымае тарашкевіцу?*

— Галоўны з такіх мітаў наступны: тарашкевіца спрыяе рэфлексіі, больш прыдатная да паэтычных экзэрсісаў за наркамаўку, больш сьпеўная, больш

гарманічная і гэтак далей. Вядома, гэтыя ацэнкі выходзяць за межы лінгвістычнага, я б нават сказаў, утылітарнага стаўленьня да правапісу. І заклікаў бы прыхільнікаў тарашкевіцы не містыфікаваць яе, а няпрыяцеляў тарашкевіцы — не дэманізаваць. Клясычны правапіс — гэта ўсяго толькі графічная сыстэма. Рацыянальная, выверaная сыстэма, якая мае за прынцып: «Сваё, беларускае падаваць у найбольш беларускім абліччы, а чужое, іншамоўнае — у форме, максымальна набліжанай да арыгінальнага гучаньня ў мове-крыніцы».

*— А ці ня ёсьць вяртаньне да тарашкевіцы і нават узьвядзеньне яе ў ранг клясычнага правапісу ўсяго толькі пошукам моўнага ідэалу?*

— Пра моўны ідэал зноў-такі можна забыцца, як пра міт, створаны сымпатыкамі. Проста тарашкевіцаю трэба карыстацца. І тады вы пераканаецеся, што яна — выразная, гарманічная сыстэма.

*— Якое ваша стаўленьне да панацэі ад гаротнага стану беларускай мовы, выказанай Сяргеем Дубаўцом: што трэба вяртацца да лацінскага шрыфта, якім пісалі Каліноўскі, Багушэвіч, Купала?*

— Я лічу, што лацінскі шрыфт — будучыня беларускай мовы.

*— Тарашкевіца ўсё ж сёньня міт ці рэальнасьць?*

— Я б сказаў, што гэта хутчэй станоўчы міт, але людзі, якія практыкуюць тарашкевіцу, самою сваёй чыннасьцю ператвараюць яго зь міту ў рэчаіснасьць, штодзённасьць.





*— Працяг міталягізацыі тарашкевіцы — працэс стваральны для нацыі, ня толькі для мовы, ці адмоўны?*

— На сёньняшні дзень засталося прыгожыя міты зрабіць рэчаіснасьцю.

*— І як доўга будзе жыць гэты міт?*

— Столькі, колькі мы будзем адсунутыя ад рэальных падважнікаў улады, ад рэальнага ўплыву на жыцьцё.

# БНР

## *Адмоўныя міты пра БНР ствараліся перадусім ворагамі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці*



*Размова з Валянцінам Мазцом*

***— Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) — дзяржаўнае ўтварэньне на тэрыторыі сучаснай Беларусі, што ўзьнікла ў 1918 годзе. Праіснавала паўгоду. Незалежніцкая палітычная эліта лічыла і лічыць БНР паўнавартаснай дзяржавай, якая была вялікім гістарычным крокам Беларусі да ідэйнага асэнсаваньня сябе як асобнай самастойнай краіны, праяўленьнем волі беларускага народу да ўтварэньня незалежнай беларускай нацыянальнай дзяржавы. Савецкія ж гісторыкі складалі і падтрымлівалі нэгатыўныя міты пра БНР: «БНР — марыянэткавая дзяржава, створаная беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі», ці «БНР — папяровая дзяржава, сапраўдная ж беларуская незалежная нацыянальная дзяржава — БССР». Чаму БНР усё XX стагодзьдзе і ў наш час таксама такі важны аб'ект міталягізацыі для розных палітычных сілаў? Чаму факт яе існаваньня ці абвяшчэньня падвяргаўся розным палітычным і гістарычным інсынуацыям, фальсыфікацыям?***

— Абумоўлена гэта было тым, што абвяшчэньне БНР сьведчыла: беларусы, нібыта прачнуўшыся ад чароўнага летаргічнага сну, заявілі на ўвесь голас пра сваё законнае права быць гаспадарамі на ўласнай зямлі. Але ня ўсім гэтае жаданьне прыйшлося даспадобы, таму адны імкнуліся ачарніць высілкі беларусаў, накірава-

ныя на рэалізацыю сьветлай мары, а іншыя — увогуле замаўчаць сам факт абвяшчэньня БНР. Гэта і прывяло да стварэньня нэгатыўных мітаў пра БНР.

*— Спачатку пра міты нэгатыўныя ў дачыненьні да БНР. Дзеля чаго і кім яны ствараліся? Дзе іхныя вытокі і ў чым іхная сутнасьць?*

— Адмоўныя міты пра БНР ствараліся перадусім ворагамі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці. Па-першае, міт «БНР — марыянэткавая дзяржава, створаная беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі», як і міт «БНР — папяровая дзяржава», былі скіраваныя на тое, каб падкрэсьліць няздольнасьць беларусаў да самастойнай дзяржаўнай творчасьці, каб і надалей у іх не ўзьнікала жаданьня жыць уласным розумам. Па-другое, яны павінны былі замацаваць у сьвядомасьці людзей ідэалягему, што толькі здраднікі беларускага працоўнага народу, ягоныя ворагі могуць жадаць стварэньня беларусамі дзяржавы, незалежнай ад Расеі, таму што яны нібыта бачылі магчымасьць дасягненьня незалежнасьці Беларусі толькі ў саюзе з германскімі акупантамі. Па-трэцяе, дадзеныя міты стваралі чарговы міт пра тое, што толькі кіраўніцтва савецкай Расеі магло гарантаваць беларусам самастойнае жыцьцё.

*— Гэта — жаданьні, матывацыі творцаў міту, але мелі быць і нейкія рэальныя факты, якія яны выкарыстоўвалі як аргумэнты?*

— Стварэньне міту «БНР — марыянэткавая дзяржава» грунтавалася ў першую чаргу на тэлеграме Рады БНР нямецкаму кайзэру Вільгельму. У тэлеграме гаварылася: «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дэкляравала незалежнасьць цэлае і непадзельнае Беларусі і просіць Вашую Імпэратарскую Вялікасьць аб абароне ў яе кіраваньнях дзеля ўмацаваньня дзяржаўнае незалежнасьці і непадзельнасьці Краю ў сувязі з Германскай імпэрыяй». Тэкст завяршаўся словамі: «Толькі пад абаронай Германскай імпэрыі бачыць Край сваю добрую волю ў будучым». У зьвязку з гэтым неабходна пагадзіцца з думкай Вінцэнта Гадлеўскага, які падкрэсьліваў: «Высылка тэлеграмы была адной з шматлікіх спробаў шуканьня выйсьця зь цяжкага стану, у якім апынуўся тады беларускі народ».

*— А на падставе чаго ўзьнік міт, што БНР — папяровая дзяржава, калі яна мела і атрыбуты дзяржаўнасьці, і ўрад, і нават прызнаньне некалькіх краінаў, і рэальныя дзяржаўныя справы рэалізоўваліся?*

— Гэты міт узьнік пасьля таго, як асобныя дасьледчыкі атрымалі доступ да раней засакрэчаных дакумэнтаў і матэрыялаў, якія тычыліся праблемы БНР. Але ва ўмовах жорсткай ідэалягічнай цэнзуры ўсебаковы, грунтоўны аналіз гэтай праблемы быў немагчымы. Таму на зьмену міту «БНР — марыянэткавая дзяржава» прыйшоў новы міт «БНР — дзяржава, абвешчаная на паперы».

*— Аб якія рэальныя гістарычныя факты, аргумэнты разьбіваюцца гэтыя міты? Якія факты даказваюць усё ж, што БНР была нацыянальным дзяржаўным утварэньнем?*

— Абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі і яе незалежнасьці ў сакавіку 1918 году зьяўлялася пачаткам працэсу нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Былі створаныя Беларуская гандлёвая палата ва

Ўкраіне і Беларуская цэнтральная гандлёвая палата, наладжаны тавараабмен з Украінай. Народны Сакратарыят распрацаваў комплекс захадаў, накіраваных на фармаваньне ўласнай фінансава-крэдытнай сыстэмы, праводзіў рэгістрацыю беларускіх грамадзянаў і выдаваў адпаведныя пасьведчаньні. Ад лета 1918 году дзейнічаў агульнаграмадзянскі пашпарт БНР. Таксама БНР мела такія атрыбуты дзяржаўнасьці, як дзяржаўная пячатка і герб «Пагоня».

*— У той жа час, калі была абвешчаная БНР, узьніклі на эўрапейскай прасторы і іншыя новыя дзяржавы. Магчымасьць будаваць уласныя дзяржавы падняволеныя імпэрыямі народы атрымалі ў выніку Першай усясьветнай вайны. Чаму шэраг краінаў змаглі пабудаваць свае дзяржавы, а беларусы — не? Можа, сапраўды, ніякай падставы для стварэньня ўласнай дзяржавы на сваёй этнічнай тэрыторыі беларусы ня мелі?*

— Дзейнасьць Народнага Сакратарыяту і Рады БНР атрымала пэўную падтрымку на месцах — былі створаныя мясцовыя беларускія рады ў Віцебску, Магілёве, Бабруйску, Радашкавічах і іншых населеных пунктах. Акрамя таго, сялянства, як сьведчаць архіўныя дакумэнты, успрымала Народны Сакратарыят як уладны орган, здольны абараніць ад рабункаў акупантаў, а таму зьвярталася туды з адпаведнымі просьбамі. Найбольш значныя посьпехі былі дасягнутыя Народным Сакратарыятам у культурна-асьветніцкай дзейнасьці. Беларуская мова атрымала статус дзяржаўнай мовы. Праводзіліся курсы беларусазнаўства і падрыхтоўкі настаўнікаў для нацыянальнай школы. Як вынік, разгортваўся шырокі культурна-асьветны рух і адбываўся





працэс паступовага засвойваньня масамі ідэі беларускай дзяржаўнай незалежнасьці. Таму і ідэя БНР не пацярпела паразы. Як сьведчаць гістарычныя факты, яна падтрымлівалася як у асяродку беларускай эміграцыі, так і прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі Заходняй Беларусі ў міжваенны пэрыяд.

*— А зараз — да рамантызацыі БНР, да станоўчага міту пра БНР, да міту, што сапраўды ў 1918 годзе была створаная незалежная беларуская дзяржава. Ці сапраўды гэта была дзяржава?*

— У 1918 годзе, у існасьці, перадвызначалася будучыня беларускага народу. Зразумела, што дасягнуць рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці, калі на тэрыторыі краіны знаходзіцца акупацыйнае войска, было немагчыма.

*— Хто быў стваральнікам гэтага міту, як ён разьвіваўся ва ўмовах, калі панавала дзяржаўная ідэалёгія, калі ў падручніках гісторыі нават ня згадваўся факт абвяшчэньня БНР?*

— Міт узьнік пры канцы 1980-х — на пачатку 1990-х гадоў як вынік пошуку ў гістарычным мінулым часткай беларускай палітычнай эліты важкіх аргумэнтаў на карысьць права беларусаў жыць ва ўласнай сувэрэннай дзяржаве.

*— Дык як можна зьвязаць БНР з атрыманьнем незалежнасьці Беларусі ў 1990-я гады? Гэта было адраджэньне незалежнасьці Беларусі, абвешчанай у 1918 годзе, ці здабыцьцё яе?*

— Нельга казаць, што на пачатку 1990-х было адраджэньне незалежнасьці, абвешчанай у 1918 годзе.

Нягледзячы на супадзеньне галоўнай мэты — стварэньне незалежнай беларускай дзяржавы і частковае падабенства ўмоваў абвяшчэньня БНР і Рэспублікі Беларусь незалежнымі (распад Расейскай імпэрыі і распад СССР), агульныя геапалітычныя абставіны дзяржаватворчага працэсу былі розныя. Калі ў 1918 годзе бальшыня эўрапейскіх краінаў была незацікаўленая ў існаваньні незалежнай беларускай дзяржавы, дык у пачатку 1990-х гадоў вялікія дзяржавы выступілі гарантамі захаваньня незалежнасьці Беларусі.

*— Ці паўплываў рэальна міт пра БНР як пра незалежную, нацыянальную, дэмакратычную дзяржаву на найноўшую гісторыю Беларусі? Без БНР ці магла адбыцца сучасная Рэспубліка Беларусь?*

— Дакладна можна сказаць, што каб не гераічныя высілкі, накіраваныя на стварэньне нацыянальнай дзяржаўнасьці ў форме БНР, то бальшавікі не пайшлі б на абвяшчэньне ў 1919 годзе БССР. У сваю чаргу БССР была адным з сузаснавальнікаў СССР. І хоць толькі фармальна яна мела ў тых умовах права выхаду з СССР, яно і было якраз юрыдычнай асновай для дэнансацыі ў 1991 годзе саюзнай дамовы 1922 году. Вынікам мы сёньня маем незалежную Рэспубліку Беларусь.

*— А цяпер да пытаньня пра Раду БНР. Чаму яна дагэтуль існуе, калі сучасная Беларусь — незалежная, прызнаная ва ўсім сьвеце краіна?*

— Таму што ёсьць рэальная пагроза страты незалежнасьці. Амаль поўная эканамічная залежнасьць ад Расеі, у якой апынулася Рэспубліка Беларусь, можа прывесьці да страты палітычнай незалежнасьці і нават дзяржаўнасьці. Таму Рада БНР існуе як своеасаблівы





ўрад у выгнаньні. Вядомы факт, што пасьля адраджэньня незалежнасьці першы міністар замежных справаў Пятро Краўчанка дамагаўся, каб Рада БНР перадала атрыбуты дзяржаўнасьці БНР, у тым ліку пячатку, новым беларускім уладам. Але атрымаў адмову.

*— Якое месца міт пра БНР зойме ў новай Беларусі?*

— Міт, як і любая мара, перастае існаваць у сваёй ранейшай іпастасі, калі зрэалізаваны.

*— Палітыка і ідэалёгія сучаснай беларускай улады часам пазбаўленыя лёгікі, ці прынамсі цяжка гэтую лёгіку адшукаць. Якога міту пра БНР трымаецца сучасная ўлада?*

— Апошнія пятнаццаць гадоў практычна ніякае. Ідэя БНР як сувэрэннай нацыянальнай дзяржавы знаходзілася ў відавочнай супярэчнасьці з ідэалёгіяй і практыкай пабудовы гэтак званай саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі, скіраванай на абмежаваньне сувэрэнітэту, а таму міт пра БНР і ня быў запатрабаваны.

*— Калі ў аснове міту ляжыць мара ўсяго народу, значыць, гэта прыгожы міт. Што ён можа даць сучаснай Беларусі? Як яго варта разьвіваць?*

— Гэта залежыць не ад міту, а ад народу. Як адзначаў адзін з стваральнікаў БНР Аляксандар Цьвікевіч, «толькі беспасярэдняя воля народу, выражаная актыўным чынам, здольная стварыць трывалую дзяржаву». Таму застаецца спадзявацца на тое, што ва ўмовах існаваньня незалежнай Рэспублікі Беларусь у яе межах жыве народ, аб'яднаны высокаю Мараю, а не насельніцтва, якое кіруецца паўсядзённымі клопатамі.

## БНФ

БНФ

*У сваім вымеры зьяўленьне БНФ было падзеяй, роўнавялікай адкрыцьцю Амэрыкі*



*Размова з Валянцінам Акудовічам*

***— Беларускі народны фронт (БНФ) «Адраджэньне» ўзьнік на хвалі антыкамуністычнага супраціву і нацыянальнага ўздыму. Устаноўчы зьезд БНФ адбыўся ў чэрвені 1989 году ў Вільні. БНФ быў першай і самай масавай дэмакратычнай арганізацыяй у Беларусі. У 1993 годзе была заснаваная партыя БНФ. У 1996 годзе старшыня БНФ Зянон Пазьняк быў вымушаны зьехаць за мяжу. У 1999 годзе адбываецца раскол БНФ на дзьве партыі. У 1990-я гады Народны фронт выводзіў на вулічныя акцыі пратэсту дзясяткі тысячаў чалавек, сёньня — толькі сотні. І тым ня меней у сьвядомасьці многіх людзей краіны Беларускі народны фронт быў і застаецца сьвятам свабоды і вызваленьня нацыянальнага духу. Чаму?***

— Само зьяўленьне БНФ найперш было сьвятам! Неверагодным, паводле сваіх маштабаў ды глыбіні. Бо гэта было сьвята не аднаго нейкага помнага дня, а сьвята цэлай эпохі падсьвядомага чаканьня волі і нацыянальнай прасьветленасьці. Эмацыйнай вастрыні яму надавала ягоная нечаканасьць і, калі заўгодна, нязнанасьць. Для шараговых беларусаў праз БНФ раптам пачала адкрывацца іншая, раней зусім не вядомая ім Беларусь. У сваім вымеры зьяўленьне БНФ было падзеяй, роўнавялікай адкрыцьцю Амэрыкі. Зьнянацку наперадзе ўбачылася «Новая зямля», і ўся Беларусь загула, як раскатурханая бортня.

*— Але ж ня ўсе ўзрадаваліся навіне...*

— Натуральна. Тут быў увесь магчымы спэктар эмоцыяў: ад панічнага страху да шалёнага аптымізму. Не было толькі аднаго — такой звыклай беларусам панылай абыякавасьці. Беларусы тады ўвадначасьсе зрабіліся жывымі, надзвычай жывымі людзьмі. І калі мы забудземся на тую неверагодную ўсхваляванасьць, на тую глыбіню перажываньня кожным свайго жыцьця як падзеі, дык ніколі не зразумеем, з чаго гэта палітычны рух, хай сабе і масавы, літаральна за некалькі гадоў стаўся мітам.

*— З гэтых словаў вынікае, што ўжо на пачатку 1990-х гадоў БНФ цалкам сфармаваўся як міт?*

— Менавіта так. Якраз тады полымя з вогнішча, раскладзенага БНФ, шуганула да зораў... Разумеецце, міт для свайго нараджэньня зусім не патрабуе шмат часу. Колькі там хвілінаў стаяў пад шыбеніцай Кастусь Каліноўскі?! Аднак менавіта гэтыя кароткія хвіліны, а ня чынны ўдзел у паўстаньні, сталіся падставай для міту. Як доказ тэзы пра амаль вокамгненнае нараджэньне міту пра БНФ я мог бы прывесьці мноства прыкладаў, але згадаю толькі адзін — і фармальна нават ніякаваты. Недзе пад сярэдзіну 1990-х мы колам сяброў плылі на байдарках у самых што ні на ёсьць нетрах Беларусі. Як звычайна, на носе нашага чоўна быў прымацаваны бел-чырвона-белы сьцяжок. Неяк, каля адной з глухіх вёсачак, да нас падбеглі два мурзатыя хлопчыкі. І адзін запытаўся ў другога: «Што гэта за сьцяжок?» А той без ваганьняў адказаў: «Бэнэфаўскі»... Дык вось, міт — гэта калі ў глухой лясной вёсачцы мурзаты хлопчык ведае пра тое, аб чым яму не казала настаўніца і пра што ён ня мог прачытаць у сваіх кніжках.





*— Але, каб нешта вырасла, глеба павінна быць узаранай... На якой глебе ў БССР ствараўся БНФ?*

— Згадаем хаця б некалькі канцэптуальных момантаў, якія падрыхтавалі магчымасьць узьнікненьня ў Беларусі шырокага нацыянал-дэмакратычнага руху. Першы — гэта так званая «галоснасьць», абвʼяўленая Міхаілам Гарбачовым, зь якой усе адукаваныя людзі кінуліся чытаць раней забароненую літаратуру. Другі, часткова спароджаны першым, — распад камуністычнай імпэрыі. Трэці — народныя франты балтыйскіх рэспублік, паводле мадэлі якіх і ствараўся Беларускі народны фронт. Цяпер тыя балтыйскія франты рэдка згадваюць, але ўплыў на беларускае грамадзтва палітычных працэсаў, што разгортваліся ў гэтых краінах, быў на тую пару для беларусаў надзвычай істотны. Усё яшчэ добра памятаецца, як пасьля знакамітага разгону нефармалаў (так тады называлі будучых бэнээфаўцаў) каля Ўсходніх могілак у 1988 годзе калёна маніфэстантаў пачала апантана выкрыкваць: «Народны фронт, Народны фронт»... Неўзабаве ён і будзе створаны.

*— Але ж людзі ня самі выдумалі Народны фронт. Міт пра БНФ ня сам сабою ствараўся, нехта павінен быў раскласьці тое вогнішча, полымя якога, як вы патасна сказалі, «шуганула да зораў» у тых жа выкрыках ля могілак і ў Курапатах. Нехта і затым павінен быў падтрымліваць агонь у гэтым вогнішчы.*

— Вельмі хутка будуць шырокавядомыя і загалоўныя фігуранты гэтай падзеі: Хадыка, Вячорка, Баршчэўскі ды цэлая сьціжма іншых яркіх герояў, якіх карціць пералічваць і пералічваць. Але я тут лепей зьвярну ўвагу на тагачасных шараговых валян-

тэраў свабоды, да якіх, Вячаслаў, здаецца, мы можам залічыць і сябе. Згадайма, колькі тады на мітынгах ды шэсцях нам сустракалася пісьменьнікаў, мастакоў, музыкаў, інтэлектуалаў — здаецца, уся творчая эліта была там. Зрэшты, там і тады, пад харугвамі БНФ, кожны быў і творцам, і элітай, бо сваім удзелам у тых падзеях пераствараў і сябе, і краіну. Дарэчы, сярод гэтага мноства не было проста статыстаў. Паколькі нават той, хто прыходзіў паглядзець на гэткае дзіва здаля, быў напяты трывогай і надзеяй. Ад шалёнай энэргетыкі безьлічы гэтак напятых прагай свабоды людзей натоўп аж захлынаўся, і, напэўна, не аднаго заўзятара волі тут хапіў бы паралюш, каб не ратаўнічы вокліч «Жыве Беларусь!», што вызваляў ад гэтага шалу...

*— Валянцін, а ці не здаецца вам, што захапіўшыся ўласнымі ўспамінамі, мы забыліся на аднаго героя, безь якога нашая гаворка пра БНФ выглядае, далікатна кажучы, дзіўнаватай. Зрэшты, разам з абрэвіятурай БНФ імя Зянона Пазьняка таксама ледзь не імгненна стала мітам.*

— На гэтага героя, каб і хацеў, дык не забудзесься. Я сьвядома пакуль унікаў згадкай Зянона Пазьняка, каб асобна запыніцца на ягоным месцы ў гэтай гісторыі. Бо наўрад ці хоць хто стане спрачацца, што ў падзеі БНФ роля Зянона Пазьняка вызначальная. Зразумела, што нацыянальна-дэмакратычны рух у краіне паўстаў бы і без Пазьняка, бо так было паўсюль. Больш за тое, і Беларускі народны фронт, бадай, таксама быў бы створаны, паколькі на нашую палітычную рэальнасьць тады вельмі моцна ўплывалі, як ужо казалася, балтыйскія суседзі зь іхнымі народнымі франтамі. Але вось чаго б у нас не было безь Зянона Пазьняка, дык





гэта міту пра БНФ. Хапала яркіх лідэраў і ў балтаў, і ва ўкраінцаў, толькі ні балтыйскія народныя франты, ні ўкраінскі «Рух» так і не здабылі статусу міту. І рэч тут ня толькі ў тым, што яны ня мелі такой маштабнай і харызматычнай фігуры, як Зянон Пазьняк, але і ў гэтым таксама. БНФ без Пазьняка вельмі хутка распаўся б на асобныя палітычныя сэгмэнты, спарадзіўшы шэраг партыяў, як тое і сталася ў нашых суседзяў.

*— Пачакайце, у нас жа таксама побач з БНФ пачалі зьяўляцца самыя розныя партыі, дый БНФ унутры руху стварыў сваю партыю.*

— ...тым самым юрыдычна прыдбаўшы сабе статус палітычнага суб'екту. Але як палітычная фігура, і дзякуючы менавіта Зянону Пазьняку, БНФ працягваў дамінаваць на ўсім палітычным полі Беларусі, пакуль да ўлады не дапяў Аляксандар Лукашэнка. Дарэчы, якраз ён і ўвідавочніў перад усімі палітычнымі акторамі, што ствараць змагарныя міты — гэта адно, а прыбіраць да рук і трымаць у сваіх руках рэальную ўладу — зусім іншае.

*— Разумею, што тут я ўжо запабягаю ў дыскурс умоўнага ладу, але ці мог тады на выбарах першага прэзыдэнта перамагчы не Лукашэнка, а Пазьняк, які акрамя адметнай харызмы меў яшчэ і такі магутны палітычны рэсурс, як БНФ?*

— У разгорнутым артыкуле з нагоды 15-х угодкаў кіраваньня Лукашэнкі даўні паплечнік Зянона Пазьняка шаноўны Сяргей Навумчык пісаў пра перамогу Лукашэнкі як пра «скрадзеную» ў Пазьняка. Праўда, пры канцы тэксту аўтар, падсумоўваючы ўсё, што зашкодзіла Пазьняку разам з БНФ перамагчы, незаў-

важна для сябе сам заканстатуяваў немагчымасьць гэтай перамогі. У ягоны суплёт перашкодаў я дадам яшчэ адну, якую БНФ стварыў сабе сам. На пачатку свайго станаўленьня БНФ аб'яднаў пад сваімі сьцягамі ўсіх, хто прагнуў свабоды і пераменаў. Але неўпрыкмет рух пачаў пераўтварацца ў палітычную сілу толькі нацыянальна заангажаваных. Нядаўна, чытаючы кнігу «Акцэнты Свабоды», я быў неверагодна ўражаны, што яе аўтар Юры Дракахруст у 1990—1991 гады быў сакратаром управы БНФ. Лібэрал, незаангажваны ў нацыянальнае дэмакрат і да таго ж, здаецца, тады яшчэ нават не беларускацэнтрычны Дракахруст ня проста сябра, а ў кіроўным хаўрусе гэтага магутнага на тую пару зьявішча! Даслоўна празь некалькі гадоў такое і ўявіць сабе ўжо было немагчыма. Усе, хто ня тоесьніўся з жорстка дэтэрмінаванай нацыянальнай ідэалягемай, ці самахоць пакінулі БНФ, ці былі змушаныя сысьці прочкі. Таму перад выбарамі ў Зянона Пазьняка застаўся толькі нацыянальна заангажаваны электарат. А яго было замала для перамогі.

*— З таго часу, як да ўлады прыйшоў Аляксандар Лукашэнка, прамінула больш за пятнаццаць гадоў. Усе гэтыя гады існуе і БНФ. Але ці не здаецца вам, што БНФ як міт і БНФ як палітычная партыя ўжо амаль не атясамліваюцца?*

— Сёньняшні БНФ і той, што калісьці ўзножыў усю краіну, калі і маюць нешта агульнае, дык толькі абрэвіятуру. І вось як яно цікава бывае, у рэальнай палітыцы па сёньня застаюцца амаль усе тагачасныя лідэры БНФ: і Пазьняк, і Баршчэўскі, і Вячорка, а БНФ (у абодвух сваіх партыйных вэрсіях) сярод іншых партыяў не выглядае лідэрам, ня кажучы ўжо пра тое, каб





уплываць на лёс краіны. Як мне здаецца, міт пра рух БНФ сваім фэерычным мінулым нават замінае цяперашнім партыям БНФ у іхнай дзейнасьці, не дазваляючы разьняволіцца напоўніцу адпаведна палітычнай сытуацыі. А зь іншага боку, ня лішне выразны стан сёньняшніх абедзьвюх партыяў БНФ засланяе былую зіхату некалі такога яркага міту. Маладому чалавеку ўжо цяжка даць веры, што калісьці адно пачуўшы абрэвіятуру БНФ тысячы камуністычных чыноўнікаў па ўсёй Беларусі хапаліся за сэрца ці ашчэрваліся ў зьняможанай нянавісьці. А сэрцы абраных Беларусьсю трымцелі ад салодкага хваляваньня.

*— Сёньня нас цікавіць, што чакае наперадзе БНФ як міт. Ці ёсьць у яго будучыня і якая яна?*

— Лёсы мітаў звычайна непрадказальныя. Таму давайце згадаем хоць некалькі магчымых варыянтаў. Першы — цалкам пэсымістычны як для міту. Расфармаваныя паасобку падзеі таго часу спакваля раскладуцца па гістарычных, палітычных, сацыяльных ды іншых падручніках і даведніках. І ўсё там будзе слушна, акрамя аднаго — там ня будзе міту. Варыянт другі: некалі да ўлады прыйдуць дэмакраты і адновяць міт пра БНФ ва ўсёй ягонай змагарнай прыгажосьці, каб падмацаваць ім ідэалёгію сваёй улады. Магчыма, гэта будзе і няблага. Хоць асабіста я досыць скептычна стаўлюся да афіцыйна заканстытуяваных мітаў. Варыянт трэці: у Беларусі пакрысе сфармуецца трывалая і гамагенная грамадзкая супольнасьць. І тады кожны беларус сярод самых розных мітаў напэўна ж, не праміне ўвагай і адзін з самых прыгожых у нашай гісторыі мітаў — міт пра Беларускі народны фронт. Натуральна, апошні варыянт мне падабаецца найболей.

# Душа: свая і чужая

*Пасьляслоўе аўтара*

Культура, сьветагляд, мэнталітэт беларусаў маюць як самастойна-самабытны, гэтак і каляніяльны характар. Першая кніга «Беларуская Атлянтыда» раскрывала невядомыя, забытыя, скрадзеныя рэаліі і міты беларусаў як эўрапейскай нацыі. Часавая прастора яе распасьціралася на тысячагодзьдзе. Гэтая кніга зьяўляецца спробай асэнсаваньня гістарычных, культурных, ідэалягічных каранёў і асноваў мэнталітэту сучасных беларусаў, якія пазначаны выразным адбіткам каляніяльнай эпохі апошніх двух стагодзьдзяў.

Трапіўшы пры канцы XVIII стагодзьдзя ў тэрытарыяльны і эканамічны палон Расейскай імпэрыі, этнас натуральным чынам апынуўся і ў культурным, ідэалягічным палоне. Праз усё XIX стагодзьдзе беларусам навязваліся чужыя каштоўнасьці — гісторыя, героі, звычаі, мова. Уласныя архаічныя і эўрапейскія каштоўнасьці акупанты ня толькі ідэалягічна, а нават гвалтам выкарчоўвалі са сьвядомасьці людзей, прымушалі далучаць да сваёй культуры, свайго сьветацяму чужыя міты. Наша станавілася ня нашым, а ня нашае нашым. І вось ужо свае землі ў сьвядомасьці беларусаў становяцца правінцыяй, а далёкая і невядомая Масковія — цэнтрам. Новая міталягічная прастора фармавала новую душу — душу каляніяльнага чалавека.

У XX стагодзьдзі Беларусь становіцца разьменнай манэтай у эўрапейскіх геапалітычных гульнях. Найбольш працяглым і зьнішчальным для нацыі стаў бальшавіцкі палон. Любошчы расейскага імпэрыялізму і камунізму амаль дабіваюць нацыю. Падмуркам новага рэжыму сталі агрэсіўныя ідэалягемы і паліталягемы, якімі татальна апрацоўваўся народ: ад дзіцячага садка да рытуалу пахаваньня. Імпэрыя сьвядома і мэтанакіравана стварала новыя міты. Героямкамуністам надавалі статус багоў. Нявера ў іх каралася — ад страты працы да страты жыцьця. Беларус мусіў стаць





савецкім чалавекам, і ён ім стаў. У новай, сувэрэннай Беларусі непазьбежна ўсталяваліся посткаляніяльныя рэаліі. Улада зноў адмаўляе гістарычную, моўную, культурную адметнасьці нацыі, арыентуючыся на каштоўнасьці былой мэтраполіі. Зрэшты, захоўваючы той самы каляніяльны парадак рэчаў. Дзеля гэтага выкарыстоўваюцца тыя самыя міты — пра славянскую еднасьць, старэйшага брата, талерантны народ, айчынную вайну. І, прыстасоўваючыся да новых рэаліяў, выкарыстоўвае іх ужо ў якасьці нават брэндаў. Выбар спрашчаецца, калі на народ, як на тавар, лепяцца ярлыкі «талерантны», «дзьвюхмоўны», «славянскі». Такім народам лёгка гандляваць і маніпуляваць.

Але быў і супраціў. Нацыянальная эліта ня брала на веру каляніяльныя міты. У тыя тры хвалі адраджэньня — нашаніўскі пачатку XX стагодзьдзя, беларусізацыі 1920-х гадоў і змаганьня за рэальна сувэрэнную Беларусь ад 1980-х гадоў — ішло і ідзе змаганьне за вяртаньне да сваіх каштоўнасьцяў, за стварэньне свайго нацыянальнага міту і разбурэньне мітаў каляніяльнай эпохі. Менавіта ў апошнія дзесяцігодзьдзі нацыятворная міталёгія ўсё ж мела посьпехі. Эліта пасьпела зрабіць і нават замацаваць у сьвядомасьці бальшыні нашае нашым: Радзівілаў, Каліноўскага, Скарыну, ВКЛ, Грунвальд, Воршу, БНР, БНФ, Курапаты, тарашкевіцу... Што ж да каляніяльных мітаў, то ім, як сьведчыць практыка чалавецтва, наканавана будзе сканаць.

«Жыцьцё і сьмерць мітаў» — так называўся цыкль перадач праграмы «Беларуская Атлянтыда», які гучаў у этэры Радыё Свабода ў 2008—2009 гадах. Выбраныя выпускі іх і леглі ў аснову гэтай кнігі. Разам са мной у этэры, а таксама ў гэтай кнізе разбуралі, хавалі каляніяльныя міты і стваралі міты нацыянальныя найярчэйшыя зоркі сучаснай беларускай думкі. Ганаруся, што на Радыё Свабода я сабраў такую выдатную каманду інтэлектуалаў-патрыётаў.

Пошук беларускай Атлянтыды працягваецца, бо мы ёсьць закладнікамі захапляльнай справы — шукаць сапраўдную і сваю Беларусь.

# Пра аўтара


Фота Алены Шалаевай

**Вячаслаў Ракіцкі** — мастацтвазнаўца, тэатральны і кінакрытык, перакладчык, журналіст.

Нарадзіўся ў 1953 годзе ў мястэчку Празарокі Глыбоцкага раёну, што на паўночным захадзе Беларусі. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту і асьпірантуру Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Нацыянальнай акадэміі навук. Працаваў загадчыкам літаратурнай часткі ў Беларускім тэатры юнага гледача, навуковым супрацоўнікам аддзелу тэатру Інстытуту мастацтвазнаўства і фальклёру НАН, рэдактарам па драматургіі Міністэрства культуры, загадчыкам аддзелу літаратуры і мастацтва літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачаньня. Як тэатразнаўца дасьледаваў гісторыю беларускага тэатру і нацыянальнай драматургіі, сцэнічныя жанры. Адзін з аўтараў трохтомнага акадэмічнага выданьня «Гісторыя беларускага тэатру». Як тэатральны і кінакрытык аналізаваў тэатральны і кінапрацэс, бягучы рэпэртуар тэатраў, творчасьць актораў, рэжысэраў, драматургаў. Аўтар больш за 200 артыкулаў у пэрыядычных выданьнях і альманахах. Друкаваўся і выступаў з навуковымі дакладамі і мастацтвазнаўчымі аглядамі ў Японіі, Нямеччыне, Польшчы, Славаччыне, Расеі, Украіне, Літве, Латвіі, Эстоніі, Кіпры, Узбэкістане, іншых краінах. Быў сябрам прэзыдыюму Саюзу тэатральных дзеячаў і Беларускай асацыяцыі журналістаў, адзін з стваральнікаў Беларускага цэнтру Міжнароднага інстытуту тэатру.

З 1988 да 1999 году працаваў у першым недзяржаўным «тоўстым» часопісе «Спадчына» — загадчыкам аддзелу, а пасьля і галоўным рэдактарам. Выданьне вярнула новай Беларусі сотні рэпрэсаваных ці скрадзеных у нацыі тэкстаў і дакумэнтаў. Гэтую ж справу працягвае на Радыё Свабода, сталым аўтарам якога зьяўляецца ад 1997 году. Разам зь Вінцуком Вячоркам быў аўтарам перадачы «Неабжытая спадчына», а ў 2000 годзе распачаў праграму «Беларуская Атлянтыда», якая выходзіць у этэр ужо дзесяцігодзьдзе. Выбраныя тэксты яе склалі кнігу «Беларуская Атлянтыда: Рэаліі і міты эўрапейскай нацыі», што выйшла ў сэрыі «Бібліятэка Свабоды XXI стагодзьдзя» ў 2006 годзе. Перакладае на беларускую мову польскую драматургію. У 2008 годзе пабачыў сьвет зборнік п’ес Славаміра Мрожэка «Дом на мяжы» з прадмовай і перакладамі Вячаслава Ракіцкага. Займаўся пэдагагічнай дзейнасьцю — выкладаў гісторыю тэатру і тэорыю драмы ў Беларускай Акадэміі мастацтваў, Беларускім унівэрсытэце культуры, Інстытуце сучасных ведаў. Быў адным зь першых выкладчыкаў Беларускага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа. Сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Кандыдат мастацтвазнаўства.

# Пра ўдзельнікаў



**Валянцін Акудовіч** — філёзаф, літаратурны крытык, публіцыст.
Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Сьвіслач на памежжы з Польшчай. Скончыў Літаратурны інстытут у Маскве. Працаваў у штотыднёвіках «Культура», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Крыніца», «Фрагмэнты», рэдагаваў міждысцыплінарны часопіс «Перекрёстки». Куратар аддзяленьня філязофіі і літаратуры Беларускага калегіюму. Аўтар кніг *«Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека»*, *«Разбурыць Парыж»*, *«Дыялёгі з Богам»*, *«Код адсутнасьці»*. Друкаваўся ў ЗША, ва Украіне, у Літве, Македоніі, Польшчы, Расеі, Сэрбіі, Чэхіі, іншых краінах. Ляўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтру і літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес». У сфэры інтэлектуальнай дзейнасьці засяроджаны на мэтафізыцы адсутнасьці.



**Алесь Анціпенка** — філёзаф, публіцыст.
Нарадзіўся ў 1953 годзе ў горадзе Слаўгарадзе на Магілёўшчыне. Скончыў Інстытут замежных моваў. Працаваў у Інстытуце філязофіі і права Нацыянальнай акадэміі навук, Нацыянальным навукова-асьветным цэнтры імя Ф. Скарыны, Беларускім фондзе Сораса. Навуковыя зацікаўленьні: сацыяльная экалёгія, філязофія прысутнасьці, эмоцыі і чалавечая суб'ектыўнасьць, беларускі мэнталітэт, тэорыя камунікацыяў і мэдыяў. Ягоныя навуковыя і аналітычныя артыкулы друкаваліся ў Беларусі, Аўстрыі, Ізраілі, Латвіі, Польшчы, Расеі, Францыі, Чэхіі, Украіне. Стваральнік і суаўтар кніг *«Мэдыі і камунікацыя»*, *«Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня»*, *«Невядомая Беларусь»*. Сябра Рады Беларускай асацыяцыі журналістаў, Рады Беларускага ПЭН-цэнтру, сузаснавальнік і сябра Рады Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў, кіраўнік Беларускага калегіюму. Кандыдат філязофскіх навук.



**Таццяна Валодзіна** — этнакультуроляг, фальклярыстка.
Нарадзілася ў 1968 годзе ў вёсцы Суша на Лепельшчыне. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Працуе ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук. Зьбіральніца вуснай народнай творчасьці, у яе фальклёрным архіве запісы з бальшыні раёнаў Беларусі. Дасьледуе народную мэдыцыну, сэмантыку рэчаў, цела, народны каляндар беларусаў. Цікавіцца міталёгіяй, малымі фальклёрнымі жанрамі. Аўтарка кніг *«Талака ў сістэме духоўнай культуры беларусаў»*, *«Семантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў»*, *«Цела чалавека, слова, міф, рытуал»*. Укладальніца зборнікаў *«Белорусский эротический фольклор»*, *«Народная медыцына: рытуальна-магічная практыка»*. Адна з аўтарак энцыкляпэдычнага слоўніка *«Беларуская міфалогія»*. Кандыдат філялягічных навук.



**Пятро Васючэнка** — літаратуразнаўца, крытык, празаік, драматург, эсэіст. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Полацку. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт і асьпірантуру Інстытуту літаратуры імя Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук. Аўтар зборнікаў прозы «*Белы мурашнік*», «*Прыгоды аднаго губашлёпа*», кніг казак «*Прыгоды паноў Кубліцкага і Заблоцкага*», «*Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі*», «*Каляровая затока*», зборніка вершаў «*Піраміда Ліннея*», зборніка п'ес «*Маленькі збраяносец*», літаратуразнаўчых манаграфіяў «*Драматургія і час*», «*Драматургічная спадчына Янкі Купалы*», «*Пошукі страчанага дзяцінства*», «*Сучасная беларуская драматургія*», «*Беларуская літаратура XX стагоддзя і сімвалізм*», зборнікаў літаратурна-крытычных прац «*Адлюстраванні першатвора*», «*Ад тэксту да хранатопа*», даведніка «*Вялікія пісьменнікі XX стагоддзя*» і іншых. Ляўрэат літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес». Творы перакладаліся на ангельскую, баўгарскую, нямецкую, польскую, расейскую, славацкую, чэскую мовы. Кандыдат філялягічных навук.



**Вінцук Вячорка** — мовазнаўца, палітык, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Берасьці. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт і асьпірантуру Інстытуту мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук. Выкладаў у Беларускім дзяржаўным



пэдагагічным унівэрсытэце. Сфэра навуковых інтарэсаў — гісторыя беларускае мовы XX стагодзьдзя, сацыялінгвістыка, моўная палітыка, упарадкаваньне тэрміналёгіі, графіка і артаграфія. Адзін зь першых выкладчыкаў Беларускага гуманітарнага ліцэю. Намесьнік галоўнага рэдактара часопісу «Спадчына». Аўтар навукова-папулярных тэкстаў пра беларушчыну ў розных яе праявах. Адзін з укладальнікаў «*Беларускага клясычнага правапісу*». Суаўтар «*100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі*» і «*Чытанкі для дзіцячага садка*». Аўтар кнігі для дзяцей «*Пра герб і сцяг*». Сузаснавальнік Моўнае камісіі Беларускага фонду культуры і Таварыства беларускае мовы. У нацыянальна-дэмакратычным і антыкамуністычным руху з 1979 году. З моманту стварэньня Аргкамітэту ў 1988 годзе — у БНФ, у 1999—2007 гады старшыня Партыі БНФ і БНФ «Адраджэньне».



**Алег Гардзіенка** — гісторык, журналіст. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў вёсцы Раёўка Маладэчанскага раёну. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Працаваў у аддзеле ваеннай гісторыі Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, займаўся праблемамі «беларускай калябарацыі». Пакінуў Інстытут гісторыі ў 2004 годзе з ідэалягічных прычынаў. Працаваў рэдактарам у інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, а са студзеня 2005 году — супрацоўнік газэты «Наша Ніва». Дасьледуе гісторыю беларускай эміграцыі на Захадзе, гісторыю паваеннай БЦР і паваеннай Рады БНР. Аўтар кнігі «*Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі*».



**Аляксей Дзермант** — філёзаф, этнакультуроляг. Нарадзіўся ў 1979 годзе ў Менску. Скончыў Акадэмію кіраваньня пры прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь, асьпірантуру Інстытуту філязофіі Нацыянальнай акадэміі навук. Сфэра навуковых зацікаўленьняў — беларуская і балцкая міталёгія, праблемы этнагенэзу беларусаў, сакральная геаграфія і геапалітыка, рытуалы і міталёгія ўлады, палітычная і этнічная гісторыя Беларусі, філязофія традыцыяналізму. Рэдактар сайту Цэнтру этнакасмалёгіі «KRYŬJA», укладальнік альманаху «DRUVIS».



**Алесь Краўцэвіч** — гісторык, археоляг, пісьменьнік. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Лупачы Мастоўскага раёну на Гарадзеншчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт і асьпірантуру Інстытуту археалёгіі Акадэміі навук СССР у Маскве. Стажаваўся ў Ягелёнскім унівэрсытэце ў Кракаве. Працаваў у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, у Беларускім рэстаўрацыйна-праектным інстытуце, Гарадзенскім дзяржаўным унівэрсытэце. Выкладае ва ўнівэрсытэтах Польшчы. У Горадні рэдагуе «Гістарычны Альманах». Аўтар кніг *«Майстар — наш продак»*, *«Тэўтонскі ордэн. Ад Ерусаліма да Грунвальда»*, *«Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага»*, *«Вялікі князь Вітаўт»*, *«Міндаўг-Mindauh: Пачатак гаспадарства»*, *«Рыцары і дойліды Гародні»* і іншых. Доктар гістарычных навук.





**Глеб Лабадзенка** — журналіст, паэт. Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Менску. Скончыў Беларускі гуманітарны ліцэй імя Я. Коласа, аддзяленьне філязофіі і літаратуры Беларускага калегіюму, Інстытут журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у газэтах «Голас Радзімы», «Вечерний Минск», «Комсомольская правда» в Беларуси». Спэцыяльны карэспандэнт газэты «Звязда». Сябар Беларускай асацыяцыі журналістаў, Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтру. Аўтар кнігі паэзіі *«Pager-вершы»*. Ляўрэат літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» і двойчы — журналісцкай прэміі «Вольнае слова».



**Валянцін Мазец** — гісторык. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Станелевічы Зэльвенскага раёну на Гарадзеншчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт і асьпірантуру Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, працуе ў гэтым жа інстытуце. Кола навуковых інтарэсаў: пытаньні гісторыі беларускай дзяржаўнасьці XX стагодзьдзя, міжнацыянальных адносінаў, праблемы разьвіцьця беларускай культуры, культуры этнічных супольнасьцяў, дзяржаўнай палітыкі ў нацыянальным пытаньні. Адзін з складальнікаў зборніка *«Гісторыя Беларусі ў дакумэнтах і матэрыялах»*. Аўтар больш як 80 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, большыня якіх прысьвечаная праблеме БНР. Кандыдат гістарычных навук.



**Тацяна Працька** — філёзаф, гісторык, праваабаронца.
Нарадзілася ў 1951 годзе ў Менску. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, асьпірантуру Інстытуту філязофіі і права і дактарантуру Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук. Працавала ў Інстытуце гісторыі, Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя імя П. Броўкі». Дасьледавала гісторыю прыродазнаўства ў Беларусі, фармаваньне тэарэтычных ведаў у прыкладной фізыцы. Як гісторык аналізавала таталітарную палітычную сыстэму ў БССР. Аўтарка кніг *«Становление советской тоталитарной системы в Беларуси 1917—1941 гг.»*, *«Вынішчэньне сялянства. Вёска Ўсходняй Беларусі пад цяжарам бальшавіцкіх рэпрэсіяў 30-х гадоў»*, *«Экспэрыментатар з Беластоцкай гімназіі: Караль Чаховіч»*, *«Дасьледчык таямніцаў сьвятла: Аляксандр Садоўскі»*, *«Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну: Мітрапаліт Мельхісэдэк»* і іншых. Ад 1995 да 2008 году ачольвала Беларускі Хэльсынскі камітэт. Кандыдат філязофскіх навук.



**Зьміцер Саўка** — мовазнаўца, пэдагог, перакладчык.
Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Менску. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт і асьпірантуру Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школах Менску, працаваў у Менскім лінгвістычным унівэрсытэце. Супрацоўнічае з мэдыйнымі сродкамі як мовазнавец-практык — стыльрэдактар, лінгвіст-кансультант. Аўтар навуковых публікацыяў у галіне беларускага мовазнаўства, найперш у пытаньнях правапісу і практычнае стылістыкі. Сярод галоўных прафэсійных зацікаўленьняў — праблемы фанэтычна-графічнага асваеньня іншамоўнае лексыкі. Аўтар і рэдактар перакладаў на беларускую мову летапісаў, мастацкіх твораў, фільмаў, мультфільмаў. Адзін з укладальнікаў *«Беларускага клясычнага правапісу»*.



**Анатоль Сідарэвіч** — гісторык, публіцыст, літаратурны крытык, палітык.
Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Задуб'е Ганцавіцкага раёну на Берасьцейшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Працаваў выкладчыкам у сярэдніх школах, Беларускім гуманітарным ліцэі імя Я. Коласа, шэрагу вышэйшых навучальных установаў. Аўтар шматлікіх гістарычных, публіцыстычных і літаратурна-крытычных артыкулаў у пэрыядычным друку і навуковых выданьнях. Дасьледуе гісторыю беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, Беларускай Сацыялістычнай Грамады, БНР, жыцьцёвы і творчы шлях Антона Луцкевіча. Укладальнік і аўтар прадмоваў, камэнтароў да кніг Антона Луцкевіча. Адзін з ініцыятараў адраджэньня ў Беларусі сацыял-дэмакратычнага руху. Укладальнік і рэдактар зборніка *«Дэклярацыі Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу»*. Сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў.



**Алег Трусаў** — гісторык, археоляг, палітык, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў горадзе Мсьціславе на Магілёўшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Працаваў у Беларускім рэстаўрацыйным праектным інстытуце, Беларускім унівэрсытэце культуры, Беларускім гуманітарным ліцэі імя Я. Коласа (адзін зь яго заснавальнікаў). Дасьледуе беларускае дойлідзтва і гісторыю матэрыяльнай культуры Сярэднявечча і Новага часу. Аўтар манаграфіяў *«Старонкі мураванай кнігі. Манументальная архітэктура эпохі феадалізму і капіталізму»*, *«Беларускае кафлярства»*, *«Манументальнае дойлідства Беларусі XI—XVIII стагоддзяў»*, *«Невядомая нам краіна. Беларусь у яе этнаграфічных межах»* і іншых. Распрацаваў мэтодыку архітэктурна-археалягічнага вывучэньня манумэнтальных помнікаў Беларусі. Адзін з заснавальнікаў БНФ, БСДГ і ТБМ імя Ф. Скарыны. У 1990—1996 гады — дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. Ад 1999 году — старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Кандыдат гістарычных навук.



**Сяргей Харэўскі** — мастак, мастацтвазнаўца, культуроляг, літаратар. Нарадзіўся ў 1967 годзе ў Менску. Скончыў Менскую мастацкую вучэльню імя А. Глебава, Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР, асьпірантуру Беларускай акадэміі мастацтваў. Працаваў



у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя імя П. Броўкі», Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, інстытуце «Белспэцпраектрэстаўрацыя», Літоўскім пэдагагічным унівэрсытэце, выдавецтве «Наша Ніва», Беларускай акадэміі мастацтваў, Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце. Навуковыя інтарэсы — гісторыя архітэктуры, выяўленчае мастацтва XX стагодзьдзя, культурная антрапалёгія. Аўтар кніг *«Прамоўленае»*, *«Культавае дойлідства Заходняй Беларусі 1915—1940 гг.»*, *«Гісторыя мастацтва і дойлідства Беларусі»*, *«Зьвярысуайчыньнікі»* і іншых. Ягоныя тэксты перакладаліся на вугорскую, літоўскую, нямецкую, польскую, расейскую, украінскую, чэскую мовы.



**Захар Шыбека** — гісторык. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Асінаўка Сеньненскага раёну на Віцебшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Працаваў у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Нацыянальным навукова-асьветным цэнтры імя Ф. Скарыны, Нацыянальным музэі гісторыі і культуры Беларусі, Беларускім дзяржаўным эканамічным унівэрсытэце, рэдакцыі часопісу «Спадчына». Дасьледуе гісторыю Менску, гарадоў Беларусі, беларускі нацыянальны рух XIX—XX стагодзьдзяў. Аўтар кніг *«Минск в конце XIX — начале XX в. Очерк социально-экономического развития»*, *«Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стагоддзя)»*, *«Нарыс гісторыі Беларусі. 1795—2002»*, *«Мінск сто гадоў таму»*, *«Гарадская цывілізацыя: Беларусь і свет»*. Ляўрэат прэміі імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтру, польскага часопісу «Przegląd Wschodni». Доктар гістарычных навук, прафэсар.

# Паказьнік асобаў

# Summary

In *Belarusian Atlantis Volume 2*, Viachaslau Rakitski goes in search of the authentic Belarusian identity which has been diluted and obscured by 200 years of Russian and Soviet cultural occupation.

The book is an effort to disentangle the myths from the lost memory of Belarusian character: What is Inherently Ours by virtue of history?; Not Ours by choice but Ours from centuries of corrupting influences that have seeped into us to become Ours over time?; Ours that we've lost — aspects of Ourselves that have been absorbed into foreign narratives without attribution?; and Intrinsically Ours — the people and events that collectively define what it means to be truly Belarusian?

**Historically Ours**: Slavs, Balts and Partisans.
**Not Ours but Ours**: Communism, Lenin, KGB, Homo Sovieticus and Big Brother.
**Intrinsically Ours**: the legacies of victory at the Battle of Grunwald against the Teutonic Knights in 1410, Francysk Skaryna's genius and the founding of the Belarus Republic in 1918.

This collection of dialogues between Rakitsky and his friends is an exploration of the historical, cultural and ideological foundations of modern Belarusians' mentality. Trying to peal away the layers of myths and artificially-induced memories of a people who have largely forgotten their heritage, *Belarusian Atlantis* is a journey to reveal the DNA of Belarus.

Viachaslau Rakitski, PhD, is an art critic and historian based in Miensk, Belarus. He works for Radio Svaboda, the Belarusian Service of RFE/RL where his critiques can be heard on-air as well as read on svaboda.org.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.




**Дарога**
**праз Курапаты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.: іл.




**Poems on Liberty:**
**Reflections for**
**Belarus.**
*Пераклады Веры*
*Рыч.*
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў
клясыка беларускай
літаратуры ў этэры
Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004.




**Дуліна**
**ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА**
**ў Беларусі.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд.,
дапоўненае.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская**
**Атлянтыда.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2006. —
504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—**
**25.03.2006.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2006. —
400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода.
Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар.
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.